

# 5

МАЙ

МІНСК, 1972

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ
ЧАСОПІС



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ



Заснаваны ў 1953 годзе



Выдавецтва ЦК КП Беларусі



Вокладка **В. Шрамякова.**

Шмуцтытулы: **Ю. Зайцава** (стар. 3) і **У. Кашкана** (стар. 87).



# ПАЭЗІЯ



# ПРОЗА





**галіна**

**каржанеўская**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Бульба цвіце

Бульба цвіце. Магчыма,
Квецень заўважыў ты ледзьве.
Гэта ж не маку чырвань,
Што ў зрэнкі
упарта
лезе.

Бульба цвіце — не ружы.
Згубіўшыся ў фарбах лета,
Усе уяўленні рушыць
Аб прыгажосці кветак.

Сёлета бульба ўродзіць.
Ёй пахвала не трэба.
. . . . . . . . . .

Сціпласць твая, народзе,
Ўскормлена гэтай глебай...

■

Я не адна,
Я не ў воблаках, — дзе там!
Пройдзе суседка —
раскажа пра дзетак.
Стрэну сяброўку —
пачую таемны
Шэпт пра каханага,
варты паэмы.

Я не адна,
Я не ў воблаках, — дзе там!
Надта ж зямля
прыцягальная гэта,
Надта ж трывалая
повязь тая,
Што маё сэрца
з Айчынай злучае.
Я не адна,
Я не ў воблаках, — дзе там!
Толькі б я верыла
ў долю паэта!
Толькі б бруіла
натхнення крыніца,
Дзе парадніліся
неба з зямліцай.

■

У салаўя работа —
Сезон спеваў.
З ноты
на ноту,
З дрэва
на дрэва,
З ночы
ў ранне...
(Ой, голас сарвецца!)
У салаўя прызванне —
Песнямі поўніць сэрцы.
З лета
ў лета
Талент сталее.
У салаўя мэта —
Будзіць надзеі.
Покуль не менее
Сілы і страсці —
У салаўя натхненне,
У салаўя шчасце...

■

*ЖЭНІ.*

Вяла задума да ракі.
У першабытным захапленні
Стаю: кляновыя ліскі
На фоне месяца. І цені
Святло сабой пераплялі
Ды прабягаюць часам лёгка
Па заспакоенай зямлі,
Па замаруджаных аблоках.
Мяжу ракі і вышыні
Не падзяліць там, дзе туману
Бялее покрыва... Ані
У характве няма падману!
Прырода стрымана маўчыць.
А дрэў навокал сілуэты,
Як сведкі гэтае начы,
Што не вярнуць...
І спее лета...
Ліпнёвы хмель у галаве,
І прахалодак студзіць скроні,
І нада мной каторы век
Плыве задуманая поўня.

# ДВА АПАВЯДАННІ



*леў кунько*

Мал. А. Бараноўскага.

## ЧАМУ НЕ ПРЫХОДЗІЦЬ СОН

З работы Піліп Макаравіч, як заўсёды, вярнуўся а сёмай гадзіне. Па звычцы зручна ўладкаваўся ў крэсле, узяў газеты, што дастаў з паштовай скрынкі, і пачаў чытаць з апошняй старонкі. Нічога цікавага не знайшоў і са злосцю шпурнуў іх на стол. Нецікавай здалася і перадача па тэлевізары. Чацвёра нейкіх дзівакоў марудна ўзбіраліся на пакрытую снегам скалу, а іх барадаты сябар застаўся ля падножжа гары і, трынкаючы на гітары, ахрыплым голасам гарлапаніў нейкія нудныя песні. А калі адзін з альпіністаў сарваўся і кулём паляцеў са скалы, Піліп Макаравіч выключыў тэлевізар.

Звыклая ўтульнасць кватэры раней супакойвала, прыводзіла ў раўнавагу. Сёння ж яна здавалася чужой і лішняй. Нейкая ўнутраная пустата казытала сэрца, рабіла ўсё абыякавым. Ён і сам не ведаў, што з ім робіцца, але думаць, аналізаваць, шукаць прычыны не хацелася. З дрэнным настроем ён лёг на канапу і хутка заснуў.

Мабыць, ён і спаў бы так да раніцы, калі б не гэты кароткі, але рэзкі званок у суседняй кватэры. Піліп Макаравіч ведаў: гэта вярнуўся сусед з другой змены. Працаваў ён недзе на заводзе далёка за горадам і заўсёды вяртаўся дадому каля дзвюх гадзін ночы. Піліп Макаравіч так прывык да гэтых суседскіх званкоў, што па іх мог дакладна вызначыць час.

Раней гэтыя званкі яго зусім не турбавалі. Сон быў здаровы і моцны. Але сёння званок здаўся нейкі асабліва рэзкі і таму непрыемны. Піліп Макаравіч доўга варочаўся на канапе ў чаканні, пакуль прыйдзе сон.



«Ключа не можа зрабіць, — са злосцю падумаў ён пра суседа.— З-за яго чалавек павінен усю ноч мардавацца».

У галаву лезлі нейкія недарэчныя думкі, незадаволенасць сабою, работай. А можа гэта старасць? Не. Ён не адчуваў яшчэ сваіх пяцідзесяці гадоў. Дык што ж тады? Справы на заводзе ішлі добра, калі не лічыць спрэчак з хлопцамі, што працавалі ў групе Шыцікава. Ды і спрэчкі гэтыя былі дробязныя, не мелі нічога канкрэтнага. Але ў апошні час яны раздражнялі Піліпа Макаравіча. І раней усялякае бывала: і спрэчкі да хрыпаты ў голасе, і моташнасць ад выкураных за дзень цыгарэт, але адчуваў ён сябе спакойна. Кожную раніцу ішоў на завод бадзёры і вясёлы. А цяпер? Цяпер яму не заснуць да раніцы. А яшчэ ж толькі палавіна ночы прайшло. Гэта ён ведаў без гадзінніка, па суседскім званку.

Упоцемках намацаў пачак «Прымы», чыркнуў запальнічкай. З запальнічкі пачулася мелодыя вядомай песенькі. Калісьці яму падабаўся гэты падарунак, нават не звярнуў увагі на словы Шыцікава:

— А гэта вам, Піліп Макаравіч. Кажуць, нервы вельмі добра супакойвае...

Шыцікаў прывёз гэтую цацку з замежнай камандзіроўкі. Цяпер жа мелодыя, што чулася з запальнічкі, раздражняла.

Ад цыгарэты закружылася галава, у целе паявілася нейкая млявасць. Так бывае кожны раз, калі закурыш пасля сну.

«Кідаць трэба. Вунь і доктар казаў пра гэта», — падумаў Піліп Макаравіч.

Ён устаў з канапы, падышоў да акна. Там, у начной цемені, зорачкай паблісквала лямпачка, прымацаваная высока на суседняй будоўлі. Яна здавалася халоднай і адзінокай у бясконцай чарнаце асенняга неба.

З адчыненай форткі цягнула вільгаццю, у пакой прабіваліся пахі восені. Вецер ціха шамацеў пажоўклай лістотай, што, здавалася, праз сілу трымалася яшчэ на дрэвах, пасаджаных пад балконам. Ад гэтага рабілася яшчэ больш сумна і адзінока. Ён не мог заглушыць у сабе пачуццё прыкрасці, якое нябачна насоўвалася, з якім ён не мог саўладаць. Ён адчуваў гэта невыразна, але працівіцца не было сілы, бо гэтае «нешта», незразумелае і невядомае, было мацней за яго.

Трэба было запаліць святло, але не хацелася падыходзіць да выключальніка. Піліп Макаравіч стаяў каля акна, выдыхаючы ў адчыненую фортку цыгарэтны дым. Млявасць прайшла, галава стала больш свежай, толькі ў скронях пастуквалі нейкія малаточкі.

Думкі мроіліся, блыталіся, пераносілі ў мінулае. Прыгадаўся той дзень, калі яго, трыццацігадовага інжынера, прызначылі намеснікам галоўнага канструктара, а потым і кіраўніком канструктарскага бюро буйнога станкабудаўнічага завода. Яго паважалі, з ім лічыліся. Паважалі? А хіба цяпер не паважаюць? Вунь і ордэн далі нядаўна, адзіны ордэн на ўсё канструктарскае бюро. А медалі, што атрымлівалі станкі на выстаўках? Гэта ж таксама ўзнагароды за яго ідэі, за яго працу. Дык чым жа ты незадаволены, Піліп Макаравіч? Чаго ты хочаш?

Пра ўсё гэта думалася чамусьці, як пра даўно мінулае, пройдзенае, хаця яшчэ і не забытае.

Было гэта, здавалася, недзе там, далёка-далёка, і не з ім, а з некім іншым, маладым і энергічным чалавекам, перад якім адкрываўся шырокі прасцяг жыцця. А потым? Потым гэтая недарэчная жаніцьба

на жанчыне, якая хацела немаведама чаго. Ён, здаецца, кахаў яе і рабіў усё для яе бесклапотнага жыцця. Працаваць не дазваляў, не спяшаўся абзаводзіцца дзецьмі. Нават хатнюю работніцу трымалі. Дык не, ёй гэтага мала было, лепшага жыцця захацела. А цяпер вунь сядзіць цэлы дзень у канторы за свае восемдзесят бухгалтарскіх рублёў.

Пра былую жонку думалася са злосцю, быццам яна была вінаватая ў ягоным дрэнным настроі.

А з Шыцікавым няёмка атрымалася. І чаму адмовіўся ад запрашэння пайсці на вяселле? Сказаў, што дрэнна адчувае сябе і не зможа прыйсці.

— Шкада,— адказаў Шыцікаў на яго адмову.— А можа перадумаеце? Дык прыходзьце. Буду рады.

Так і сказаў: «можа перадумаеце». Значыць не паверыў, што Пілiп Макаравіч дрэнна адчувае сябе, пакрыўдзіўся. Не зусім прыгожа выйшла. Нават не павіншаваў.

Пілiп Макаравіч і сам не мог цяпер растлумачыць, чаму так зрабіў. Трэба, трэба было пайсці. Ці хоць бы прычыну якую-небудзь больш важкую прыдумаць. Шыцікаў жа яго падначалены, яго вучань, можна сказаць. Ды і канструктар добры. Вунь якую групу стварыў. Шкада толькі, што занадта гарачыя галовы ў хлопцаў, і яму, як галоўнаму канструктару, не адзін раз даводзілася ахалоджваць іх.

І ён успомніў апошнюю размову.

Яны, жаўтаротыя птушаняты, задумалі перарабіць электрычную схему станка. А ён жа над гэтай схемай не адзін год працаваў. Праўда, Шыцікаў маўчаў, больш гаварылі ягоныя хлопцы. Але ж Пілiп Макаравіч добра ведаў, чыя гэта ідэя, хто першы падаў думку змяніць схему. Не, ён не так пачынаў. Гады два проста выконваў заданні, увасабляў у чарцяжах чужыя думкі, а потым пачалі паяўляцца свае. А яны — на́ табе, адразу са сваімі прапановамі лезуць. Дык хіба ж ён не меў рацыі, калі сказаў ім займацца тым, што даручана, і не лезці не ў сваю справу? А права на гэта ён мае і як галоўны канструктар, і проста як спецыяліст з вялікім вопытам, і як старэйшы таварыш.

Пілiп Макаравіч злавіў сябе на думцы, што апраўдваецца перад Шыцікавым і ягонымі хлопцамі. А можа зайздросціць іх маладосці і самастойнасці думак? Не, глупства. Зайздроснікам ён ніколі не быў, ды і зайздросціць няма чаму. Дык што ж тады яму не падабаецца ў маладых канструктарах? Яны ж не пярэчылі яму, а проста выказалі сваю думку. Нават, калі ён не вельмі тактоўна забараніў ім займацца гэтым, то яны не спрачаліся. Толькі Шыцікаў з горыччу сказаў:

— А вы ўсё ж пры выпадку падумайце, Пілiп Макаравіч. Можа ў нашай прапанове і знойдзецца што-небудзь каштоўнае.

Падумаць... Няма тут пра што думаць. У свой час ён усё зрабіў, што можна было.

І зноў думкі вяртаюць у мінулае, да дробязяў успамінаецца работа над гэтай схемай. Як горача віншаваў яго тады вядомы акадэмік!

— Ды ў вас жа, Пілiп Макаравіч, гатовая кандыдацкая. Афармляйце, бацэнька, за гонар палічу быць вашым хросным бацькам. У навуку, толькі ў навуку...

Гэта сказаў акадэмік, імя якога вядома кожнаму інжынеру. Ды і сам Пілiп Макаравіч вучыўся па ягоных падручніках і лічыў гэтае імя недасягальнай вышынёй.

Ён узяўся быў за дысертацыю, але ўсё неставала часу. Вунь і цяпер пажоўклыя аркушы паперы з разлікамі і чарцяжамі ляжаць у





кніжнай шафе. Ужо некалькі гадоў ён не чапаў іх. А мог бы, мог бы закончыць навуковую працу.

І цяжкая туга сціяла сэрца.

Не, цяперашняя моладзь не такая. Той жа Шыцікаў рыхтуецца здаваць кандыдацкі мінімум. А яму ж няма яшчэ і трыццаці. Менш, чым было Піліпу Макаравічу ў той час.

Ён дастаў з шафы папку з паперамі і цяжка апусціўся ў крэсла.

А цяпер хіба позна? Вунь Грабенчуку каля шасцідзесяці, а ён абараніў дысертацыю, чытае ў інстытуце, і сам чорт яму не брат. Сядзеў на заводзе ў планавым аддзеле з раніцы да вечара, а цяпер якія-небудзь дзве гадзіны адчытае — і вольны казак: займайся навукай. Трэба, трэба брацца за дысертацыю!

Так сядзеў ён у роздуме, не запальваючы святла, з паперамі ў руках. Ды і ці роздум гэта быў? Хутчэй за ўсё, ён спрачаўся з самім сабой, даказваў свайму двайніку, што трэба завяршыць пачатае, трэба жыць неяк інакш, перайначыць сябе. Пачуццё адзіноты, неўладкаванасці ўсё больш і больш ахоплівала яго, і не было сілы супраціўляцца гэтаму пачуццю. І раптам ён адчуў, што не зможа сказаць нічога новага ў дысертацыі.

У свой час яго прапановы былі нечым новым і цікавым. Але ж гэта даўно пройдзенае. Не будзеш жа цяпер займацца абгрунтаваннем таго, што стала звычайным, вядомым на кожным заводзе. Ды і сама ідэя, як цяпер здаецца, не такая ўжо каштоўная. Вунь учарашнія студэнты з групы Шыцікава сумняваюцца ў ёй, вераць, што можна зрабіць лепш.

І балючае адкрыццё працяла ўсю яго істоту: ён устарэў.

Чамусьці ўспомніліся жончыныя словы, якія яна сказала на яго довады, што яна робіць глупства, падаючы на развод, і калі-небудзь пашкадуе аб гэтым.

«Сумна было б жыць, калі б людзі не рабілі глупства, — адказала яна тады. — Вось ты ўсё правільна робіш, а гэта нецікава. Чалавек павінен памыляцца, перажываць, штосьці шукаць. Затое якая радасць, калі знойдзеш тое, што шукаеш. А ты жывеш, як у занадта правільнай кніжцы. Усе героі на месцы, раскладзены на палічках: адразу бачыш, хто з іх станоўчы, а хто адмоўны. І яны настолькі правільныя, што робяцца сумнымі і нецікавымі».

І яшчэ прыгадалася недзе прачытанае: «Жыць трэба так, каб не перашкаджаць іншым». Ён і не перашкаджаў, а ішоў павольна, крок за крокам разлічваў свой шлях. А куды ішоў — пра гэта не думаў: плыў у фарватары жыцця, як рыба-лоцман плыве за хвастом акулы. Як належнае, прымаў пахвалу, п'янеў ад гэтай пахвалы. А калі хмель прайшоў, то ўбачыў, што на шляху аказаліся людзі больш цвярозыя, якія гатовы саштурхнуць яго з дарогі, каб не замінаў.

Для такіх думак знешне ніякіх падстаў не было. Ён ведаў, што заўтра, як звычайна, прыйдзе на работу, да яго будуць заходзіць канструктары. Той жа Шыцікаў не адзін раз загляне ў кабінет і будзе гаварыць тактоўна, з павагай. Але ўнутраным пачуццём Піліп Макаравіч адчуваў: паміж імі стаіць нешта недамоўленае, яно перашкаджае шчырым прыязным адносінам. Да яго прыходзяць не таму, што патрэбна яго парада, а проста штосьці ўзгадніць, заручыцца падтрымкай. І нярэдка ён адчуваў сябе лішнім у сваім кабінеце, хацелася пайсці да дырэктара і сказаць: «Звальняйце мяне». Але гэта хутка праходзіла. Калаўрот падзей падхопліваў яго, кружыў у віхуры заводскіх будняў, і не ставала часу займацца самааналізам.

Так праходзіў дзень за днём, і кожная падзея пакідала ў душы свой непрыкметны след, каб выліцца потым у такую вось бяссонную ноч з цяжкімі думкамі.

Нясладна, вельмі нясладна ўсё выходзіць. Піліп Макаравіч раззлаваўся на самога сябе: бічаваннем нейкім займаюся, шкадую аб нечым. А Шыцікаў? Можа, ён і не зрабіў яшчэ свайго ў жыцці, а з мяне хопіць. Не кожны інжынер можа пахваліцца, каб ягоным імем назвалі ўдасканаленне. А гучыць зусім нядрэнна: «Сістэма Вярсоцкага». Так, так, Вярсоцкага, а не Шыцікава.

Ён сядзеў у крэсле, а за вакном гаспадарыла ноч. Горад спаў. Толькі ён, Піліп Макаравіч Вярсоцкі, адзін сядзіць вось тут, у гэтай кватэры, якая здаецца няўтульнай і чужой. А думкі бягуць, блытаюцца, пераскокваюць адна цераз другую, шчэмяць сэрца, праганяюць сон.

Ён ведаў, што ні сон, ні гэтае апраўданне перад самім сабой не прынясуць той бясклапотнай радасці, якая звычайна бывае ў чалавека, калі ён задаволены тым, што зрабіў. А можа меў рацыю дырэктар, калі гаварыў: «На моладзь, на моладзь курс трымай, Піліп Макаравіч. Вучыць маладых трэба, але і нам не грэх у іх павучыцца часам. А то, глядзі, абскачуць яны нас з табой».

І хоць сказана гэта было жартам, але сёння вось успомнілася.

Даўно забыты званок у суседняй кватэры, спакойна тахкае сэрца, і яго рытмічныя ўдары ён адчувае ва ўсім целе.

«Не, не сусед вінаваты, што не прыходзіць сон, — падумаў Піліп Макаравіч. — А з Шыцікавым трэба пагаварыць. Так і сказаць: не хацеў ісці на вяселле, а цяпер вось шкадую».

Ён падышоў да акна. Там па-ранейшаму на чорным небе яркай зоркай гарэла лямпачка. Толькі цяпер яна не здавалася адзінокай. Крыху далей вырысоўваліся яркія палоскі святла, што кідалі на асфальт вулічныя ліхтары.

# АПОШНІ РЭЙС

Пятніца — дзень радасны. Мы чакалі яе кожны раз з вялікім нецярпеннем. Мы — гэта брыгада мантажнікаў. Вось ужо некалькі месяцаў мы ўстанаўліваем на новым заводзе абсталяванне і кожную пятніцу на два выхадныя дні аўтобусам едзем у горад. Звычайна мы ехалі вячэрнім рэйсам, але сёння дзень асаблівы. Учора яшчэ закончылі сваю работу і едзем у апошні раз. З гэтага выпадку ў мясцовай чайной нават выпілі па шклянцы партвейну. Пасёлак, дзе мы працавалі, невялікі, і нам ужо добра такі надакучыла тут усё. Хацелася хутчэй у горад, у свой, хаця і не зусім утульны, але вясёлы і шумны інтэрнат.

За гэты час на аўтобуснай станцыі да нас так прывыклі, што касір заўсёды выдавала нам білеты без чаргі, а шафёр, дзядзька Васіль, сустракаючы нас, кожны раз гаварыў:

— А-а, гэта вы. Ну добра, добра... Хутка паедзем.

Гэта быў немалады, хударлявы, не вельмі ахвочы да гаворкі чалавек, з глыбока пасаджанымі вачамі, ад чаго заўсёды здаваўся злосны. Жыў ён у пасёлку даўно, лічыўся чалавекам гаспадарлівым, але занадта ўжо строгім і прынцыповым. Не было выпадку, каб ён па дарозе ўзяў каго-небудзь падвезці, як гэта робяць часам некаторыя шафёры. Аўтобус хадзіў два разы на дзень, і ў звычайныя дні





гэтага было дастаткова. Іншая справа — у пятніцу. Жадаючых ехаць было намнога больш, чым мог умясціць старэнькі аўтобус дзядзькі Васіля.

— Самі ж бачыце, што ўсе месцы занятыя, — адказваў дзядзька Васіль на просьбы тых, каму не даставалася білета.— Стаяць нельга. Інструкцыяй забаронена. Гэта вам не ў горадзе, дзе ў аўтобус пасажыраў набіваецца, як тых селядцоў у бочцы.

«Не чалавек, а партфель з інструкцыямі», — пакеплівалі з яго пасажыры.

Ведаючы ўсё гэта, мы загадзя ўзялі білеты. Да адпраўлення аўтобуса заставалася яшчэ добрай паўгадзіны, і мы без справы туляліся па аўтастанцыі. Дзядзька Васіль моўчкі аглядаў свой аўтобус, штосьці там корпаўся і на ўсе просьбы падвезці без білета адказваў коратка і катэгарычна:

— Не магу...

Апрануты ён быў не так, як заўсёды. Замест звычайнай скуранкі на ім быў ладны гарнітур і нават гальштук. Убачыўшы нас, ён неяк самотна ўздыхнуў і з жалем сказаў:

— У апошні раз вязу вас, хлопцы.

Гэта здзівіла нас. Адкуль яму вядома, што мы закончылі работу і немаведама калі яшчэ давядзецца прыехаць у гэты пасёлак?



— Баста... Ад'ездзіўся, — працягваў ён. — Заўтра, як пішуць у газетах, на заслужаны адпачынак іду.

— Дык віншуем вас,— амаль хорам адказалі мы. А Васька Крот, самы малады сярод нас і востры на язык хлопец, з прытворнай тугой сказаў:

— Вось мне б такое. Пасяліўся б у вёсцы... Тут табе пеўні спяваюць, парсючок рохкае. Гэта ж лафа, браткі. Нічога не рабі, а грошы палучай. Жыві сабе на здароўе і радуйся.

— Балаболка ты. Грошы, грошы... — передражніў яго дзядзька Васіль. — Вы пра іх толькі і думаеце. А я працаваць люблю, з людзьмі быць. А ты — грошы...

«Не вельмі ты людзей любіш, калі чалавека падвезці адмаўляешся», — падумалася кожнаму з нас.

У гэты час да аўтобуса падышоў малады хлопец з вялізным чамаданам. Ён прыкметна хістаўся. Напэўна, прыязджаў да бацькоўці сваякоў і перад ад'ездам перакуліў добрую чарку. Такое мы назіралі тут даволі часта. Многія мясцовыя жыхары працавалі ў горадзе і ў вольны час прыязджалі пагасцяваць.

— Падвязі, браток. Не дастаў білета, — звярнуўся ён да дзядзькі Васіля. — Вяселле ў сябра заўтра, а без гэтага, — ён паказаў на чамадан, — ніяк нельга. Выручы, браток. Вяселле ж, сам разумееш...

— Піць не трэба было, а прыйсці і загадзя білет купіць, калі спяшаешся, — адрэзаў дзядзька Васіль.

— Ды вазьмі ты яго, чалавеча, — умяшалася ў размову бабуля, якая з кошыкам і білетам у руцэ стаяла каля аўтобуса. — Малады яшчэ і на чамадане пасядзіць. Вяселле ж чакаць не будзе.

— Вось і аддай, бабуля, яму свой білет, а сама заўтра паедзеш,— адказаў шафёр.

Дзядзьку Васіля спрабавалі ўгаварыць іншыя пасажыры, але ён быў няўмольны.

Так і застаўся хлопец на аўтастанцыі.

Аўтобус шпарка каціў па шашы, абмінаючы стрэчныя машыны і спыняючыся на прыпынках. На кожным прыпынку дзядзька Васіль заходзіў да дыспетчара, рабіў адзнаку ў маршрутным лісце і, правеpыўшы, ці ўсе пасажыры на месцы, ехаў далей. Жадаючых сесці ў аўтобус было шмат на кожным прыпынку, але ніякія ўгаворы не маглі пераканаць дзядзьку Васіля. Пасажыры глядзелі на яго, як на чалавека бессардэчнага і нячулага.

— Ведаем мы такіх. Падсунь лішняга рубля — дык на край свету павязе, — выказала свае меркаванні бабуля. — Паездзіла я па белым свеце, усяго наглядзелася.

Гэтага было дастаткова, каб гаворка ўсчалася пра хабарнікаў. Хто казаў праўду, а хто і проста тут жа прыдумваў выпадкі, сведкам якіх быў сам, калі шафёры везлі людзей без білетаў, а грошы клалі сабе ў кішэню.

Але вось аўтобус рэзка затармазіў і спыніўся на ўскрайку вёскі. На ўзбочыне шашы стаяў грузавік, шафёр корпаўся ў маторы. Побач быў чалавек у парыжэлым дажджавіку. Дзядзька Васіль вылез з аўтобуса і падышоў да грузавіка. Пра што яны там гаварылі — мы не чулі. Але скончылася гэта тым, што чалавек у дажджавіку пачаў даставаць з кузава нейкія скрынкі, якія пры дапамозе дзядзькі Васіля хутка апынуліся ў нашым аўтобусе і занялі месца паміж крэсламі. На адной з іх уладкаваўся сам гаспадар.

Усе маўчалі. І толькі калі аўтобус крануўся, нехта з пасажыраў заўважыў:

— Ну вось, адным гандляром на гарадскім базары будзе больш.

— А я што казала, — падала голас гаваркая бабуля. — Шпікулянт, ён заўсёды дагаворыцца. Гэта за кроўную капейку шафёр не павязе. А дай яму пяцёрку, дык не толькі цябе, а і тавар твой куды хочаш давязе. Тут ужо ніякая інструкцыя не памяшае...

Хоць мы і не верылі таму, пра што тут ішла гамонка, але ўсё выходзіла так, як гаварыла бабуля. Куды ж інакш, калі не на гарадскі базар напярэдадні выхаднога можа везці чалавек столькі нечым напакаваных скрынак? Тым больш, што на калгасніка новы пасажыр не быў падобны.

Стала неяк няёмка за дзядзьку Васіля, што ён аказаўся іменна такім, як пра яго тут гаварылі.

Чалавек у дажджавіку маўчаў. Твар у яго быў заклапочаны, а ссунутая на лоб кепка закрывала вочы, якія, здавалася нам, былі нахабнымі.

Аўтобус мякка шапацеў коламі па асфальце, дзе-нідзе ўздрыгваючы на выбоінах дарогі. Новы пасажыр прытрымліваў свае скрынкі, каб іх не кідала з боку на бок. І рабіў гэта так, што няйначай там былі яйкі ці шкло.

— Што, баішся тавар да базару не давезці? — з'едліва спытала бабуля.



Ён павярнуўся да нас, хвілінку памаўчаў і засмяяўся гучным залівістым смехам. Потым дастаў насоўку і, усё яшчэ смеючыся, выцер успацелы лоб.

— Памыляешся, бабуля. Гаспадаркай я загадваю ў школе-інтэрнаце. А вязу ў горад лекавыя травы, што дзеці сабралі для в'етнамскіх шпіталяў.

І ён зноў засмяяўся.

— А я сяджу, слухаю і не разумею, пра якіх гэта яны тут спекулянтаў гутораць. Аж вунь яно што... Ведаеце, машына наша сапсавалася, вось і загаралі, пакуль хто падвязе. Дзякуй вашаму шафёру, не адмовіў. Як пачуў, штó вязу, дык і пытаць больш нічога не стаў. «Грузі», — кажа.

Пасажыры маўчалі. Відаць, усім было няёмка.

Пра апошні рэйс дзядзькі Васіля, апрача нас, ніхто не ведаў. Мы ціхенька сказалі аб гэтым пасажырам. А калі прыехалі ў горад, то, не дамаўляючыся, гуртам вылезлі з аўтобуса і кінуліся віншаваць яго з апошнім рэйсам. А бабуля дастала са свайго кошыка дзве цудоўныя слуцкія бэры і падала дзядзьку Васілю.

— Выбачай ужо мне, старой. Гэта ж я ўсё надумала.

А ён стаяў, разгублены, не разумеючы, што ўсё гэта значыць і за што старая просіць прабачэння.

Мы памаглі чалавеку ў дажджавіку вынесці з аўтобуса скрынкі і падаліся сваёй дарогай.







## міхась стрыгалёў

*

паэзія

*

## Перадранішняя балада

А недзе на казачна-белай радзіме
алешыны высяцца у прадчуванні
вялікай паводкі: страляюць ільдзіны,
ўзрываюцца крыгі — наўкол грукатанне,
вясны артылерыя б'е з азярыны,
ў лагах, у ярах не змаўкае да рання.

І цела, і голас абледзянелі...
Ці мроіцца гэта? Не мроіцца гэта:
у студнях — ракеты, ў ангарах — пікеты;
і шэпчуць навокал сівыя легенды
бывалыя елі, кержацкія елі.

А там, на радзіме на казачна-белай,
цвітуць карагоды бяроз-беланожак;
у тых карагодах, адна на свет цэлы,
салдацкае сэрца начамі трывожыць.

Ізноў у казарму іду мімаволі.
У ёй на дасвецці засну непрыкметна —
радарамі пільнымі высяцца вольхі,
глыбока ў калодзежах дрэмлюць ракеты.

■

Прад бярозай схіляю калені,
ствол шурпаты кранаю рукой.
Асцярожна маўклівыя цені
на мяне наплываюць з бакоў.

Хай шчымлівыя пахі айчыны
нечакана нагоняць слязу,
асыпаюць на блуднага сына
шапаткія галіны расу.

Гэтак бацька ў пару сенакосу,
каб жыццё яго шчасным было,
прычашчаўся ля белай бярозы
перад тым, як узяць асялок...

Вось і я, быццам воблак лятучы,
каля роднай бярозы стаю,
і галлё прахалодай гаючай
зноў душу ахінае маю...





## алесь камароўскі

*

паэзія

*

■

За абедам нам ад бедаў —
Бак вады, па тры супы...
І ляціць камель тарпедай
На гарачыя зубы.

Эх, работа! Дошка свішча,
Гнецца ў звонкі пругкі лук...
Вечар, нібы на гарышчы,
Закрывае сонца люк.

Заўтра зноў трашчаць папругам.
А запалу хопіць нам...
Сонца цыркулярным кругам
Стэп раскроіць напалам.

## На цэменце

Неба, грамамі бухні,
Прышлі беларускі дождж!
Не стыне да вечара ў кухні
Ад спёкі казахскай боршч.

Апалубка прагна рыпае,
Крэкча з вадою кадзь...
Кельма, блішчастаю рыбаю
Грэбень раствору гладзь!

Носім раствор рыдлёўкай
І стомы дзесяткі тон...
Ды, змацаваны спёкай,
Устане фундамент над дом.



*уладзімір кузьмянкоў*

# ДЗЯДЗЬКА МІХЕЙ І МЫ

## АПАВЯДАННЕ

Мал. **К. Ціхановіча.**

I

— Ці не да нас папаўненне?

Мы глянулі туды, куды паказаў Віталь. Па пралёце, кіруючыся да нас, ішоў начальнік цэха, а побач нясмела тупала дзяўчо.

— Дзядзька Міхей выкруціцца,— сказаў тады хтосьці з хлопцаў.

Наш брыгадзір і сапраўды навічкоў не надта любіў: «Важдацца з імі... А так вы мяне, а я вас як аблупленых ведаю. Ключык, значыць, да кожнага з вас маю. Так яно і працаваць лягчэй. А нам цяпер трэба вунь як старацца».

Мы ведалі, пра што гаварыў дзядзька Міхей. Месяцы са два назад на агульным сходзе мы рашылі змагацца за званне брыгады камуністычнай працы. У дзядзькі Міхея на гэты конт быў свой погляд, які ён аднойчы выказаў нам: «Заваюем гэта званне — слава будзе! А яе за плячыма не насіць. Ды і жыць зацішней са славай гэтай. От так, саколікі».

Дзядзька Міхей хітраваў, але ж хітрасць яшчэ ніколі не пашкодзіла кіраўніку. Мы, здаецца, разумелі, чаму брыгадзір супраць навічка. Вазьмі яго—і паляцяць прэміяльныя, не гаворачы пра высокае званне.

Размаўляючы з начальнікам цэха, дзядзька Міхей заклапочана пачухаў патыліцу: што рабіць, калі трэба, то трэба. Брыгадзір, мусіць, выходзіў з таго, што калі ўжо браць навічка, то лепш дзяўчыну. Значыць, гэту ён возьме. «Але больш — ужо даруйце. Не адна ж наша брыгада...»

— Што я вам гаварыў,— паназіраўшы за брыгадзірам, урачыста сказаў Віталь.— Бастылія ўзята. А між тым паглядзім, што за птушка да нас прыляцела. Мусіць, стажніца.

Віталь прыставіў да вачэй кулакі, нібы глядзеў у бінокль. Тое ж самае зрабілі Ігар і Сяргей.

Калі хлопцы сыходзіліся разам, пачынаўся няпрошаны спектакль. Кожны з хлопцаў меў сваю мянушку. Віталь—Чапай, Ігар—Пецька, Сяргей — Прышый-Прысцягай. Віталь, чарнявы, рослы, шыракаплечы хлопец, быў разважлівы і любіў-такі камандаваць. Ігар — жвавы, рухавы, уюном віўся каля Віталя, ва ўсім яму дагаджаў, нідзе ад яго не адставаў, нібы ардынарац. Гледзячы на іх, хтосьці з брыгады аднойчы пажартаваў: «Яны, як Чапай і Пецька». І з гэтага часу пайшло: Чапай і Чапай, Пецька і Пецька.

Сяргей Ярашэвіч у брыгаду прыйшоў значна пазней. Яго пасялілі ў інтэрнаце ў адным пакоі з Віталем і Ігарам. І хутка ў кіно, на танцах, у клубе бачылі неразлучную тройцу. Тады і прыкіпела да Сяргея гэта мянушка: Прышый-Прысцягай. І Сяргей не сказаць каб крыўдаваў за яе.

— Во, палюбуйся на гэтых лябіхаў. Спектакль спраўляюць,— спыніўся каля нас дзядзька Міхей.

На мове дзядзькі Міхея лябіхі азначала гультаі. Ён прывёз гэта слова аднекуль з вёскі, адкуль быў родам, і ўпарта не жадаў з ім расставацца. Яно падабалася брыгадзіру і падабалася нам, бо ніхто, апрача нас ды дзядзькі Міхея, яго не разумеў.

Хлопцы ўраз аціхлі. Выструніліся, нібы перад старшыной на вячэрняй паверцы, і, надаўшы тварам самы сур'ёзны выгляд, галантна пакланіліся.

— Дзень добры, мілая дзявіца.

— Будзь для нас усіх сястрыцай.

Збіраўся нешта сказаць і Сяргей, але дзядзька Міхей тупнуў нагой, прыкрыкнуў:

— Ну, хопіць мне тут! Каб я не чуў і не бачыў. Разышліся, лябіхі.

Потым памякчэў і, звяртаючыся да дзяўчыны, сказаў, каб яна надта не палохалася, бо хоць мы хлопцы адарві ды падай, але людзі добрыя. Нам ён загадаў «выкінуць дурыкі з галавы», не крыўдзіць малую і дапамагаць ёй ва ўсім.

— Дык як, кажаш, цябе завуць? — звярнуўся брыгадзір ужо да новенькай.

— Вяснушка.

— Як гэта? — засумняваўся дзядзька Міхей.

— Ну так — Вяснушка. Імя такое.

— Гм... Вяснушка. Віялеты ды розныя там Анжэлы-шмэлы чуў, а вот Вяснушка каб — такога не даводзілася. Але Вяснушка дык Вяснушка. Як той казаў, хоць і гаршком няхай назавуць, абы ў печ не паставілі.

Вучыць Вяснушку такарнай справе ўзяўся сам дзядзька Міхей. Мы толькі ўпотай пазіралі, як там наша малая, зрэдку падыходзілі, каб памагчы, але брыгадзір кожны раз адганяў нас:

— Не цырк тут, нечага ідовішча ўстраіваць. Марш сваім дзелам займацца!

Мы бачылі, як у канцы змены Вяснушка ластаўкай насілася каля станка, прыбіраючы яго. Аднойчы завінулася падмесці і прыбраць каля нашых: маўляў, гэта ж ёй няцяжка, але дзядзька Міхей строга прыкрыкнуў:

— А гэта што яшчэ такое?! Самі ўбяруць, не зломкі. Каб і не думала нават.

Мы разумелі. Вяснушцы хацелася дагадзіць нам, заваяваць нашу павагу, і яна старалася праявіць свой жаночы клопат. Але мы і без папярэджання дзядзькі Міхея не далі б ёй падмятаць. Ці ж мы не рыцары? У той дзень доўга і заўзята шкрэблі падлогу, падмяталі стружку. Нават дзядзька Міхей пахваліў:

— А што? Парадачак сёння і ў вас, лябіхі. І ўсё ж у яе — лепш,— паказаў на Вяснушку.— Калі так і працаваць будзе, то ўсіх вас, лябіхі, за пояс заткне.

Вяснушка стаяла, апусціўшы галаў. Прыемна слухаць першую пахвалу. А можа гэта пахвала яе больш бянтэжыла: не паспела прыйсці, і яе ўжо хваляць, а іншых ганяць. Адчувалася: не падабаецца Вяснушцы такое.

І ўсё ж неўзабаве мы аказаліся ў даўгу перад Вяснушкай. Неяк пасля нядзелі, адчыніўшы свае шафы, здзівіліся: нашы выпацканыя камбінезоны нібы хто замяніў. «Ты глядзі, як начальства стараецца»,— сказаў я, апранаючы чысцюткі, адпрасаваны камбінезон.

— Наіўны ты чалавек, камсорг,— азваўся на мае словы Віталь.

— А хто ж тады? Не самі камбінезоны ў адмочку хадзілі.

— Вядома, не самі. Вунь тваё «начальства». Ідзі запытай, чаму пальцы забінтавала. Пазбівала, твой халат мыючы,— паказаў Віталь на Вяснушку і пайшоў ад нас, нібы я быў вінаваты, што яна пазбівала пальцы.

— Вяснушка?

Якія ж мы аднак нездагадлівыя!

## II

— Пакажы, што валачэш? — загаварыла цётка-вахцёр, калі я хацеў прашмыгнуць міма яе.

— Слоік трохлітровы.

— Слоік? Парожні? Ну, нясі. Але адтуль не вынесеш. Так і знай.

Хлопцы ўжо чакалі мяне.

— Што так позна? Давай хутчэй. Ігар, мігам па ваду. Ды не расхандэсай слоік,— распарадзіўся Віталь.

А праз мінуту цэлы ахапак кветак стаяў на тумбачцы ў Вяснушкі. Самі ж як ні ў чым не бывала, разышліся да сваіх станкоў, раскладвалі інструмент, рыхтаваліся да працы. Мы дамовіліся не пазіраць нават у той бок, каб не выдаць сябе, але паглядзець карцела. Цікава, што скажа Вяснушка?

Нарэшце Сяргей шапнуў: «Ідзе!», і мы яшчэ ніжэй схіліліся над станкамі. «Ой, хлопчыкі!» — пачулі раптам мы і, забыўшыся на ўсе змовы, як апантаныя кінуліся да Вяснушкі: «Што з табой?»

Яна стаяла ў нейкім радасным здранцвенні, прыціснуўшы да грудзей рукі, заплюшчыўшы вочы.

— Якія кветкі! — выдыхнула нарэшце, і ў голасе было столькі радасці, захаплення, непрытоенага замілавання, нібы ўбачыла не кветкі, а неймавернае багацце. Ніколі яшчэ не сустракаў такіх шчаслівых і радасных людзей.

— Ой, хлопчыкі!..— кінулася яна да нас, і раптам я адчуў на сваёй шчацэ яе гарачы пацалунак.





Ніколі не думалі, што ад звычайнага букета кветак наша дзяўчс звар'яцее ад радасці. Аж цалавацца кінулася.

Для мяне было даўняй загадкай: чаму дзяўчаты проста млеюць ад радасці, калі ім дораць кветкі? Налучыўшы момант, спытаў аб гэтым у Віталя.

— Ты не ведаеш, і я, брат, не ведаю. Відаць, не з тога боку глядзім на кветкі. І душою чэрствыя...

Той дзень я працаваў, нібы зачараваны. З галавы не выходзіла Вяснушка, яе гарачы пацалунак. Пры ўспаміне аб ім хутчэй пачынала біцца сэрца, было радасна і хораша. А яшчэ думалася: «Чаму яна пацалавала мяне першага?»

Дзён колькі Вяснушка мяняла ў слоіку ваду, і кветкі стаялі, як жывыя. А аднаго разу яна прынесла маленькія вазончыкі, паставіла іх на нашы тумбачкі, з цэлафанавага мяшэчка насыпала зямлі і пасадзіла кветкі. Дзядзька Міхей хмурыўся, але маўчаў.

Неўзабаве да нас прыйшлі два жвавыя хлопцы з заводскай шматтыражкі. Адзін з фотаапаратам, а другі ўсё прыставаў да брыгадзіра з роспытамі.

Праз дні тры ў газеце з'явіліся фотаздымак і артыкул пра нашу брыгаду. Дзядзька Міхей хадзіў героем.

Але радасць брыгадзіра была нядоўгай. У вялікі гнеў увяла яго неўзабаве Вяснушка. А пачалося ўсё з-за Эдзіка.

Ён быў з «цяжкіх», прагульваў, нават піў. У брыгадзе, дзе ён раней працаваў, ужо колькі разоў разбіралі яго паводзіны. Эдзік кожны раз абяцаў і не спазняцца, і не прагульваць, і гарэлкі ў рот не браць, а праз дзень-два забываў пра свае абяцанкі, і старая песня пачыналася зноў. Казалі, брыгадзір колькі разоў прасіў перавесці Эдзіка ў другую брыгаду. Пасля чарговага спазнення склікалі агульнацэхавы сход, каб у апошні раз, як сказаў начальнік цэха, вырашыць лёс Эдзіка Бялова.

— Дык вось, таварыш Бялоў, вашым абяцанням ужо больш не верац,— ушчуваў начальнік цэха.— Хто, таварышы, возьме ў сваю брыгаду Бялова?

Брыгадзіры маўчалі, нібы набраўшы ў рот вады.

— Вось бачыце, таварыш Бялоў. Ніхто не жадае вас браць да сябе. Так што...

І раптам падхапілася Вяснушка. Ніхто з нас не чакаў такога, і цяпер маўчалі: што яна скажа? А Вяснушку ўжо прыкмеціў начальнік цэха.

— Ты, Беразняк, хочаш нешта сказаць? Ну-ну, цікава паслухаць.

Вяснушка ўдыхнула паветра, нібы збіралася даваць нырца.

— Ды што ж гэта такое, таварышы... Як жа гэта... Ну, зволім мы яго. А куды ён пойдзе? Хто яго возьме? А калі і возьме, то што пра нас скажуць? Занадта лёгкі ўжо выхад усе знайшлі. Калі не перавыхоўваецца, то адразу і за дзверы. А хто яго выхоўваць будзе, хто з яго чалавека рабіць будзе?

— Ага, што? Беразняк, таварышы, праўду кажа. Зволіць лягчэй за ўсё. Але ж ніхто Бялова браць не хоча, вось у чым бяда.

— Як гэта не хоча? А наша брыгада? Такі ў нас цудоўны брыгадзір, такія нашы хлопцы...

Я адчуў, што Вяснушка гаворыць тое, аб чым павінен быў сказаць я. Але ў мяне чамусьці не хапіла рашучасці, а яна ўстала і сказала. Канечне, дзядзька Міхей будзе крывіцца. І няхай.

Пасля прапановы Вяснушкі сход загудзеў, з палёгкай уздыхнуў.



— Дык як ты, Міхей Арцёмавіч? — запытаў начальнік цэха.

— Я што? Не супраць, канечне. Калі трэба, то трэба,— адказаў дзядзька Міхей. Але не паспелі астацца сваёй брыгадай, як ён накінуўся на Вяснушку:

— Цябе хто прасіў сунуць нос не ў свае дзела? Я ў цябе пытаю?

Вяснушка аж здрыганулася ад нечаканасці:

— А што... А я... Хіба нельга было?

— «Хіба нельга было?» — перадражніў брыгадзір.— Аратарша знайшлася. Калі трэба — сам скажу.

— Яна правільна сказала,— уступіўся я за Вяснушку.

— Значыць, яна правільна, а я няправільна? А ці ведаеце вы, разумнікі, што цяпер вам не бачыць прэміяльных, як сваіх вушэй?

— Ну, і пражывём,— сказаў Віталь.

— Вы пражывеце, вядома. Па тым, што брыгадзіра будуць скланяць за нейкага лябіха ўдоўж і ўпоперак, у вас галава не баліць...

## III

З Эдзікам мы пазнаёміліся назаўтра. Яго прывёў Лугавец, брыгадзір, дзе раней працаваў Бялоў.

— Міхей Арцёмавіч, прымай эстафету.

— Ды ўжо ж, эстафета,— незадаволены быў дзядзька Міхей.— На табе, божа, што мне нягожа...

— Ну, у мяне не атрымалася, а ты, можа, і здолееш... Хлопцы ў цябе вунь якія, ды і сам ты... Вопыт маеш.

Дзядзька Міхей агледзеўся на Эдзіка. Той стаяў моўчкі, усміхаўся, нібыта размова ішла не пра яго.

— Ён што ў цябе, нямко? Учора ж, здаецца, гаварыў.

— Пачакай, загаворыць. Ён з вытрымкай, з расстаноўкай.

Эдзік памаўчаў яшчэ, пільна ўглядаючыся ў твар дзядзькі Міхея, і нарэшце сказаў:

—Я рад, што мне давядзецца працаваць у вашым слаўным калектыве.

Лугавец усміхнуўся, адразу заспяшаўся:

— Ну, я пайшоў.

— Бачыце, ён рад! — усхадзіўся дзядзька Міхей. Ён трываць не мог марудлівых людзей і, незадаволена зіркнуўшы на нас, загаварыў да Эдзіка:

— Хадзем, «вытрымка і расстаноўка», станок твой пакажу.

Эдзік не спяшаўся. Невядома, колькі б ён яшчэ так стаяў і нахабна ўсміхаўся, калі б не Віталь.

— Старэйшыя клічуць,— узяў ён яго за плячо.— Старэйшых слухацца трэба.

Эдзік развёў рукамі: «маўляў, нічога не зробіш» — і ляніва падыбаў следам за дзядзькам Міхеем.

— Ён давядзе яго да вясёлага жыцця,— пашкадаваў брыгадзіра Ігар.

Вяснушка маўчала. А Віталь, пачухаўшы патыліцу, прамовіў:

— Камсорг, збірай сёння сход. Гаварыць будзем.

Сход быў кароткі. Эдзік жыў на прыватнай кватэры, і мы пастанавілі хадайнічаць перад начальствам, каб Эдзіку далі інтэрнат. Вельмі добра было б пасяліць яго ў пакой да нашых хлопцаў. «Прабіць» інтэрнат паручылі мне з Вяснушкай, а ўсё астатняе хлопцы бралі на

сябе. Пакуль жа будзе рашацца справа з інтэрнатам, пастанавілі па чарзе кожную раніцу заязджаць па Эдзіка.

Эдзік сядзеў і моўчкі ўсміхаўся. Глянуўшы на яго, Ігар не вытрымаў:

— А ты хоць сам хочаш жыць у інтэрнаце ці табе гэта ўсё роўна?

Эдзік павярнуўся да Ігара, але з адказам не спяшаўся. Чакалі і мы.

— О, мяне вельмі кранулі вашы клопаты,— нарэшце загаварыў ён.

— Досыць табе, хлопча, ламацца,— сказаў Віталь.

— Гэта значыць, не валяй Ваньку-дурнічку,— удакладніў Ігар.

— І хуткасць змяні, а то ж вельмі ў цябе ўсё запаволена,— параіў Сяргей.

— І ўвогуле, нам не падабаюцца твае адносіны. Мы да цябе з усёй душой, а ты...— папракнула Вяснушка.— У цябе спытаеш што, а ты глядзіш ды ўсміхаешся, пяць мінут твайго адказу чакаць трэба. Ты што, адразу не можаш?

— Не магу. Я вытрымку выпрацоўваю. Характар, значыць. Мужчына павінен мець вытрымку.

Наша рашэнне аб шэфстве Эдзік сустрэў без энтузіязму. Але і пярэчыць не стаў. Дамовіўшыся, што першы па Эдзіка заедзе Віталь, мы разышліся.

Дні беглі хутка. Рыхтавалася здаваць на разрад Вяснушка, ні разу не спазніўся Эдзік. У інтэрнат яго яшчэ не пасялілі, але праспаць мы яму не давалі. Кожную раніцу нехта з нас ехаў на кватэру да Бялова. Збегчы раней з-пад нашага нагляду яму таксама не ўдавалася. Вось толькі Эдзікава вяласць... Але і яна пакрысе праходзіла. А дзядзька Міхей, здавалася, яшчэ крыўдаваў. Праўда, ён гэтага не выказваў, але мы адчувалі: крыўдуе, і гэта непакоіла нас. Трэба было неяк мірыцца. І Віталь аднойчы сказаў:

— Я ведаю, як.

А назаўтра ў абед, падсеўшы да брыгадзіра, Віталь, нібы між іншым, загаварыў:

— Учора сустрэў знаёмага. От грыбоў павалок — вядро і плашч завязаў. За Лагойск ездзілі. Казаў, хоць касу закладвай.

— А баравікі пракідваюцца?

— Дык не пракідваюцца, а адны баравікі.

— Каб жа выбрацца калі, дык усё ж не выпадае,— пашкадаваў дзядзька Міхей.

— А чаму не выпадае? Давайце, калі не супраць, у нядзелю і махнём. Я ўжо і наконт машыны дамовіўся. Праўда, грузавая.

— Ды ліха з ёй. Абы заехаць...

Выехалі рана, яшчэ прыцемкам. Імжэў дождж. Было волка і зябка. Вяснушку пасадзілі ў кабіну, а самі, зашыўшыся ў плашчыдажджавікі, ехалі ў кузаве. Эдзік прытуліўся ў куток і праз якіх мінут пятнаццаць ужо бесклапотна спаў. Маўчалі і мы. Цягнула на сон, і я ўсё ж задрамаў, бо не чуў і не бачыў, калі прыехалі.

— Пад'ём, грыбнікі,— раскатурхаў нас дзядзька Міхей.— Давай у лес. Толькі не заблудзіцеся. Выгляне сонца — арыентуйцеся па сонцы. А лепш за ўсё далёка ад гэтай мясціны не адыходзіцца. Збор у дзве гадзіны.

Брыгадзір схапіў кошык і як не бягом пусціўся ў лес. Следам пайшлі і мы.

— Вы разыходзьцеся! А не цугам. Гэта ж вам не танцы,— глянуўшы на нас, крыкнуў дзядзька Міхей.



Неспадзявана ад нас адлучыўся Эдзік.

— Дзядзька Міхей хітры, але ж і мы не лыкам шытыя. Пайду следам. Знойдзе ён, то і мне што перападзе.

Нейкі час мы трымаліся гуртам. З дрэў сыпалася раса, мокра было і пад нагамі. Лезці ў такую макрэчу не надта хацелася. І раптам пад бярозачкай прыкмеціў чырвоную шапачку падасінавіка. Узяўшы яго, заўважыў другі, трэці. У душы абудзіўся азарт, які, мусіць, бывае ў кожнага паляўнічага, рыбака. Калі пашанцавала, штосьці знайшоў, то хочацца яшчэ. Непрыкметна збочыў, аддзяліўся ад хлопцаў. Чуў іх галасы, адклікаўся ім, але клікаць да сябе не хацелася. Неўзабаве на невялічкай прагаліне падняў баравічок. Праз крокаў дзесяць знайшоў яшчэ аднаго. Баравікі пракідваліся часцей і часцей. Справа ад мяне, чуваць было, перакліканіся хлопцы і Вяснушка. Разы са два падаў голас і дзядзька Міхей. Нейдзе там быў і Эдзік. Значыць, я між хлопцамі і дзядзькам Міхеем. Ззаду, калі ісці прама, павінна быць машына.

Кошык паўнеў. А грыбоў, чым далей, тым больш. Калі трэба было вяртацца, я здзівіўся, што так непрыкметна і хутка праляцеў час.

— Дзе ты ходзіш? Ехаць трэба, а вас з лесу не выкурыць! — напаў на мяне дзядзька Міхей, калі я, стомлены, выйшаў, нарэшце, да машыны. Вяснушка і хлопцы ўжо сядзелі ў кузаве і палуднавалі. Іх вёдры таксама былі поўныя. Шафёр — перад дарогай — заклапочана зазірнуў пад кузаў, стукнуў ботам па скаце і палез у кабіну.

— А Эдзік дзе?

— Адкуль я ведаю? Ён жа за вамі пайшоў.

— Давайце пачакаем крыху. Павінен выйсці,— папрасілі мы шафёра.

Прасядзелі яшчэ з паўгадзіны, а Эдзік не прыходзіў. Шафёр колькі разоў сігналіў, а потым махнуў рукой:

— Трэба ехаць, а то так і да вечара дастаімся...

— І я так думаю,— устаў раптам дзядзька Міхей.— Калі б ён быў у лесе, то ўжо даўно выйшаў бы.

— А дзе ж ён тады, па-вашаму?

— Дома даўно. Ці ў суседняй вёсцы самагонку глушыць. Ведаю я яго...

А што, калі дзядзька Міхей праўду кажа? Заблудзіцца ён не мог. Я ўжо як далёка адышоўся і то прыйшоў. Я паглядзеў на хлопцаў— што скажуць? Яны незадаволена маўчалі.

— Ну от што,— загаварыў шафёр,— больш я чакаць не магу, вяселле ў мяне сёння. Пакуль яшчэ прыеду, пераапрануся...

— А мяне сябрук на імяніны запрасіў, не пайсці — непрыгожа,— нібы сам сабе сказаў дзядзька Міхей.

— Да мяне сёння брат абяцаў прыехаць,— прамовіў Сяргей.

— А ў мяне, калі на тое пайшло, сёння вечарам спатканне. Не прыйсці ці спазніцца — немагчыма,— нібы адрэзаў Віталь.

— А чаго чакаць з мора надвор'я? Сказана было — збор у дзве. Усе прыйшлі, а ён заўсёды ўсё наперакор робіць. Такіх вучыць трэба. Паехалі,— злосна кінуў Ігар.

Мне не было куды спяшацца. Але калі ўсе едуць, то неаставацца ж тут. Тым больш, што ад Эдзіка ўсяго чакаць можна. Шафёр ужо выязджаў на дарогу. І раптам Вяснушка застукацела кулакамі па кабіне:

— Стойце! Як вы можаце чалавека ў лесе пакідаць?

Яна саскочыла з машыны і пабегла ў лес, гукаючы: «Эдзік, Эдзік!»

— Ну і дзеўка... От накасалася на маю галаву,— пачаў лаяцца дзядзька Міхей.

— Дакуль я тут буду з вамі валэндацца? Мне ехаць трэба! — раскрычаўся раптам шафёр.

— Ну і едзь,— падняўся раптам Віталь.— Хадзем, хлопцы. Пабраўшы свае кошыкі і вядро Вяснушкі, мы пайшлі следам за ёй. Ззаду, лаючыся на чым свет стаіць, цягнуўся дзядзька Міхей. Але мы не слухалі яго. А шафёр, газануўшы, паехаў.

Мы ўжо зусім ахрыплі, клічучы Эдзіка, страцілі ўсялякую надзею знайсці яго. Даймаў голад, страшэнная стома валіла з ног, было толькі адно жаданне — хутчэй трапіць як-небудзь на дарогу ці выбіцца на ўскрай лесу. Я ўжо ўпотай пашкадаваў, што паслухаліся Вяснушку. Даўно былі б дома. А так невядома, калі выберашся з гэтай мярэчы. А Вяснушка ўсё ішла, не перастаючы гукаць Эдзіка. Нават дзіўна, адкуль у яе сіла бралася.

Эдзіка мы знайшлі вечарам, ідучы ўжо дамоў. Абдымалі, нібы роднага брата. Нават дзядзька Міхей прасвятлеў:

— Гэта ж трэба — у Барсукоўшчыну зайсці... А я ўжо, грэшным дзелам, падумаў, што ты дома даўно... Без цябе ехаць хацелі.

— Што заблудзіўся — не бяда. Рана ці позна куды-небудзь прыбіўся б. А як падумаю, што заўтра на работу спазнюся,— аж у пот халодны кідае. Вот і бег. Ды, відаць, не туды,— усміхаўся Эдзік.

Побач, шчаслівая і радасная, ішла Вяснушка. Вінавата маўчалі хлопцы.

— Хутка павінна быць дарога. Я тут у партызанах на жываце ўсё выпаўзаў. Добра ведаю,— мусіць, каб падбадзёрыць нас, сказаў дзядзька Міхей. Раптам ён шчыра і весела засмяяўся.

— Чуеш, гэта ты ёй, Вяснушцы, дзякуй скажы. Прысароміла нас, сама з машыны — і ў лес. Быць, кажа, такога не можа, каб ён гэта сумысля, каб паехаў, значыць, дамоў ці піў дзе. Заблудзіўся, кажа. От так, брат. Дзяўчо, а нам усім нос уцерла. Век жыві — век вучыся.— І, павярнуўшыся да Вяснушкі, дадаў: — Давай вядро, паднясу. Стамілася сёння, небарака. Ды нічога, хутка выйдзем.

Дзядзька Міхей ішоў сярод нас, нібы бацька вялікай сям'і. Яму, мусіць, было прыемна гэта адчуваць.

— Во, я ўсё даўно збіраюся запытаць,— загаварыў зноў дзядзька Міхей да Вяснушкі,— дзе твае бацькі жывуць? У горадзе, у вёсцы? Мусіць, інтэлігенты яны ў цябе. Трэба ж такое імя даць—Вяснушка. І прыдумалі ж.

— Гэта не яны — у дзетдоме. А чаму, не ведаю. Можа, што вясной нарадзілася,— адказала Вяснушка.

Мы маўчалі, уражаныя і здзіўленыя. Вяснушка з дзетдома, а мы нават не ведалі. Як недаравальна многага мы яшчэ не ведаем! Аб нечым задумаўся і дзядзька Міхей. Аб чым?

Лес паступова радзеў. Разы са два да нас даносіўся гул аўтамабіля. Дзядзька Міхей вёў нас правільна. Там была дарога.





**сяргей панізнік**



**ПАЭЗІЯ**



## *Маці мая*

**На шляху Адысея ляжалі краіны**
**з гучным імем, славутым народам.**
**Некаторых — няма ўжо: ў раскопках знаходзяць**
**іх шаломы і ядры —**
**сатлелую памяць піроў і паходаў.**
**Толькі там, дзе бары аж пад самае неба,**
**дзе з прадоння азёр — і паданні, і песні,**
**незвычайны ёсць край, адысееў равеснік.**
**Колькі меў ён імён, колькі славы і гора,**
**колькі там прывучалі народ да пакоры...**
**На ягоных паэтаў хадзілі у ловы,**
**пазбаўлялі Радзімы і роднага слова.**
**Але ёсць яшчэ праўда святая на свеце:**
**не загінула Праца, не ўзнялася на вецер!**
**Адысею, каб вокам ты толькі акінуў,**
**як паўстала са здзекаў, і крыўды, і кпінаў**
**пры табе не згаданая ў вершах краіна;**
**як жыве і як веруе ў новыя далі —**
**песня глебы, лясоў, каласоў і металаў,**
**песня сэрца лагоднага, ласкавых рук —**
**несмяротная маці мая — Беларусь!**

■

**Хоць на імгненне,**
**хоць на крок —**
**з нервовай мітусні...**

**Хай соладка спачыне кроў**
**ў начлежнай цішыні,**
**дзе вецер ночы пазавеш —**
**ён прыйдзе да цябе,**
**дзе можна адчуваць:**
**жывеш —**
**пад небам,**
**на зямлі,**
**цяпер;**
**у вочы вогнішчаў глядзець,**
**як продкі у свой час,**
**успамінаць іх,**

шкадаваць,
што згублена у нас;
і слухаць: плешчуцца чаўны
ля водмеляў і кос,
а лугавішчам —
табуны
у звоне рос.

## Прыходзіць вестка аб вясне

Прыходзіць вестка аб вясне
у абагрэтыя шпакоўні.
А для мяне — ўсё неспакойней...
Душа прыроды, праясней!
Падай зялёную надзею:
без вёснаў я ахаладзею,
я абамлею ў доўгім сне,
я абмялею...

*

Прыходзіць вестка аб вясне.
Здаецца, я прыладзіў збрую
і галасы Прыдзвіння чую,
а конь — як вецер у сасне.
Гляджу: ці многа сеяў жыта,
ці многа добрых слоў ужыта
і пеажыта...

*

Прыходзіць вестка аб вясне.
Прызыўна крыламі трапеча
мая высокая сінеча.
А дух зямлі у баразне
заве да сонечнага рання
ад забыцця, ад уміранне.

■

У зрэнках тваіх вачэй
сцяжынка маленькая свеціцца.
Па ёй ты выходзіла ў свет
і са мною сустрэлася.
І калі мы ужо размінуліся,
і калі паміж намі застаўся
адзін развітальны пагляд,—
я здзівіўся, чаму ўрасела
паўзарослая тая сцяжынка...
А яна ж, а яна пралягала
напярэймы майму бездарожжу...

■

Брунявая бярозавая рань.
Ляжыць раўніна — ні дарог, ні следу,
Ды ў кужалі снягоў я тайну ўведаў:
зіма ў трывозе ад прапалін-ран.

Прымчала абуджэнне і да нас,—
слата спаўзае травяным адхонам.
Ідзе вясна з узбурным сакагонам
над замяццю, над паляўнічым гонам...
Час!







міхась чавускі

# ФАРБАМІ ГНЕВУ

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Малюнкі Віталя БУКАТАГА

## Сямейныя рэліквіі

З цяжкім сэрцам іду да Аляксандра Аляксандравіча і Любові Мацвееўны Букатых. Адчуваю шчымлівую неабходнасць сустрэцца, але хвалююся, не ведаю, як мне з імі гаварыць, каб не патрывожыць іх балючыя раны. Разумею свой абавязак расказаць ім пра іх сына, з якім мы былі побач у гады вайны, дый самому даведацца, як рос і гадаваўся гэты слаўны, таленавіты юнак.

І вось мы сядзім у пакоі, дзе ўсё нагадвае пра іх сына. Сядзім утраіх, і гаворка ніяк не завязваецца. Найбольш расказваю я. Мабыць, нагадак пра сына балюча адгукаецца ў сэрцах бацькоў.

— Нават і пажыць не паспеў сыночак,— уздыхае Любоў Мацвееўна.— Дзе ж справядлівасць? Я жыву, а яго няма.— Яна пачынае расказваць пра Віталя Букатага. Хвалюецца. Баіцца прапусціць што-небудзь важнае і ўсё апраўдваецца, што нібыта гаворыць пра дробязі.

Любоў Мацвееўна не здагадваецца, што мяне, чалавека, які так блізка ведаў яе сына, найбольш цікавяць менавіта тыя дэталі, якія здаюцца ёй дробязнымі. Той жа даваенны будзільнік, званок якога аніяк не мог разбудзіць Віталя.

«Хіба ёсць лепшы за маму будзільнік? Расчухвайся, расчухвайся, сынок,— шапчу яму на вуха, і ён расплюшчвае вочы».

Слухаеш яе — і перад табою ўзні-

Друкуецца са скарачэннямі.

кае малюнак цяпер ужо далёкага Віталевага маленства. Вось столік, дзе Віталь рыхтаваў урокі, маляваў карыкатуры для школьнай насценнай газеты. І як жа радавалася маці, калі ўпершыню на бацькоўскім сходзе сказалі, што ў малога Віталькі ёсць прыкметныя задаткі будучага мастака. Маці паказвае парудзелы буквар, на пажоўклых старонках якога захаваліся нязграбныя хаткі на курыных ножках, чырвоныя вавёрачкі, шэра-бурыя зайчыкі, намаляваныя дзіцячай рукою...

Я сяджу на той канапе, якая ноччу замяняла Віталю і ложак і «чытальню». І перад маімі вачыма зноў паўстае вобраз таго сарамлівага хлапчыны. Успомніліся і радкі з яго дзённіка, які ён вёў з самага пачатку вайны:

«Тут, на адзіноце, пры цьмяным святле газоўкі, я бліжэй пазнаёміўся з Пушкіным і палюбіў яго назаўсёды. Палюбіліся майму сэрцу Талстой і Гогаль, Чарнышэўскі і Шчадрын, Чэхаў і Горкі, Маякоўскі і Ясенін... А першае знаёмства з вялікімі пісьменнікамі адбылося ў школе. І за гэта я навечна ўдзячны Валянціне Міхайлаўне».

Часта і з замілаваннем успамінаў ён школу, сваіх гаманлівых школьных сяброў, сонечныя класы, дарагіх сэрцу настаўнікаў і асабліва незабыўную, як ён казаў, Валянціну Міхайлаўну Забусаву, выкладчыцу мовы і літаратуры. Яна ж кіравала і школьным літгуртком, заахвочвала Віталя, каб ён больш маляваў.

Любоў Мацвееўна падыходзіць да палічкі і, быццам скардзячыся на сына, гаворыць:

— Да позняй ночы зачытваўся, а часам не расставаўся з кнігай аж да самае раніцы. Падкруціць у лямпе кнот — і чытае, чытае.

А калі пачалася вайна, дык мы рэдка бачылі яго, усё некуды знікаў. А тут налёты, бамбёжкі, пажары, забітыя, параненыя. Адвячоркам прыбяжыць схуднелы, счарнелы, наскрозь прапахлы мазутам, тое-сёе перахопіць, і — толькі яго і бачылі.

Яна расказвае, а Аляксандр Аляксандравіч, панурыўшы галаву ў цяжкім задуменні, маўчыць. Толькі час ад часу скупой рэплікай удакладніць тое, пра што з такой скрухай гаворыць жонка. Я слухаю і ледзь адольваю спакусу выняць з кішэні блакнот і занатаваць усе гэтыя падрабязнасці, якія толькі адна маці можа ўсё жыццё трымаць у памяці. Яе расказ пераносіць мяне ў тое, ужо далёкае і разам з тым, здаецца, зусім блізкае мінулае яе сына. Але чамусьці ўпэўнены, што матчына шчырая гаворка адразу абарвецца, як толькі пачну запісваць.

Тым часам яна падышла да камоды, дастала з шуфляды і паклала на стол фатаграфіі, сшыткі, блакноты, пісьмы, замалёўкі...

Усё, што звязана з сынам,— найдаражэйшыя сямейныя рэліквіі, святая памяць для бацькоў. І не дзіва: за кожнай такой рэліквіяй — кавалак сынавага жыцця.

— Вось глядзіце,— кладучы перада мною пакарабачаную фанерку, кажа Віталеў бацька. — Ехалі мы з сынам з Калінкавіч у Гомель. Праз пару дзён ён паказаў нам гэты малюнак. «Жырні, татачка, пажнаеш?»

— Зубкі ў яго тады мяняліся... І гэтак смешна шапялявіў,— матчыны вочы пажвавелі.— Як цяпер помню той млын, каля якога ехалі, купку бяроз ля самай дарогі і стажкі, што віднеліся ўдалечыні... Шэсць гадочкаў тады яму было. Дужа любіў сынок прыроду.

У пакоі ўсталёўваецца шчымлівая цішыня, і таму здаецца, што занадта гучна цікае будзільнік на камодзе ды задужа гучна шамацяць старонкі альбомчыка, які я моўчкі гартаю.




Віталь Букаты.

...Лясок, пранізаны сонцам. Бярозкі, такія чыстыя, бестурботна спакойныя...

...Птушкі ў блакітным, без адзінай аблачынкі, паднябессі...

...Хлопчыкі пускаюць папяровых галубоў...

...Маладзік купаецца ў Сожы.

...На галінцы верабей з шырока разяўленай дзюбкай...

Гэты па-дзіцячы наіўны малюнак больш за ўсё уразіў мяне: «горача, ох як горача на дварэ!» Так і хочацца паспачуваць вераб'ю.

Разгортваю пабляклы ад часу даваенны нумар гомельскай абласной газеты. У ім змешчаны ўрывак з паэмы «Марынка». Чытаю: «Віталь Букаты, вучань 4-й чыгуначнай школы, мае не толькі схільнасць да вершаў. Ён яшчэ і мастак. Сваю паэму аўтар ілюстраваў уласнымі малюнкамі».

З гэтых сямейных рэліквіяў відаць, як пашыраўся дыяпазон інтарэсаў Віталя, як мужнела яго дзіцячае сэрца.

На вокладцы школьнага сшытка надпіс: «Для малявання, вучня VII класа». У сшытку — восем парудзелых ад часу фатаграфій, кожная на асобнай старонцы. Дзіцячым почыркам буйнымі літарамі на першай старонцы напісана: «Гомельскія камунары, якія па-геройску загінулі ў час контррэвалюцыйнага стракапытаўскага мяцяжу». Аляксандр Аляксандравіч помніў, як Віталь разам з сябрамі рыхтаваў да Кастрычніцкага свята выстаўку — партрэты герояў грамадзянскай вайны.

— Сын маляваў партрэты гомельскіх камунараў па іх фатаграфіях і вельмі хваляваўся, бо, мусіць, не адмыслова выходзіла.

Праглядаю выразкі з газет і часопісаў таго часу: перада мною «Пампадур», «Падліза», «Ханжа», «Зеўс-апраўержац», «Той, хто марна пад нагамі блытаецца», «Галоўная вуліца»... Кожная выразка тым жа дзіцячым почыркам падпісана: Маякоўскі, Лебедзеў-Кумач, Дзям'ян Бедны...

І раптам зусім ужо блізкае і знаёмае:

Што ні скажа —
Маслам мажа
З плеч да лытак.
Вось дык крытык!
Вось бы гэты язычок
У прыбіральню на цвічок!

Тут жа даволі наіўная карыкатура (відаць, на школьнага балбатуна-ўгодніка): доўгі чырвона-фіялетавы язык, на якім акурат змясцілася фраза: «Вось бы гэты язычок у прыбіральню на цвічок!»

Так адбылося першае знаёмства (завочнае, вядома) хлопчыка Віталя з беларускім сатырыкам Кандратам Крапівой. Хіба мог ён падумаць, што сустрэнецца з пісьменнікам на старонках друку як адзін з аўтараў і супрацоўнікаў сатырычнага беларускага ваеннапартызанскага выдання «Раздавім фашысцкую гадзіну»?

— Шкада,— кажа Аляксандр Аляксандравіч,— што не захавалася школьная сатырычная газета «Аса». Віталь быў не толькі яе рэдактарам, мастацкае афармленне таксама было яго.

— Пачакайце, ёсць жа нейкія, ну, як на іх кажуць?.. — ніяк не ўспомніць Любоў Мацвееўна.

— Шаржы,— падказвае муж.

— Ага,— і з пажоўклага канверта яна асцярожна вымае блакнотныя лісткі.— Зірніце, як смешна ён сваіх сяброў размалёўваў. Во гэты, ой, як яго?.. Ага! Здаецца, Пеця!

— Дык жа і на малюнку Пеця! — кажу.— Як у пеўніка, вогненнарыжы чубок-грабянец.

— Цяжка нават уявіць, дзе яны цяпер, яго сябры-таварышы,— са скрухай прамовіў Аляксандр Аляксандравіч.

І пасля доўгага маўчання расказваў пра нядаўнюю сустрэчу ў школе.

— Слухаў я, як бацькі выступалі перад вучнямі. І дзіўна, што раней такое і ў галаву не прыйшло. Гэта ж цяпер амаль у кожнага мірнага таты, дый у мамы, свая вайсковая біяграфія. Адзін адважны лётчык, другі — смелы разведчык, падпольшчык, трэці — баявы танкіст, бясстрашны сапёр, мужны партызан... І кожнаму з іх было што расказаць дзецям — і аб тым, як абаранялі сваю Савецкую Радзіму ў час нямецка-фашысцкай навалы, і як ваююць яны цяпер на фронце мірнага будаўніцтва.

— А я,— кажа Любоў Мацвееўна,— можа вам здаецца дзіўным, уявіла Віталя таксама бацькам, а сябе бабулькай, якая выняньчыла ўжо ўнукаў. І вось яны, жэўжыкі, сядзяць за партамі — цікаўныя, зіркастыя, слухаюць свайго татку і аж зззяюць ад гордасці і шчасця. А хіба не было б чым ганарыцца Віталевым дзецям? Гэтыя думкі не выходзілі ў мяне з галавы, і, разумееце, не вытрымала: тое, што думала, сказала, калі выступала. Сказала і аб тым, што сынок мне кожную ноч сніцца, і заўсёды бачу яго жывога. Ды і днём часам забудуся і чакаю сыночка. А пайшоў жа ён не ў школу чыгуначнікаў, а ў зусім іншую, самую суровую школу. Пайшоў і не вярнуўся...

## Памяць сэрца

**«Першае маё дзяжурства ў райкоме камсамола. Трывожная ноч. Мой любімы горад затаіў дыханне. Не спіць. Насцярожаная цішыня, бы перад бурай. Толькі з Сожа чуваць бестурботнае кваканне жаб. Раптам ужо знаёмы абрыдлы гуд. Моцны выбух. Здрыганулася зямля...»**
(З дзённіка В. Букатага.)

Сціплым, сарамлівым падлеткам мы ўпершыню сустрэлі Віталя Букатага. (Мы — гэта беларускія паэты Пятрусь Броўка, Анатоль Астрэйка, скульптар Заір Азгур, мастачка Вера Козак і аўтар гэтай аповесці). Тады і падумаць ніхто не мог, якім карысным і патрэбным чалавекам стане ён для газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну».

У тыя першыя дні вайны мы, па нявопытнасці, лічылі, што найлепшым сховішчам ад фашысцкіх бомбаў з'яўляюцца лесвічныя клеткі. Як толькі пачалася бамбёжка, мы і пабеглі з рэдакцыйных пакояў уніз, дзе пад лесвіцай была змрачнаватая пляцоўка. Мабыць, па гэтай жа прычыне забег сюды з вуліцы і хлапчук з папкай за пазухай. Ён спыніўся, збянтэжаны, убачыўшы пад лесвіцай незнаёмых людзей. Быў ён па-дзіцячаму хударлявы, у пацёртым рудым пінжачку, з кароткіх рукавоў якога высоўваліся даўгаватыя худыя рукі.





# РАЗДАВІМ ФАШЫСЦКУЮ ГАДЗІНУ

— Ну дык сядайце, дзядзечка, у нас. І давайце знаёміцца,— жартуючы, сказаў я хлопцу.

«Дзядзечка», шчокі якога яшчэ не ведалі брытвы, разгублена ўсміхаючыся, выклаў сваю біяграфію. Дужа кароткую.

— Віталь. Па бацьку Аляксандравіч. Прозвішча — Букаты. Скончыў дзевяты клас.— І з гордасцю дадаў: — Семнаццаты пайшоў!

— Ого! Салідны ўзрост! — жартую. А сам нявесела падумаў:

«Семнаццаты! Як даўно было гэтулькі і мне. А цяпер ужо на трыццаць шосты пераваліла».

— Што і казаць, таварыш Букаты, многа пражыта і нямала пражыта ўжо,— падкінула рэпліку Вера Сцяпанаўна Козак. Ніхто з нас аднак не звярнуў увагі на пацёртую папачку. Заўважыў яе Заір Азгур сваім спрактыкаваным вокам.

— Малюеш, значыць? — зірнуўшы на альбомчык, які вытыркаўся з-пад пінжака ў хлопца, запытаўся ён.

Віталь пастараўся прыняць незалежны выгляд і, ні слова не сказаўшы, паклаў перад намі свой зашмальцаваны альбомчык.

— От, калі ласка.

...Беленькі параходзік з чырвоным пасачкам на трубе.

...Каля Сожа пад разгалістым дрэвам закаханая парачка...

— Адна лірыка!..— уздыхнулі мы.

Не дужа ўзрадавалі нас такія яго малюнкі.

Зразумеўшы гэта, Віталь моўчкі пацягнуўся за сваім альбомчыкам.

— Пачакай, хлопча,— кажу,— паспех — людзям на смех.

Заір Азгур разглядае нейкую замалёўку і перадае мне.

...Хлопец скача з баржы ў ваду. Подпіс: «Вова ідзе на дно, каб раз і назаўсёды пакончыць з дрэннымі адзнакамі...»

— Вова ў цябе проста «ангел во плоти», а хацеў жа вывесці за вушка ды на сонейка лайдака. Хіба не праўда? — пытаюся я.

Кіўком галавы хлопец згаджаецца.

— Такіх трафарэтных шчасліўчыкаў малявалі на рэкламных шчытах дзяржстраху. Цяпер, браце, не застрахуеш сваё найкаштоўнейшае жыццё — ні ад калецтва, ні ад пажару, ні ад іншых няшчасцяў. Вайна!

Тым часам нашу ўвагу прыцягнуў другі эскізны малюнак.

...Плыт. На ім жоўценькая хатка. Каля хаткі дзяўчына развешвае бялізну. Наперадзе буксір бы люльку пііпчыць... Зноў подпіс: «Усюды жыццё...»

Малюнак здаўся нам неблагі, але зноў жа не адпаведны часу.

— «Усюды жыццё!» Эх, хлопчык ты, хлопчык,— са шкадаваннем круціць галавою Анатоль Астрэйка.— Чужынцы-каты топчуць нашу зямлю, руйнуюць нашы хаты, знішчаюць усё жывое, а ты — «Усюды жыццё!»

— Дык гэта ж было яшчэ ў мірныя дні! — апраўдваецца Букаты.

— Было? І будзе! — прымірэнча кажа Астрэйка.— Але цяперашнім часам...— Ён змоўк, бо ад блізкага выбуху ўздрыганулася зямля.

Віталь, мабыць, не здагадаўся, што мы яшчэ не ачомаліся ад зверскіх бамбардзіровак і нам не да адзнак у школьным дзённіку нейкага Вовы, не да «Дзяўчыны на буксіры», калі перад вачыма забітая дзяўчынка, што бачылі мы на Магілёўскай шашы, і скамянелая ад гора яе маці.

Букаты тым часам забраў альбомчык, нерашуча патаптаўся і палез у кішэню, але раптам бы перадумаў, пачаў спускацца з прыступак.

— Добра, хлопец, — кажу,— давай будзем закругляцца: выкладвай з кішэні і рэзервы.

На аркушы паперы — эскізны накід, на якім ужо не птушкі ў блакітным паднябессі, а фашысцкія бамбардзіроўшчыкі. І плыт і буксір ахоплены полымем. А вада, што фантанам вырвалася з самага дна, здаецца, таксама гарэла.

І амаль гатовы малюнак: жахлівыя вочы жанчыны і перапалоханая дзяўчынка, якая бездапаможнымі ручаняткамі прыціскае да сваіх грудзей ляльку. Уцякаючы, крыху старэйшая сястра нясе на плячах малодшую. (Штосьці ад карціны К. Макоўскага «Дзеці, якія ўцякаюць ад навальніцы»)...



— Гэтыя, на маю думку, можна выкарыстаць. А вы што скажаце?

Пярэчанняў не было. Зарослы цёмна-рыжай шчэццю твар Заіра Азгура расплыўся ва ўсмешцы: маўляў, што ж, не святыя гаршкі лепяць.

Віталь верыў і не верыў: няўжо яго малюнкі будуць надрукаваны? А на выпадак, калі ўсміхнецца такое шчасце, у яго, аказваецца, загадзя былі,— як сам пазней прызнаўся,— падрыхтаваны незвычайна важныя словы. А ён, збянтэжаны, моўчкі пераступаў з нагі на нагу.

— Ну, дык чаго ты, хлопча, яшчэ хочаш?

— Ваяваць супраць фашысцкіх разбойнікаў.

— Тут, браток, не ваенкамат.

— А там і размаўляць не захацелі: молада-зелена! — толькі тое і чуеш. Нас такіх напакавалася ў ваенкамат, што і дзверы не зачыніць. І ўсім адзін адказ: «молада-зелена!..»

— Ты павінен эвакуіравацца.

Хлопец не на жарт узлаваўся:

— «Мудрасць» па прынцыпу страуса, які хавае галаву пад крыло ў час небяспекі.

— А ты, аказваецца, зубкі паказваеш. Дык паваюеш, задзірака, пакуль што тут, калі хопіць у цябе пораху.

— Самакрытычнага перш за ўсё,— дадаў Азгур.

Тым часам бамбёжка скончылася. Мы падняліся ў рэдакцыю.

— От табе, Віталь Аляксандравіч, тэмы: малюй! — сказаў я, паклаўшы перад хлопцам папку.

Віталь згодна кіўнуў галавою.

— А есці хочаш? — спытала Вера Сцяпанаўна.

І каля папкі, ад якой ён ужо не мог адарвацца, прысуседзілася луста хлеба, маладая, нядаўна з градкі, цыбуліна і агурочак.

Віталь з зайздросным апетытам уплятаў хлеб, хрумстаў агурочак з цыбулінай, густа пасыпаючы іх соллю. Дзіва што: такая смаката! Асабліва, калі ўлічыць, што за гэты дзень і макавай расінкі ў роце не было.

Жуючы хлеб, ён машынальна разгарнуў газету і раптам бы скамянеў. Ён убачыў на фатаграфіі шыбеніцу, каля якой завіхаліся акупанты-душагубы. Сярод павешаных сівы дзядок, жанчына, падлетак, мабыць, яе сын.

Вось з гэтага часу наша невялічкая рэдакцыйная сям'я папоўнілася яшчэ адным супрацоўнікам — Віталем Аляксандравічам Букатым.

Вучань гомельскай 4-й чыгуначнай школы, які толькі што скончыў дзевяты клас, стаў мастаком беларускага сатырычнага ваенна-партызанскага выдання «Раздавім фашысцкую гадзіну». Нарадзілася ж яно ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны ў Гомелі, у друкарні «Палесдрук», 2 ліпеня 1941 года. Супрацоўнікі рэдакцыі (невядома кім названыя «раздавілаўцамі») і яе аўтарскі актыў давілі фашысцкую гадзіну ўсімі даступнымі ім сатырычнымі сродкамі з выхаду ў свет самага першага нумара і аж да поўнага разгрому нямецка-фашысцкіх разбойнікаў, калі выйшаў у свет апошні нумар з крыху перайначанай назвай: «Раздавілі фашысцкую гадзіну». А такое «крыху» зрабіла гэты нумар самым вясёлым і смешным. Не дурні ж выдумалі, што добра смяецца той, хто смяецца апошні.

Але да апошняга нумара было яшчэ далёка.

# Школа гневу

«Сёння Анатоль Астрэйка чытаў нам нізку сваіх вершаў пра Беларусь... Колькі любові да Радзімы! Колькі нянавісці да чужынцаў, якія топчуць родную нашу зямлю! Адзін верш так і называецца—«Беларусь». Ён чытаў, а перада мною, як на яве, усё роднае і блізкае. Пасля гэтага імправізаванага вечара паэзіі снілася мне «Чыжык». Мы з ёю ідзём па-над Сожам... І раптам бліскавіца, гром. Прачынаюся: — «Грамадзяне! Паветраная трывога!»

(З дзённіка В. Букатага.)

Упершыню мы ўбачылі двух палонных «зольдатэн ордэнунг» у гомельскім парку каля штаба Цэнтральнага фронту, які быў тады размешчаны ў памяшканні цяперашняга Палаца піянераў. Яны сядзелі, разамлелыя ад ліпеньскай спёкі. На траве ляжалі іх акуратна раскладзеныя, зусім яшчэ новыя мундзіры. Было ўражанне, што гэтакі палон іх не вельмі трывожыць.

— Курортнікі!..— абурыўся Віталь.

«Курортнікі» пакурвалі нашы папяросы «Казбек». Мабыць, недзе ўжо нарабавалі...

Каржакаваты, кругленькі, як піўная бочка, немаладога веку фрыц з заплылымі вочкамі, грэбліва ўсміхаючыся, пазіраў на нас. Накурыўшыся, ён выплюнуў недакурак, вырваў нейкую травінку і, жуючы яе, з прагнай цікаўнасцю, нават са здзіўленнем пачаў разглядаць байцаканваіра. Мусіць, таксама ўяўляў нашага салдата зусім іншым.

Другі — блакітнавокі здаравіла, якому выступаць бы на арэне цырка і хрысціцца перад сваім фашысцкім богам двухпудовай гірай, любаваўся разгалістай ліпай, у лістоце якой нябачныя птушкі спявалі свае адвечныя песні.

Віталь быў вельмі збянтэжаны і ўражаны. Палонныя немцы зусім не падобны на плакатных фашыстаў, якіх ён маляваў.

Хлопец задумаўся. Ён, безумоўна, разумеў, што перад ім забойцы і лютыя каты, тыя, хто руйнуе нашы гарады і вёскі. Але не мог даць сабе адказ: як жа магло здарыцца, што Гітлеру ўдалося ператварыць мільёны немцаў у драпежных звяроў?

— Расці вялікі, і жыццё цябе навучыць,— параіў хлопцу Анатоль Астрэйка.

Але парадамі не абыдзешся. У школе вучылі любові да чалавека. «Чалавек — гэта гучыць горда». Са школьнай парты запомніліся хлопцу гэтыя словы Горкага. А як жа ўявіць людзьмі двух гэтых фашыстаў?

...У тую ноч была самая варварская бамбардзіроўка Гомеля. Больш за сто самалётаў наляцела на горад.

Гарэлі дамы, школы, бальніцы... Здавалася, што неба крывавіцца ад агню.

Вось якое яно, аблічча фашызму!

Віталь сядзеў з намі ў кузаве рэдакцыйнай палутаркі, маўкліва пазіраў на ненажэрны агонь. Як ні стараўся, не мог схаваць слёзы.

— Немцы ўжо ў Гомелі! — Прыглушаючы плач, усхліпвала Вера Сцяпанаўна. А схуднелы, зарослы да вачэй шчацінай Заір Азгур, сам не на жарт устрывожаны, спачувальна глядзеў на Віталя і суцяшаў яго, а заадно і ўсіх нас.

...Раніцай, ужо ў Церахоўцы, рыхтаваўся чарговы нумар. Усе чакалі новага налёту. Букаты сядзеў у бульбоўніку і, прыладзіўшы на калені дошчачку, маляваў. Спіша ліст, скамечыць яго, кіне і бярэ новы... Трохі далей ад яго, на фоне ацяжэлага жыта, віднелася вогненна-рыжая галава Веры Сцяпанаўны. Вера Сцяпанаўна таксама малявала. Ад лёгкага ветрыку пераспелае жыта хвалявалася, суха шумела, асыпалася.

Усё, усё ідзе на глум!..

— Нічога ў мяне не выходзіць, таварыш рэдактар,— паскардзіўся Віталь,— хачу ваўка намаляваць, а атрымліваецца ягнё. Гэтакія ж, як у таго здаравілы, блакітныя вочы...

— Ад такой хваробы цябе можа вылечыць вось гэтая цыдулька. Чытай!

«Байна — цудоўная прыгода, разбурэнні, руіны і выгляд забітых, павешаных прыносяць нам надзвычайную асалоду...— Віталь, абвёўшы нас позіркам, у якім узрушэнне і абурэнне, чытае далей: — Вайна — найлепшы від спорту. Каб забіваць, патрэбна адточаная тэхніка, і ўжываць яе трэба спакойна і абыякава!»

— Што гэта за трызненне? — абураецца ён.

— Не, гэта не трызненне, а вытрымкі з кніжкі «Эсэсаўскія войскі ў баях». Ніяк не хацеў расставацца з ёю той блакітнавокі бамбіза. Дарэчы, табе, Віталь, не пашкодзіць ведаць і пра тое, што не такі ўжо стойкі ён аказаўся. Паглядзеў бы ты, як той фашыст енчыў, скавытаў, поўзаў на каленях, умольваў, каб захавалі яму жыццё, хоць ніхто і не збіраўся расстрэльваць яго...

Віталь зноў бярэцца за работу, зноў выкідвае спісаны ліст за лістом. І нарэшце:

— Вось ён, таварыш рэдактар, той забойца! — паказаў ён гатовую карыкатуру.

Сапраўды, карыкатура ўдалася.

Кожны раз у час вёрсткі чарговага нумара (яшчэ ў «Палесдруку») наборшчыкі, метранпажы-вярстальшчыкі і друкары ўсчыналі гаворку на адну і тую ж тэму: як паскорыць разгром фашысцкіх акупантаў? Кожны шчыра жадаў з вінтоўкай у руках змагацца з ворагамі. Кожны прыдумваў кару для Гітлера і яго крывавай зграі.

— Пасадзіць бы гэтага звяругу ў жалезную клетку, вазіць па ўсіх краінах і каб людзі ўсяго свету плявалі яму ў твар. Потым, апляванага, асыпанага ўсімі праклёнамі, якія толькі ёсць на зямным шары, прывезці ў той клетцы ў Германію і выставіць для ўсеагульнага агляду. Няхай самі немцы сур'ёзна падумаюць, якому чорту яны маліліся, які маньяк прымусіў іх купацца ў крыві.

Варыянтаў было многа. Букаты спрабаваў кожны з іх перанесці на паперу.

Дарадчыкаў у Віталя хапала. Кожны, чым мог, стараўся памагчы маладому мастаку. Але найбольш дапамагаў яму Анатоль Астрэйка.

Па дарозе каля Сожа,
Паміж вербаў і бяроз,
Ехаў на усход
варожы
З мінамётамі абоз.
Ды залёг каля балота
Беларускі партызан,
І начыста з кулямёта
Немчуру скасіў Іван.

Так Анатоль Астрэйка расказаў пра гераічны ўчынак народнага мсціўцы Івана Ш., які падпоўз да дарогі і абстраляў з кулямёта нямецкіх заваёўнікаў. Віталь Букаты зрабіў да верша малюнак.

Моцным вузельчыкам звязала паэта і самадзейнага мастака ўзаемная творчая дружба. Разам яны распрацоўвалі тэмы і нават сюжэты для малюнкаў, прыдумвалі да іх вершаваныя тэкстоўкі. Дарэчы, час

ад часу Віталь таксама спрабаваў свае сілы «на ніве паэзіі», як ён сам з сябе пакепліваў. Але былі і «стычкі баявыя»: вершы Букатага бязлітасна, але, як ён сам прызнаваўся, па-сяброўску «заразаў» Астрэйка. У некаторых вершах Букатага Анатоль усё ж знаходзіў іскрынкі сатырычнай паэзіі і прымушаў хлопца перарабляць, дапрацоўваць, даводзіць кожны радок «да кандыцыі». Калі-нікалі вершаваныя подпісы Віталя пад малюнкамі друкаваліся ў газеце-плакаце, друкаваліся і сатырычныя вершы, як напрыклад:

..Не хадзі, фашысцкі кат,
Дзе цябе не клічуць,
Не паўзі да нашых хат
Са свінячым лычам.
Свет узняўся супраць вас,
Узняліся людзі.
Надышоў расплаты час —
Літасці не будзе.

## Бліцкрыг, бліцдрап, бліцразгром

**«У гэты дзень вялікай нашай перамогі пад Масквой, калі душа спявае славу нашым доблесным воінам, якія разграмілі незлічоныя полчышчы нямецка-фашысцкіх войск, прыходзяць на ўспамін зводкі сорак першага года (жнівень—кастрычнік). Не дачакаўшыся газет, мы звычайна слухалі ранішнія радыёперадачы. ...Нашы войскі пад камандаваннем... разграмілі варожыя злучэнні і адкінулі іх на ранейшыя пазіцыі... ...Нашы войскі вядуць цяжкія баі на ўсіх напрамках...**

**Як жа яны рваліся да сталіцы нашай Радзімы! «Лічаныя гадзіны засталіся да падзення Масквы!» — аж захлынаўся Гітлер.**

**І раптам — разгром!**

**«О Расія! Не бачыць бы мне цябе ніколі!» — драпаючы з-пад Масквы, залемантаваў фрыц».**

(З дзённіка В. Букатага.)

Мы хадзілі вясёлыя, узбуджаныя. У рэдакцыі — нібы свята, хоць Масква яшчэ зацемненая, суровая. Вестка пра разгром фашысцкіх войск пад Масквою застала нас у гасцініцы «Масква», дзе на той час і асталявалася наша рэдакцыя. Радасць радасцю, але трэба працаваць, расказаць людзям пра нашу перамогу.

Віталь Букаты сабраў нямала матэрыялаў: сярод іх выпіскі з паведамленняў Саўінфармбюро, выразкі з франтавога друку, дзе расказвалася аб гераізме воінаў, копіі пісьмаў салдатаў-землякоў і партызанаў, з якімі нас час ад часу знаёміў сакратар ЦК КП Беларусі па прапагандзе Цімох Сазонавіч Гарбуноў. Ад яго ж мы атрымлівалі фатаграфіі і пісьмы забітых гітлераўскіх ваяк.

«Мілая Эльза! Пад Масквой усё скончана. Мы ўсе тут загінем. Мы нясём велізарныя страты».

Цэлы стос такога зместу пісьмаў. Шмат якія з іх паслужылі эпіграфамі да баек, фельетонаў, кароткіх сатырычных залпаў, да серыі карыкатур Віталя Букатага.

Неяк Віталь прапанаваў эскіз малюнка пад назвай «Лісіца і вінаград».

Эскіз як эскіз, а вось сама тэма была дружна адхілена.

Віталь здзівіўся і, здавалася, нават пакрыўдзіўся, мабыць, не за сябе, а за дзядулю Крылова.

— Дзівак ты чалавек, хіба можна параўноўваць тактыку Крылоўскай лісіцы з дурной гітлераўскай стратэгіяй лезці на злом галавы?



За родную Беларусь!



Лісіца, як вядома, аказалася куды мудрэй. Ёй хапіла такі розуму, каб на ражон не лезці — праглынула слінку, аблізнулася і абмежавалася тым, што набрахала на вінаград. Маўляў — «Ну, што ж? На выгляд ён прыгож, але зялёны ўсё ж...»

А вось другі малюнак Букатага не выклікаў аніякіх пярэчанняў. На першым кадры — мардаты граміла, з галавы да ног абвешаны трафеямі, пераважна гастранамічнымі. Другі кадр: сагнуты ў тры пагібелі абшарпанец. Галава абкручана жаночай хусткай, замест рукавіц — жаночыя панчохі, нацягнутыя аж да локця, ногі ў стаптаных рускіх валёнках. І верш Анатоля Астрэйкі:

Вось сядзіць у схове немец-злыдзень
І кляне і Гітлера, і лёс:
«Я не еў, не піў аж цэлы тыдзень,
На Расію чорт мяне панёс.
Каб мне век яе не знаць, не бачыць...» —
Кракадзіл фашысцкі з гора плача.

# Гітлер мяняе пласцінку

**«Успомнілася цяжкае развітанне з бацькамі, невыносны боль разлукі. Хацелася выказаць накіпеўшы гнеў да чужынцаў. Але не знайшоў тых слоў. А вось цяпер з'явіліся. Яны ў вершы Максіма Лужаніна:**

**...Ён ваяка на бяззбройных.**
**Ці ж магу я жыць спакойна?**
**Хіба ж я яму дарую?**
**Пэўна куляй пачастую.**
**Ці, падкраўшыся уночы,**
**Градам выб'ю яму вочы,**
**Белай сцюжай на марозе**
**Кроў у жылах замарожу.**
**І, усхадзіўшыся завеяй,**
**У сумёт яго завею.**
**Хай не лезе нелюдзь**
**Да чужых аселіц».**

(З дзённіка В. Букатага.)

Як ні мяркуй, як ні суцяшайся, а нейкі шашаль точыць і точыць фюрарава сэрца. Гэта ж ніколі мы з такім захапленнем не чыталі яго «сентэнцыі», якія прыводзяцца ў пісьме нямецкага яфрэйтара Карла Брайна.

«Фюрар нас паслаў на смерць. Ён кажа нам, што няма больш бласлаўлёнай смерці, чым смерць салдата, бо мёртваму не пагражаюць перажыванні, расчараванні, хваробы і старасць».

— Калі ласка, памірайце! — жартавалі мы ў рэдакцыі.— Больш таго, Чырвоная Армія і партызаны з задавальненнем дапамогуць вам у гэтым.

Фотамантаж Букатага і іншыя дакументальныя матэрыялы, змешчаныя ў газеце-плакаце, і ў нашы дні дазваляюць палюбавацца, як выглядалі тыя фанабэрыстыя «заваёўнікі Еўропы», калі ім далі жару пад Масквой. Не, гэта былі ўжо не тыя ваякі, якіх мы бачылі ў гомельскім парку.

...Дзяжурачы ў друкарні, чакаем першы ліст з машыны. Уключылі рэпрадуктар. Перадавалі Сёмую сімфонію Шастаковіча, якую назвалі Ленінградскай. Затаіўшы дыханне слухалі. Чулі музыку, а, здавалася, бачылі, як маршыруюць полчышчы фашысцкіх галаварэзаў, адчувалі пры гэтым, як сціскаецца сэрца ад болю і гневу да чужынцаў. Мы ўявілі голад і холад блакады, ледзяныя кватэры, дзе спалена ўсё, што магло хоць крыху сагрэць... Грымела музыка — трагічна-суровая, як само блакаднае жыццё, і адначасна натхняючая сваім аптымістычным гучаннем. Яна авалодвала ўсёй тваёй істотай, выклікала гнеў і абурэнне да акупантаў, гатоўнасць біцца з імі да поўнай перамогі.

— Я ніколі не бачыў гэты цудоўны горад на Няве, толькі з кніг ведаю пра чароўныя белыя ночы, пра Зімні, уяўляю Марсава поле, Меднага конніка, Эрмітаж, нават Летні сад, дзе дабрадушна ўсміхаецца бронзавы байкапісец Крылоў... Ленінград стаў мне такім жа родным і блізкім, як мой Гомель,— ціха, прыслухоўваючыся, быццам вось-вось зноў загучыць сімфонія, шэпча Букаты.

Музыка Шастаковіча пасяліла ў сэрцах людзей яшчэ большую ўпэўненасць, што горад Леніна — горад-воін і герой — разарве блакаду.

А тым часам Гебельс і яго брахуны пераконвалі свет, што яшчэ адзін націск — і на праспектах Ленінграда будуць маршыраваць гітлераўскія дывізіі.



На гебельсаўскае выхвалянне быў надрукаваны адказ Віталя Букатага. «Панюхай, чым гэта пахне!» Вялікая дуля, прарваўшы план захопу Ленінграда, апынулася пад самым носам камандуючага арміяй, якому фюрар даручыў захапіць Ленінград.

Праз нейкі час са старонак чарговага нумара пазіралі два арыйцы, што марылі першымі апынуцца ў Ленінградзе, прагуляцца па вуліцах і праспектах, пашнырыць у магазінах, у дамах і набрацца «ўражанняў».

Раз фашист при встрече с другом,
С беспокойством и испугом
Поспешил задать вопрос:
«Что ты, друг мой, так оброс?»
Отвечает тот сурово:
«Дал я рыцарское слово
Перед боем на параде,
Что побреюсь в Ленинграде».
«Вот и я на том параде,
В ожидании побед,
Клятву дал, что в Ленинграде
Первый скушаю обед.
Но надежды все бесплодны,
Я хожу, как пёс, голодный.
И пока придет победа,
Я подохну без обеда».

Букаты адзін у дзвюх асобах разыграў сцэнку на свае ж вершы і не горш за артыста паказаў і барадатага, і пузатага.

Пазней, калі Віталь, перад тым, як яго закінулі ў тыл праціўніка, праходзіў службу ў школе падрыўнікоў і разведчыкаў, ён разам са сваім школьным таварышам Дарафеем (відаць, мянушка) разыгрываў ужо другую сцэнку пад назвай «Дагаварыліся». Ролю Гімлера выконваў Дарафей, Букаты — глухога генерала Драйке.

«Гімлер (разгневаны). Далажыце, генерал, як вы дапусцілі прарыў блакады Ленінграда?

Драйке. Яволь, рускія білі спераду і ззаду.

Гімлер (кіпяціцца). Ды вы раскажыце, донэр-вэтэр, якое цяпер пад Ленінградам становішча?

Драйке. О, я, я, страшней, чым «Лядовае пабоішча».

Гімлер. А чаго варты вашы траншэі і доты?

Драйке. Роты? Асмелюся далажыць, не засталося ніводнай роты.

Гімлер (траціць цярпенне). Я пытаюся, чаго варты вашы доты і траншэі?

Драйке. О, я, я, надавалі нам па шыі.

Гімлер. Донэр-вэтэр! Хіба не маглі вы да апошняга трымацца?

Драйке. Апошнія зольдатэн паспяшылі здацца.

Гімлер (кідаецца на Драйке з кулакамі). Ды што ты мелеш, глухі ідыёт?!

Драйке. Яволь! Трашчыць наш фронт!

Гімлер (у шаленстве). Пракляты! За такія справы мала пасадзіць за краты!

Драйке (хапаецца за галаву). Страты?! О, донэр-вэтэр! Цяжка падлічыць нашы страты!!!»

# Партрэтная галерэя людаедаў

**«Мне дужа падабаецца, што ў нашым плакаце бяруцца на ўзбраенне і класікі сусветнай літаратуры. Вось, напрыклад, на беларускай мове загаварыў... нямецкі пісьменнік Ліон Фейхтвангер: «Шаленствам**

і хлуснёй з'явілася ўсё, што рабілі і загадвалі ўладары «трэцяй імперыі». Хлуснёй былі іх словы, і хлуснёй было іх маўчанне. З хлуснёй яны ўставалі, з хлуснёй кладіся. Увесь іх лад быў хлуснёй, хлуснёй былі іх законы, хлуснёй былі іх прыгаворы, хлуснёй была іх нямецкая мова, навука, права, вера. Хлуснёй былі іх «нацыяналізм» і «сацыялізм». Хлуснёй былі іх мараль і любоў. Усё было хлуснёй. І толькі адно было праўдай: іх чалавеканенавісніцтва». Лепш, здаецца, і не скажаш!»

(З дзённіка В. Букатага.)

Вярсталі мы з Віталем чарговы нумар. Дужа любіў ён працэс вёрсткі і мог да самай раніцы чакаць першых адбіткаў, што яшчэ прыемна пахлі друкарскай фарбай.

І вось яны, свежанькія лісты, знятыя з талера. На ўвесь разварот, бы на палотнішчы, буйнымі літарамі надрукавана:

ПАРТРЭТНАЯ ГАЛЕРЭЯ ЛЮДАЕДАЎ.

Не раз трубілі акупанты аб тым, што яны збіраюцца ашчаслівіць мінчан адкрыццём мастацкай выстаўкі. «І навошта гэта ім патрэбна?» — дзівіліся мы. Аказваецца, яны са скуры вылузваліся, каб даказаць акупаванаму насельніцтву, што іншых клопатаў у іх ужо няма. Так сказаць, поўны спакой: ні табе партызанаў, ні табе падпольшчыкаў...

З гэтай прычыны ў сваім фельетоне да партрэтнай галерэі людаедаў пісьменнік Цімох Крысько (Васіль Вітка) пісаў:

«...Увесь свет бачыць, што мастацтва нямецкіх фашыстаў — гэта мастацтва забіваць людзей, паліць іх жывымі ў агні, выкручваць ім рукі, выколваць вочы, здзіраць з чалавека апошнюю кашулю, вырываць у яго з рота апошні кавалак хлеба.

Нямецкія фашысты — мастакі пісаць толькі адной фарбай — крывёю. Нам вядомы іх карціны. Гэта — карціны, аб якіх з жахам расказваюць людзі, якім удалося вырвацца з драпежных кіпцюроў фашысцкіх катаў, карціны нечуваных масавых забойстваў, зверстваў і здзекаў з насельніцтва захопленых савецкіх раёнаў, карціны, аб якіх расказвае грозны абвінаваўчы ўсенародны акт — Нота Савецкага ўрада».

Рэдакцыя мела дастаткова матэрыялаў, абвінаваўчых дакументаў, што выкрывалі гітлераўскіх цемрашалаў, у тым ліку і генеральнага камісара, гаўляйтара Кубэ.

«Акадэмічны Фрыц» — так назваў у сваім фельетоне «гера Кубэ» Кузьма Чорны. «Таленты ў гэтага таўстамордага малайца не паддаюцца ўліку. Спрытны ядок беларускага хлеба. Найтанчэйшы знаўца вісельнай тэхнікі. Знаўца таго, на якім сметніку знайсці Адамовіча і Гадлеўскага і за якую скулячку ў іх душы тузануць. Майстар дакладнага падліку — колькі ад узыходу да заходу сонца павесіць беларусаў.

Як бачым: і хлебазнавец, і тэхнік, і псіхолаг, і матэматык... Дык якое дзіва, што ён выдумаў сабе «акадэмію» ў Мінску, каб быць у ёй ганаровым прэзідэнтам!..»

І як трэба было чакаць, задуманая і шырока афішыраваная «беларутэнская (чытай — фашысцкая) выстаўка» з трэскам правалілася.

«Няхай жа яны «палюбуюцца» галоўнымі арганізатарамі і натхніцелямі гэткіх крывавых оргій!» — рашылі беларускія пісьменнікі, журналісты і мастакі, арганізаваўшы сваю выстаўку — галерэю партрэтаў галоўных бандытаў. Няхай усе ведаюць іх звярынае аблічча. Маўляў, вось яны якія, «носьбіты культуры» — людаеды ў мундзірах гітлераўскага вермахта. Вешайце іх на самых відных месцах. Няхай усе ўбачаць гэтую партрэтную галерэю і паверацъ, што фашысцкім гадзінам матляцца на перакладзінах.






Наша партрэтная галерэя людаедаў, як мы пазней даведаліся, мела вялікі поспех. Партызаны і падпольшчыкі, нават дзеці, піянеры, часам пад самым носам у гітлераўцаў і паліцаяў «вешалі» гэтых бандытаў на самых відных месцах.

Партызанскі разведчык Апанас К. (тады сапраўднага прозвішча не называлі) сам быў сведкам, як на агароджы сельскай царквы людзі разглядалі «экспанаты», і чуў, якія каментарыі давалі яны партрэтам.

Што за рыла,
Чый партрэт?
Гэта Гітлер — людаед!

— Ой, людзечкі мае! — дзівіцца нейкая маладзіца з Гебельса.— Ну, вы толькі зірніце на гэтага фашысцкага выліўка: маленькі, з жоўтым тварам, кульгавы, з доўгім вузкім чэрапам.

Вылятаюць «вуткі»
Па дзесятку ў суткі.
Цешся, Гебельс-брахунец, —
Недалёка твой канец.

Людзі разглядалі карыкатуры, чыталі тэкстоўкі да іх, з радасцю пазнавалі трапныя вершы Кандрата Крапівы, Анатоля Астрэйкі і іншых аўтараў.

## Молада, ды не зелена

**«Скора свята Кастрычніка. Успаміны! Успаміны! Як сёння гэта было: і мы, школьнікі, на дэманстрацыі. Быццам не лістапад на двары, а май цвіце. Кветкі. Колькі кветак! Чырвань сцягоў... Песні! Гром аркестраў! Не, не доўга фашысцкія грамілы будуць разгульваць па нашых вуліцах, плошчах, бульварах...»**

(З дзённіка В. Букатага.)

...Да свята Кастрычніка рыхтаваліся нумары плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну» і газеты «Савецкая Беларусь» з новымі абвінавачымі матэрыяламі, якія выкрывалі чалавеканенавісніцкую сутнасць гебельсаўскай прапаганды і яе мясцовых падбрэхічаў — розных падонкаў, што акапаліся ва ўправах і ўсялякіх іншых ведамствах (іх нямала распладзілася ў часова акупіраваных гарадах і раёнах рэспублікі). У гэткіх абставінах трымай, як кажуць, вуха востра, а сатырычны порах — сухім.

...Кожны займаўся сваёй справай. Віталь зашыўся ў куток маленькага пакойчыка і рыпіць пяром. Робіць ён малюнак, як заўсёды, старанна і ўвішна, пры гэтым, мабыць, па прывычцы, нешта мармыча сабе пад нос. І вось ужо чуецца ціхі, але поўны ўнутранай сілы яго голас: «Родная зямля! Радзіма! Ад аднаго гэтага слова пачынае мацней біцца сэрца».

І зноў шамаціць папера, рыпіць пяро, і зноў, але ўжо грамчэй, гучыць яго голас.

«...Нашы дзеці бачылі, як тлела ў агні хараство роднай зямлі. Нашых дзяцей расстрэльваў немец з самалётаў, калі яны з маткамі ішлі дарогамі, шукаючы ратунку ад нямецкай навалы,— чытае ён, бы завучваючы на памяць.— Старэйшыя дзеці неслі на руках меншых, калі падала ад нямецкай кулі маці».

— Што гэта ты чытаеш? — пытаецца Вера Сцяпанаўна.

— Кузьму Чорнага. Раблю от ілюстрацыі да яго артыкула.

Мы разглядаем малюнкі і таксама ўзрушаны.

— Не, вы лепш пачытайце вось гэта месца,— і, не выпускаючы з рук артыкул, сам чытае:

— «Сутнасць нямецкай акупацыі відна на муках, енках кінутага ў агонь дзіцяці і на парыве жывой маці, якая ў гэты момант стаіць над агнём і душа якое папялее на векі вечныя».

Малады мастак узрушаны. Ён зноў прачытаў гэты абзац і з недаверам і горкай іроніяй пачаў разглядаць свае эскізы. І раптам, наўздзіў спакойна скамячыўшы іх, кінуў у кошык. Пасля доўгай паўзы са скрухай у голасе сказаў:

— Не, дарэмна даверыў мне рэдактар аформіць гэты артыкул. Хіба я магу справіцца з такой задачай? — У яго ад хвалявання аж дрыжэў голас.— Разумееце, вобраз петрыкаўскай настаўніцы Кустановіч, з рук якой звер у мундзіры нямецкага афіцэра вырваў яе дзіця і кінуў у агонь, так і стаіць перад маімі вачыма. Аднак як ні біўся, каб перадаць пачуцці маці, атрымлівалася толькі забітая вялікім горам жанчына. Гэта мне па-сяброўску сказаў Мікалай Карлавіч. І правільна сказаў. Канечне, зрабіць карыкатуру на фашысцкага вылюдка куды лягчэй. Цяпер вось вобраз маці. Яна трызніцца мне ў сне. Хачу перадаць думку аўтара — паказаць пакуты маці, якая бачыць кінутае ў агонь дзіця, хачу ўвасобіць у малюнку яе парыў у той момант, калі яна, маці, «стаіць над агнём і душа якое папялее на векі вечныя». Нене-не!.. Тут патрэбен сапраўдны мастак! Ды, зрэшты, не малюнкамі, а вінтоўкай, кулямётам трэба ваяваць. Я ўжо не зялёны юнак. Вунь жлобінскі хлопчык Саша, зусім яшчэ дзіця, сам загінуў, але адпомсціў акупантам, узарваўшы гранатай штабную машыну з фашыстамі. А я? Я што зрабіў?

— Усе мы яшчэ недаравальна мала зрабілі,— сказаў Кузьма Чорны.— І не думай, што пра цябе забыліся. Каэфіцыент карыснага дзеяння. Пра такое ты чуў? Дык вось на сёння тваё карыснае дзеянне патрэбна тут, заўтра ж можа спатрэбіцца і там — на фронце або ў тыле праціўніка. А пакуль што ёсць загад працаваць, а не хныкаць. Мы яшчэ мала сказалі нашым дзецям аб вялікім замілаванні да роднай краіны, да памяці бацькоў і дзядоў нашых. Дык давайце справамі скажам мы аб нашай любові да родных дарог, да жоўтых асенніх лясоў, да азёр і рэк нашых. Спынім іх увагу на яснотах сонечных праменняў, калі яны кладуцца ціхім хараством на траву і верасы, на бярозы і хвоі. Няхай справы нашы пакажуць, што адданасць Радзіме зліваецца з замілаваннем да нашых дзяцей.

Сказаўшы гэта, пісьменнік задумаўся, потым узяў у Віталя свой рукапіс. Яшчэ раз прачытаў і зноў задумаўся:

— А ведаеце што? Трэба, мусіць, і мне сёе-тое паправіць.

Назаўтра мы прачыталі ўжо ў новым, дапоўненым і дапрацаваным варыянце Чорнаўскі артыкул. У ім была новая, больш простая і даходлівая канцоўка.

Яшчэ праз дзень гэты артыкул з'явіўся ў газеце «Савецкая Беларусь» з ілюстрацыяй Букатага. Разглядаючы ягоны малюнак, пісьменнік, добразычліва ўсміхаючыся, сказаў:

— Молада, але не так ужо і зелена...

...Вядомы «кракадзільскі» мастак Леў Рыгоравіч Брадаты, які ўжо тады лічыўся адным з «багоў» савецкай графікі, ахвотна згадзіўся зрабіць па нашай тэме карыкатуру ў чарговы нумар.

— Але прашу прабачэння, маладыя людзі, я чалавек троху старамодны і, каб бліжэй пазнаёміцца, хацеў бы мець вашу візітную картку.

Заўважыўшы нашу разгубленасць, мастак прыхільна ўсміхнуўся:

— Ды вы сядайце, сядайце, калі ласка, і не турбуйцеся. Напэўна, падумалі: от жа дзівак чалавек, падавай яму візітную картку. Але...— Брадаты зноў усміхнуўся.— Ла-адна, для першага знаёмства з вамі і, канечне, з вашым выданнем хопіць з мяне некалькіх нумароў вашага баявога органа з яго катэгарычнай і правільнай, скажу вам, назвай: «Раздавім фашысцкую гадзіну». Канкрэтна і ясней яснага.

Шырока вядомы мастак, які прайшоў вялікую школу жыцця і твор-

часці (яго малюнкі друкаваліся ў газеце «Правда», ён актыўна ўдзельнічаў у сатырычных «Вокнах РОСТА», супрацоўнічаў у «Кракадзіле» і ў шмат якіх іншых часопісах і газетах), пільна праглядаў яшчэ не надта тоўстую нашу падшыўку. А мы з Віталем чамусьці паўставалі з крэслаў і, як вучні на экзамене, хвалюемся: чакаем, што скажа славутасць.

— Ну што ж, малады чалавек, даволі агідная страхалюдзіна ў вас атрымалася. І нораў фашысцкі падхоплены, і, я сказаў бы, асуджанасць такіх гарылападобных падкрэслена даволі ясна. Ды сатыра не была б сатыраю, каб не выклікала гнеў і абурэнне ў савецкіх людзей да такіх, на жаль, не рэдкіх экземпляраў. І гэта не ўсё, што хацелася вам сказаць, маладыя людзі: сатыра павінна ўмацоўваць веру і упэўненасць у нашых людзей, упэўненасць, што зло не паўторыцца.— І раптам здзівіўся.— Чаго гэта вы зноў стаіцё? Ды сядайце, я ж, здаецца, не які-небудзь славуты нябожчык, памяць якога трэба ўшанаваць уставаннем.— Мастак сеў з намі побач і, троху памаўчаўшы, са шкадобай сказаў Віталю: — Эх, падвучыцца б вам... выбачайце, як вас зваць-велічаць?.. Дык вось, дарагі Віталь Аляксандравіч, падвучыцца вам трэба... Але гэта потым. Скончыцца праклятая вайна, і мальберт табе ў рукі,— перайшоў ужо на «ты».— А пакуль што... Гэта, малады чалавек, таксама вучоба. І вялікая практыка!

Букаты стаяў ашаломлены і такой ацэнкай яго малюнкаў, і тым, што мастак пазнаў яго почырк.

— А ты не дзівіся. У кожным малюнку і ў самай нават злой карыкатуры можна знайсці хоць рысачку самога аўтара, яго блізкіх і сяброў. Горш, калі знаходзіш нешта нейкае ад чужога. Праўда, напачатку ўсе кагосьці пераймаюць, але з гадамі ад гэтай хваробы вылечваюцца. Адным словам — ваюй, Віталь Аляксандравіч.

Праз некалькі дзён Віталь прынёс малюнак Брадатага і сказаў:

— Яго малюнак ні з чым і не зблытаеш. Выразнасць, кампазіцыя, кожная дэталь цаляе куды трэба. Вось у каго б павучыцца.

І зноў Віталь распачаў гаворку пра тое, што яму трэба змяніць зброю, бо рукі цягнуцца не да алоўка і паперы, а да вінтоўкі, аўтамата.

— Дзівак ты чалавек,— кажу,— пахваліў жа Брадаты цябе.

— А што ён казаў? Графік павінен быць у значнай ступені сааўтарам літаратара. А хіба я магу быць сааўтарам Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Анатоля Астрэйкі, іншых пісьменнікаў?

Гэтае пытанне, відаць, хлопца не на жарт хвалявала. У сваім дзённіку ён пісаў:

«Як мне хацелася, каб мае карыкатуры, плакаты, калі ўжо не з такім майстэрствам і сатырычнай вастрынёй, як гэта робяць нашы беларускія пісьменнікі, то няхай бы з такой жа сакрушальнай сілай гневу білі ворагаў. І самая запаветная мая мара, каб такая ж любасць да роднага краю і такая ж любоў да адважных абаронцаў нашай радзімы, да нашых народных мсціўцаў у тыле ворага адчувалася ў кожным маім малюнку».

## Пісьмо, якое ўзрадавала пісьменніка

У пакоі Кузьмы Чорнага было душнавата — яшчэ не выветрыўся пах лекаў. Мы з Віталем адразу здагадаліся, што Мікалай Карлавіч не надта добра сябе адчувае: як ні храбрыся, а выдаюць вочы.



«Мусіць, не варта было турбаваць чалавека»,—падумаў я, але да адступлення былі ўжо адрэзаны шляхі.

— А-а, «раздавілаўцы» завіталі! — як і заўсёды, ён прыязна заўсміхаўся, падняўся з-за рабочага стала і гасцінна ўсадзіў нас каля сябе.— Ну, чаго збянтэжыліся? Не ўдалося ўцячы ад мяне? Толькі і бяды!

Настрой яўна палепшаў і ў гаспадара, і ў нас, няпрошаных гасцей.

Кузьма Чорны расказваў пра Бацьку Мінfestivalя, пра яго гераізм, а найбольш пра яго адважных байцоў — бацькавых сыноў і дачок. Мы даведаліся і пра тое, што ў вёсках Суражскага, Мехаўскага і іншых раёнаў вывешаны фашысцкія бефелі — загады і паведамленні аб тым, што за жывога ці мёртвага (лепш жывога) «ляснога бандыта» М. П. Шмырова будзе выплачана тры тысячы марак.

Але не дапамаглі, аказваецца, ні нямецкія маркі, ні іншыя абяцанкі.

Кузьма Чорны тактоўна нацэльваў нас на гарачыя тэмы. Ён дастаў з шуфляды стала блакнот, вырваў спісаныя лісткі, акуратна змацаваў іх шпількай і, аддаючы, сказаў:

— А вось вам, хлопцы, мой асабісты пай. Для вас, «раздавілаўцаў», хлеб надзённы.— Ён усміхнуўся.— У час вайны не так ужо і дрэнна гучыць «раздавілаўцы». Не горш чым, напрыклад, «кракадзілаўцы» або «кракадзільцы». Дык вы ўжо не палянуйцеся расказаць потым, ці ўежным аказаўся гэты хлеб для «Раздавім фашысцкую гадзіну». І давайце дамовімся: заходзьце, не чакаючы запрашэнняў.

— І мы для вас, Мікалай Карлавіч, маем сякі-такі пачастунак,— кажу. І даю яму пісьмо партызана, якое атрымала наша рэдакцыя.

Мікалай Карлавіч чытаў пісьмо, і на ягоным твары не засталося ніводнай хмурынкі. І не дзіва, што пісьмо так узрадавала пісьменніка. Ён даведаўся, што ягоны «Ігнат Булава з-пад Турава» ваюе не толькі ў пушчах Палесся. «З ім можна сустрэцца,— пісаў ягоны зямляк,— і на Случчыне, у Цімкавічах, дзе вучыўся і жыў выдатны пісьменнік Кузьма Чорны».

Было відаць, што пісьмо з радзімы ўсхвалявала Мікалая Карлавіча. Нас уразілі яго вочы: па іх можна было бачыць узрушанасць пісьменніка і нават чытаць яго думкі.

— Уражанняў, хлопцы, аж у галаве не месціцца.— І пасля паўзы:— Калі можна, пакіньце мне гэтае пісьмо.

— А ў прыдачу,— кажу,— свежанькі наш нумар з вашым фельетонам.

Мікалай Карлавіч адразу пачаў разглядаць нумар, а Віталь тым часам зірнуў на гадзіннік, потым на мяне, нібы кажучы: трэба ж і меру ведаць.

— Э-э, не спяшайцеся, будзьце ласкавы,—і, перагарнуўшы старонку, узрадаваўся:— А вось і Кандрат Кандратавіч!

...Улетку 1942 года ў Мінск з Берліна прыбыў груз кайданоў і розных іншых прылад для катавання насельніцтва. Водгукам на гэты факт была «Лекцыя аб «новым парадку» такога зместу:

ГЕР КУБЭ.

Дэманструю для пачатку
Сілу новага парадку,
Гордасць нашае навукі...
Паглядзіце, што за штукі
Фюрар шле беларусіну!
І на шыю, і на спіну —
Струмент зручны, нескладаны.
Будзьце ж фюрару адданы.

КСЁНДЗ ГАДЛЕЎСКІ.

Не зважайце, што я з крыжам,
Дзе ўжо трэба, мы паліжам,
А народу казань скажам,
Словам боскім рукі звяжам.

СПАДАР ЕРМАЧЭНКА.

А пятлю беларусіну
Я на шыю сам накіну.

СПАДАР АДАМОВІЧ.

Я ж тым часам неўзаметку
З-пад ног выб'ю табурэтку.

ХАЛУІ (усе разам).

А за гэта што нам будзе?
Мо жалезны крыж на грудзі?

ГЕР КУБЭ.

Атрымаеце зарплату,
Што паложана па штату.
А паложана па штату
Тое самае, што кату.

ХАЛУІ (усе разам).

Значыць можам ганарыцца,
Прыраўнялі да арыйцаў.

Мікалай Карлавіч прачытаў «Лекцыю» яшчэ да здачы ў набор. Мне хочацца аднавіць хоць збольшага тое, што ён тады сказаў:

— Можна пазайздросціць гэткай майстэрскай лаканічнасці Кандрата Кандратавіча. Мазок — і тут жа вырысоўваецца востра сатырычны персанаж — адзін тып падлейшы за другога. І, не даючы мярзотніку апомніцца, трапным сатырычным словам Крапіва забівае напавал аднаго вылюдка за другім. Маўляў, а чаго з такім паскудствам доўга яшчэ важдацца? Тым больш, ім жа «паложана па штату тое самае, што кату».— Мікалай Карлавіч, троху памаўчаўшы, дадаў: — Не кожнае выданне мае такога сатырычнага снайпера, майстра сатыры бязлітаснай. І не дзіўна: на рахунку яго не мала і даваенных сатырычных залпаў па кулаках, бюракратах, жуліках, хабарніках, па замежных аслах, якія сваімі вушамі хацелі Сонца засланіць...

Ён гаварыў, і твар яго святлеў, лагаднеў... Наогул, дзіўная была ў Кузьмы Чорнага здольнасць радавацца поспехам сваіх таварышаў, сагрэць душу добрай парадай, выклікаць прыхільнасць да сябе людзей, якія ў сваю чаргу маглі даверыць яму самае запаветнае. Кожнаму з нас ён быў самы патрэбны чалавек, асабліва ў тыя грозныя часы ваеннага ліхалецця.

## «Вас выклікаюць у ЦК...»

**«28 герояў-панфілаўцаў уступілі ў адзінаборства з 50 фашысцкімі танкамі...**

**Генерал Леў Даватар, арлы-даватарцы нагналі жах на гітлераўскіх бандытаў...**

**Лепшыя сыны беларускага народа Герой Савецкага Саюза Мікалай Гастэла, які накіраваў свой ахоплены полымем самалёт на армаду машын ворага, Фядос Смалячкоў, Міхаіл Сільніцкі...**

**Ці ж мае малюнкі раскажуць пра вашы бессмяротныя подзвігі? Зайздрошчу тым мастакам, якія змогуць перадаць ваш высокі савецкі патрыятызм: гэта будуць вялікія гістарычныя палотны».**

(З дзённіка В. Букатага.)





Анатоль Астрэйка чытаў толькі што зняты з талера свежы нумар газеты-плаката, дзе быў змешчаны фельетон Кузьмы Чорнага з ілюстрацыяй Віталя. Чытаў ён уважліва, і здавалася, ужо занадта прыдзірліва шукаў памылкі. На «агеньчык» зайшоў і Кузьма Чорны. Зірнуўшы на Букатага, запытаўся:

— Ну, як табе, Віталь, жывецца-ваюецца?

— Напісаў заяву Цімоху Сазонавічу. Аказваецца, усё ад яго залежыць. Але наперад ужо ведаю яго адказ: «Ваюй пакуль што на ідэалагічным фронце».

— А што?.. Гэта, хлопча, таксама вайна! — сказаў Кузьма Чорны, разглядаючы карыкатуру, да якой тут жа згадзіўся напісаць тэкстоўку. І, зірнуўшы на хлопца, дадаў: — Уяві, Віталь, такое: вось гэтая газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну» паяўляецца ў акупіраваных гарадах і вёсках нашай рэспублікі, людзі, змучаныя акупацыяй, убачаць галоўнага віноўніка вялікага гора народнага — Гітлера, вось такую яго крывавую бандыцкую морду. Дарэчы, нядрэнна размаляваў ты гэтага, з дазволу сказаць, «вызваліцеля Еўропы». Гэта ж прыдумаць такое: «Вызваліцель Еўропы»! Так, прынамсі, звяругу Гітлера называюць брудныя фашысцкія газеткі і лістоўкі. Тое ж самае трубяць

нямецкія радыёбрахуны. Яго партрэтамі забруджаны сцены ўцалелых дамоў акупіраваных гарадоў, вёсак. І вось людзі ўбачаць яго сапраўднае аблічча такім, як яны і ўяўляюць гэтае фашысцкае страхапудзіла. Хіба ж гэта не бомба? Бомба! Ды яшчэ якая! Так што, дарагі Віталь Аляксандравіч, мы яшчэ павоюем.

— Гэта так! — згадзіўся Букаты з Мікалаем Карлавічам. А, мабыць, больш настойліва ўнутраны голас задаваў хлопцу іншыя пытанні: «А хіба ты, Віталь, поўны сіл і энергіі маладосці, не змог бы грміць фашыстаў адначасова і ідэалагічнай, і агнястрэльнай зброяй? Ты сам чытаў яшчэ ў Гомелі спецыяльны нумар «Раздавім фашысцкую гадзіну» пра баявых камісараў, якія ў грамадзянскую вайну ваявалі і палымяным словам, і вінтоўкай. Аказваецца, лягчэй табе было дэкламаваць «Ваша слова, таварыш маузер!» А камісар Фурманаў? З Чапаевым поплеч вёў палкі да перамогі. А цяперашнія баявыя партызанскія камісары? Ты ж асабіста пазнаёміўся з камісарам, верным другам легендарнага Бацькі Міная. Хіба не ты паўтараў:

Он верен воинской присяге,
Ему Отчизна дорога.
Он для бойца — пример отваги,
Гроза и ужас — для врага.

І Віталь Букаты піша заявы, каб адправілі яго на фронт або ў тыл ворага. Цяпер ужо ва ўсе інстанцыі. Хвалюецца — нецярпліва чакае адказу. Але чакае не склаўшы рукі: малюе.

І раптам...

— Цябе выклікаюць!

Віталь хуценька сабраўся. І ўжо не пазнаць у ім таго гомельскага, трохі нязграбнага школьніка. Ён, здаецца, адразу ўзмужнеў, неяк падцягнуўся, і здалося, што стаў ужо зусім дарослы. (Можа, у жыццёвым тлуме мы раней і не заўважылі яго ўзмужнення).

Вярнуўся ён праз нейкі час суровы, зацяты.

— Ну, што табе там сказалі? — атакавалі мы хлопца, калі ён вярнуўся.

— Сказалі, што атрымалі мае заявы і ўсё, што напісана, бясспрэчна правільна...

— Ну а далей?...

— Сам Цімох Сазонавіч запрасіў мяне да сябе.

— І што?

— Ён пазнаёміў мяне з партатыўнай друкарняй. Гэта каса шрыфтоў і невялічкі друкарскі станок з валікам.

Віталь, нібы выпрабоўваючы наша цярпенне, пачаў падрабязна расказваць, пра што гаварыў Цімох Сазонавіч Гарбуноў.

— Дык усё-такі чым скончылася, Віталь, твая аўдыенцыя?

— А вось чым. Цімох Сазонавіч дастаў з шуфляды стала маю заяву, прабег вачыма, потым больш уважліва прачытаў ды, мабыць, нешта ўспамінаючы, уздыхнуў:

— Эх, Гомель, Гомель, цудоўны горад! — і загаварыў ужо строга афіцыйна: — Так што, Віталь Аляксандравіч, рыхтуйся к бою: даручаем табе баявое заданне Цэнтральнага Камітэта партыі Беларусі. Зробіш сатырычныя плакаты і карыкатуры, выкарыстоўваючы ў якасці эпіграфаў вось гэтыя факты.

— Значыць, зноў з намі. А мы ўжо думалі, што паляціш у тыл.

Віталь прамаўчаў. А праз нейкі час зноў раздаўся званок:

«Вас выклікаюць у ЦК».



# Расказвае Букатаўскі эцюднік

«Мяне вельмі ўзрушыў малюнак Дзмітрыя Стахіевіча Маора «Мярзотнік у Яснай Паляне». Сёння ўпершыню яго ўбачыў: п'яная фашысцкая свінbackfill разваліласяў крэсле. Можа ў тым крэсле Леў Мікалаевіч абдумваў свае бессмяротныя творы. Можа тут пісаў з яго партрэт вялікі рускі жывапісец Ілья Яфімавіч Рэпін. А хіба гэта мае значэнне для гітлераўскага грамілы? «К чорту філасофію, к чорту сумленне! Мая філасофія — фашызм, маё сумленне — Гітлер, мая культура — разбурэнне, мая прылада — сякера». Я перапісаў гэтую тэкстоўку і перарысаваў малюнак Маора».

(З дзённіка В. Букатага.)

Віталь рэдка калі расставаўся са сваім эцюднікам, і не дзеля пустой цікаўнасці хацелася пазнаёміцца з тым, што хавае ягоная, ужо даволі патаўсцелая папка, якая і называлася эцюднікам. Тым больш, мне ўжо было вядома, што пытанне аб залічэнні яго ў спецшколу вырашана. Цяпер усё залежала ад медыцынскай камісіі.

— Ну дык як, Віталь?

Збянтэжана чырванеючы, ён аднекаваўся.

— Навошта? Гэта ж толькі рабочы матэрыял, накіды, ну, паўфабрыкаты.

Але праз нейкі час ён прынёс свой эцюднік.

І дзіўная справа! Гэтыя так званыя «паўфабрыкаты» раскрылі яшчэ адну грань душы Віталя Букатага.

Мой позірк не мог адарвацца ад ліста. Здаецца, што не на паперы бачу люстраную раку і промні сонца, якое развітваецца з рыбакамі, што з усіх сіл вяслуюць да лукі.

На памяць прыходзіць незабыўны трагічны адвячорак на беразе Сейма. Чакаючы парома, сабралася мноства людзей, машын і фурманак. Нехта крыкнуў: «Месеры!» І ўсе сыпанулі — хто куды, а пікіроўшчыкі ўжо рабілі сваю чорную справу.

Наша «чортапхайка» (так ахрысцілі мы рэдакцыйную машыну) ніякім законам маскіроўкі не падпарадкоўвалася: занадта ўжо часта яна, як наўмысля, спынялася там, дзе спыняцца небяспечна — то ў яе акумулятар садзіўся, то карбюратар не карбюрыраваў... І атрымлівалася, што не яна нас, а мы яе ратавалі ад бамбёжак, у літаральным сэнсе на руках выносілі, а яна быццам здзекавалася з нас: «Назвалі чортапхайкай, дык пхайце на здароўе. Колькі вам трэба». Вось у такой драматычнай сітуацыі, калі пікіроўшчыкі віселі над галавой, нам давялося агульнымі намаганнямі запхнуць яе ў густы лазовы параснік амаль ля самай рэчкі.

На незакончаным малюнку Букатага «За рулём» — наш маг і чарадзей. Так мы называлі шафёра рэдакцыйнай машыны. Разглядваю малюнак, быццам зноў убачыў, як важдаўся шафёр з той чортапхайкай, завіхаўся пад ёю. Тым часам скончыўся налёт. Паром нейкім цудам уцалеў і рабіў ужо трэці рэйс. А наш маг і чарадзей, як той доктар, усё выстукваў, абмацваў нашу паўтаратонку, то ўзнагароджваў яе такімі словамі, што не ў казцы расказаць, ні пяром напісаць, то ўлешчваў яе, дагаджаючы, як ліхой скуле.

А мы вымушаны былі «загараць» па-над Сеймам і марыць:

— Эх, пакупацца б тутака!

— Лепш ужо ў Сожы! — сказаў Віталь, «пекучы бліны» (пуляў каменьчыкі, якія спрытна падскоквалі па рацэ).

— І ў Дняпры не блага было б! — адазваўся з-пад машыны шафёр.

— Трохі пацярпі! Мы на тваім лімузіне аж да Гродна даедзем і ў Нёмане пакупаемся ды песню складзем пра Нёман.

Дзіўна — выпадкова кінутае ў той час Анатолем Астрэйкам слова, як урадлівае семя, ужо на сваёй зямлі дало свае добрыя плады: многія тысячы акупантаў, нават тыя, каторым удалося ўцячы з нашай зямлі, даўно ўжо апынуліся там, дзе ўжо не марацЬ аб жыццёвых прасторах, а «Песня пра Нёман», «Песня пра Заслонава» і шмат якія іншыя песні паэта жывуць і яшчэ доўга будуць жыць у сэрцах людзей...

Памяць зноў вяртае мяне да букатаўскага эцюдніка — і быццам цяпер трымаю ў руках тыя лісты, з якіх, як на яве, узнікае дарога ў гістарычны Пуціўль, бачу на малюнку знаёмую купку дрэў. А за імі срэбным паяском паблісквае той жа ружовы ад сонца Сейм.

«Каровы-бежанцы». Так называецца замалёўка Віталя, і я прыгадваю.

На небе ніводнай хмаркі. Сонца пячэ бязлітасна, а наперадзе рухаецца па зямлі такое шэрае воблака, ажно цёмна робіцца ўваччу. Наш маг і чарадзей сігналіць, але воблака не саступае дарогу. Нарэшце пыл улёгся — і ўзнік гурт кароў. Бы з туману выплылі змучаныя спёкай пагоншчыкі, даяркі, шэры ад пылу конь, запрэжаны ў калёсы, няхітрыя пажыткі. Калгаснікі гналі жывёлу як найдалей ад фронту. Давялося скіраваць з дарогі. Наша чортапхайка стагнала, кашляла і адплёўвалася чорным дымам. Неўзабаве мы «закукавалі» непадалёк ад Пуціўля.

— Станцыя Беразайка, хто хоча — вылязай-ка! — даў каманду шафёр.

Тут было наўздзіў хораша. Велічныя таполі, так, нехаця, гублялі барвова-жоўтае лісце.

— Эх, таполі, таполі! — уздыхнуў Віталь.— Помню, як нам, яшчэ дзецям, Валянціна Міхайлаўна чытала «Думу пра Апанаса» Багрыцкага:

«...Тополей седая стая,
Воздух тополиный,
Украина, мать родная,
Песня — Украина...»

І раптам усклікнуў:

— Піянерскі лагер! Вунь і мачта піянерскай лінейкі.— А падышоўшы бліжэй, ён са скрухай сказаў: — І песню аднялі, і паветра Украіны атруцілі.

Ён зірнуў на асірацелую валейбольную пляцоўку, ускочыў на бервяно, па якім, растапырыўшы рукі і ўсклікнуўшы: «Э-эх, успомніць маладыя гадочкі»,— пабег.

«Зусім яшчэ дзіця»,— падумаў я. Гарэзуючы, ён нават не заўважыў, што і тут паветраныя піраты пакінулі свае жудасныя сляды. Але зірнуўшы на хлопца, на яго раптам спалатнелы твар, зразумеў, што памыліўся, бо вочы яго з жахам утаропіліся на тыя таполі, якія суха пагойдвалі сваімі абгарэлымі шапкамі. Як і ўсе мы, быў ён узрушаны відовішчам зруйнаваных піянерскіх домікаў і чорным, як галавешка, слупам, з якога, нібыта абарваныя струны, бездапаможна звісалі правады — мабыць, не даспявалі свае песні, навеяныя вольнымі вятрамі.

Пра ўсё гэта нагадаў малюнак Букатага, які і прымусіў мяне, ды, мабыць, і аўтара зноў перажыць перажытае.

...Навокал панавала нязвычная цішыня. (У мірны час казалі: «як перад бурай». А гэта было — пасля буры). Лепшага месца для падрыхтоўкі чарговага нумара і не знойдзеш, тым больш, нашаму шафёру доўга яшчэ корпацца пад машынай.

— Эх, заваліцца б тут, як мядзведзь у бярлогу, на доўгую спячку і






прачнуцца, калі скончыцца ўся гэтая калатня,— пазяхнуў Каварскі — карэктар газеты «Савецкая Беларусь» — і выцягнуўся на траве.

І раптам цішу разарваў далёкі выбух, адзін, другі... Потым загуло з-за ракі.

— От і наклікаў ты бяду на сваю галаву.

— Каб жа толькі на сваю! — збянтэжана замахаў рукамі Каварскі.

Невялічкая замалёўка Віталя перадае яго хваляванне і нягеглы выгляд.

Замалёўкі, эскізы, эцюды Букатага... Яны аднаўляюць у памяці жахлівыя карціны, сведкамі якіх мы былі.

...Пікіруючыя самалёты абліваюць свінцовым агнём мірных жыхароў.

...Зноў пераправа. Адна палова моста бездапаможна вісіць над вадою, другая — вытыркаецца з ракі.

— Гэта толькі адна дэталь. Яна не можа даць якога-небудзь уяўлення пра тое, што тады адбылося,— бы апраўдваецца Віталь, адкладаючы малюнак.

Ён успомніў, колькі бомбаў скінулі фашысцкія паветраныя разбойнікі на мост, які злучыў Гомель з Навабеліцай.

А мост жа выстаяў! Віталь адклаў малюнак і расказаў пра гэты цуд.

Пасля кожнай бамбёжкі хлопец бегаў, каб упэўніцца, што мост паранейшаму стаіць, як бастыён. Досвіткам, пасля самага масіраванага налёту, ён прыбег і жахнуўся: «Сволачы! Патапілі!»! Абхапіўшы далонямі твар, хлопец наўзрыд заплакаў. І што за дзіва? Ён, не верачы сваім вушам, пачуў, як загрукатаў транспарт на мосце. Віталь расплюшчыў вочы і тады толькі зразумеў, што ў рацэ ён убачыў не мост, а яго адлюстраванне.

Даўно адчуваў я душэўную блізкасць да Віталя, а вось знаёмства з тым, што дагэтуль хаваў ад мяне яго эцюднік, здаецца, зрадніла нас яшчэ больш.

Адкладаю адны лісты, разгортваю скрутак шпалер. На адваротным баку — абочына дарогі. Дзіця спіць на матчыных руках, нахмураны лобік, маленькія, сціснутыя ў кулачок ручаняткі. Разбітая фурманка, раструшчаная машына з чырвоным крыжам, раскіданае зялёнае маскіровачнае веццё. Параненыя салдаты ў кювеце...

Здаецца, і цяпер чуеш крыкі: «Паветра!» Стралянiна, выбухі бомбаў так і гучаць у вушах. Перад вачыма: паветраныя прафесійныя забойцы шнуруюць неба, а на зямлі — варонкі, разбітая ўшчэнт шаша, трупы забітых і параненыя.

Адзін з Букатаўскіх эскізаў называецца «Конь на каленях». Зірнуў і адразу ўспомніў жахлівы эпізод. Нечаканы налёт фашысцкай авіяцыі. Людзі стрымгалоў павыскоквалі з машын, фурманак, пахаваліся ў кустах, у кюветах, дзе папала. Як цяпер, бачу таго чалавека, які вяртаўся пасля бамбёжкі да сваёй фурманкі, працягваючы наперад рукі, сослепу натыкаючыся на нейкае ламачча. Акуляры перакасіліся ў яго на пераноссі, і наўрад ці бачыў ён усё тое, што адбылося. Ён, мусіць і не пазнаў жонку, не ўбачыў фурманку і свайго каняку, які, укленчыўшы, матляў занадта цяжкай галавою, развітваючыся са светам. А слёзы, ніколі не бачаныя дагэтуль конскія слёзы, стаялі ў вялікіх, ужо затуманеных вачах.

Малюнак пад назвай «Яны бачылі смерць». І быццам толькі што бачыў гэтую купку параненых байцоў. Мабыць, усё, што засталося ад роты, а можа, і ад батальёна. У аднаго забінтаваная галава, ад чаго яна здавалася дужа вялікай; у другога — заматана анучамі нага; трэці з падвязанай рукою... Калі добра прыглядзецца, яны зусім яшчэ маладыя, але страшна здарожаныя і змучаныя ранамі. Быццам даўно забытай усмешкаю пазіралі яны на дзяўчыну, якая поіць іх малаком. «Нічога, выдужаем ды яшчэ паваюем!» — суцяшае Віталь сваім тэкстам пад малюнкам.

...Цудам уцалелая, цёмна-шэрая, бы пасыпаная попелам, з адбітай тынкоўкай сцяна. На сцяне (таксама, мабыць, цудам утрымаліся) на цвічку Пяроўскія «Паляўнічыя». Сярод яшчэ тлеючых галавешак паблісквають аскялёпкі трумо, валяюцца разбітыя гаршкі... І тут жа, за сцяной, на агародчыку, пад гарачым сонцам буяе засыпанае сажай бацвінне буракоў, чырванеюць памідоры, лапушыцца гарбузнік... «А ўсё-такі жыццё мацней за смерць!» — напісана рукою Букатага.

...Дзядзька ў саламяным капелюшы сядзіць каля зруйнаванай хаты. На скамянелым твары слёзы. Але найбольш уражваюць вочы, у якіх сапраўднае гора. Гэта перададзена так пераканаўча, што тлумачальны тэкст: «Калі мужчына плача, значыць, гора вялікае. Кожная сляза, як камень», здаўся ўжо лішнім.

Дзядзьку ў саламяным капелюшы змяняе падборка карандашных замалёвак. Сцяна чароту. Рачны вір. Сіваваты арэшнік. Чорныя ластаўкі на правадах, белыя кубікі на двух слупах. Жоўтагаловы сланечнік развітваецца з сонцам... І дзіўная справа — раптам перад вачыма той жа конь. Сонца пакідае неба гэтак жа марудна, як жыццё пакідала таго каня. Чырвоныя водбліскі заходзячага сонца бліскалі ў рацэ, а нейкі праменьчык зазірнуў у ашклянелыя конскія вочы і тут жа патух.

«Эцюднік як эцюднік,— падумаў я,— няхай усё тое, што ён хавае,— пакуль што рабочы матэрыял для будучых кампазіцый, але яны маглі б расказаць нашай пасляваеннай моладзі аб тым, што перажыў гераічны савецкі народ у той грозны час, калі вырашаўся лёс народаў нашай краіны і ўсяго чалавецтва».

А вось эскіз партрэта «Чыжыка», разам з ёю вучыліся, дружылі...

— «Чыжык» — гэта яна? — і адразу змаўкаю, бо з белага ліста на мяне пазірае сінявокая, у блакітнай сукеначцы дзяўчынка, бадай-што падлетак. Але ў зіхатлівых вачах выпраменьваецца нешта ўжо дзявочае. Кожная рысачка яе гарэзлівага твару, яе вясёлыя смяшынкі, здаецца, так і кажуць: «А я шчаслівая». Я зірнуў на Віталя і без слоў зразумеў, што хлопец душою прыкіпеў да гэтай дзяўчынкі.

— Кахаеш?

Віталь засаромеўся. І пасля доўгага маўчання раптам рашыўся:

— Толькі паміж намі: калі ёсць што-небудзь вышэйшае за дружбу, шчырае сяброўства, дык я гэта па-сапраўднаму адчуў тады, калі вайна пачалася, і яшчэ больш—у час нашага развітання.

Віталь расказваў пра «Чыжыка», а я не мог адарвацца ад партрэта.

А была ўжо тая пара года, калі «гусей крикливых караван тянулся к югу». «Скора, скора,— думаў я,— і ты, Віталь, паляціш ад нас». І ўявіў сабе хлопца мужным воінам, і адчуў нешта большае: ён стаў мне да шчымлівасці дарагім і блізкім. Можа гэта і таму, што не засталося ў мяне родных і блізкіх? Усіх іх знішчылі фашысцкія душагубы. Я ўжо ведаў гэта.

## Сустрэча з «Чыжыкам»

На твары ў жанчыны прыязная, але ледзь-ледзь іранічная ўсмешка.

Як тут пераключыцца на размову, дзеля якой я так доўга шукаў сустрэчы з сяброўкай Віталя Букатага?! Але з вопыту старога журналіста ведаю — усяму свой час. «Можа, нялёгка табе, нават на вялікай адлегласці часу, гаварыць пра дарагога чалавека, можа баішся

лішнім словам зняважыць светлую яго памяць? Распытваць не буду, сама адкрыеш душу, калі давяраеш!»

Я быў упэўнены, што маю права на гэткае давер'е. Нейкіх пару гадзін назад нарэшце атрымаў, як самую дарагую знаходку, адрас і нумар яе кватэрнага тэлефона. Кінуўся да аўтамата. Пасля кароткага маўчання, якое здалося вечнасцю, пачуў у трубцы меладычны дзявочы голас:

— Мамы дома няма. Пазваніце, калі ласка, пазней.

Але дзе ты набярэшся таго цярпення, каб чакаць?

Дзверы расчыніліся — і я ледзь не аслупянеў: перада мною ажыў эскізны партрэт Букатага «Дзяўчына». Тыя ж іскрыста-вясёлыя смяшынкі ў зіхатлівых сініх вачах, той жа задзірысты кірпаты носік, прыпухлыя губы.

Я глядзеў на яе і ад здзіўлення не мог нават і слова вымавіць. Тым часам і на твары жывога партрэтнага ўвасаблення, асветленым ад акна сонцам, адбілася здзіўленне: маўляў, чаго прыпёрся гэты дзівакаваты дзядзька?

— Вы дужа падобны на сваю маму,— вырвалася мімаволі.

— А вы з ёю знаёмы?

— Пакуль што не.

Цяпер ужо дзяўчына здзівілася. Але якраз у гэты момант прыйшло выратаванне: шчоўкнуў замок.

— А вось і мама!

І нават не верыцца, што са мною побач цяпер крочыць тая, каго юнак Віталь у сваім дзённіку чамусьці называў «Чыжыкам» і гэтым самым прымусіў мяне так доўга яе шукаць. (Знаходзіліся Чыжовы, Чыжыкавы, проста Чыжы, нават і Чыжыкі знайшліся, але не тыя.)

«Чыжык» — ужо салідная, але са слядамі ранейшай прыгажосці, яшчэ даволі статная жанчына ў дублёным модным кажушку з шэрым каўнерыкам, у хвацка ссунутай шапцы-кубанцы, з-пад якой выбіваюцца кранутыя сівізной каштанавыя кудзеркі. І хоць снег парыпвае пад яе на высокіх абцасах боцікамі, мне здаецца, што яна не дакранаецца да зямлі. Я ўявіў яе ў маладосці, прыгадаў той Віталеў партрэт. І дзіўна — чамусьці адразу ўспомніў гэткі запіс у ягоным дзённіку: «Я, заікаючыся, спытаў, ці пойдзе яна са мною ў кіно. Ад гэтага ўсё залежала, бо сёння я рашыў сказаць аб тым, што сэрца маё ўжо сказала. І якім бы не быў яе прысуд, ён абскарджанню не падлягае. «Ну, дык пойдзеш?» Я не паверыў сваім вушам: «Пайду!» І яшчэ нешта чароўнае, незабыўнае сказалі яе вочы».

Я зразумеў, што менавіта ў гэты дзень яны рассталіся з дзяцінствам. А юнацтва неўзабаве адняла вайна.

Нас абагнала шумная кампанія моладзі, якая ніяк не магла рашыць, «ці ёсць у нас Дон-Кіхоты і ці патрэбны наогул у наш час рыцары самотнага вобліку, калі нават ветраныя млыны зніклі ўжо з зямлі?»

Мы ідзём, разважаем пра цяперашнюю моладзь (старая, але вечна новая тэма). Зайздросцім ёй, канечне, па-харошаму, і шчыра жадаем, каб не зведала тое, што давялося нам.

— Няхай у іх не будзе так, як у нашу «залатую» пару маладосці.

Успамінаем даваенную моладзь і, вядома, Віталя Букатага.

Ідучы па шматлюдных вуліцах адроджанага з папялішчаў Гомеля, любуемся новымі дамамі, радуемся: «Якая харашыня»! А памяць захавала налёты фашысцкай авіяцыі, сляпыя вокны дамоў, цёмныя праёмы дзвярэй, бітае шкло, горы друзу, знявечаныя дзіцячыя каляскі, ложкі з пачарнелымі нікеляванымі спінкамі, шкілеты печаў.



Успомнілася, як, нібыта жывыя, звярталіся да прахожых маляўнічыя плакаты:

«Товарищ, иди в ополчение,
И дом и завод в цитадель преврати,—
Чтоб подлой фашистской гиене
К востоку отрезать дороги-пути!»

А мне ўсё карціць запытаць, чаму Васіль Букаты празваў яе Чыжыкам. Нарэшце адважваюся.

— Што ж, задаволю вашу цікаўнасць. У той час футбол яшчэ не быў у модзе. Хлапчукі гулялі ў «лапту», «гарадкі» ці ў «чыжыка». А я — не горш за іх. Вось і ахрысціў мяне Віталь «Чыжыкам». Паспрабуй адгадай, што гэта за «Чыжык» — Ён ці Яна. Мы шанавалі сваю дружбу і ніколі не дэманстравалі яе на людзях. Гэта была наша таямніца. Ды я не надта веру паказному каханню, калі ён і яна ўсенародна афішыруюць свае «палкія пачуцці», ідучы ў абдымку па вуліцы. Як вядома, ужо з дзяцінства ў будучага мужчыны самой прыродай закладзены рыцарскія адносіны да жанчыны. А якое гэта, скажыце, рыцарства, абхапіўшы за шыю вадзіць па вуліцах дзяўчыну? Відаць, нездарма прырода стварыла ружу, а ля яе — калючкі.

Так размаўляючы, мы выйшлі на Савецкую вуліцу, спыніліся каля аблвыканкома і зноў перанесліся думкамі ў былое. Ва ўяўленні, нібы гэта было ўчора, узнікае на фасадзе будынка магутная постаць рабочага з кувалдай у дужых руках. Удар па распаленым метале — і іскры кулямі ляцяць у самае сэрца ворага-чужынца.

— Помніце,— кажу,— вось тут быў плакат.

Замест адказу яна звыклым рухам папраўліла шапку-кубанку, якая нейкім цудам трымалася на галаве, зірнула на сцяну, ціха і ўрачыста прачытала па памяці:

«Суровое время настало.
Победу выковывай сам.
Пусть будет удар по металлу
Ударом по бешеным псам».

Сэрца Ізабэлы Раманаўны навечна захавала памяць пра аўтара гэтага плаката, тады яшчэ хлапчука Віталя Букатага.

— А помніце? У партклубе быў сход гарадскога партактыву. На парадку дня адно пытанне: абарона Гомеля? — спытаў я.

— З клуба партыйныя актывісты, у тым ліку і мой бацька, ужо выйшлі народнымі апалчэнцамі,— успамінае Ізабэла Раманаўна.— А 15 ліпеня ўжо быў сфарміраваны полк народнага апалчэння. І ў той жа час не спынялася эвакуацыя жанчын, дзяцей, старых, дэмантаж і пагрузка ў эшалоны фабрычна-заводскага абсталявання...

Ізабэла Раманаўна расказвае, як ёй і Віталю цяжка было разабрацца ў складанай абстаноўцы, у шпаркай змене падзей. Станцыю Гомель нельга было пазнаць: зніклі латочнікі з піражкамі, асірацелі ларкі, нібыта аглухлі рэпрадуктары, якія абвяшчалі аб прыбыцці ці адпраўленні цягнікоў з курортнікамі і іншым мірным людам... Толькі «Расклад руху цягнікоў» на вакзальнай сцяне сведчыў, што ўсё гэта было... Некалькі дзён таму назад.

— Гэта сваімі вачыма бачыў і, мабыць, па-свойму спрабаваў асэнсаваць Віталь. Ён балюча перажываў кожную няўдачу нашай арміі, шукаў і не знаходзіў адказу на пытанне, чаму не маглі мы адразу спыніць варожыя полчышчы яшчэ на граніцы. Але ў перамозе над ворагам не сумняваўся. І ўсё пытаўся ў мяне, быццам я больш за яго ведала.

Жанчына не ведала, што Віталь мне ўсё расказаў пра сваё нялёгкае расставанне з усім тым, што кожнаму так дорага...

## Вечны агонь

З Ізабэлай Раманаўнай мы зайшлі ў музей. Адзін з яго стэндаў прысвечаны Букатаму. Ля яго экскурсанты слухаюць экскурсавода.

Наведванне музея ўсхвалявала Ізабэлу Раманаўну. Ёй цяжка было схаваць сваё ўзрушэнне. Пра гэта казалі і павільгатнелыя вочы. Я разумеў, што сустрэча з Віталем на стэндах музея зноў навеяла ўспаміны пра шчаслівае і непаўторнае юнацтва, абарванае вайною.

Так, не сказаўшы больш ні слова, мы дайшлі да плошчы Працы.

Вечны агонь і днём і ноччу гарыць каля помніка воінам і партызанам Вялікай Айчыннай вайны.

Абганяючы нас, група шумлівай моладзі (відаць, прыехалі сюды на экскурсію з якога-небудзь раёна Палесся) ішла да помніка і тут адразу пацішэла. Задумлівыя, па-даросламу засяроджаныя і трапяткія іх позіркі... Ім, як і нам, ужо немаладым, цяжка адарваць вочы ад надмагільных надпісаў: Герой Савецкага Саюза Барыкін! Шэптам называем прозвішчы іншых герояў, што аддалі сваё жыццё за тое, каб такім вось маладым людзям нічога не закрывала дарогу да шчасця, каб упэўнена крочылі яны па сваёй роднай зямлі ды квітнелі б іх усмешкі.

А галубы, прывычныя да наведвальнікаў, не баючыся, лятаюць над нашымі галовамі або ледзь не трапляюць пад ногі. Больш смелыя нават спыняюцца каля Вечнага агню і пільна пазіраюць сваімі вочкамі-пацерачкамі на нязгаснае цяпельца. Потым, ківаючы, бы раскланьваючыся прыгожымі галоўкамі, горда несучы свае грудкі, прастуюць да бліжэйшага магазіна.

Ізабэла Раманаўна ўсё маркоцілася, мабыць, у думках вандравала ў сваім піянерскім і камсамольскім мінулым. Я зірнуў на яе і ўспомніў такой, якой бачыў на партрэце Букатага, прыгадаў яго запісы ў дзённіку:

«Кожная сустрэча з ёю — свята. Гэтулькі ўражанняў! Ужо ў дзевятым класе і я ўдзельнічаў у школьным дыспуце «Аб прыгажосці чалавечай». Гаварыў, а па сутнасці ў думках маляваў яе вобраз, разам з тым баяўся, што хто-небудзь здагадаецца, каго я стаўлю ў прыклад».

Успомніў і не вытрымаў, расказаў.

— Праўда? Няўжо? — жвавыя агеньчыкі загарэліся ў яе трохі павесялелых вачах.— Не здзіўляйцеся, прашу вас, гэткай нечаканай перамене настрою. Скажу вам шчыра, мне вельмі дорага тое, што вы мне сказалі.— І, вытрымаўшы доўгую паўзу, дадала: — Я ведаю, што і вам дораг Віталь, таму вам не цяжка мяне разумець. І ведаю, што не зраблю для вас адкрыцця, калі скажу, што ўсе гэтыя гады хавала ў маім сэрцы тое светлае пачуццё, якое, гэта праверана часам, чалавек праносіць праз усё сваё жыццё. Той-сёй з нашых з Віталем аднакласнікаў ужо адсвяткаваў сваё сярэбранае вяселле.— Добразычлівая ўсмешка кранула яе вусны.— Адзін з маіх аднагодкаў ужо дзедам стаў.—Сказала і зноў усміхнулася ласкава і стомлена.

●

Былы сакратар райкома КПБ Цэнтральнага раёна Гомеля і палітрук роты Гомельскага партызанскага атрада «Бальшавік» таварыш Рамбаеў разам з камісарам першай партызанскай брыгады Паўлам Іванавічам Дзедзікам падрабязна высветлілі акалічнасці геройскай смерці Віталя Аляксандравіча Букатага. Перад намі гэты дакумент, з якога мы даведаліся, што ў сакавіку 1943 года, пасля сканчэння спецшколы, Букаты быў закінуты ў размяшчэнне партызанскай брыгады, дзе камандзірам быў таварыш Балыкоў, а камісарам — Дзедзік. Віталь Букаты паступіў у распараджэнне камандзіра разведгрупы Філімонава і, як смелы баец-падрыўнік, бездакорна выконваў самыя адказныя заданні.

«У вёсках Старавічы і Валасевічы Чачэрскага раёна,— піша Рамбаеў у сваім пісьме маці Віталя Любові Мацвееўне,— у той час знаходзіліся нямецка-паліцэйскія гарнізоны. Камандаванне атрада вырашыла разграміць перш за ўсё гарнізон у Валасевічах.

Мінёрам была пастаўлена задача замініраваць дарогу паміж Старавічамі і Валасевічамі. Аперацыя была выканана выдатна: немцы, якія спяшаліся на дапамогу Валасевіцкаму гарнізону, падарваліся на мінах, а ўцалелыя — павярнулі назад. Тым часам Валасевіцкі нямецкі гарнізон быў знішчаны партызанамі».

Віталь рыхтаваў новыя «гасцінцы» карнікам, якія, натуральна, захочуць узяць рэванш.

«Дык вось,— піша былы палітрук,— Віталь Букаты ставіў ужо апошнюю міну, спраўна замаскіраваў яе. Але, устаючы, паслізнуўся, зачапіў узрывальнік і быў забіты асколкамі сваёй міны. Такі закон мінёра: ён памыляецца адзін толькі раз».

...Калі заходзіш у будынак Саюза пісьменнікаў БССР, бачыш мемарыяльную дошку, на якой высечаны дарагія імёны пісьменнікаў, што аддалі сваё жыццё ў баях за Савецкую Радзіму ў час Вялікай Айчыннай вайны. «Іх няма сярод нас,— піша паэт Анатоль Вялюгін у сваёй прадмове да кнігі «Крывёю сэрца»,— няма нашых дарагіх таварышаў, пісьменнікаў — салдатаў і афіцэраў... Яны загінулі смерцю харобрых... З пашанай і хваляваннем чытаеш сёння іх вершы, паэмы, апавяданні, дзённікі, франтавыя лісты — суровую споведзь гераічнага пакалення...»

З такім жа хваляваннем і з такой жа пашанай разглядаем мы сёння малюнкі Віталя Букатага, чытаем яго вершы, дзённікі...





**іван арабейка**

*

ПАЭЗІЯ

*

■

А месяц быў як сам не свой
І падпаліць хацеў салому.
Я вечнасць бавіў бы з табой,—
Так не хацелася дадому.

І словы, што табе казаў,
І цэлы свет, і міг кароткі —
Я ўсё адным вузлом звязаў
З той вузкай сцежкай ля слабодкі.

А ўсё было у першы раз.
На ручніку сцяжыны белай
Ноч ткала казачны абраз,
І, як душа, спявала цела.







**мікола кусянкоў**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Старая ў ваенным гарадку

З дачкою кахаўся
Хлапец вясковы.
Цяпер жа на ім —
Гарнітур вайсковы.

У зяця
Старая каторы ўжо год —
Займела і ўнука яна, і другога.
Ніякіх нямашака ў хаце нягод,
А ў сэрцы жаночым —
Трывога,
Трывога...

Загрукае ў дзверы ўначы сувязны —
Усхопіцца зяць і бяжыць,
За парогам
Шынель апранаючы — і сівізны
Прыбавіцца ў маці —
Трывога,
Трывога...

■

Казалі маткі нам:
«Дарма
Вы цукру захацелі! —
І дзякуй, што яго няма —
Хоць будуць зубкі цэлы».

Казалі...
Самі ж ля ракі
Пасля вайны на полі
Да цёмнай ночы буракі
Цукровыя палолі.

І колькі
Дзеля нас, дзяцей,
Там поту пралілося!..
Каб нам хоць трохі саладзей
Ды весялейраслося.

Каб акрыяць мы ўсе змаглі
Пасля навалы злое...

...І ўсмешкі нашы
Расцвілі
Цукровай белізною.

## Стажок на белым полі

Лыжня рыпела. Беглі мы
У кажушках таропка.
На снежным аркушы зімы
Быў стог — нібыта кропка.
І быў вакол прасцяг палёў
Ды недзе бор знямелы...
І нехта цыркулем абвёў
Той далягляд наш белы.
І нам здавалася, што ён
Адзін на цэлым свеце...

...Па роднай вёсцы паштальён
Лісты разносіць недзе...
Без нас мяцелі там мялі
І дзесяць зім, і болей...
Ды ў памяці —
Як цэнтр зямлі —
Стажок на белым полі.







*ларыса вярыга*

# МІНІЯЦЮРЫ

## Страшныя цацкі

У маёй пляменніцы Волечкі хутка дзень нараджэння, і мне захацелася, каб яна сама выбрала падарунак.

Волечка вельмі ўзрадавалася маёй прапанове.

І вось мы ўжо ідзем па вуліцы. Я моцна трымаю дзяўчынку за руку, бо яна ўвесь час азіраецца на прахожых.

У магазіне шмат народу, і мы ледзь праціскаемся да аддзела з прыгожым надпісам: «Цацкі».

Чамусьці адразу кідаецца ў вочы вялікая меднавалосая лялька ў ружовай сукенцы. Гляджу на Волечку — яе таксама зачаравала гэтая лялька.

— Спадабалася?

Волечка быццам не чуе, але вочкі яе свецяцца захапленнем.

— Калі ласка, дайце нам гэтую ляльку, — звярнулася я да прадаўшчыцы.

Тая дастала каробку з гэтакай самай лялькай, але Волечка адкапыліла губкі і зусім нечакана сказала:

— Не трэба, я не хачу гэтую ляльку... — А потым зусім ціха: — Яна мне не падабаецца, — і паспешна адвяла вочы ўбок.

Я зусім разгубілася — лялька была цудоўная. Няўжо Волечцы не спадабалася?

— Цёця, а ў вас страшныя цацкі ёсць? — раптам звярнулася да прадаўшчыцы Волечка.

Тая паціснула плячыма і дастала з каробкі воўка. Ён сапраўды страшны: вочы гарацы, поўсць дыбам.

Волеччын твар неяк зморшчыўся, але тут жа на ім з'явілася ўсмешка.

— Купіце мне гэту цацку, я вельмі хачу, — нібыта пераконваючы сябе ў гэтым, прамовіла яна.

З магазіна мы ішлі моўчкі. Волечка ўжо больш не азіралася на прахожых, а глядзела сабе пад ногі. Твар у яе быў сумны.

— Няўжо табе не спадабалася лялька? — пацікавілася я.

Волечка падняла вочы:

— Спадабалася, вельмі спадабалася, але... але... мне вельмі шкада воўка, ён такі страшны, што яго ніхто не купляе, і яму, мабыць, вельмі сумна стаяць у магазіне...

Я ўспомніла аблезлую малпу, ільва і іншыя Волеччыныя цацкі і ўсё зразумела.

## Цэнтр цяжару

Я ішла па ваду. Звярнула ў завулак і нібы прырасла да зямлі: кроках у дваццаці ад мяне, над калодзежным зрубам — жоўтыя хлапечыя сандалеты. Яшчэ хвіліна... Я кінулася да хлопчыка і адцягнула яго ад чорнай прорвы калодзежа.

— Ты ж мог утапіцца?! — я яшчэ ўсё калацілася ад страху.

— Не мог, — упэўнена адказаў ён. Пасля задраў кашулю, і я ўбачыла крыху ніжэй пупка чырвоную рыску, адведзеную алоўкам. Перахапіўшы мой здзіўлены позірк, хлопчык растлумачыў:

— Цэнтр цяжару.

— І што там укінуў? — пацікавілася я.

— Васіль казаў, што там пацук плавае. Хлусіў, напэўна...

## Кемлівы

Маленькі Юзік дурэў з дзвярною засаўкай і зачыніўся ў кватэры. Маці не ведала, што і рабіць.

— Юзічак, сыночак, ручкай яе, ручкай, — пачала яна вучыць хлопчыка праз дзверы.

Той, пэўна, не разумеў, чаго ад яго хочуць, і заплакаў. Маці зусім разгубілася — хацела ўжо бегчы па слесара, але хлопчык вельмі моцна плакаў. Тады яна дастала з кішэні цукерку і прасунула яе ў шчыліну дзвярэй. Юзік прасунуў ручку і нечакана для самога сябе адчыніў дзверы.

## Памыўся

— Валерык! Божа мой, які ты брудны. Хуценька памыйся! — дакарала пяцігадовага сына маці.

— Я ўжо мыўся, мама.

— І як табе толькі не сорамна хлусіць?.. Нá вось люстэрка. На цябе ж глянуць страшна!

Валерык глянуў і нечакана заплакаў.

— Ды мыўся, мыўся я!.. Вунь нават ручнік яшчэ мокры!..

Маці ўзяла ручнік і ўсё зразумела: на чыстым белым ручніку, таксама як і на Валерыкавым твары, распаўзалася вялікая шэрая пляма.



# З СУЧАСНАЙ БАЛГАРСКАЙ ПАЭЗІІ



**дзімітр мятодзіеў**

## Рэкі

Пра вусце марачы, з малой крыніцы
пачатак рэкі буйныя бяруць.
Яны цякуць, каб дзесь у моры зліцца.
Але — асобна па зямлі цякуць.

Ім так і плыць, не ведаючы зморы,
каціць на хвалях радасць і бяду.
Але ўва мне зліліся, нібы у моры,
патокі рэк, з якіх я п'ю ваду.

Я п'ю ваду і з Волгі, п'ю і з Сены,
і з Жоўтае ракі я п'ю ваду.

Спрачаюцца ў маёй крыві усе яны,
як рэкі веку, праз які іду.

## Стрэхі

Хаціна дзедава была пакрыта
страхой з каменных пліт.
Я нават помню, што расла трава якаясьці
наверсе...

— А дзе ж, —
пытаю, —
дзедава старая хата?
І мне адказваюць, што развалілася
сама сабой.
— Вось, —
кажуць, —
наглядзі:
мы з пліт яе стрэхі зрабілі
арыгінальны вельмі тратуар!

...Так, пліты — тыя ж, я пазнаў адразу.
Але каб хата раптам развалілася
сама сабой...
не верыцца чамусьці!

Яна была для нас найлепшай хатай —
утульнай,
простай,
вельмі чалавечнай...



**любамір леўчаў**

Ды як і дзедаўскае светаразуменне,
яна той самы мела недахоп:
страха цяжэрная,
а — без фундамента!
Так што яна зусім не развалілася,
а непрыкметна ўехала ў зямлю.
Уехала да самае страхі.
І сёння я хаджу па плітах, нібы кошка.
І дымам з коміна — самшыт віецца...

А доле —
ў дзедавай той Атлантыдзе —
ўсё засталося так, як і калісьці.
У печы паліцца.
Боб крэкча ў сагане.
А тата —
малышок —
стуліўся ў прыпале ў бабулі.
— Заплюшчы вочкі й спі! —
яна ўнушае. —
Бо вурдалак вунь ходзіць па страсе!..

І напалоханы малы ўслухоўваецца.
Ага — чуваць!
(А гэта — мае крокі).
І верыць.
І дрыжыць.
І засынае...

А я ўсё тупаю па тратуары.
Надзвычай цяжка змайстраваць страху,
каб вытрымаў яе
фундамент часу.
Бо надбудова
(як сказаў бы Маркс)
раструшчыць базіс не павінна!
І нам — паэтам — трэба так тварыць,
так майстраваць, каб твор трывалы быў,
рэалістычны,
сонечны,
праўдзівы...
Бо мне здаецца часам,
што
і па маёй страсе ўжо нехта ходзіць
і за плячыма у яго,
як крылы,
маланкі вырастаюць.



**марка ганчаў**

## Вязы

Паміраюць вязы —
згінуць, можа, заўтра,
знікнуць назаўсёды,
нібы дыназаўры.
Напэўна, у паветры
ёсць нейкая трагічнасць,
няўлоўная яшчэ пакуль для іншых,
і толькі вязы
жоўтаю ліствой
трывожна моргаюць
між зелені густой.
Усё занятыя і неразважлівыя,
мы лічым,
што з усіх найбольш уражлівыя
і чулыя —
мімозы,
ружы,
бэз.
А памірае ўсё-такі вось гэты —
не ўбраны пышным цветам,
непрыкметны
і самы празаічны на ўвесь лес.
Вяз — як каманды бас.
Вяз — як жалезны лом.
Вяз — удар напралом.
Вяз
пакідае нас.
Яго кару,
як добрую руку ў маршчынах,
расстаючыся, я сціскаю шчыра.



**георгі канстанцінаў**

## Касмічная балада

Рантоўны чэрвень у гарах —
зялёнага супраціўлення месяц.
Вяршыня, скінуўшы пялёнку снегу,
пахучай зёлкай тхне.
Пад шапаценне сосен ашалела
да сонца прабіваецца трава.
Зрываецца ў паток,
як чорны камень —
цёмны цень арла.

А вестка да мяне прыйшла з зімы.
Журботна гладжу воблачка, што прыплыло
да ног,
і ўкленчваю на краі абрыва —
на зачарсцвелы дол, што паступова робіцца
гранітам, —
апошняе прыстанішча насення
і кропель дажджавых.
Вышэй — бяздушная сінеча спіць.

А вестка да мяне прыйшла з зімы:
бязмоўнымі вяртаюцца з палёту трое.
Цяпер іх сэрцы —
вогненныя метэоры.
Іх галасы патонулі ў касмічным моры —
за паўгадзіны нейкай ад жыцця,
за паўгадзіны нейкай ад зямлі.

Счарсцвелая зямля, я веру
ў тваё зялёнае супраціўленне!
Бо і ўва мне патокі грымяць і спеюць думкі,
я прагна п'ю паветра, ў якім і змрок і стронцый,
я весялюся й плачу.
Але ўранку
усмешкі трох мяне на подзвіг клічуць —
за паўгадзіны нейкай ад зямлі,
за паўгадзіны нейкае ад смерці.

Зямля, я веру ў тваё зялёнае супраціўленне!



**андрэй германаў**

## Паход крыжаносцаў

Палі
Стаптаныя.
Руіны-папялішчы.
Мурашнік разварушаны людскі.
Стальная саранча з вусамі-дзідамі.
І коні, як жалезныя жукі.
І рык трубы. І лязг.
У імя бога.
Наперад.
Ур-ра!
І ў гэты
міг маленькі лісток,
немаведама, дзе сарваны —
маленькі лісток асінавы,
з абрысамі трапяткога сэрца, апускаецца,
робячы плаўныя петлі,
і кладзецца ціха нічком
перад капытамі:
літасць!

Ур-ра!
Наперад!
У імя бога!
І рык трубы! І лязг!
І коні, як жалезныя жукі!
Стальная саранча з вусамі-дзідамі!
Мурашнік разварушаны людскі!
Руіны-папялішчы!
Стаптаныя
Палі!

Пераклаў Ніл ГІЛЕВІЧ.



● **Вадзім БОЙКА**

# СЛОВА ПАСЛЯ СМЕРЦІ

**Дакументальная аповесць**

● Мал. **В. Шрамякова.**

### АД АЎТАРА

**З дзесяткаў мільёнаў вязняў фашысцкіх турмаў і лагераў смерці выжылі нямногія. Адным з іх быў я. Мне пашчаслівілася застацца жывым пасля таго, як мяне расстралялі 28 чэрвеня 1943 года а першай гадзіне ночы ў падвале гестапаўскай турмы ў Кракаве. І вось я бяру слова пасля смерці...**

### І. БОЙТЭН

Прайшло трынаццаць месяцаў з таго дня, як мяне, шаснаццацігадовага юнака з украінскага мястэчка Сквіры, схапілі на вуліцы і гвалтам вывезлі ў Нямеччыну. За гэтыя трынаццаць месяцаў я шэсць разоў уцякаў, ды кожны раз спасцігала няўдача — мяне лавілі. Шэсць разоў лавілі, а не павесілі? Як гэта магло стацца? Справа ў тым, што на допытах я кожны раз паўтараў адну і тую ж версію: мяне везлі на работу ў Нямеччыну, па дарозе я адстаў ад эшалона. Следчы звычайна пытаўся: «Якім чынам? Хіба эшалон не ахоўваўся?» «Так, ахоўваўся,— адказваў я,— але мне вельмі хацелася піць, і калі на адной станцыі вартавы зазяваўся, я вылез з вагона і пабег шукаць вады. Не паспеў напіцца, як эшалон пайшоў, а я, баючыся кары, да ўлад не звяртаўся. Хадзіў, жабраваў, покуль не затрымалі».

Праўда, мяне ратавала яшчэ і тое, што з выгляду я быў зусім хлапчанё — маленькі, танклявы, худы, і я гаварыў, што мне ўсяго толькі чатырнаццаць гадоў, што я сірата, выхаванец дзіцячага дома, які немцы вырашылі вывезці...

Шосты раз мяне злавілі ў Сілезіі, паблізу ад горада Бойтэн, і пасадзілі ў турму. Сядзеў я ў турме два тыдні, а потым мяне раптам выгналі з камеры ў турэмны двор. Там ужо была пастроена калона рускіх вязняў. Пачалася працэдура перастраення і выраўноўвання радоў, мільгалі гумавыя палкі турэмшчыкаў, чуліся крыкі і стогны вязняў. Так трывала цэлую гадзіну. Нарэшце з'явілася турэмнае начальства і абвясціла нам рашэнне пракурора: усіх нас, як сабатажнікаў, якія не захацелі працаваць на «Вялікую Германію» і паставіліся да яе варожа, пасылаюць на цяжкія катаржныя работы ў шахты аж да «пераможнага заканчэння вайны»...

Пад моцным канвоем калону вывелі з турэмнага двара на вуліцу і пагналі праз увесь Бойтэн. Я ўважліва ўглядаўся ў твары цывільных прахожых, упэўнены, што беспамылкова пазнаю сярод немцаў паляка. Польшча ж была побач. У такіх прыкардонных мясцінах, думаў я, насельніцтва звычайна змешанае, і, відаць, у Бойтэне ёсць нямала палякаў, а сярод іх знойдуцца і такія, якія ненавідзяць гітлераўцаў і дапамогуць уцячы з фашысцкай няволі... Так, я недарэмна рызыкаваў, недарэмна ўцякаў столькі разоў! Я дабраўся ўжо амаль да Польшчы! Яшчэ адны ўцёкі — і я буду на волі, палякі мяне не выдадуць!..

Думаючы пра гэта, я ў той жа час прыглядаўся і да тых, хто крочыў побач са мною, у калоне. Звярнуў увагу на свайго суседа справа — чымсьці мне спадабаўся гэты вязень. Трэба будзе пастарацца трапіць з ім у адзін барак. Можа, ён згодзіцца ўцякаць разам...

Неўзабаве перад намі паўстала высокая цагляная вежа, на ёй, на самым версе, былі ўмацаваны вялікія гатычныя літары: «Гогенцолернгрубе».

— Што гэта значыць? — спытаў я ў суседа.

— Гогенцолерны — дынастыя германскіх багацеяў, якія на працягу доўгага часу панавалі ў Германіі гэтак жа, як у Расіі дынастыя Раманавых.

— Адкуль вам гэта вядома?

— Ды цікавіўся ў свой час гісторыяй...

На гэтым размова спынілася. Мы падышлі да масіўных металічных варотаў шахты, уся тэрыторыя якой была абнесена калючым дротам. Вароты адчыніліся, і мы ўвайшлі на тэрыторыю, наблізіліся да пяціпавярховага будынка канторы. Тут нас спынілі.

Проста перада мною вісела на сцяне вялікая дошка для загадаў. Уся яна была залеплена рознымі паперамі і паперкамі, а пасярод іх вылучалася абведзеная чорнай жалобнай рамачкай лістоўка-некралог з партрэтам маладога нямецкага афіцэра.

«Обер-лейтэнант Зігфрыд Гопе»,— прачытаў я. Ніжэй, пад партрэтам, была змешчана кароткая біяграфічная даведка, у якой пералічваліся баявыя ўзнагароды гэтага Гопе, а канчалася даведка паведамленнем аб тым, што ў маі 1943 года Зігфрыд Гопе загінуў у баі з партызанамі.

Пад гэтай лістоўкай-некралогам вісеў яшчэ адзін цікавы дакумент, з якога вынікала, што мясцовая арганізацыя нацыянал-сацыялісцкай партыі і адміністрацыя «Гогенцолернгрубе» выказваюць спачуванне свайму кіраўніку і обер-інжынеру шахты Паўлю Гопе ў сувязі з тым, што на ўсходнім фронце загінуў яго другі сын,— першага, відаць, знішчылі раней!..

Для мяне такія абвяшчэнні не былі ў навіну. На многіх заводах Нямеччыны я неаднойчы бачыў падобныя некралогі і спачуванні і радаваўся ім, бо яны былі сведчаннем таго, што наша Радзіма нішчыць фашысцкіх катаў.

Тым часам з адміністрацыйнага будынка выйшла начальства — некалькі чалавек на чале з нізенькім, кульгавым старым. Ён абапіраўся на кульбу, ручка якой уяўляла сабою металічны малаточак,— такімі малаточкамі чыгуначнікі выстукваюць буксы колаў.

Па жалобнай стужцы на рукаве ў старога, я здагадаўся, што гэта, відаць, «тата» Гопе, і не памыліўся.

— Ахтунг! — крыкнуў начальнік канвою і падбег да старога.— Гер обер-інжынер! Сто расійскіх вязняў дастаўлены ў ваша распараджэнне!

Обер-інжынер быццам і не бачыў начальніка канвою, пракульгаў уздоўж шарэнгаў, спыніў позірк на адным з вязняў, што стаяў у першым радзе, падышоў да яго і раптам ударыў некалькі разоў сваёй кульбай, ухапіўшы яе за другі канец. Малаточкам ударыў, ручкай... За што? Гэтага ніхто не разумеў...

— Гэтыя свінні не ўмеюць стаяць у страі,— прасіпеў стары.— Пасадзіць яго ў карцар на двое сутак без вады і ежы. А зараз усіх гэтых свіней — на разгрузку дрэва! Выгрузіць усе вагоны да васьмі вечара, раніцай — усіх у першую змену, у забой! Выконвайце!..

— Ну, кульгавая халера,— ціха сказаў нехта.— Павук...

Мянушка Кульгавы так і засталася за Гопе.

...Ноччу, пасля таго, як мы разгрузілі вагоны з крапежным рыштаваннем, я заняў сваё месца на нарах побач з тым вязнем, з якім пазнаёміўся па дарозе на шахты.

— Дзядзька, а як вас завуць?

— Заві Пятром, а прозвішча маё — Краўчук...

— Паслухайце, дзядзька Пётра,— шапнуў я.— А што, калі...

— Уцячы? — Ён адразу зразумеў, пра што я.

— Так...

— Пра гэта пакуль што і думаць забудзь,— сказаў ён ледзь чутна...

...Ад удару дубінкай я саскокваю з нар.

— Аўфштэен, ферфлюхтэс швайне! — Уставайце, праклятыя свінні!

Заводская варта выганяе паўсонных вязняў на паверку — апель.

Чатыры гадзіны раніцы, але ўжо гудуць манеўровыя паравозы, чуваць, як з бункераў шахты з грукатам перасыпаецца ў вагоны вугаль — шахта працуе круглыя суткі. Ненажэрная, яна чакае нас.

Брудныя прыбіральні, адзіны кран, каб так-сяк памыцца. Потым снеданне — баланда з бручкі. І — пераапранацца для шахты. Нам выдаюць рабочыя нумары, шахцёрскія каскі, карбідныя лямпы, лапаты, кайлы, брызентавыя робы, драўляныя гальцшугі на ногі. І роба, і гальцшугі мне вялікія, даводзіцца закасваць калошыны і рукавы. Калі мне і ўдасца выбрацца з тэрыторыі шахты, далёка мне не ўцячы ў такой «уніформе». А я толькі і думаю пра ўцёкі...

Нямецкія штэйгеры разбіваюць нас па брыгадах. Кожны з іх хоча ўзяць сабе самых рослых, самых дужых. Я ў нашай групе найменшы і ў сваёй робе з падвернутымі калошынамі і рукавамі, у касцы, якая на маёй галаве, нібы вядро якое, маю даволі камічны выгляд. Праходзіць дзесяць хвілін, пятнаццаць, усе мае таварышы спусціліся ўжо ў забой, а я ўсё стаю сярод грукату, крыку, званкоў, якімі суправаджаецца пад'ём і спуск шахтнай клеці, і ніхто не звяртае на мяне ўвагі. Каму я патрэбны, такі слабак?

Ды вось нарэшце падыходзяць два штэйгеры: адзін каржакаваты, тоўсты, другі даўжэзны, са шрамам на лбе.

— Нагель, бяры сабе гэты скарб! — гаворыць таўсты доўгаму і раптам з усяе моцы б'е мяне па плячы. Я падаю і, упаўшы, выпускаю з рук усе свае шахцёрскія прылады: грыміць лапата, кайла, лямпа і каска адлятаюць убок, спадаюць з ног гальцшугі. Тоўсты задаволена рагоча і гаворыць:

— От гэта работнік! Ён табе дасць падвоеную норму!

Нагель злосна глядзіць на мяне, чакае, покуль я падбяру прылады і ўздзену на галаву каску, і штурхае да расчыненай клеці.

Званок — і клець імкліва ляціць уніз. Праз роўныя прамежкі часу мільгаюць плямы электрычнага святла — гэта гарызонты шахты. Я налічыў іх чатыры, а на падыходзе да пятага клець запаволіла свой палёт уніз. Спынілася. Нагель падштурхнуў мяне да выхаду, і я ступіў на чыгунныя пліты гарызонту. Яркае электрычнае святло слепіць вочы; грукат, нібы ў кацельні. Пабліскваюць рэйкі, якія радыяльна разбягаюцца ў падземныя калідоры — штольні. Па іх коцяцца бясконцыя чародкі ваганетак з вугалем, парожнія ваганеткі, вагончыкі з крапежным дрэвам — ужо надышла пераменка, і ваганеткі з вугалем пачынаюць падымаць на-гара.

Нагель вядзе мяне па бясконцай штольні. Я спатыкаюся, гальцшугі спадаюць, і я нарэшце бяру іх у рукі, каб не вывіхнуць ногі на кавалках вугалю. А яшчэ даводзіцца несці цяжкі, амаль паўпудовы скураны партфель Нагеля, бо мне сказана, што я павінен заўсёды насіць ягоны партфель, прыслужваць свайму штэйгеру.

Нарэшце паказаўся забой праходкі штрэка. У ім, нібы светлячкі, паблісквалі шахцёрскія лямпы. У забоі рыхтавалі падрыў пароды: майстар-падрыўнік закладаў у яе патроны са ўзрывўчаткай і замазваў іх глінай. Ад патронаў цягнуліся рознакаляровыя драты. На адным плячы ў майстра вісела скрынка з дынамамашынкаю, на другім — скрынка з выбуховымі патронамі. І вось, разматваючы дрот, майстар падаўся з забою. За ім, без каманды, падаліся ўсе шахцёры.

Я заскочыў з імі ў бакавы штрэк.

— Ахтунг! — крыкнуў майстар, крутануў нешта ў дынамцы, і грымнуў страшэнны выбух.

— Я заклаў восем зарадаў,— сказаў падрыўнік Нагелю.— Гэта падвоеная норма. Хопіць ім на змену, а не — хай папрацуюць кайламі.— Ён паглядзеў на нас пагардліва.— Між іншым, Нагель, скажы сваім крэцінам, каб яны не кралі дрот.

Я тады не ведаў яшчэ, што з гэтага рознакаляровага дроту вязні рабілі розныя прыгожыя рэчы, плялі з яго кошыкі, якія прадавалі самім немцам, асабліва жонкам майстроў, за хлеб, маргарын і тытунь. І я ведаў яшчэ, што за пакражу дроту можна заплаціць жыццём.

Многіх парадкаў на шахце я не ведаў яшчэ і стаяў, не ведаючы, што мне рабіць, глытаў вугальны пыл, які ўзняўся пасля выбуху. Ды раптам штэйгер падскочыў да мяне, вырваў з рук лапату і кінуў яе на зямлю.

—Абувай свае гальцшугі, ідыёт!

Я абуўся. Нагель штурхнуў мяне ў спіну.

— Форвертс! — Наперад!

Я пабег за шахцёрамі. Яны ўжо адчапілі адну ваганетку з крапежнымі стойкамі, і мы гуртом пакацілі яе па забоі. Хутка рэйкі скончыліся, і далей стойкі трэба было цягаць на плячах. Шасцёра шахцёраў разбіліся на пары. Кожная пара, узяўшы на плечы стойку, цягнула яе некуды.

Да мяне падышоў высокі, з атлетычнай фігурай хлопец і, прыўзняўшы лямпу, ветліва ўсміхнуўся.

— Расеяц? — спытаў ён па-польску.

— Так.

— Па-польску разумееш?

— Крыху...

— Вось і добра. Бяры гэтае бервяно за канец, а я стану пасярэдзіне. Ты толькі рабі выгляд, што дапамагаеш мне, несці буду я. Для мяне гэтае бервяно нішто. Разумееш?

Я маўчаў, глядзеў у вясёлыя вочы паляка.

— Ну, узялі! — скамандаваў ён.

Нам з палякам трэба было перанесці бярвенняў за дваццаць. І за другой стойкаю мы ішлі не спяшаючыся, з цікаўнасцю разглядалі адзін аднаго. Паляку было гадоў дваццаць пяць, быў ён шыракаплечы, дужы, з прыемным адкрытым тварам, шэрыя яго вочы свяціліся з нечаканай у гэтым пекле гарэзнай усмешкаю.

— Як цябе завуць? — спытаў ён, падаючы мне флягу з вадою.

— Уладзімір,— адказаў я, яшчэ не давяраючы гэтаму хлопцу да канца.

— Па-польску, значыць, Уладак. Ну, а ты заві мяне Стасікам. Пазнаёміліся, дрогі товажышу?

Ён пацiснуў мне руку сваёй, шырачэзнай, бы лапата.

— Адкуль цябе прыгналі сюды?

— З турмы.

— Вядома, з турмы. Я пытаюся, скуль ты родам?

— З-пад Кіева.

— Выходзіць, савецкі?

— Савецкі!..

— За што сядзеў?

— За ўцёкі...

— Не пашанцавала?

— Як бачыш...

Ён памаўчаў, паклаў руку мне на плячо.

— Не журыся, хлопча. Са мной не прападзеш.

— Дзякуй, Стасю!.. Мне цяпер цяжка, зусім сіл няма... Скажы, якая тут норма?

— У сярэднім — дзевяць ваганетак на чалавека за змену. Але Гопе стараецца гэтую норму перакрыць. Ды і штэйгер у нас падлюка — зацяты нацыст.

— Нагель?

— Ён.

Я ўздыхнуў цяжка. Такая норма была для мяне непасільнай. Але Стасік сказаў зноў:

— Не падай духам, я дапамагу. А пакуль што ў мяне ідэя. Давай будзем вучыць адзін аднаго кожны сваёй мове. Ты мяне навучыш расійскай, а я цябе — польскай і нямецкай. Ну, як?

— Але ж калі?

— А ў час работы! І час будзе хутчэй бегчы.

Калі мы перанеслі ўсе стойкі, крапежнікі, закончыўшы сваю работу, пайшлі на другі ўчастак. Мы засталіся ўтрох — Стасік, я і Нагель.

— Трыццаць ваганетак — і ні грама менш! — катэгарычна заявіў Нагель, пагля-даючы на гадзіннік.— Бярыцеся за работу, бо і так ужо столькі часу страцілі!

— Сядай,— сказаў мне Стасік, не звяртаючы ўвагі на штэйгера.— Адпачні. Я за двух папрацую.

Мне і праўда неабходна было прысесці: у гальцшугі набілася вугалю. Але толькі я прысеў, як на мяне з лаянкай наляцеў Нагель, замахнуўся сваім кулаком-кувалдай. Ды Стасік стаў паміж мною і штэйгерам, спакойна сказаў:

— Не чапай.

— Што?! — зароў Нагель.— Сабатаж?

— Супакойся,— сказаў Стасік.— Інакш я цябе супакою!

Штэйгер аж завішчэў.

— За абразу пойдзеш у карцар! Я табе пакажу! Немцу пагражаць? Я далажу пану Гопе!..

— Не палохай, мы і так у турме. Лепш падумай, каго табе дадуць замест мяне? Дахадзяг, якіх ты будзеш выносіць з лавы на насілках! Гэта табе свеціць?

Нагель, што мяне здзівіла, адразу замоўк, адышоў убок, нават закурыў, што сурова забаранялася. А Стасік, быццам нічога не адбылося, весела падміргнуў мне.

— Не перажывай, малеча! Бяры на лапату як мага менш і не спяшайся.

Праз чатыры гадзіны Нагель дазволіў нам зрабіць перапынак, сеў сам, пачаў вымаць са свайго партфеля тэрмас, бутэрброды з маслам, сырам, каўбасамі, мармеладам. Стасік усміхнуўся, крануў мяне за плячо.

— Зараз і мы падсілкуемся, малеча! У мяне ёсць тое-сёе.

На свабодным ад вугалю месцейку мы селі на стасікаву спяцоўку, ён выняў са сваёй сумкі батон, пачку маргарыну, кавалак кілбасы, цыбуліну і соль. У яго быў і тэрмас, а ў ім гарачы чай.

— Еш, Уладак, не саромейся.

— Дзякуй... А што, Стасю, вам, палякам, даюць гэткі паёк?

— Чорта лысага нам даюць,— засмяяўся Стасік.— Самі дастаём.

— Як гэта?

— Даволі проста. Пасля змены я шэсць гадзін сплю, а потым іду на заробкі ў горад. Я трохі сталяр, трохі электрык, трохі сантэхнік. У мяне ў горадзе ёсць кліентура, а плацяць — прадуктамі. Так што з голаду мы с табою не памром.

Я толькі мог шчыра дзякаваць лёсу, што ён звёў мяне з такім чалавекам. Адно карцела: як уцячы? Пасля змены, на паверхні, нас чакала ўзброеная карабінамі варта. Канваіры праводзілі ў душ, потым у гардэробную, дзе мы апраналі свае лахманы, і далей — у лагер. За дзень нас пералічвалі разоў дзесяць, і я пераконваўся з болем, што ўцячы адсюль немагчыма. «Трэба, думаў я, пагаварыць пра ўцёкі са Стасікам — ён мае права выходзіць у горад...»

Неўзабаве я даведаўся пра Стасіка больш падрабязна. Прозвішча ягонае было Бжазоўскі, ён быў родам з Чанстахова. Яго прызвалі ў польскую армію незадоўга да





пачатку другой сусветнай вайны. Служыў ён у кавалерыі, куды бралі самых дужых і ста́ністых, быў выдатны рубака, ліхі коннік. Але калі немцы напалі на Польшчу, конная брыгада, у якой служыў Стасік, у першым жа баі была ўшчэнт разгромлена танкамі Гудэрыяна. Стасік нейкім чынам дабраўся да Варшавы і прымаў удзел у яе абароне як пехацінец. Потым, пасля акупацыі Варшавы — удзел у падпольнай патрыятычнай групе. Групу гэтую высачыла гестапа, амаль усіх яе ўдзельнікаў павесілі, а Стасіку ўдалося ўцячы — у роднае Чанстахова. Там ён трапіў у выпадковую аблаву, яго схапілі і адправілі ў Нямеччыну. У лагеры ён дастаў дакументы на чужое імя, уцёк і прабраўся ў Польшчу, зноў у Чанстахова. Там ён даведаўся, што яго маці расстралялі...

Амаль год ён бадзяўся па Польшчы, але чым займаўся — невядома, ён чамусьці не расказваў мне падрабязна пра гэты перыяд свайго жыцця. А ў пачатку 1943 года яго зноў схапілі і прывезлі ў Бойтэн. Так ён апынуўся на шахце «Гогенцолернгрубе», але ўсё ж меў у параўнанні з рускімі савецкімі вязнямі прывілеі, мог хадзіць у горад. Хадзіў і вяртаўся, але я не верыў, што Стасік паставіў крыж на сваёй неспакойнай долі...

З Нагелем ён вёў смелыя размовы, пасмейваўся з таго, што той сапраўды лічыць сябе прадстаўніком «вышэйшай расы», пасмейваўся нават з фюрара, не гаворачы ўжо пра Гопе.

— Навошта ты лезеш на ражон,— спытаў я аднойчы ў Стасіка,— навошта заводзіш з гэтым Нагелем такія небяспечныя размовы?

Стасік махнуў рукою.

— Я скора, малеча, падмажу пяты салам, толькі мяне і бачылі. Пляваў я на гэтага дурня Нагеля!

Я аж задыхнуўся, схапіў яго за руку.

— Ты хочаш уцячы?!

— А чаго ж мне тут сядзець? — усміхнуўся Стасік.— Папрацаваў — і досыць. Унь уся Польшча ў агні, там маё месца...

Сэрца ў мяне адарвалася, зрабілася крыўдна і балюча.

— А як жа я? Няўжо ты мяне пакінеш?

Ён задумаўся.

— Што ж мне рабіць з табою, малеча? З лагера мне цябе не выцягнуць... Ды хіба вось што!.. Пакіну я табе грошай, будзеш купляць у заходніх вязняў прадукты, як-небудзь перабудзеш...

— Эх, ты! — вырвалася ў мяне.— Хіба справа ў гэтым?

— А ў чым? — зірнуў ён мне ў вочы.

— Мы павінны ўцячы разам...

Стасік доўга маўчаў, потым сказаў вінавата крыху і задуменна:

— Прабач, Уладак!.. Я неяк пра гэта не падумаў... Сапраўды, у цябе ж ёсць вопыт уцёкаў... Ну, лічы, што дамовіліся!.. Толькі нікому ні слова!..

Размова гэтая адбывалася пасля чарговай змены. Стасіка з групай палякаў раней за мяне паднялі на-гара, а я доўга яшчэ чакаў сваёй чаргі. Калі ж апынуўся на паверхні, мяне здзівіла, што сёння тут вельмі многа веркшутцаў, узброенай шахтнай паліцыі. Іх было больш, чым заўсёды, удвая, а мо і ўтрая. Ясна, што на шахце нешта здарылася.

А здарылася тое, што спрабаваў уцячы... мой сусед па нарах, дзядзька Пятро Краўчук! Вязень нумар 1723... У гэты дзень яго забілі да смерці ў нас на вачах — гумавымі дубінкамі.

Увечары сталі вядомыя падрабязнасці няўдалых уцёкаў Краўчука. Пасля заканчэння другой змены ён з групаю немцаў паехаў у клеці на паверхню. Гэта быў вельмі рызыкоўны крок, бо вязням сурова забаранялася падымацца на-гара разам з немцамі. Дзяжурны па трэцім гарызонце, на якім працаваў Краўчук, адразу ж пазваніў начальніку шахты, а той узняў трывогу. Тэрыторыю шахты акружылі шуцманы, на прахадных пачалі асабліва пільна правяраць пропускі.

Краўчук, вядома, не сумняваўся, што яго схопяць альбо на кантрольна-прапускным пункце, альбо ў душавой. Таму, падняўшыся на паверхню, ён прабраўся да галерэі, па якой вугаль транспарціраваўся ў бункеры. Да гэтых бункераў паравоз падаваў вялікія пульманы, і калі б Краўчуку ўдалося разам з патокам вугалю апынуцца ў вагоне, у яго быў бы шанц пакінуць не толькі шахту, але і горад.

Але складанасць была ў тым, што было немагчыма прайсці незаўважаным ад клеці да бункера. У надшахтнай будове пастаянна знаходзіліся немцы. У галерэі, куды прабіраўся Краўчук, дзяжурыў майстар. Яго трэба было забіць, а цела недзе схаваць. Але калі б і гэта ўдалося ўцекачу, яго чакала яшчэ адно: бункеры размяшчаліся на вышыні колькіх метраў над вагонамі, і скокнуць з немалой вышыні на жалезную падлогу вагона, не задыхнуцца потым пад патокам вугалю — ці было гэта мажліва? Самагубства амаль што... Ды Краўчук выбраў такі шлях, і ў галерэі сустрэўся твар у твар з дзяжурным майстрам. У майстра быў у руках цяжкі гаечны ключ, Краўчук ішоў на яго з голымі рукамі...



Праз некалькі дзён пасля гэтага выпадку мы са Стасікам зноў размаўлялі на пятым гарызонце.

— Давай, Уладак, абмяркуем становішча. Ты ведаеш, што пасля выпадку з Краўчуком рэжым для савецкіх вязняў стаў яшчэ больш жорсткі. Таму трэба добра вывучыць абстаноўку.

Стасік расказаў, што перад пачаткам кожнай змены ён некалькі хвілін праводзіць каля стэнда, на якім вывешваюцца загады і распараджэнні. У гэты час там заўжды таўкуцца нямецкія шахцёры і штэйгеры, і з іхніх размоў можна даведацца пра некаторыя навіны. Самая непрыемная навіна для немцаў — гэта скасаванне выхаднога дня. Раней, нягледзячы на вайну, «добрыя» немцы аддавалі нядзелю сям'і і царкве, але зараз шахта хранічна не выконвала план, а фронт патрабаваў мабілізацыі ўсіх рэзерваў вытворчасці. І ў першую чаргу ён патрабаваў вугалю.

— Сярод немцаў,— гаварыў Стасік,— ідзе гаворка пра тое, што мінулай ноччу пан Гопе паехаў у Берлін па выкліку самога Гітлера. Відаць, фюрар будзе прасіць яго зрабіць захады для лепшай работы шахты. Вязням, зразумела, стане яшчэ горш. Ды справа не ў Гопе.— Стасік крыху памаўчаў і ўсміхнуўся.— Я, малеча, прыдумаў план, як нам уцячы. Складанасць вось у чым. Вы, савецкія вязні, усе стрыжаныя пад машынку. Нам, палякам, дазваляюць насіць прычоскі.

— Ну! — Я пакуль што нічога не разумеў.— Пры чым тут прычоскі?

— Ты слухай,— працягваў Стасік.— Мне трэба пахадзіць па горадзе і дастаць для цябе прыстойны цывільны касцюм і абутак. Нават гальштук трэба дастаць і капялюш. Усё гэта я здабуду і схаваю ў нашай польскай раздзявальні, у сваёй шафе. Я дастану табе і аўсвайс, такі самы, як і ў мясцовых палякаў. Адна небяспека: як табе прайсці з вашай душавой у нашую раздзявальню? Прайсці трэба якіх-небудзь дваццаць крокаў, але калі вартаўнік заўважыць тваю стрыжаную галаву — усё прапала! Вось тут табе і патрэбна прычоска. Таму я мушу дастаць табе парык! Зразумеў?

— Дзе ж ты яго возьмеш? — здзівіўся я.

— Куплю ў мясцовым тэатры,— засмяяўся Стасік.— А пакуль што давай я змераю тваю галоўку!

Ён дастаў з кішэні вяровачку і старанна абмераў маю галаву.

— Ты потым сам пераканаешся, што гэты няхітры маскарад нам абавязкова дапаможа. Ніводнаму немцу і ў галаву не прыйдзе, што вязні могуць такое прыдумаць! Яны ўпэўнены, што савецкія толькі і могуць, што кідацца на калючы дрот альбо, як Краўчук, з бункера ў пульман...

Усё гэта выглядала вельмі фантастычна, занадта было ў гэтым бутафорыі, і я сказаў Стасіку, што падумаю.

— Хлопец,— адказаў Стасік упэўнена,— часта бывае так: чым неверагодней, тым больш шанцуе. Ну, зразумела, я не магу даць поўнай гарантыі. Можа здарыцца і так, што ўсё фукне, як мыльны пухір. Рызыка ёсць рызыка!

— Рызыкі я не баюся!..

Ён задумаўся на хвіліну, потым сказаў:

— Мяне непакоіць, каб начальства ў сувязі з Краўчуком не памяняла парадкі на шахце. Я маю на ўвазе парадак уздыму на паверхню. Гопе можа абавязаць штэйгераў, каб яны падымаліся разам з падначаленымі ім вязнямі, каб яны прама каля клеці перадавалі іх канвою.

— Наўрад ці яны пойдуць на гэта,— заўважыў я.— У такім выпадку штэйгерам давядзецца марна траціць цэлую гадзіну, а то і дзве.

— Бадай што так,— пагадзіўся са мною Стасік.— Я таксама думаю, што ўсё ж не будуць яны мяняць парадак з-за адной няўдалай спробы вязня ўцячы... У наступны тыдзень мы будзем працаваць у другую змену, а вечар — найлепшы час для ўцёкаў. За ноч мы пройдзем ого колькі!

...Фон Гопе вярнуўся з Берліна. На шахце «гросфатэру» наладзілі ўрачыстую сустрэчу: грымелі фанфары, іграў духавы аркестр, гаварылі прамовы. Потым быў дадзены абед для вузкага кола асоб. І пасля гэтага зрабілася ціха. Але злавесна ціха. Вязні чакалі: што новае для іх прывёз з Берліна гэты крывасмок? Чакалі, якія ён абрушыць на іх новыя здзекі.

Чакаць давялося нядоўга. У першы ж дзень свайго вяртання «гросфатэр» правёў нараду з інжынернай «элітай», потым правёў сход мясцовай нацыянал-сацыялісцкай арганізацыі, потым — нараду з начальнікамі ўчасткаў. У другой палове дня ён асабіста абышоў усе асноўныя ўчасткі шахты, трох вязняў адправіў у карцар, двух жорстка збіў сваёй кульбай «за ляноту». Ён паяўляўся на шахце і ў другую, і ў трэцюю змену, здзівіўшы гэтым нават нашага штэйгера Нагеля.

— Майн гот! — разводзіў рукамі штэйгер.— Калі ж наш обер-інжынер спіць? Хоць бы ён не зазірнуў на наш участак, бо — майн гот! — адразу відаць, што працуем мы без запалу!..

— Цікава,— не ўтрымаўся Стасік,— адкуль можа быць запал у падняволеных, змучаных людзей, пан Нагель?

Той толькі спалохана замахаў рукамі.

Застаўшыся са Стасікам удвух, я выказаў сваю трывогу: ці не ўпусцілі мы найбольш спрыяльны час? На кантрольна-прапускным пункце больш сурова і пільна абшукваюць і правяраюць аўсвайсы.

— Але ж веркшутцы, як і раней, з'яўляюцца да шахтнага ствала за пятнаццаць хвілін да таго, як вязні падымуцца на паверхню,— супакоіў мяне Стасік.— Графік жа не памяняўся. Набярыся цярплівасці і чакай.

Лёгка сказаць: набярыся цярплівасці. Стала вядома, што ў наш лагер наляцела цэлая зграя гестапаўцаў. Яны фатаграфуюць вязняў у профіль і анфас, бяруць адбіткі пальцаў. І хоць гэтая працэдура не была мне ў навіну, бо мяне фатаграфавалі і бралі ў мяне адбіткі пальцаў разоў пяць, на гэты раз я баяўся, што гестапаўцы надумаюцца супастаўляць фотакарткі і адбіткі пальцаў. І тады высветліцца, што я ўцякаў ужо шэсць разоў. А гестапа нават другія ўцёкі разглядала, як цяжкое злачынства.

Я не на жарт расхваляваўся. Недзе ў гестапа, у розных гарадах, ляжаць мае справы, пад якімі стаіць выдуманае мною імя, кожны раз новае. Што, калі ўсе шэсць выдуманых імёнаў сыдуцца на адным — цяперашнім?

Стасік супакойваў мяне, як мог:

— Учора забралі трох вязняў, як уцекачоў-рэцыдывістаў, а цябе не чапаюць. Не хвалюйся, дружа. Касцюм і абутак ужо ў шафе, засталося дастаць парык і аўсвайс. Заўтра яны будуць, і тады — дай бог ногі! Наступную ноч мы будзем ужо на волі.

...Пакутліва прайшла ноч напярэдадні, а раніцой мы са Стасікам зноў сустрэліся на пятым гарызонце, адсталі крыху ад Нагеля, і Стасік сказаў усхвалявана:

— Усё гатова, Уладак! Ты як?

— Як вырашылі, так і зробім,— адказаў я, а ў самога здрыганулася сэрца.

— Значыць, сёння. Пасля змены,— ціха сказаў Стасік.— Трэба адрабіць яе старанна, каб Нагель не затрымаў нас ні на адну хвіліну. Падымемся з шахты з першай групай палякаў.

У забоі ўсе ўжо былі на месцы. Майстар-падрыўнік рыхтаваў выбух. Заклаўшы зарады, ён пачаў раскручваць шнур. Мы са Стасікам узяліся дапамагаць крапежнікам: прынеслі некалькі стаякоў, падагналі паражняк.

Нагель быў незадаволены крапежам штрэку. Ды і мы бачылі, што ён нікуды не варты, асабліва на астатнім адрэзку, які прайшлі перад намі дзве папярэднія змены. Над штрэкам навіслі вялізныя кавалкі пароды, там-сям яны патрэскаліся. Пад іхнім цяжарам паўгіналіся, скасабочыліся стаякі.

Нарэшце грымнуў выбух. Пасля яго вугалю было досыць, мы дружна кідалі яго ў ваганеткі. Працавалі засяроджана, моўчкі, як раптам ззаду пачуўся страшэнны грукат. Мы азірнуліся і збялелі: метраў за дваццаць ад нас абвалілася парода і замуравала выхад са штрэка. Мы былі ў каменнай пастцы.

— О, майн гот! — залямантаваў Нагель, схапіўся рукамі за галаву.

І тут раз'юшыўся Стасік, падбег да штэйгера, закрычаў проста яму ў твар:

— Замаўчы, ідыёт, бо, клянуся маткай боскай, я развалю табе чэрап! Дзе ты быў раней, гад? Чаму не загадаў, каб паставілі новы крапеж?

— О, пан Езус, свента Марыя! Хіба ж я вінен? — заскуголіў Нагель, і я і Стасік вылупілі на яго вочы: наш «арыец» енчыў на чыстай польскай мове!

— Што ж цяпер маем рабіць, пане штэйгер? — ужо больш міралюбна спытаў Стасік.

— Трэба, відаць, паглядзець, можа застаўся хоць невялічкі праход,— збянтэжана прамармытаў Нагель.

Мы падышлі да завалу. Агледзелі яго і пераканаліся, што сваімі сіламі нам адсюль не выбрацца...

Наш забой нагадваў сабою пячору шырынёю ў дзесяць метраў і метраў дваццаць у даўжыню пры вышыні столі тры метры. Паветра тут хопіць на адны суткі, не больш. А потым — смерць ад задухі...

Нагель быў у адчаі, мармытаў увесь час, як малітву:

— Нас адкапаюць... нас адкапаюць... нас адкапаюць...

— Не вешай носа, Уладак,— надаючы свайму голасу бадзёрасць, сказаў мне Стасік.— Гэты фашыст не дарэмна бубніць, што нас адкапаюць. Былі б мы тут без яго — капцы. А дзеля яго... Напэўна, будуць разбіраць завал.

Нагель сеў на кавалак пароды, пачаў усхліпваць, як дзіця.

— Даруйце, хлопцы!.. Я быў да вас несправядлівы...

І дзіўна: мне зрабілася шкада ненавіснага штэйгера. І Стасік, відаць, таксама яго пашкадаваў, сказаў прыхільна:

— Няма чаго кіснуць! Усё адно дзвюм смерцям не бываць, а адной не мінаваць. Давайце лепш падсілкуемся крыху. Ідзі да нас, Нагель, паямо, бо на галоднае пуза і паміраць цяжка.

Штэйгер страпянуўся, узяў свой партфель, падсеў да нас, пачаў вымаць з партфеля ежу.

— Ешце, хлопцы, усё самі ешце, вы маладыя...

— А ты хіба стары? — звярнуўся да яго Стасік.— Колькі табе?



— Сорак два...

— От бачыш, хіба ж гэта старасць? Жонка ў цябе ёсць, дзеці?

І тут Нагель зноў пачаў скуголіць, плакаць, усхліпваць.

— Жонка... маладая... прыгожая... Дачка... пяць гадкоў... кучаравенькая...

Так-сяк супакоіўшы Нагеля, мы ляглі спаць.

Прачнуўся я ўвесь змакрэлы ад поту. Балела галава, хацелася піць. У цемры свяціла карбідная лямпа, цьмяна, нібы свечка над нябожчыкам. Стасік не спаў, сядзеў побач, а Нагель узбуджана пахаджваў па забоі.

— Неяк дзіўна паводзіць сябе Нагель,— ціха сказаў Стасік.— Баюся, каб ён не зрабіў якога-небудзь глупства...

Ён памаўчаў, потым звярнуўся да штэйгера:

— Нагель, ты можа піць хочаш? Хадзі сюды, тут засталося ў тэрмасе крыху чаю.

— Піць? — здзіўлена спытаў Нагель і раптам зарагатаў.

— Хадзі сюды,— зноў паклікаў яго Стасік.— Выпі чаю ды сядай. А лепш — кладзіся. Трэба берагчы сілы, а не займацца шагістыкай. Нагель падышоў, паслухмяна сеў, але потым зноў ускочыў, стаў хадзіць узад-уперад па нашай пячоры. Так трывала гадзіны са дзве: я не спаў, глядзеў на Нагеля, як ён ходзіць, а Стасік заснуў. Прайшло яшчэ некалькі часу, Нагель усё хадзіў і хадзіў. Я не вытрываў, разбудзіў Стасіка.

— Нічога не чуваць? — спытаў ён і зірнуў на штэйгера.— А гэты ўсё ходзіць?

— Ходзіць... Мармыча нешта і ходзіць...

— Нагель! — гукнуў Стасік.— Колькі цяпер часу?

Але Нагель не адказаў на пытанне, хадзіў і хадзіў.

— Ну і чорт з табой,— сказаў Стасік.— Маўчыш — і маўчы сабе! Галава, халера, баліць, і піць хочацца...

У мяне ў самога вельмі балела галава і не адпускала смага, перад вачыма мроіліся нейкія відовішчы, дыхаць было ўсё цяжэй і цяжэй. Я ці то трызніў, ці то спаў...

Апрытомнеў я ад нейкага крыку, лямanту, незразумелай мітусні ў забоі. Навокал было цёмна, хоць вока выкалі. І з гэтай цемры пачуў я голас Стасіка:

— Уладку, дапамажы мне! Я тут трымаю Нагеля, ён звар'яцеў! Вазьмі ў кішэні маёй курткі запальнічку і пасвяці. Хутчэй!

Я ўскочыў на ногі, кінуўся на голас Стасіка, намацаў яго ў цемры, яго і Нагеля. Мы са Стасікам паваліі Нагеля, звязалі яму пасамі рукі і ногі. Ён роў, выкручваўся, рагатаў. Я вобмацкам знайшоў Стасікаву куртку, намацаў у кішэні запальнічку, запаліў яе.

— Пакуль яна гарыць,— хрыпла сказаў Стасік,— пашукай якога дроту, бо з пасаў ён можа выкруціцца.

Я знайшоў дрот, мы скруцілі ім рукі звар'яцеламу штэйгеру і прывязалі яго да стаяка...

Невядома, колькі прайшло часу, покуль да нашага слыху не данёсся стукат. Нас шукалі! Нас адкопвалі! Мы са Стасікам абняліся, сядзелі і плакалі ад радасці. Прайшло яшчэ колькі ці то хвілін, ці мо гадзін — і праз завал пароды нам прасунулі трубу, праз якую сталі падаваць кісларод. Мы надыхаліся самі, а потым падцягнулі да трубы непрытомнага Нагеля. Пакрысе ачуняў і ён, але мармытаў незразумелае...

Цяпер ужо чулася не пастукванне, а скрыгат і грукат, чуваць было, як недзе па-за завалам раскідаюць пароду. Нарэшце мы пачулі голас:

— Вы жывыя?

— Жывыя! Жывыя!

І вось у пячору ўварвалася святло, у пралом, зроблены ў пародзе, прасунулася галава санітара ў касцы.

— Параненыя ёсць? Каму патрэбна дапамога?

— Ды толькі нашаму штэйгеру... Ён... гэта...

Санітар пралез у забой, падбег да Нагеля, а той шалёна зароў:

— Хайльлітла! Хайльлітла!

І зарагатаў...

...Наверсе, памыўшыся ў душавой, мы даведаліся, што прасядзелі ў сваёй каменнай пастцы сорак шэсць гадзін. Вось табе і нашы ўцёкі...

...Увесь наступны дзень мяне трэсла, як у ліхаманцы. Уцякаць! Уцякаць! Уцякаць!.. Але цяпер гэта залежала ад многіх акалічнасцяў. А раптам Стасіка перавядуць у іншую змену? А раптам нашу брыгаду з тае прычыны, што здарылася з Нагелем, расфарміруюць і мяне пашлюць на іншы гарызонт, на іншую лаву?

На ранішнім апелі я стаяў ні жывы ні мёртвы, стаяў якраз сярод тых вязняў, хто меўся ісці ў першую змену. Але мой нумар не выклікалі, і я ўздыхнуў з палёгкаю. Аднак непакой не праходзіў: а што, калі Стасіка перавялі ў трэцюю змену? Можна было самому звар'яцець ад гэтых думак!

Пасля абеду на шахту паслалі другую змену, і на гэты раз мой нумар выклікалі. Цяпер толькі б са Стасікам пашанцавала! Але пакуль што я яго не бачыў... Штэйгеры

каля клеці пачалі ўжо разбіраць сваіх вязняў, і тут нехта моцна штурхнуў мяне ў плечы.

— Варушыся, санлівец, гультай, доннэр-вэтэр!

Я ледзь не ўскрыкнуў ад радасці! Стасік! Любы Стасік! Я апамятаўся толькі, калі клецъ ужо імкліва ляцела ўніз. Калі клець спынілася і з яе высыпалі шахцёры, пачалі разыходзіцца ў розныя бакі, мы адышлі крыху, спыніліся і абняліся. Ліхаманка біла мяне, ліхаманка радасці і разам з тым непакою.

— Супакойся, Уладак,— усхвалявана сказаў Стасік.— Супакойся, дружа! Бачыш, мы жывыя і зноў разам. Сёння Уладак, сёння! Цяпер нам нішто не перашкодзіць. Пайшлі, адробім астатнюю нашу праклятую змену. Між іншым, калі ў забоі будуць немцы — маўчы, што б я не гаварыў. Ані слоўца!..

Вось і наш штрэк. Яго расчысцілі ад завалу, паставілі новы крапеж. Папярэднія змены паглыбілі выпрацоўку гарызонту. У новым забоі мы засталіся з майстрам-падрыўніком і брыгадай крапежнікаў-немцаў.

— Хайль Гітлер! — гучна павітаўся з імі Стасік.— Немцы зірнулі на яго здзіўлена.

— З якой гэта пары палякі сталі шанаваць нашага фюрара? — усміхнуўся адзін з іх.

— Да вашага ведама, камрады,— весела адказаў Стасік,— ніякі я не паляк, а фолькс-дойч! Сёння атрымаў належныя дакументы.

— Ну, што ж, віншуем,— стрымана сказалі немцы.— Выходзіць, ты цяпер замест Нагеля?

— А як жа! Заўтра мне дадуць яшчэ некалькі расейцаў, і я ўзначалю брыгаду!

— Жадаем поспеху!..

Паставіўшы крапеж, немцы накіраваліся ў іншы забой, і мы са Стасікам прыняліся за працу. Ён быў вельмі ўзбуджаны, увесь час жартаваў, вочы блішчэлі.

— Уяўляеш, заўтра гэтыя асталопы прыйдуць сюды, а наваяўленага фолькс-дойча пана Станіслава Бжазоўскага і яго доблеснай брыгады, гэта значыць пана Уладка, і следу няма!.. Хацеў бы пабачыць іхнія рылы!

— А з цябе выйшаў бы нядрэнны артыст!

— Артыст? — Стасік пасур'ёзнеў.— Артыст — гэта пустая справа! Мы ім іншы тэатр пакажам: эшалончыкі пад адхон! Забіваць катаў! Да гэтага ты гатовы, Уладак?

— Я на ўсё гатовы, друг! Нават на смерць.

— А навошта нам думаць пра смерць? — засмяяўся ён.— Нам жыць трэба, ваяваць. Дзеля таго і ўцячом. Я набыў дзве фінкі, а гэта ўжо — зброя!..

За працай і гутаркаю прайшло некалькі гадзін. Стасік прапанаваў адпачыць, а заадно і пад'есці. Пад'есці, а пасля паспаць крыху, каб набрацца сіл на дарогу.

— Ты першы паспі,— сказаў ён,— а я пасяджу, папільную.

Але астатнія дні, асабліва абвал, так змучылі нас абодвух, што і Стасік заснуў побач са мною. Я гэтага не ведаў, праваліўся ў сон. Прачнуўся я ад удару па спіне. Ускочыў на ногі і ўбачыў яркае святло акумулятарнай лямпы. І ўбачыў у гэтым святле перакошаную ад лютасці пысу обер-інжынера Гопе!..

«Што мы нарабілі! — мільганула ў галаве.— Сон у час працы — сабатаж! Цяпер нас чакае карцар, а то і катаванні ў гестапа!.. Усё зноў рушыцца! Цяпер мяне напэўна разлучаць са Стасікам!..»

Гопе біў мяне моўчкі, толькі хроп ад лютасці, і раптам кінуўся да паляка, пачаў і яго, соннага, лупцаваць кульбай. Стасік падхапіўся, рушыў на обер-інжынера, вялізны, грозны. Гопе спалохана адступіў на некалькі крокаў, кінуў кульбу, хутка сунуў руку ў кішэню.

— Сцеражыся! — крыкнуў я Стасіку, і ў гэты момант у руцэ Кульгавага бліснуў пісталет.

Ды Гопе спазніўся. У адно імгненне Стасік схапіў кайла і абрушыў яго на галаву обер-інжынера. Той выпусціў з рук лямпу і пісталет, не войкнуўшы, паваліўся на вугаль, проста мне пад ногі. Я глядзеў на яго цела, усёй істотай адчуваючы, што цяпер — канец усяму. Цяпер нас чакае адно — шыбеніца. Жах паралізаваў мяне. Нерухома стаяў і Стасік. Але вось ён нагнуўся, падняў пісталет, нейкім звычайным, будзённым рухам выняў з яго абойму, пералічыў патроны і з усмешкай уставіў яе на месца, сунуў пісталет у кішэню.

— Ну, што ж,— сказаў,— хоць крыху і не па плане, а пачатак пакладзены. Адным гадам менш...

Ён прымусіў варушыцца і мяне. Мы абшукалі кішэні ў Кульгавага, потым знялі з яго пінжак, абкруцілі ім галаву обер-інжынера, каб з яе не капала кроў і не выдавала след, засунулі пану Гопе пад рамень ягоную кульбу і панеслі цела ў старую затопленую штольню — там яго не хутка знойдуць, а можа, і не знойдуць наогул...

Вярнуліся ў свой забой, і Стасік сказаў спакойна:

— Ну, вось, пагулялі з самою смерцю, а цяпер трэба як след папрацаваць. Калі прыйдзе наступная змена, трэба, каб у нас быў поўны парадак.

Яшчэ ніколі мы не працавалі так заўзята. Але трэба было не шкадаваць сіл, трэба было спяшацца, каб да канца змены адправіць хоць бы з дзесятак ваганетак.



Калі мы адправілі сваю першую ваганетку і перад выхадам штрэка на цэнтральную магістраль прычаплялі яе да чародкі іншых, Стасік пасціраў напісаныя крэйдай на чужых ваганетках нумары і напісаў на іх лічбу «43» — нумар нашай брыгады. Учотчык, які стаіць каля ствала, запісвае ў свой табель нумары ўсіх ваганетак з вугалем і такім чынам вядзе ўлік выканання нормы кожнай брыгадаю...

Да канца змены мы адправілі сем сваіх ваганетак і прыпісалі сабе адзінаццаць чужых. І калі прыйшла змена, сабралі свае прылады, рушылі да ствала. Штэйгер, які прыбыў з новай зменай, спытаў:

— Колькі далі?

— Васемнаццаць,— адказаў Стасік.

— А чаму гэта ў забоі аказалася столькі вугалю?

— Бурыльшчыкі пастараліся. Думалі, мы будзем утрох, а мы ўдвух. Як бачыце, справіліся.

— Ну, добра, ідзіце.

— Ёсць! — бадзёра выгукнуў Стасік, і мы з палёгкаю, здаўшы ў багажню свае інструменты і лямпы, накіраваліся да клеці.

Праз хвіліну мы былі на паверхні. Ні веркшутцаў, ні салдатаў яшчэ не было. Яны прыйдуць сюды за пятнаццаць хвілін да выезду з шахты вязняў і ваеннапалонных, але ў мяне ўсё калацілася ў сярэдзіне: варта якому-небудзь веркшутцу заўважыць нас — і ўсё сарвецца!..

— Спакойна,— сказаў мне Стасік.— Спакойна...

Мы сышлі з эстакады і апынуліся ў двары шахты, па якім нас, вязняў, вадзілі толькі пад канвоем... Насоўваліся прыцемкі. Моцна прыпарвала. Неба было ў чорных цяжкіх хмарах. Збіралася навальніца...

Мы падышлі да вялікага цаглянага будынка, у якім размяшчаліся раздзявальні і душавыя. І сапраўднае хваляванне пачалося ў той момант, калі мы пераступілі парог гэтага будынка: менавіта тут вырашыцца лёс нашых уцёкаў!..

Мы зайшлі ў раздзявальню польскіх рабочых. Яна займала палавіну вялізнай залы, перагароджанай ад столі да падлогі металічнай сеткай, за якой пераапраналіся немцы. Стасік адчыніў сваю шафу, павярнуўся спіною да сеткі, выняў пісталет і пераклаў яго ў свой новы касцюм, які вісеў у шафе.

— Распранайся, але не мітусіся, спакойна. Не азірайся на немцаў,— сказаў мне Стасік.— Ні ў якім разе не азірайся!..

Я пачаў распранацца. Здавалася, што з-за сеткі за кожным маім рухам сочаць немцы. Калі хто-небудзь з іх заўважыць ува мне нешта падазронае, ён тут жа падыдзе да тэлефона — і нам канцы!.. А само нашае са Стасікам паяўленне тут павінна здавацца падазроным: чаму мы ўвайшлі ў раздзявальню без канвою?..

Распрануўшыся, мы схавалі свае чорныя робы ў ніжняе аддзяленне шафы, узялі мыла, мачалку і пайшлі ў душавую. Стасік шчыльна зачыніў за сабою дзверы, разгарнуў мачалку і паказаў мне парык, які быў у ёй схаваны.

— Цяпер нам трэба чакаць прыходу польскіх рабочых. Ваду пускаць нельга, покуль яны не прыйдуць. Цяпер у калідоры ўжо могуць быць веркшутцы, калі яны пачуюць, што нехта мыецца не ў час, абавязкова зойдуць паглядзець. Стой і чакай!..

Пацягнуліся хвіліны напружанага чакання. Сэрца ў мяне тахкала так, што, здавалася, на ўвесь будынак чуваць, як яно тахкае. Ды вось у калідоры пачуўся шум і галасы. Гэта, відаць, прыйшлі веркшутцы і нямецкая варта... Яшчэ некалькі марудных, бясконцых хвілін сплыло, і раптам адчыніліся дзверы — у душавую павалілі чорныя, як чэрці, голыя польскія шахцёры.

Пусцілі ваду, усё наўкола напоўнілася парай. Мы са Стасікам памыліся раней за ўсіх, але выходзіць не спяшаліся. Толькі пасля таго, калі з душавой пайшоў астатні польскі шахцёр, Стасік спрытна нацягнуў мне на галаву парык і штурхнуў пад душ, каб я намачыў свае новыя валасы. Потым, абняўшы мяне за плечы і насвістваючы нейкі нямецкі матыўчык, ён правёў мяне міма веркшутцаў у раздзявальню, і мы хуценька апрануліся там. Цяпер на мне быў новы касцюм, нават гальштук і капялюш.

Разам з палякамі мы выйшлі на двор.

Навальніца пачыналася ўжо. Бліскалі маланкі, грымелі перуны, віхор круціў чорны вугальны пыл. Натоўп палякаў рушыў да прахадной. Людзі спяшаліся, каб да пачатку лівня дабрацца да сваіх баракаў. Мы не адставалі ад іх ні на крок, маўчалі. Пакуль што нам шанцавала, але наперадзе — кантрольна-прапускны пункт... Там праверка аўсвайсаў.

— Стой! — крыху прыпыніў мяне Стасік.— Пойдзеш наперадзе, каля вартавога як мага больш раўнадушна пакажаш яму аўсвайс, не спыняючы хады. Калі ён паспрабуе затрымаць цябе — я страляю!.. Тады ўцякай за вароты, і адразу за імі — направа, вуліцаю. Я цябе даганю. Усё. Ідзі.

Чарга перад прахадной хутка прасоўвалася наперад. Злева і справа ад варот стаялі ўзброеныя карабінамі веркшутцы, якія правяралі аўсвайсы.

Калі я ўжо зусім наблізіўся да варот, палыхнула маланка, пярун ударыў недзе зусім блізка, і на твар упалі першыя пырскі дажджу. Яшчэ якая хвіліна, і дождж пры-

пусціў па-сапраўднаму. Веркшутцы перасталі пільна ўглядацца ў фотакарткі на аўсвайсах.

— Вайтэр! Вайтэр! — Хутчэй! Хутчэй! — пакрыквалі яны, і вось, параўняўшыся з веркшутцам, я прыўзняў над галавой свой аўсвайс — аўсвайс на чужое імя, з чужой фотакарткай.

— Шнэль! — сказаў вартаўнік.— Праходзь!..

Павольна, стрымліваючы сябе, каб адразу не кінуцца бегчы, я выйшаў за вароты, а следам за мною Стасік.

— Спакойна! — Ён сціснуў маю руку.— Зараз мы выйдзем на галоўную магістраль Бойтэн — Катавіцы. Дойдзем да ўсходняй ускраіны, а там — завулачкамі — выберамся з горада. Да світання мы павінны быць на тэрыторыі Польшчы.

Польскія шахцёры, якія выйшлі з намі, павярнулі налева, пакрочылі на заходнюю ўскраіну Бойтэна, дзе знаходзіліся іхнія баракі, а мы са Стасікам павярнулі на Катавіцкую шашу і зніклі ў цемры навальнічнай ночы...

...Стасік добра ведаў горад, усе яго глухія завулкі. Мы прайшлі з кіламетр, нікога не сустрэўшы. Цемра ахутвала Бойтэн, толькі бліскавіцы мільгалі час ад часу.

— Зараз будзе мост. Ад яго да Катавіц пятнаццаць кіламетраў,— сказаў Стасік.— За мостам пачынаюцца дачныя ваколіцы. Там цяпер ні душы. Так што ўсё добра.

Дайшлі да моста. У цемры я не бачыў, што пад ім — рэчка, канава ці балота. Мы прайшлі па мосце метраў сто і раптам пачулі наперадзе цяжкія крокі. Патруль!..

Мы застылі на месцы. І тут з цемры вырваўся прамень моцнага ліхтара, спыніўся на нас, абмацаў.

— За мной! — загадаў Стасік, і мы рушылі насустрач патрулю. Уцякаць было дарэмна — прамень ліхтара не адпускаў нас ні на імгненне. Да нас наблізіліся два патрульныя ў даўгіх плашч-палатках, з аўтаматамі на грудзях. На галовах у іх былі каскі з двума брылькамі — спераду і ззаду. Такія каскі добра ведалі ўсе вязні. Іх насілі гестапаўскія патрулі і палявая жандармерыя. Вязні-ўцекачы называлі такія каскі «Прывітанне і бывай». Брылёк спераду — прывітанне, гестапа!.. Брылёк ззаду — бывай, жыццё!..

Каманда «хальт!» прагучэла, як стрэл у твар. А затым: «Аўсвайс!»





— Калі ласка,— спакойна сказаў па-нямецку Стасік.— Дакументы ў нас у поўным парадку.

Ён нетаропка палез у кішэню і раптам адскочыў на крок. І ў той жа момант грымнулі два пісталетныя стрэлы. Абодва патрульныя, як мяхі, аселі на зямлю, бразнула аб брук іхняя зброя.

— Не адставай! — крыкнуў Стасік і кінуўся наперад. У тую ж хвіліну злева ад нас бабахнулі з карабінаў. Спатыкнуўшыся, я ўляцеў у поўны вады роў, выбраўся з яго і пабег за Стасікам, які крута павярнуў у правы ад дарогі бок. Я не бачыў Стасіка ў цемры, чуў толькі, як пляскаюць па лужынах ягоныя чаравікі. Але праз якую хвіліну я не чуў ужо і гэтага хлюпання. Стрэлы сціхлі, але рэзка свісталі паліцэйскія свісткі, у розных напрамках адразу.

Бліскавіца ўспыхнула ў небе, і я ўбачыў перад сабою роўныя парканы, а за імі — сады. Разгубіўся канчаткова: «Дзе Стасік?» І тут пачуў яго слабы голас, зусім не ў тым баку, адкуль мог чакаць: «Уладак!» Услед за гэтым шалёны крык «хальт!», два пісталетныя стрэлы. Потым затрашчаў паркан, затупалі чыесьці крокі. Я пабег наўздагад, наляцеў на нейкую агароджу, пералез праз яе, але за ёю была яшчэ адна. І яшчэ. І яшчэ. Далёка наперадзе я чую, як бяжыць Стасік. Нарэшце ўсё сціхла. Мяне ахапіў адчай. Куды падацца? У які бок? Прайшло не менш гадзіны, пакуль я выбіраўся з лабі-

рынта дачных сядзібак з іхнімі парканамі, садочкамі, акуратнымі клумбамі. Выбраўся ледзь жывы, прыхіліўся да нейкага дрэва за дарогай, і цяпер дачны пасёлак быў насупраць.

У некаторых катэджах жылі. Страляніна пабудзіла людзей, дзе-нідзе ў вокнах загарэлася святло, чуліся галасы, людзі пыталіся: што здарылася?

Трэба было ўцякаць адсюль, пакуль не позна. Вунь ужо аўчаркі загаўкалі!.. І я пачаў блукаць вакол, абыходзіць пасёлак. Выбраўся на вольны прастор і... убачыў перад сабою тэрыконы і шахтныя будовы! Так, замест таго, каб бегчы на ўсход, я блукаў у цемры і выйшаў да таго месца, адкуль уцёк... Кола замкнулася...

Аднак, прыгледзеўшыся, я заўважыў, што выйшаў да нейкай іншай шахты, гэта была не «Гогенцолернгрубе». Але я, аказалася, знаходзіўся ў шахтным двары гэтай не вядомай мне шахты. І зноў мяне ахапіў адчай: куды падацца? дзе выйсце?

У баку ад мяне цягнулася цагляная сцяна, і я, не думаючы ўжо, што раблю, куды іду, наблізіўся да гэтай сцяны, пайшоў уздоўж яе, мацаючы рукамі халодную мокрую цэглу. Раптам пад рукой аказалася металічная скаба. Вышэй яе — яшчэ адна. А за сцяной пачуўся гудок паравозіка.

Думкі адразу зрабіліся яснымі, сэрца страпянулася. Гэтая сцяна — эстакада. Каля яе, з таго боку, манеўруе паравоз, падае вагоны. Відаць, фарміруюць састаў з вугалем.

Так! Па металічных скабах я ўзабраўся на эстакаду і праз якіх дзесяць хвілін быў ужо ў адным з парожніх пульманаў. Я не памыліўся! І падумаў, што не было б шчасця, ды няшчасце памагло: мажліва, гэты эшалон пойдзе на ўсход!.. Цяпер толькі ўхітрыцца, каб не засыпала вугалем, калі пульман пададуць пад бункер і ў яго хлыне маса антрацыту...

Я забіўся у самы куточак пульмана, ледзь не ўціснуўся у гладкую металічную сценку, прыкрыў рукамі галаву. І вось страшэнна загрукатаў вугаль — з бункера ў пульман хлынула суцэльная лава. Цяпер мяне сапраўды ўціскала ў сценку вагона, плюшчыла маё цела, але я ўсё ж умудрыўся, не захлынуўся вугалем. Мяне засыпала па горла, але галава тырчэла. Можна было дыхаць, можна было жыць, хоць вострыя кавалкі антрацыту ўпіваліся ў ногі, у рукі, у грудзі.

Пасля доўгіх манеўраў паравоз завёз гружаныя пульманы на таварную станцыю, дзе іх загналі ў тупік і адчапілі ад паравоза. Там яны прастаялі хіба з паўсутак...

Як я перанёс гэты час? У жудасным паўсне, у страшэннай пакуце. І боль грыз маё цела, і смага агнём пякла ў роце, а глытаць даводзілася толькі сухі і калючы вугальны пыл... Нарэшце, цяжка чмыхаючы, паравоз пацягнуў чараду пульманаў са станцыі Бойтэн, пачаў набіраць хуткасць. Я вылез з-пад вугалю, пачаў арыентавацца, у якім напрамку ідзе эшалон. А ішоў ён насустрач сонцу, на ўсход! Туды, дзе нараджаўся світанак!.. І хоць холадна было пад ветрам, на халодным антрацыце, пад адкрытым небам, бо ў гэтых вагонах няма ж столі, мне не хацелася зноў закопвацца ў вугаль. Я еду насустрач сонцу, на ўсход, на волю!.. Дзякуй табе, Стасю!.. Дзе ты?.. Ці пашанцавала табе гэтак жа, як мне?

Але радасць мая была заўчаснай. Выгнуўшыся гадзюкаю, эшалон пачаў мяняць напрамак. Сонца перамясцілася ўправа, а потым апынулася ззаду. Ён ішоў на захад, гэты пракляты эшалон!.. На захад, а не на ўсход! Што рабіць? Адзінае выйсце — саскочыць на хаду... Як гэта зрабіць пры вялікай хуткасці эшалона, мяне навучыў яшчэ ў першыя месяцы мае няволі адзін савецкі ваеннапалонны. У яго быў вопыт такіх уцёкаў з эшалона. Ён вучыў, што саскокваць трэба ў той момант, калі эшалон ідзе па высокім насыпе, у палёце неабходна сціснуцца ў клубочак, рукі прыціснуць да грудзей, ногі сагнуць у каленях да жывата, галаву уцягнуць у плечы. Тады ў міг прызямлення ты пакоцішся, як мячык, і не зломіш ні рук, ні ног.

Дачакаўшыся моманту, калі эшалон узышоў на высокі насып з крутымі схіламі, я ўзлез на борт пульмана — і скочыў. Скочыў так, як мяне вучыў той палонны. Але ўдарыўся вобзем балюча. Свет перавярнуўся ў вачах, аднак калі я расплюшчыў іх — нада мною было чыстае, нібы памытае, сіняе неба. Бяздонны блакіт. І палявая рамонка дакраналася да мае шчакі. І звінеў жаваранак. І цішыня была вакол — мірная, чароўная цішыня. Я быў на волі!..

Прайшоўшы кіламетры са два лугам, я натрапіў на рэчку. Лёг на беражку і піў бясконца. Адарвуся, аддыхаюся — і зноў п'ю. Сілы вярталіся да мяне, сілы і надзея, што ўсё будзе добра. Толькі думкі пра Стасіка не давалі спакою...

Адпачыўшы, я рашыў памыцца і прывесці ў парадак сваё адзенне. Капялюш і парык я згубіў, калі матаўся па дачным пасёлку, пераскокваў праз парканы. Але ліха з імі. Вось фінкі шкада — яе я таксама згубіў. Перш за ўсё трэба знішчыць прыкметы майго знаходжання на шахце «Гогенцолернгруба». Я разарваў на шматкі і кінуў у рэчку аўсвайс, адарваў ад пінжака апазнавальны знак з літараю «Р» — Палоніш, Польшча. Пасля гэтага распрануўся, старанна памыў усё адзенне, разаслаў яго ў кустах на сонцы і пачаў купацца сам. Купаўся доўга, але пракляты вугаль так уеўся ў цела, што я не змог яго адмыць да канца нават шматком грубай травы.

Покуль сохла маё адзенне, я ляжаў голы і жаваў горкія карэнчыкі, траву, каб як хоць-небудзь суцішыць голад. Млява плылі думкі — усе пра тое ж: як будзе далей? Як?..



...Прайшло чацвёра сутак. Чацвёртыя суткі запар я прабіраўся на ўсход. Удзень адпачываў у якім-небудзь хмызняку, а ўначы ішоў. Еў тое, што знаходзіў на полі: радыску, моркву, маладзенькую, дробную, як гарох, сырую бульбу, зялёныя каласкі збажыны. Стома і голад валілі мяне з ног, але я прымушаў сябе ісці. Даводзілася рабіць вялікага кругаля, калі па дарозе сустракаліся гарадкі і сёлы, даводзілася іншы раз пятляць, як зайцу, каб унікнуць сустрэчы з людзьмі,— бо воля мая і так вісела на валаску.

На пяты дзень пасля ўцёкаў я ляжаў у кустах каля невялічкага хутарка. Усе думкі круціліся вакол аднаго: як бы разжыцца хоць кавалачак хлеба? Сырая гародніна і жытнія каласкі не наталялі голад, і есці хацелася страшэнна. Галава кружылася, перад вачыма плылі жоўтыя плямы, слабасць разлівалася па ўсім целе. Я не вытрываў, нарэшце, вырашыў паспытаць шчасця на хутары і пачаў падкрадвацца да яго. За каменнай агароджаю быў сад, за дрэвамі якога віднеліся двухпавярховы будынак, накрыты чарапіцаю, і некалькі гаспадарчых будоў. Высокім зялёным жытам я прабраўся да агароджы, праслізнуў у фортку і схаваўся ў кустах бэзу, што рос недалёка ад кароўніка. Адсюль я пачаў назіраць за тым, што дзеецца на сядзібе. Хутка я ўбачыў дзвюх бялявых дзяўчат у блакітных рабочых камбінезонах. Дзяўчаты ўзяліся падмятаць шырокі брукаваны двор. Працуючы, дзяўчаты гаварылі паміж сабою, і я пачуў, што гавораць яны па-польску.

Вось з будынку выйшаў пажылы, даволі пузаты чалавек у зялёным капелюшы з чырвоным пяром. Рукавы кароткай кашулі былі закасаныя да локцяў, твар у яго быў загарэлы. Паверх кашулі на ім была чорная камізэлька. Адразу відаць — гаспадар. Ён дастаў з кішэнькі камізэлькі гадзіннік, зірнуў на яго, потым на сонца, якое ўжо было нізенька, сказаў штосьці дзяўчатам і пайшоў у будынак.

Адна з работніц паставіла каля сцяны кароўніка мятлу і недзе знікла. Праз якіх паўгадзіны вярнулася, паганяючы перад сабою цэлы статак — восем — кароў чырвонай масці. Ляніва рыкаючы, каровы пайшлі ў хлеў. Адна з дзяўчат прынесла белае эмаліраванае вядро, прыкрытае марляй, другая з'явілася з даёнкай і невялічкім зэдлікам. Трэцяя прывалакла два вялізныя бітоны і паставіла іх каля ўваходу ў кароўнік.

Надыходзілі прыцемкі, а я ўсё сядзеў у кустах бэзу і назіраў.

Вось з кароўніка выйшла адна з бялявых дзяўчат, трымаючы ў руцэ поўнае вядро малака, памкнулася было пераліваць яго ў бідон. І тут я гукнуў дзяўчыну. Ад нечаканасці дзяўчына ледзь не ўпусціла вядро, паставіла яго, хуценька азірнулася вакол і падбегла да майго сховішча.

Блытаючы словы, адно польскае, другое рускае, я загаварыў ціха:

— Дзяўчына, я расеец... уцякаю з Нямеччыны... з палону... Некалькі дзён нічога не еў... дзеля пана Езуса... прашу вас, не выдавайце мяне... Калі можаце, дайце хоць кавалак хлеба... Бо сіл маіх ужо няма...

— О, Езус-Марыя! — спалохана сказала дзяўчына.— Баюся!..

— Любая, не бойся... Калі не можаш даць хлеба, я пайду... Толькі не выдай мяне...

Яна памаўчала, зноў хуценька азірнулася наўкола.

— Пачакайце,— сказала шэптам і пайшла.

Яе не было доўга. Я не ведаў, як быць: ці то падавацца адсюль хутчэй, ці то чакаць. Голад перамог, і я вырашыў чакаць. Ужо зусім былі прыцемкі, узышоў поўны месяц, застракаталі конікі. І вось я ўбачыў у прыцемках дзве дзявочыя постаці.

Дзяўчаты наблізіліся да мяне, адна несла маленькае вядзерца, у другой быў у руцэ нейкі пакунак. З пакункам была тая дзяўчына, якую я адважыўся гукнуць.

— Вось тут паесці вам,— сказала яна.— І малака прынеслі. Піце ўсё.

Я прагна піў малако, а яны дзівіліся на мяне, нібы я прыйшоў з таго свету, і нарэшце тая, што аддала мне пакунак, сказала:

— Цяпер ідзі, рускі. Кшыся цябе праводзіць, бо тут заставацца небяспечна.

Малако, якое я не дапіў, Кшыся пераліла ў пукатую пляжку, аддала яе мне, і мы ціхутка пайшлі са двара. Выйшлі на сцяжынку і пайшлі полем.

Дзяўчыну цікавіла, адкуль я іду, што за жыццё ў Нямеччыне і ці хутка скончыцца вайна. Я коратка расказаў пра самае страшнае ў Нямеччыне — пра лагеры, шахты, пра турмы. Яна ў сваю чаргу сказала мне, што гэты хутар належаў калісьці багатаму паляку, але цяпер тут гаспадар немец, а яна і яе сяброўкі ў яго батрачкі. Пад прымусам, вядома.

Мясцовасць яна ведала кепска, але параіла ісці больш у бок поўначы, каб абмінуць вялікія гарады Сілезіі. Да Кракава, паводле яе слоў, было адсюль кіламетраў з восемдзесят.

— У Польшчы не прападзеш,— сказала яна.— Палякі дапамогуць. Толькі не нарвіся на гестапа... Нех пан буг броні — няхай уратуе бог!..

Мы развіталіся ў полі, пад святлом поўнага месяца, і дзяўчына па-сястрынску пацалавала мяне на развітанне, мілая польская дзяўчына...

Калі я нарэшце дабраўся да Польшчы, у мяне нібы крылы выраслі. Я скінуў з сябе цяжар страху. Здавалася, што ўсё будзе добра — я не прападу сярод палякаў. А яшчэ

ў мяне была і ежа: дзяўчаты паклалі ў той пакунак і паўбохана хлеба, і добры кавалак сала, і цыбулю, і соль. Была яшчэ і пляшка малака. Цэлае багацце!

За ноч я адмахаў, відаць, кіламетраў сорак, а то і больш. Заставалася дваццаць пяць кіламетраў да Віслы, пра што мне сказаў адзін дзядок. Я вырашыў адпачыць, потым, не спыняючыся, дайсці да Віслы, там, на беразе, зноў добра адпачыць, дзень, не меней, а ў наступную ноч пераплыць гэтую вялікую раку.

Быў цёплы летні вечар. Я адчуваў дзівосны прыліў сіл і радасці, ад адной толькі думкі, што неўзабаве я ўбачу Бацькаўшчыну альбо сустрэну партызанаў, знікала і стомленасць, і трывога.

У праменнях заходзячага сонца ярка зелянеліся палі збажыны, бульбы і буракоў. Наперадзе ахутваўся поўзмрокам вечара невялічкі — некалькі хацінак — хутарок, а за ім цямнеў вялікі лес. Аднак я звярнуў увагу на тое, што на полі не было і следу людской работы. Дзіўна! У такую пару абганяюць бульбу, полюць буракі...

Я вырашыў зайсці на хутарок. Ён уразіў мяне магільнай цішай: здавалася, усе людзі вымерлі. Не чуваць ні рыкання скаціны, ні сабачага брэху, ні галасоў. Усё навокал зарасло травою, у гародах буяе пустазелле. У вокнах цёмна, на дзвярах вісяць замкі. Па ўсім было відаць, што тутэйшыя людзі даўно ўжо, мо з месяц, як пакінулі сваю сядзібу. «Можа, падаліся ў партызаны? — падумаў я.— Можа, усе ў тым лесе, што наперадзе?»

У Нямеччыне, у лагерах, я наслухаўся пра тое, што жыхары многіх польскіх вёсак, вёсак Украіны і Беларусі ўсе, як адзін, ідуць у лясы. Мо тут адбылося тое самае?

Разважаючы гэтак, я падаўся да лесу. Ужо зусім зрабілася цёмна, калі я ўвайшоў у яго, але і тут панавала змярцвелая ціш, злавесная, нямая ціша. У трывожнай задуменнасці стаялі стромкія сосны, паміж іх неяк спалохана хаваліся бярозкі. Я міжвольна сцішыў крок, ішоў асцярожна, і трывога ў сэрцы ўсё расла і расла. Нешта не падабалася мне ў гэтым лесе...

Дарогу, па якой я ішоў, раптам перасекла прасека. Пад нагамі зашоргаў жвір. Але ён зашоргаў і ззаду!.. Я азірнуўся, і ў той жа момант мяне ўдарылі чымсьці цяжкім па галаве, збілі з ног, засунулі ў рот нешта суконнае. Яшчэ з паўхвілі, і ў вочы ўдарыла святло электрычнага ліхтарыка. Мяне абшукалі, паднялі з зямлі.

— Форвертс! — пачуў я хрыплы голас.— Ферфлюхтэс!

Мяне стукнулі ў спіну прыкладам і кудысь павялі. Не было ні страху, ні адчаю, ні разгубленасці — нічога. Адна страшэнная пустата ў душы. Немцы!.. Мяне схапілі немцы!.. Цяпер усё. Толькі смерць...

Ішлі доўга. Мае канваіры не вымавілі за ўсю дарогу ні слоўца, моўчкі падвялі нарэшце да нейкай будыніны, завялі ў вузкі змрочны калідор, потым адчынілі абабітыя чорнай скурай дзверы і ўпіхнулі ў ярка асветлены пакой.

Перада мной быў шырокі чорны стол з дзвюма тумбамі і над ім, на сцяне, вялізны партрэт Гітлера. У пакоі было поўна эсэсаўцаў. Яны сядзелі на драўляных лавах уздоўж сцен, тут жа, ля сцен, стаялі ў пірамідах вінтоўкі — мяне прывялі ў каравульнае памяшканне.

Хутка ў пакой увайшоў афіцэр, эсэсаўцы ўскочылі і пасталі «смірна». Адзін з маіх канваіраў падышоў да афіцэра і адрапартаваў, што на пасту нумар дваццаць сем затрыманы партызанскі лазутчык, які спрабаваў непрыкметна прабрацца да аб'екта «Ікс». Пры вобыску не знойдзена нічога, акрамя прадуктаў. Ні дакументаў, ні зброі, ні ўзрыўчаткі.

Афіцэр моўчкі выслухаў рапарт, потым загадаў абвясціць трывогу і пабудзіць некага. Эсэсаўцы імгненна выйшлі з пакоя. Мае канваіры дасталі з майго рота кляп — суконную пілотку аднаго з іх, надзелі на рукі наручнікі і кудысь павялі — відаць, да больш высокага начальства.

Начальства знаходзілася ў невялічкім доміку паблізу ад каравульнага памяшкання. Тут было два пакойчыкі, адзін з якіх быў спальняй, другі кабінетам. Мяне правялі ў кабінет, вельмі сціплы. На вокнах і дзвярах віселі цяжкія шторы. Шафа, пісьмовы стол з тэлефонам, некалькі дубовых табурэтак, на сценах партрэты Гітлера і Герынга, карты Нямеччыны і Польшчы і яшчэ нейкая карта, закрытая шырмай.

За сталом сядзеў малады, прыгожы з твару афіцэр у форме обер-штурмбанфюрара, а побач з ім два афіцэры ў лётнай форме. Обер-штурмбанфюрар з цікавасцю і нават неяк весела глядзеў на мяне. Усміхнуўся прыемна і спытаў:

— Партызан?

Я адмоўна паківаў галавою.

— Ну, гэта мы высветлім хутка,— сказаў ён.— Па-нямецку размаўляеш?

— Нікс ферштэен,— адказаў я.

— Паляк?

— Украінец.

— Па-польску разумееш?

— Не. Я ўкраінец. Размаўляйце са мною па-расейску. Па-расейску я разумею.

— Ты зараз пачнеш разумець і па-кітайску,— спакойна сказаў афіцэр і загадаў маім канваірам:— Распрануць дагала і ўважліва праверыць усё адзенне!



Мяне адразу ж распранулі, распаролі пінжак і штаны, абмацалі кожнае шво. Але, вядома, нічога не знайшлі.

Пачаўся допыт. Обер-штурмбанфюрар задаваў пытанні, а адзін з афіцэраў у лётчыцкай форме перакладаў. Я разумеў, што надыходзіць самы рашучы момант. Цяпер усё залежыць ад мяне. Мною авалодаў дзіўны спакой, у галаве было ясна і светла: я ведаю, што ім гаварыць.

Я сказаў, што я сірата, бацькоў не помню. Да вайны быў валацужнікам, уцякаў з дзіцячых дамоў і прыёмнікаў, з калоній для малалетніх злачынцаў. У самы апошні час быў у дзіцячым доме ў Растове. Перад самай вайной. Перад прыходам немцаў нас мусілі вывезці на ўсход, але я ўцёк і застаўся ў горадзе. Пазней, калі немцы адступалі з Растова, мяне вывезлі спачатку ў Харкаў, а потым у Нямеччыну. Па дарозе ў Нямеччыну не давалі ні есці, ні піць, таму я ўцёк з эшалона на адной са станцый і пачаў жабраваць. Вось так. Пра свой учынак — уцёкі з эшалона — вельмі шкадую. Бо тут, у Польшчы, скупы паляк не даў мне ні прытулку, ні паесці. Даводзілася ежу красці, а начаваць у лесе. У гэтым вялікім лесе, дзе мяне схапілі, я заблукаў. Мяне схапілі, пачалі біць. Але ж я нічога дрэннага не зрабіў!.. Адпраўце мяне ў Нямеччыну альбо пакіньце тут на якіх-небудзь работах. Я буду рабіць усё, што скажаце. Толькі дайце прытулак, бо я вельмі змучаны. Сілы ўжо няма бадзяцца.

Афіцэры ўважліва слухалі маю споведзь, пасля чаго обер-штурмбанфюрар сказаў:

— Зараз мы цябе будзем біць. Доўга будзем біць, аж пакуль ты не скажаш праўды, як ты апынуўся тут, хто і з якою мэтаю паслаў цябе сюды. Не скажаш — капут!..

— Я сказаў праўду, чыстую праўду,— заплакаў я.— За што ж мяне біць?

Тым часам адзін з эсэсаўцаў ужо здымаў дзягу з жалезнай спражкай, а другі паставіў пасярэдзіне пакоя табурэтку. Я і апамятацца не паспеў, як ён схапіў мяне, паваліў на табурэтку, заціснуў маю галаву паміж каленяў. Пачалася экзекуцыя.

Я крычаў немым голасам, а каты стараліся яшчэ больш, паласуючы маё і так змучанае цела дзягаю. Некалькі разоў я траціў прытомнасць, мяне адлівалі вадою, і зноў усё пачыналася спачатку. У час допыту ў кабінет адзін за другім заходзілі афіцэры і дакладвалі обер-штурмбанфюрару, што на аб'екце нічога падазронага не заўважана. Ён загадваў ім працягваць пільнае назіранне за падыходамі да аб'екта, і калі што будзе заўважана — адкрыць агонь з усіх відаў зброі. Пасля гэтых кароткіх перапынкаў экзекуцыя працягвалася. Я ўжо ўвесь сыходзіў крывёю, але цвёрда стаяў на сваім.

Нарэшце экзекуцыю спынілі. Обер-штурмбанфюрар зняў тэлефонную трубку і папрасіў тэрмінова звязаць яго з якімсьці обер-фюрарам Остарам. Праз хвілін дзесяць рэзка зазваніў тэлефон. Відаць, на лініі быў Остар, бо штурмбанфюрар увесь падцягнуўся і пачаў дакладваць, што на аб'екце «Ікс» усё спакойна. «У выніку допыту,— дакладваў ён,— высветлілася, што затрыманы — савецкі падлетак гадоў пятнаццаці. Ён прызнаўся, што ўцёк з эшалона, у якім яго везлі ў Германію, і валацужнічаў. У лес заблукаў выпадкова. Здаецца, няма падставы не верыць яму. Допыт праведзены па ўсёй строгасці».

Я, вядома, толькі прыкідваўся, што не разумею па-нямецку, а сам увесь ператвараўся ў слых. Вырашаўся мой лёс. Вось зараз ён вырашыцца!.. Вось зараз!..

Афіцэр выслухаў свайго начальніка, набраў нейкі іншы нумар і папрасіў, каб яму неадкладна далі кракаўскае гестапа. Расказаўшы, у чым справа, ён папрасіў ад імя Остара, каб у Кракаве заняліся мною.

— Мы яго ўжо дапытвалі,— гаварыў ён у трубку.— Уражанне такое, што гэты рускі падлетак гаворыць праўду. Ён, відаць, сапраўды ўцёк з Нямеччыны. На партызана не падобны...

На гэтых словах обер-штурмбанфюрар замоўк, нібы падавіўся, доўга слухаў, што яму адказвалі з Кракава. Потым растлумачыў:

— Я толькі выказаў свае меркаванні. Вядома, можа быць і так, што я памыляюся. Таму мы і звярнуліся да вас. Так. Слухаю. Мы чакаем.

Ён паклаў трубку, уважліва пагледзеў на мяне, потым сказаў афіцэрам, якія сядзелі побач з ім:

— Перададзім гэтага жэўжыка ў гестапа. Гэта іхні хлеб, няхай яны і займаюцца.

Ён загадаў, каб мне прынеслі якое-небудзь адзенне, бо мае рэчы трэба звязаць у клунак і перадаць яго кракаўскім гестапаўцам — можа ім мая вопратка што-небудзь падкажа.

— А пакуль што,— сказаў ён грэбліва,— няхай гэты ідыёт прыбярэ тут, змые сваю кроў. Нацякло, як са свінні.

Прынеслі салдацкую бялізну, памыйнае вядро і анучу, загадалі мне бялізну апрануць і брацца за справу — мыць падлогу. Я неяк нацягнуў на сябе споднікі і кашулю, нахіліўся да вядра і напіўся з яго... Потым намачыў у ім анучу і пачаў змываць на падлозе сваю ўласную кроў. Коўзаўся я доўга, сіл амаль не было, а калі скончыў, на мяне зноў надзелі наручнікі, адвялі ў каравульнае памяшканне і загадалі легчы ў

кутку, як сабаку. Два аўтаматчыкі не зводзілі з мяне вачэй. Я лёг на жывот, рукі ў кайданах выцягнуў перад сабою і пастараўся як мага хутчэй заснуць.

Раніцой мяне зноў адвялі ў домік обер-штурмбанфюрара. Акрамя афіцэраў, якіх я ўжо бачыў, тут былі два цывільных — відавочна, гестапаўцы. Адзін з іх пачаў дапытваць мяне на рускай мове. Я слова ў слова паўтарыў тое, што гаварыў учора. Мой адказ занеслі ў пратакол, потым запаўнялі бланк распіскі, сэнс якой складаўся з таго, што «супрацоўнікі кракаўскага гестапа прынялі ад начальніка аб'екта «Ікс» обер-штурмбанфюрара Гепхарда затрыманага ім рускага юнака, з выгляду гадоў 15—16, які назваў сябе Іванам Пятровым».

Гестапаўцы знялі з мяне наручнікі, аддалі іх гаспадарам, а на мяне надзелі свае і павялі за сабою. Каля доміка стаялі ўжо два легкавыя аўтамабілі з зашторанымі вакенцамі і некалькі матацыклаў з калясками. У іх сядзелі эсэсаўцы з аўтаматамі і ручнымі кулямётамі. Адзін з гестапаўцаў дастаў з-пад сядзення ў машыне індывідуальны пакет, разматаў яго і завязаў мне вочы і вушы. Гэта было зроблена, відаць, для таго, каб я не бачыў аб'екта «Ікс» і не чуў, што робіцца вакол. Пасля гэтай працэдуры мяне ўвапхнулі ў машыну. Зароў матор, затрашчалі матацыклы.

Спачатку ехалі бездаражам, што адчувалася па страшэннай калатні машыны, па віску рэсораў і тармазоў. Нарэшце я адчуў, што выехалі на шашу.

Мяне зноў мучыла смага, балела ўсё цела. Наручнікі пяклі агнём. Гэтыя гестапаўскія наручнікі адрозніваліся ад усіх, якія мне даводзілася насіць. Яны былі не вельмі цяжкія, але мелі нейкае хітрае прыстасаванне: варта было ледзь варухнуць хоць пальцам, як браслеты сціскваліся яшчэ больш, ледзь не раструшчваючы косці. Нехта ж прыдумаў гэта, нейкі вучоны фашыст. Нейкі вынаходнік...

Ехалі прыкладна гадзіну. Раптам машына спынілася, і я пачуў, як скрыгочуць металічныя вароты. Машына зноў рушыла — відаць, заехала ў двор. Спынілася. Мяне выцягнулі з яе, узялі пад руку і кудысь павялі. У нос ударыў спецыфічны пах турмы, пах яе сцен, калідораў, пах няволі... Чуліся крыкі, часам стрэлы, тупат ботаў, бразганне ключоў.

Мы доўга блукалі па турэмных калідорах і завуголлях, нарэшце спыніліся. Мне развязалі вочы і вушы, з дапамогаю спецыяльнага ключа знялі наручнікі, піхнулі ў камеру і зачынілі за мною дзверы. У камеры было цёмна, як у магіле. Ані плямкі святла. Чорная цемра.

— Ці ёсць тут хто? — гукнуў я ў пустату.

У адказ — нямая цішыня. Я вырашыў намацаць нары і легчы, аднак не намацаў нічога, акрамя парашы... Хутка я высветліў, што ў камеры два метры даўжыні і метр шырыні. І ўсё. І ні вакенца. І наогул нічога. Параша. Адна параша...

Пазней я даведаўся, што такія камеры называюцца англійскім словам «бокс», што значыць — скрынка.

Гэта і была сапраўдная скрынка, сапраўдная магіла для жывога чалавека. І паветра ў ёй было столькі ж, колькі ў магіле...

Толькі ў дзвярах цьмяна, ледзь прыкметна свяціўся «ваўчок». Вока няволі, вока майго лёсу...

Я апусціўся на халодны цэмент...

(Працяг будзе.)



# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Анатоль АСТРЭЙКА
- Уладзімір КАБУШ
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Жана ГРАЧАНАВА
- Алесь НІКАЛАЙЧАНКА
- Тамара ТАЛКАЧОВА
- Яўген РАМАНОВІЧ
- Леанід ПРАКОПЧЫК
- Васіль ЗУЁНАК
- Фёдар ЯФІМАЎ
- Аляксандр БАЙЧАРОЎ
- Ніна ПРАКАПОВІЧ
- Мікалай ГРУШЭЎСКІ
- Язэп ТАЎШЧЭЗНЫ
- Святлана БЕРАСЦЕНЬ





# МЫ—БУДАЎНІКІ

## ПАЧАТАК

Завод аўтаматычных ліній.

Час нараджэння: студзень 1971 года.

Месца нараджэння: паўночна-усходняя ўскраіна горада Баранавічы.

Від заняткаў: выпуск спецыяльных агрэгатных станкоў і аўтаматычных ліній з праграмным кіраваннем для прадпрыемстваў трактарнай і аўтамабілебудаўнічай прамысловасці.

Крыху далей пляцоўка пад дамы для будучых рабочых—новы мікрараён. Людзі, што прыйшлі сюды працаваць, бачаць ужо свой новы гарадок.

...Па снежнай цаліне плыў экскаватар. Дзве каляіны-пісягі цягнуліся за ім у поле і кіраваліся туды, дзе на бялюткім снезе віднеліся невялічкія калкі-вешкі.

Мікалай Мікалаевіч праз акно кабіны пазіраў навокал. Стаяла марозная цішыня. Толькі голас матора будзіў яе. Мікалай Мікалаевіч гнаў сваю машыну да тых невялічкіх калкоў-вешак.

Яму даверылі выняць першы коўш грунту для новага завода. Так і сказалі. Мауляў, ты, Лугаўскі, паважаны ў трэсце чалавек, ударнік камуністычнай працы, дэпутат гарадскога Савета, і вымеш першыя кубаметры. Праўда, за дзесяць гадоў свайго працоўнага стажу такі ганаровы абавязак даводзілася яму выконваць не першы раз. У Казахстане многія аб'екты будаваў. Ды і тут, у Баранавічах, і баваўняны камбінат закладваў, і камбінат сянажных вежаў, і птушкафабрыку, і іншыя аб'екты. І ўсё ж з нейкім хваляваннем падагнаў экскаватар, сышоў з машыны, пахадзіў колькі мінут навокал.

Ззаду пачуўся рокат самазвала. Аднаго, другога. Мікалай Мікалаевіч пачакаў, пакуль яны падыдуць, ускочыў у кабіну.

— Як кажуць, у добры час,—ціха прамовіў і пацягнуў рычагі на сябе. Паслухмяны яго рукам коўш урэзаўся ў мерзлую зямлю.





Брыгадзір Іван Іосіфавіч Булыга.

Самазвалы адзін за адным з грунтам у кузаве ад'язджалі ад яго. Катлаван паглыбляўся, шырыўся.

Праз тры дні машына падвезла сюды першых будаўнікоў. За ёй яшчэ адна, яшчэ. Ставілася апалубка, завозіўся бетон. Прыехалі на будоўлю геадэзісты, праекціроўшчыкі, кіраўнікі і будаўнікі грэста № 25.

Першы кубаметр бетону ўклалі людзі з комплекснай брыгады 172-га будаўнічага ўпраўлення, якую ўзначальвае Іван Іосіфавіч Булыга.

Галоўны інжынер будтрэста Іван Аляксандравіч Бурак дае каманду пачаць закладку. Сам спускаецца ў катлаван, дастае з кішэні манету.

— Па старой традыцыі,—гаворыць ён,—у падмурак кладзецца манета. На ёй стаіць лічба «пяць». Мы б хацелі, каб толькі такой ацэнкай заўсёды адзначалася работа будаўнікоў.

— Пастараемся, каб так яно і было,—гаворыць брыгадзір.

Бункер з бетонам павольна набліжаецца да апалубкі. Будоўля бярэ старт.

## НАЧАЛЬНІК УЧАСТКА

Калі Георгі Ульянавіч Саковіч, толькі што прызначаны начальнікам участка, сустрэўся са сваім брыгадзірам Уладзімірам Шаўко—той чымсьці не спадабаўся яму. Здавалася, у старога ў думках адно: маўляў, малады мяне вучыць.

Сапраўды, Георгі Ульянавіч чалавек хоць і малады, і гэта, мусіць, другую такую вялікую будоўлю даводзілася пачынаць яму, усё ж вопыт меў значны: больш дзесяці год аддаў будаўніцтву. У асноўным у Баранавічах.



Кранаўшчык Георгі Руды.

«Магчыма, першае ўражанне не заўсёды правільнае», — супакоіў сябе Георгі Ульянавіч і рашыў больш дэталёва разабрацца ў справах брыгады.

Знаёмства з людзьмі ў брыгадзе таксама пакінула не лепшае ўражанне. Сабраліся розныя людзі. Былі і такія, што пакідалі ранейшыя месцы работы, бо адчувалі, што тут можна хутчэй атрымаць кватэру. Было шмат навічкоў.

Прыгледзеўся начальнік участка да іх работы — таксама не спадабалася: частыя перакуры, неарганізаванасць.

Сказаў пра ўсё гэта брыгадзіру. Па ўсім было бачна, што таму не надта спадабаліся заўвагі. Але прамаўчаў. Калі ж Георгі Ульянавіч адыходзіў, то пачуў, як брыгадзір гаварыў рабочым:

— Блытаюцца пад нагамі ўсялякія. Беспарадак і неразбярыху толькі наводзяць...

«А брыгадзір з норавам, — падумаў тады начальнік участка. — Магчыма, пакуль і не патрэбна яму падказваць. Можа сам разбярэцца, навядзе парадак у калектыве».

Праз колькі часу, наведаўшыся на аб'ект, не знайшоў брыгадзіра.

— Дзе ж Шаўко?

Рабочыя маўчаць.

— Чаго маўчыцё? — не вытрымаў тады адзін з іх, Станіслаў Ляшкевіч. — З сабутэльнікамі па хмызняку туляецца. А мы стаім. Бетону няма!..

І тут з усіх бакоў загаварылі:

— Падабраў сабе сябрукоў...

— Адна кампанія...

Адшукаў тады начальнік участка брыгадзіра. Размова была злосная.

— Не навядзеш парадак у брыгадзе — пішы заяву! — сказаў Георгі Ульянавіч. — Два тыдні даю...

Каля трох месяцаў мучыўся з гора-брыгадзірам Георгі Саковіч. І ўсё больш пераконваўся, што трэба з ім развітвацца. Узяць вунь Івана Булыгу ці Дзмітрыя Зайца — у тых справы ідуць добра. Моладзь працуе побач з вопытнымі рабочымі. А тут — ніхто не ведае, што будзе рабіць не толькі заўтра, а нават і пасля абеду.

Сабралі брыгадны сход. Амаль усе рабочыя ў адзін голас заявілі:

— Трэба новага брыгадзіра.

Калектыў узначаліў Уладзімір Васілько, старанны, вопытны працаўнік, таму і парэкамендавалі выбраць яго за брыгадзіра.

Быў пачатак чэрвеня. У гэты час сама прырода, здаецца, дапамагае будаўнікам. Можна развярнуцца ва ўсю моц, паказаць сябе.

Праўда, нялёгка даводзілася Васільку, асабліва ў першы месяц. Трэба было згуртаваць калектыў, узняць настрой у людзей, каб яны паверылі ў свае сілы.

Начальнік участка ўвесь час трымаў на відавоку гэтую брыгаду. Цікавіўся і пра заданні на дзень, на тыдзень, дапамог асвоіць сеткавы графік, дзе ўсё распісана дакладна, хто што робіць, якія матэрыялы павінны прыйсці на аб'ект сёння ці заўтра. Калі ж па чыёй-небудзь віне што зрывалася, то вінаватага таксама доўга шукаць не даводзілася.

Георгі Ульянавіч бачыў, што ў людзей слабая прафесійная падрыхтоўка, параіў узяцца за вучобу. Сам пачаў займацца з імі, яшчэ спецыялістаў падшукаў. І змяніўся «мікраклімат» у брыгадзе. Падцягнуліся тыя, хто раней мог спазніцца на работу ці дапусціць брак. Брыгада пачала перавыконваць план, зніклі нараканні на якасць.

Начальнік участка неяк непрыкметна, але заўсёды сярод людзей. Знойдзе час, каб у выхадны дзень з'ездзіць і на экскурсію ў Мінск або зрабіць выезд у лес, у грыбы. І песні разам пасяваюць, і пагамоняць шчыра, як сябры.

## БРЫГАДЗІР

Іван Булыга паглядзеў на гадзіннік. «Ого, заседзеўся я тут», — падумаў і хуценька пачаў складваць паперы, над якімі пасля работы карпеў.

Хуценька выйшаў з бытоўкі. Пакрочыў да аўтобуснага прыпынку. Пад нагамі рыпеў зляжалы, уезджаны снег. Вячэрнія зоркі, як нацёртыя чым, ярка блішчэлі ў небе. Бралася на мароз.

На прыпынку відаць была адна постаць. «Напэўна, нядаўна адышоў аўтобус, і цяпер чакай тут», — падумалася.

Калі чалавек высунуўся на святло, Іван пазнаў яго: гэта быў Лёня Арцюх. Пазнаў і здзівіўся:

— Чаму разам з усімі не паехаў?

— А ты чаму? — у сваю чаргу запытаўся і Лёня.

— У мяне справа.

— І ў мяне таксама.

— То давай пройдземся, раскажы.





**Паміж небам і зямлёй. Ідзе мантаж галоўнага корпуса.**



**Георгі Саковіч і Аляксандр Гліністы.**

Пайшлі на агні горада. Маўчалі. Булыгу не цярпелася даведацца, якая справа з'явілася ў гэты вячэрні час у хлопца, члена ягонай брыгады. Але маўчаў, чакаў, калі Лёня загаворыць.

— Даўно я хацеў пагаварыць з табою, брыгадзір,—пачаў хлопец.— Мантаж мяне прываблівае, цягне. З брыгады пакуль не збіраюся, без адрыву набываю гэтую спецыяльнасць. Усё прыглядаўся, як яны працуюць, а цяпер вось хлопцы дапамагаюць. Можа і на разрад здам...

Лёня павярнуўся да брыгадзіра, чакаў, што той скажа. А Булыга маўчаў. Абдумваў, што сказаць хлопцу.

У гэтую брыгаду Лёня Арцюх трапіў яшчэ да таго, як пачалі закладваць завод аўтаматычных ліній, адразу пасля заканчэння васьмігодкі. Пачаў вучыцца на будаўніка. Нічога благога тады не мог сказаць пра яго Іван Булыга. Кемны, старанны, не трэба было ўпрошваць, каб зрабіў тое ці гэта. Неўзабаве здаў на другі разрад бетоншчыка, потым—на матарыста. Словам, стараўся. Праўда, не асабліва гаваркі быў, неяк асабняком ад іншых трымаўся. «І чаго так?—часам думаў брыгадзір.—Здаецца, у школе-інтэрнаце выхоўваўся, у калектыве жыў, а вось жа цураецца людзей. Магчыма, такі характар у чалавека».

Як кажуць, не лез у душу да яго брыгадзір. І Лёня не ішоў на адкрытую размову. Ды і асабліва не было часу тады ў брыгадзіра, каб з хлопцам шчыра пагаварыць.

Булыгу перавялі на гэтую будоўлю. Далі пад яго каманду 70 чалавек. Сказалі: падвучы крыху, далей разбяромся. Таму і не было часу пра кожнага больш дасканала даведацца, як ён жыве, чым дыхае. Закладвалі першы бетон, устанаўлівалі «башмакі», «стаканы» пад фундамент калон. Часу не хапала, круціўся, што тая вавёрка ў коле. Потым стала лягчэй. З адной брыгады стварылі дзве, выбралі прафсаюзнага і камсамольскага групоргаў, стварылі групу народнага кантролю.

Тады і заўважылі ў брыгадзе, што нешта дзіўнае робіцца з хлопцам. На пачатку было так, што многія харч на абед бралі з дому. Не ўсім падабалася ежа, якую завозілі—свая, дамашняя, смачнейшая. Бывала, як пасядуць хлопцы ў бытоўцы на абед, пачнуць распакоўваць сумкі, раскладацца на стале, то Лёня хуценька выходзіў.

— А ты куды?—кіне хто-небудзь.—Сядай з намі, будзем абедаць.

— Я ўжо паабедаў,—скажа хлопец і шусне з бытоўкі.

Заўважыла Стася Філіпчык, прафгрупорг, што Лёня нічога не бярэ з сабою з інтэрната і ў сталоўку не ходзіць на абед.

— Можа грошай няма?—спытала.—Магу даць.

Выручыла адзін раз, другі, трэці... А потым і пагаварыла з брыгадзірам. Маўляў, здаецца, і зарабляе нядрэнна, а вось ужо на трэці дзень пасля зарплаты грошай не мае.

Тады Булыга і запытаў у Лёні, куды ён дзяе грошы.

— Прапіваю,—выціснуў Лёня.

— Не можа быць. Я ж ні разу не заўважаў, каб ты быў пад градусам.

— А я пасля работы. У інтэрнаце, з хлопцамі...

Булыга задумаўся. Хоць і не заўважаў, каб Лёня быў п'яны ці спазняўся на работу, але хто яго ведае... Трэба пабываць у інтэрнаце, пагаварыць з суседзямі.

— Што будзем рабіць?—запытаў у Стасі, у іншых дзяўчат і хлопцаў з брыгады.

— А вось што,—загаварыла Стася.—Калі хлопец не ўмее размяркоўваць грошы, мы яго павучым. Будзем грошы з яго зарплаты на сталоўку выдаваць, на адзенне, а то бачыце, як абнасіўся.

У суботні вечар Булыга пайшоў у інтэрнат. Зайшоў у пакой, дзе жыў Лёня. Хлопцы сядзелі за сталом з бутэлькамі і закускай. Праўда, Лёні тут не было.

— Сядай, сядай,—пачалі падсоўваць крэсла брыгадзіру.—Госцю мы заўсёды рады.

— Няма часу. Мне Лёня патрэбен,—адсунуў крэсла Булыга.

— Лёня?! Дык ён ужо трэці дзень, як у «ссылцы».

— У якой «ссылцы»?





— Дзесьці блукае,—засмяяўся адзін хлопец з застолля.

— Негаваркі ён нейкі, гэты Лёня...

Брыгадзір задумаўся. Дзе Лёня можа цяпер быць? Здаецца, нехта бачыў яго на вакзале? Чаго ён там? Можа, каго сустракае?

Брыгадзір пайшоў на вакзал. Сапраўды, у транзітнай зале ўбачыў Лёню. Той соладка спаў, седзячы на тапчане.

— А? Што?—прамармытаў ён, калі Булыга патрос хлопца за плячо.

— Дом адпачынку тут знайшоў?—пажартаваў Булыга.—Пойдзем да мяне, пасядзім, пагаворым...

Лёня адразу ж падняўся.

На кватэры Лёня разгаварыўся. Маўляў, ніякіх ён грошай не прапівае. Сам на сябе нагаварыў. Суседзі па пакоі трапіліся такія. Грошы вымагаюць. Вось зарплату Стася за яго атрымала, а яго з пакоя выгналі. Трэцюю ноч начуе дзе прыйдзецца. То ў сяброў, то на вакзале.

— Дык чаму ж нам нічога не сказаў?

— Ат, думаю, пачнуць смяяцца...

— Вось што,—рашуча загаварыў Булыга.—Кладзіся сёння спаць. А заўтра разбяромся.

Ужо назаўтра цэлая дэлегацыя ўвалілася ў пакой да каменданта. Усіх «піцейшчыкаў» рассялілі па іншых пакоях, павесялеў і Лёня Арцюх, здаецца, і працаваць стала лягчэй. Зарплату на рукі ўсю выдалі. Справіў Лёня новы касцюм, у культпаходы, на канцэрты разам з усімі пачаў хадзіць. З дзяўчынай пазнаёміўся. Быццам падмянілі хлопца...

— Дык, кажаш, на мантажніка рашыў вучыцца?—загаварыў пасля паўзы Булыга.—Гэта добра. Але ж глядзі, каб сур'ёзна. Бо вяршкоў можна нахапацца, а спецыялістам і не станеш. Вучыцца трэба, як у школе. Калі сур'ёзна, то я не пярэчу.

Ішлі павольна, не спяшаючыся, а аўтобуса ўсё не было. Нарэшце ён дагнаў іх, спыніўся, і хлопцы, усеўшыся, жмурыліся ад агнёў горада, што білі ў вочы вялікімі чырвона-жоўтымі плямамі.

## МАНТАЖНІК

— Што будзем рабіць?—брыгадзір Косця Грынчык акінуў позіркам усіх трох. Тыя маўчалі. Пазіралі адзін на аднаго, быццам чакалі, хто першы пачне гаварыць.

— Ведаю. Усе сёння адпрацавалі змену. Але ж падумайце, работы колькі. А тут і непагадзь пачнецца. А калі сарвецца пліта...

— Нічога не зробіш. Прыйдзецца застацца,—першым падаў голас Уладзімір Грыцэвіч.

— Я таксама іншага выйсця не бачу,—падтрымаў яго Аляксандр Хвясько.

— Калі ўсе ў нагу, дык хіба я магу не ў нагу,—пажартаваў Іван Сямёнаў і ўздыхнуў:—Эх, рыбалка прахам пойдзе!..

— А ў мяне білеты на поезд,—у тон яму загаварыў Уладзімір.— З жонкай на пару дзён наважылі да сваякоў з'ездзіць. Дасць яна мне перцу...

— Значыцца, застаёмся,—быццам падвёў рысу брыгадзір.—А з жонкай я пагавару. Па тэлефоне. А цяпер, як кажуць, па конях!..

Іншага, праўда, брыгадзір не чакаў. Але не мог жа ён прымусіць людзей запар на дзве змены. Хоць быў упэўнены, што хлопцы не падвядуць. У брыгадзе мантажнікі падабраліся добрыя, дружныя. Асабліва Уладзімір Грыцэвіч. Дзесяцігодка за плячыма, аўтарытэтам у мантажнікаў карыстаецца. З ім іншы раз і ён, брыгадзір, раіцца.

«А жонцы я сам пазваню, хай толькі з работы прыйдзе,—падумаў Уладзімір Грыцэвіч,—і пачаў узбірацца на дваццацідвухметровую вышыню.—Урэшце, можна і заўтра раніцой паехаць».

Наверсе на іх адразу накінуўся шалёны вецер. Балюча біў па твары снежнымі крупамі, хвастаў па здубянелым камбінезоне. Не зважаючы на



Брыгада Косці Грынчыка.

Мантажнікі. Дарога на неба.



вецер і холад. Уладзімір пачаў «майнаваць» і «віраваць» кранаўшчыку. Устанаўлівалі бэлькі, намёртва мацавалі зваркай.

Управіліся перад адыходам апошняга аўтобуса. Беглі да яго, і Уладзімір успомніў, што так і не знайшоў часу пазваніць жонцы.

— А жонка ў цябе добрая,— быццам адгадаўшы яго думкі, загаварыў у аўтобусе Косця Грынчык.— Кажа, такой бяды з тымі білетамі...

Уладзімір сумеўся, пачырванеў.

## ПАДСОБНІЦА

Пасля заканчэння васьмігодкі Стася Філіпчык прыйшла на будоўлю падсобніцай. Цяпер падсобнікі ў ведамасцях і спісках значацца як рабочыя першага разраду.

Калі гаварыць шчыра, то некаму на будоўлі трэба і падмесці пляцоўку, падаць майстру цэглу, раствор, бетон. Таму і існавала гэтая катэгорыя рабочых, якія не мелі кваліфікацыі. Прайшлі гады, і на будоўлю пачалі прыходзіць людзі з васьмігадовай і сярэдняй адукацыяй. Кемныя людзі, якія ўсё, як кажуць, «хапаюць з лёту».

Бетоншчыца Станіслава Філіпчык.



Тая ж Стася праз некалькі месяцаў здала на разрад бетоншчыцы, затым арматуршчыцы... Стала майстрам на ўсе рукі. Калі трэба, яна па чарцяжах звяжа арматурную сетку, саб'е апалубку... Неабходна ў цэху пакласці сценку, і Стася бярэцца за кельму. Пакладзе — залюбуешся. У брыгадзе Івана Булыгі, дзе працуе Стася, такія ўсе. А ў час перадышкі як заспявае Стася — ніхто не ўтрымаецца: хочацца падцягнуць.

Стасю Філіпчык выбралі прафгрупоргам. Другі яе клопат — школьнікі. Яна дэпутат гарадскога Савета дэпутатаў працоўных, адказвае за спартыўную работу ў школах. Таму і спяшаецца да вучняў, дапамагае ім заліць каток, арганізаваць спартыўныя спаборніцтвы. А прыйдзе змена — зноў Стася на будоўлі. Падсобніца? Якая яна падсобніца! Майстар!..

●

Мы расказалі толькі пра некаторых людзей, што будуюць завод аўтаматычных ліній.

Будоўля расце хутка. Цягнуцца ўгору «пальцы» бетонных калон галоўнага корпуса, на іх кладзецца дахавае пакрыццё. Растуць будынкі прафесійна-тэхнічнага вучылішча, адміністрацыйнага корпуса, кацельні. Падводзяцца шматлікія «ніткі» электра- і трубаправодаў. Вядзецца разбіўка пад будучыя дамы, школы і яслі, парк і стадыён, алеі і вуліцы новага мікрараёна «Паўночны».

**Анатоль АСТРЭЙКА.**

Фота Э. Кабяка.



# СВЯТА ЧЫРВОНАГА ГАЛЬШТУКА

Юная гвардыя нашай краіны святкуе свой юбілей. І хоць кожнаму з юбіляраў не болей чатырнаццаці гадоў, усе яны могуць з гонарам сказаць. «Гэта маё пяцідзесяцігоддзе, гэта свята майго шчасця і радасці».

Пяцідзесяцігоддзе піянерскай арганізацыі—свята не толькі юных ленінцаў. Гэта вялікая ўрачыстасць усёй нашай краіны. І гэта заканамерна, бо чырвоны піянерскі гальштук з гонарам насілі тыя, хто стварaў першыя калгасы, узводзіў у тайзе новыя гарады і заводы, утаймоўваў бурныя рэкі, уздымаў цаліну, штурмаваў космас, хто самаахвярна працуе ў брыгадах камуністычнай працы...





Больш чым сто мільёнаў савецкіх людзей, атрымаўшы праз піянерскую арганізацыю першапачатковую ідэйную загартоўку, сёння сталі ў шэрагі актыўных і свядомых будаўнікоў камунізму. Гэта прадбачыла партыя, якая адразу пасля Вялікага Кастрычніка звязвала справу замацавання заваёў рэвалюцыі з маладым пакаленнем. Гэта выдатна разумеў Уладзімір Ільіч Ленін, калі гаварыў, выступаючы на гістарычным III з'ездзе РКСМ: «Вы павінны пабудаваць камуністычнае грамадства».

Вось чаму савецкае грамадства так неаслабна клапоціцца пра навучанне і выхаванне моладзі. Пуцяводнай зоркай для моладзі сталі словы Уладзіміра Ільіча: «Арганізацыя дзяцей—гэта лепшы шлях выхаваць камунараў». Партыя заўсёды сачыла за стварэннем дзіцячай арганізацыі, накіроўвала яе развіццё па верным шляху.

Зусім натуральна, што ў праграме КПСС, якая вызначыла перспектывы будаўніцтва камунізму, піянерскай арганізацыі, камсамолу і школе партыя адвяла высокую і ганаровую ролю—змагацца за выхаванне падрастаючага пакалення—будаўнікоў і грамадзян новага грамадства. Можна з упэўненасцю сказаць, што з гэтай задачай юныя ленінцы спраўляюцца. Ордэн Леніна на піянерскім сцягу—яскравы доказ гэтага.

Ордэн Леніна атрымалі разам з піянерамі шасцідзесятых гадоў усе пакаленні чырванагальштучных—і тыя, што былі першымі, і тыя, хто ідзе ім на змену.

За гады свайго існавання піянерыя Беларусі здабыла багаты вопыт работы. Многія традыцыі яе перадаюцца з пакалення ў пакаленне. У рэспубліцы з'явілася шэраг пачынанняў, якія затым сталі здабыткам усёй краіны. Першыя атрады юных сяброў пагранічнікаў у нашай краіне з'явіліся па ініцыятыве беларускіх піянераў. У час падрыхтоўкі да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна нашы рабяты сумесна з піянерамі Украіны выступілі ініцыятарамі збору металалому для будаўніцтва стотысячнай калоны трактараў, якія сімвалізуюць мару Ільіча. Гэты пачын быў падхоплены піянерамі ўсёй краіны. У 1971 годзе піянеры нашай рэспублікі прапанавалі збіраць лекавыя травы для вырабу медыцынскіх прэпаратаў для дзіцячага шпіталя ў Ханоі. І гэта не толькі пачын. Беларускія піянеры—лідэры ў гэтай справе. Падобных прыкладаў можна было прывесці шмат.

Але, гаворачы пра сённяшні дзень беларускай піянерыі, нельга забываць і слаўнае мінулае юных ленінцаў. 22 чэрвеня 1941 года піянерскія горны затрубілі трывогу. Старэйшыя ішлі на фронт абараняць Радзіму. Мірнае дзяцінства было перапынена. Дзеці, якія засталіся на часова акупіраванай тэрыторыі, разам з дарослымі ўзняліся на барацьбу з ворагам. Нямала піянераў было сярод герояў абароны Брэсцкай крэпасці. Гэта Пеця Клыпа, Нюра Кіжаватава, Валодзя Ізмайлаў, Валя Зенкіна, Коля Новікаў і іншыя. Яны хадзілі ў разведку, насілі пад абстрэламі ваду з Буга, збіралі патроны...

Усёй краіне вядома імя Героя Савецкага Саюза Марата Казея. Перад вайной ён толькі ўступіў у піянеры, вучыўся ў Станькаўскай школе Дзяржынскага раёна. У партызанскім атрадзе Марат быў храбрым разведчыкам і байцом, і загінуў ён, як герой.

Піянеры помняць пра подзвігі Герояў Савецкага Саюза Зіны Партновай з падпольнай камсамольскай арганізацыі «Юныя мсціўцы» на станцыі Обаль, Лёні Лорчанкі—магілёўскага піянера, Колі Гойшыка—брэсцкага піянера, адважнага партызана, які загінуў на дзевятай дыверсіі на чыгунцы, спусціўшы пад адхон восем варожых эшалонаў, Люсі Герасіменкі—піянеркі з Мінска, якая не адзін месяц выконвала даручэнні падпольнай партыйнай групы. Яна загінула разам са сваімі бацькамі ў засценках мінскага гестапа.

Вельмі актыўна і смела дзейнічалі падпольныя піянерскія атрады і групы ў Мінску, Лідзе, Рэчыцы, Жлобіне, Оршы, Рагачове, Барысаве і ў многіх іншых гарадах і сёлах Беларусі.

Сотні даваенных піянераў прыйшлі ляснымі сцежкамі ў партызанскія атрады, тут большасць з іх былі прыняты ў камсамол. Калі ў партызанскім атрадзе збіралася шмат піянераў, там па рашэнні абкома камсамола адкрываліся «лясныя школы». Можна прыпомніць партызанскую брыгаду «За Савецкую Беларусь», якая размяшчалася ў Налібоцкай пушчы. У атрадзе пры гэтай брыгадзе налічвалася 22 піянеры. Зімой 1942 года ў вялікай зямлянцы была адчынена школа. Нялёгка было рабятам. Яны праходзілі ўсе прадметы, з-за нястачы паперы пісалі на бяросце, чарніла рабілі самі. Акрамя таго, камісар атрада навучаў іх ваеннай справе, пад кіраўніцтвам старшай важатай камсамолкі Насці Кулікоўскай яны займаліся піянерскімі справамі, урачыста адзначалі рэвалюцыйныя святы, чыталі «Пионерскую правду», якую скідвалі савецкія лётчыкі. Піянеры-партызаны нярэдка выконвалі розныя заданні камандавання брыгады.

Усяго ў партызанскай барацьбе на тэрыторыі нашай рэспублікі ўдзельнічала 25 тысяч піянераў. Многія з іх адзначаны ўрадавымі ўзнагародамі—ордэнамі і медалямі.

Пасля ліквідацыі страт, прынесеных вайной школьнай справе, з'явілася рэаль-

ная магчымасць паставіць пытанне аб якасці і ўзроўні ведаў. Школьнікі набывалі неабходныя падручнікі, пісьмовыя прылады, у іх распараджэнні былі ўжо добра абсталяваныя кабінеты і майстэрні. Цяпер у нашай піянерыі—161 дом і палац, 29 станцый юных тэхнікаў, 15 станцый юных натуралістаў. З 1955 года ў горадзе Мінску працуе дзіцячая чыгунка, а з 1969 года пачаў дзейнічаць рэспубліканскі піянерскі лагер «Зубронак», які стаў месцам адпачынку і школай па падрыхтоўцы піянерскага актыву.

Вялікую дапамогу ў рабоце піянерскай арганізацыі аказваюць газеты «Піянер Беларусі», «Зорька», часопісы «Бярозка» і «Вясёлка». Усе гэтыя выданні—органы ЦК ЛКСМ Беларусі і Рэспубліканскага савета піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна.

У сучасны момант больш чым 900 тысяч беларускіх рабят носяць чырвоныя гальштукі. Такой стала дзіцячая камуністычная арганізацыя нашай рэспублікі за 50 гадоў.

У 1970 годзе на IV Усесаюзным злёце піянераў у горадзе Ленінградзе была прынята праграма падрыхтоўкі да юбілею—Усесаюзны марш піянерскіх атрадаў «Заўсёды гатовы!». Вось галоўныя кірункі маршрутаў: «У краіну ведаў», «Піянербуд», «Мая Айчына СССР», «Зарніца» і «Зорачка»...

Беларускія піянеры ажыццявілі ўжо нямала слаўных спраў на гэтых маршрутах. Возьмем маршрут «Піянербуд». Для юных ленінцаў ён стаў праграмай ажыццяўлення 9-й пяцігодкі. Піянерская дружына Халхоліцкай сярэдняй школы Барысаўскага раёна выгадавала і здала дзяржаве 17.130 качак. Асабліва вызначылася звяно Галі Казырскай. Яно даглядала шэсць з паловай тысяч качак. Юныя птушкаводы пад кіраўніцтвам вучоных праводзяць вялікую доследную работу. Сама Галя Казырская ўзнагароджана значком «Выдатнік сельскай гаспадаркі СССР».

І піянеры Віцебшчыны ўносяць значны ўклад у «Піянербуд». У вобласці створана 59 лясніцтваў, у якіх працуе 35 тысяч рабят. Пад іх наглядам знаходзіцца 4300 гектараў лесу. Клапатліва, па-гаспадарску ахерагаюць лясныя масівы піянеры Доўжанскай, Устаўскай, Вароніцкай школ гэтай вобласці. Не адстаюць ад віцяблян і піянеры Магілёўшчыны. У вобласці працуе 57 школьных лясніцтваў. Толькі летась магілёўскія юныя лесаводы заклалі гадавальнік на 5 гектараў, пасадзілі 43 тысячы дрэў і кустоў.

Радуе, што на рахунку беларускіх піянераў з кожным днём усё больш і больш калектыўных працоўных спраў. Піянеры Брэсцкай вобласці да свайго юбілею сабралі 80 тон металалому на цеплаход, які будуюць рабочыя Пінскага суднабудаўніча-суднарамонтнага завода. Цеплаход—гэта помнік былым маракам Дняпроўскай флатыліі, якія вызвалялі Пінск ад фашыстаў. Многія матросы загінулі. У дзень 50-годдзя піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна цеплаход будзе спушчаны на ваду. А калі пачнуцца рэгулярныя рэйсы, цеплаход, плывучы міма гарадскога парку культуры і адпачынку, дзе пахаваны воіны флатыліі, заўсёды будзе даваць прывітальны сігнал.

Піянеры Гродзенскага раёна сумесна з камсамольцамі ў пачатку гэтага года ўключыліся ў аперацыю «Помнім тых, хто легендай авеяны». Яны збіраюць сродкі на будаўніцтва мемарыяльнага комплексу камсамольцам Скідальскага падполля. Мемарыял мяркуецца адкрыць да 30-годдзя подзвігу герояў.

Як вядома, самай галоўнай задачай піянерскіх атрадаў і дружын з'яўляецца барацьба за добрую і выдатную вучобу. Прыкладам таго, як трэба крочыць у «Краіну ведаў» можа служыць аршанская піянерская арганізацыя. Дэвізам дружын Оршы і перш за ўсё школ №№ 9, 11, 14 сталі словы «Ніводнага адстаючага побач», «Усім атрадам у наступны клас». У атрадах і па месцы жыхарства актыўна дзейнічаюць пасты ўсенавуча, групы ўзаемадапамогі, праводзяцца піянерскія зборы. Папулярнымі сталі алімпіяды па фізіцы, матэматыцы, хіміі, злёты выдатнікаў вучобы, конкурсы «Хачу ўсё ведаць». Многа цікавага з гэтага маршруту ў піянерскіх дружынах Яромінскай сярэдняй школы Гомельскай вобласці, Альхоўскай васьмігадовай школы Пінскага раёна, у школе № 3 Навапалацка і інш.

Цікавыя і разнастайныя справы ў піянерскіх дружынах рэспублікі на маршрутах «Мая Айчына СССР», «Мір і салідарнасць», якія сталі сімвалам братэрства і дружбы нашых рабят са сваімі аднагодкамі з саюзных рэспублік і з дзецьмі працоўных усіх краін. У прыватнасці, аперацыі «Чукотка», «Лякарствы лясной аптэкі—шпіталю ў Ханоі» сталі інтэрнацыянальным абавязкам кожнага піянера рэспублікі. Для пабудовы палаца піянераў на Чукотцы піянеры нашай рэспублікі перадалі больш чым пяцьдзесят дзве тысячы рублёў. Вялікі ўклад у гэту справу ўнеслі піянеры Віцебскага, Івацэвіцкага, Лідскага, Стаўбцоўскага раёнаў, Савецкага раёна горада Мінска і шэрагу іншых раёнаў рэспублікі. Піянеры Мінскай вобласці зарабілі і пералічылі ў фонд дзіцячага шпіталя ў Ханоі больш чым восем тысяч рублёў. Звыш 400 школьных клубаў інтэрнацыянальнай дружбы і салідарнасці Віцебскай вобласці вядуць вялікую работу ў кампаніі «Юнацтва выкрывае імперыялізм».





Сёння звыш 700 тысяч піянераў і школьнікаў удзельнічаюць у ваенна-спартыўнай гульні «Зарніца», з дапамогай чырвоных следапытаў створана пяць тысяч музеяў, пакояў і куткоў рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы. Мы ганарымся слаўнымі справамі юных следапытаў сярэдняй школы № 65 г. Мінска, якія адшукалі 10 экіпажаў без вестак загінуўшых лётчыкаў. Юныя члены клуба «Гвардзеец» Пружанскай сярэдняй школы ўзнавілі 170 імёнаў савецкіх воінаў, якія загінулі на тэрыторыі Брэсцкай вобласці. Піянеры аршанскай сярэдняй школы № 7 стварылі гісторыю гераічнай барацьбы ракетнай батарэі капітана Флёрава.

У рэспубліцы шырока разгарнулася аперацыя «Абавязак». Прымаючы ўдзел у ёй, юныя ленінцы ўважліва і клапатліва ставяцца да ветэранаў, сем'яў франтавікоў і партызанаў, інвалідаў вайны і працы.

У рабоце атрадаў і дружын самае галоўнае—дайсці да кожнага піянера. А гэта азначае, каб не толькі актыў, але ўсе піянеры ўдзельнічалі ў грамадска-карысных справах, праяўлялі ініцыятыву, дапытлівасць. У піянерскім атрадзе імя А. П. Гайдара Папернянскай сярэдняй школы Мінскага раёна—28 піянераў. Восем з іх—выдатнікі, дванаццаць вучацца на чацвёркі і пяцёркі. Усе члены гэтага атрада маюць піянерскія даручэнні. Атрад з'яўляецца калектыўным важатым акцябрацкай групы. Гайдараўцы дапамагаюць калгасу, удзельнічаюць у рабоце агітбрыгад, вядуць пошукавую работу. Атрад мае ўсе неабходныя піянерскія атрыбуты і рыштунак.

Піянерскім атрадам, дзе кіпіць сапраўднае творчае жыццё, поўнае рамантыкі і захаплення, па лепшых выніках маршу прысвоена высокае званне «правафланговы». Сярод пераможцаў—атрады імя А. П. Гайдара Папернянскай сярэдняй школы Мінскага раёна, імя Ю. Гагарына 10-й сярэдняй школы г. Барысава, імя Люсі Герасіменкі 2-й сярэдняй школы г. Чэрвеня і шмат іншых.

Камсамолу партыя даручыла адказную справу—кіраваць дзейнасцю піянерскіх атрадаў і дружын. Павысіць узровень камсамольскага кіраўніцтва піянерыяй—асноўная задача, выказаная ў пастанове бюро ЦК КПБ «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна і мерах далейшага паляпшэння работы з піянерамі Беларусі». Для нас, камсамольцаў—гэта ў першую чаргу дапамога пярвічных камсамольскіх арганізацый чырванагальштучнай гвардыі.

Полацкі гарком камсамола, камсамольцы прамысловых прадпрыемстваў, навучальных устаноў і школ аб'явілі агляд піянерскай работы, ход якога рэгулярна абмяркоўваецца на сходах, семінарах, актывах. Добрымі сябрамі дзяцей былі і ёсць камсамольцы завода шкловалакна. Паказальна, што тут кожная цэхавая арганізацыя—калектыўны важаты піянерскага атрада, а каля 30 лепшых маладых рабочых кіруюць тэхнічнымі гурткамі ў школе.

Добрая слава ідзе і пра камсамольцаў Івацэвіцкага раёна. Тут каля ста юнакоў паспяхова працуюць у піянерскіх атрадах. І яшчэ лепш—калектыўнымі важатымі з'яўляюцца цэхавыя і брыгадныя камсамольскія арганізацыі і групы. У гэтым раёне 35 інжынераў, механікаў, трактарыстаў узначальваюць гурткі тэхнічнай творчасці, кіруюць спартыўнымі секцыямі, гурткамі мастацкай самадзейнасці. Трэба раўняцца на полацкіх і івацэвіцкіх камсамольцаў, трэба, каб кожны маладзёжны калектыў больш актыўна ўздзейнічаў на справы піянераў. Толькі тады рабяты адчуюць, што за іх спіной стаіць вялікі калектыў дарослых—патрабавальны і клапатлівы, які цікавіцца вучобай, жыццём і захапленнямі дзетвары.

Пэўны ўклад у выхаванне юных ленінцаў, у развіццё іх дапытлівасці заклікаготы ўнесці камсамольскія арганізацыі інстытутаў. Яны павінны дапамагчы ствараць навукова-тэхнічныя гурткі, клубы юных фізікаў, хімікаў, матэматыкаў. Нельга тут не адзначыць дзейнасць камсамольскай арганізацыі Мінскага педагагічнага інстытута замежных моваў. Будучыя педагогі працуюць атраднымі важатымі ў школах, піянерскіх лагерах і домакіраўніцтвах, кіруюць гурткамі, макаранкаўскімі атрадамі пры дзіцячых пакоях міліцыі. Пры факультэце грамадскіх прафесій створана спецыяльнае аддзяленне, на якім шэсцьсот чалавек вывучаюць тэорыю і практыку піянерскай работы. У інстытуце створаны і педагагічны клуб «Сэрца аддаю дзецям». Мэта гэтага клуба—вывучаць і прапагандаваць лепшы вопыт піянерскай работы ў рэспубліцы.

Заслугоўвае ўвагі работа з піянерамі і студэнтаў Мінскага і Гродзенскага педінстытутаў, мінскіх інстытутаў народнай гаспадаркі і фізічнай культуры. Тут кожны трэці студэнт прымае ўдзел у рабоце з піянерамі.

Прыцягненне ўсіх звенняў камсамола, шырокай грамадскасці да работы з піянерамі—справа вельмі важная і адказная. І задача абкомаў, гаркомаў, райкомаў камсамола—удасканальваць і пашыраць вопыт, павышаць адказнасць кожнага камсамольца за работу з піянерамі.

**Уладзімір КАБУШ,**
**адказны сакратар Рэспубліканскага савета піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна.**



На Цэнтральнай станцыі юннатаў.

# ПАЛАЦЫ РАДАСЦІ

Праз вясёлую мазаіку вітража веснавое сонца льецца ў палац. Яго праменні лажацца на клавішы фартэпіяна. І кружацца белыя банты дзяўчынак. Сонца кранае струны мандалін і домраў. І пад самай столлю гучыць бадзёры марш. Сонца прабягае па мальбертах і бачыць сябе на дзіцячых малюнках — сярод сіняга лесу, над зялёнымі лясамі...







Гурток мастацкай гімнастыкі.

Ігар Германенка і Рэгіна Жыдовіч — акцябраты. Яны прыйшлі ў ансамбль «Зорачка», каб навучыцца іграць на народных інструментах.





Сонца б'е ва ўсе вокны. І ў кожнай зале салютуюць яму чырвоныя агеньчыкі — піянерскія гальштукі.

Мінскі палац піянераў поўны сонечнага святла, а дзіцячы смех — яго гімн. Тут вучаць дзяцей творчасці. Маляванне, лепка, танцы і спевы, лялечны тэатр, мастацкая гімнастыка, музыка, народнае ткацтва і вышыванне — маленькі чалавечак, калі ўпершыню пераступіць парог палаца, губляецца: столькі радасці чакае яго.

А побач другі палац — Цэнтральная станцыя юных тэхнікаў. Тут букет самых нечаканых пахаў — бензіну, клею, стружак, лакаў. Тут царства хлопчыкаў. Яны робяць мадэлі аўтамабіляў, караблёў, самалётаў, ракет. Пачынаюць з самых простых, а праз нейкі час начыняюць свае мадэлі электронікай, перамагаюць на чэмпіянатах краіны, становяцца майстрамі спорту.

З 1929 года існуе ў Мінску яшчэ адна піянерская ўстанова — Цэнтральная станцыя юннатаў. Калісьці яна месцілася ў маленькіх драўляных доміках. Цяпер станцыя ў шматпавярховым цагляным корпусе. А ў доміках жывуць звяры і птушкі.

Тысячы дзяцей займаюцца ў гуртках Палаца піянераў і станцый. Вопытныя педагогі памагаюць развіваць ім таленты. Робіцца гэта з вялікім тактам і з поўнай сур'ёзнасцю. І прыходзяць сюды па навуку піянерважатыя, настаўнікі, кіраўнікі Дамоў піянераў і клубаў, каб усім разам гадаваць і гартаваць нашу піянерыю — юнацтва камуністычнай будучыні.

Валянцін ЖДАНОВІЧ.

Фота аўтара.






Цэнтральная станцыя юных тэхнікаў. Яхта выходзіць у «вялікае плаванне».

●

Піянеры-карцінгісты.

●

Піянерскі лялечны тэатр «Васілёк». Лялькі «рыхтуюцца» выступаць.

●

Сярод мінскіх піянераў — намеснік міністра асветы Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам таварыш Во Тхофанг Ньо.



# ІДЗЕ ПОШУК

Чырвоныя следапыты Віцебска, праходзячы маршрутам Усесаюзнага маршу «Заўсёды гатовы!» і «Раўненне на піянерскі сцяг», сабралі цікавыя звесткі і матэрыял пра піянерыю Віцебшчыны.

...Была вясна 1922 года. Па прыкладзе Краснай Прэсні Масквы ва ўсіх буйных гарадах краіны пачалі ствараца дзіцячыя камуністычныя арганізацыі. Тады ж у Віцебску на заклік губкома дзеці рабочых і гарадской беднаты запісваліся ў піянеры. Групу рабят з прафтэхшколы ўзначаліў Станіслаў Маневіч, вялікі выдумшчык і весялун, хлопец са светлай галавой і залатымі рукамі.

Арганізатарам усіх дзіцячых спраў быў губком камсамола.

Піянерскі рух рос і шырыўся. У 1923 годзе на дзвярах губкома камсамола з'явілася аб'ява: «Дзеці рабочых, уступайце ў шэрагі піянераў! Запіс адбываецца тут».

У першыя дні жадаючых уступіць у піянеры набралася 300 чалавек.

9 чэрвеня на Успенскай горцы сабраліся навучэнцы прафтэхшкол, дзеці металістаў, абутнікоў, дрэваапрацоўшчыкаў, будаўнікоў, друкароў, воднікаў і інш. З гэтай аб'яднанай групы былі адабраны 48 старэйшых па ўзросце дзяцей, якія склалі першы піянерскі атрад горада.

Знойдзены план работы першага піянерскага атрада ў першы месяц яго існавання. У ім растлумачвалася, хто такія піянеры, значылася вывучэнне піянерскіх законаў і звычаяў, вывучэнне біяграфіі К. Лібкнехта, развучванне «Інтэрнацыянала» і іншых рэвалюцыйных песень, страявыя заняткі і г. д.

Цікавае, змястоўнае жыццё вірыла ў першых піянерскіх атрадах. Піянеры хадзілі ў паходы, праводзілі экскурсіі на фабрыкі і заводы, арганізоўвалі гутаркі і сустрэчы з камуністамі, камсамольцамі, удзельнікамі рэвалюцыі. Тады ж пачаліся і карысныя піянерскія справы: збор металалому, утыльсыравіны, дапамога сем'ям рабочых па доглядзе дзяцей і інш.

Юныя ленінцы горада трымалі цесную сувязь з дзецьмі вёскі. Самадзейнікі прыязджалі ў вёску са спектаклямі; гарадскія піянеры везлі сельскім рабятам чырвоныя гальштукі, кніжкі, спеўнікі, развучвалі рэвалюцыйныя песні, праводзілі гутаркі і чытанні.

У 1924 годзе адзначалася сёмая гадавіна камсамола Віцебска. На ўрачыстым сходзе ў гарадскім тэатры 26 старэйшых піянераў былі прыняты ў члены камсамола. Так нарадзілася адна з першых традыцый піянерскай арганізацыі—ва ўрачыстай абстаноўцы перадаваць старэйшых піянераў у камсамол і даваць ім грамадскія даручэнні. Яны ўсе сталі піянерскімі важатымі.

Вялікі прыток дзетвары ў піянеры пачаўся пасля смерці У. І. Леніна. Да 5 лютага 1925 года ў горадзе было ўжо 33 атрады і 7 атрадаў у павеце. Да 22 мая таго года ўжо было 65 атрадаў, у якіх налічвалася 4 тысячы дзяцей. Пачалі ствараць піянерскія атрады і ў раёнах Віцебшчыны. Пасля выезду юных віцьблян у Лёзна там арганізаваўся піянерскі атрад.

У 1923 годзе нарадзіўся першы піянерскі атрад на Талачыншчыне. Адной з першых вясковых піянерак стала Марыя Осіпава, ініцыятыўная, энергічная дзяўчынка. Піянеры выбралі яе сваёй важатай. І не памыліліся. Спектаклі, якія пачалі ставіць піянеры на чале са сваёй важатай, з цікавасцю глядзелі не толькі жыхары пасёлка, але і навакольных вёсак. Разам з Марыяй піянеры выступалі з канцэртамі, чыталі газеты, кнігі, праводзілі цікавыя зборы, піянерскія кастры.

Многа гадоў мінула ўжо. Колішняя піянерка Марыя Барысаўна Осіпава стала членам Камуністычнай партыі. У суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны яна самаадданна змагалася супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Застаўшыся ў акупіраваным Мінску, Марыя арганізавала падпольную групу, якая выконвала адказныя заданні партызанаў. Пры яе кіраўніцтве і актыўным удзеле быў выкананы прысуд над злосным катам беларускага народа гаўляйтарам Кубэ. За мужнасць і адвагу ў барацьбе з гітлераўцамі М. Б. Осіпавай было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Нядаўна ў Палац піянераў прыйшла цікавая фатаграфія. На ёй засведчана святкаванне нараджэння піянерскага атрада ў мястэчку Колышкі Лёзненскага раёна. На здымку шмат людзей: і дзеці, і дарослыя. На піянерскім сцягу надпіс: «Мы ідзем на дапамогу пралетарыяту супраць сусветнага капіталізму».

Самым шматлікім у той час быў піянерскі атрад пры чыгуначнай станцыі Віцебск. У ім налічвалася звыш ста піянераў. Згуртаванасць і дружба, якія панавалі ў гэтым калектыве,назаўсёды зблізілі людзей. Больш як трыццаць былых членаў атрада падтрымліваюць сувязь між сабою, сустракаюцца, хаця і жывуць у розных раёнах і гарадах краіны.

У 1928 годзе Н. К. Крупская праз газету «Пионерская правда» звярнулася да піянераў з пісьмом, у якім заклікала іх як мага актыўней удзельнічаць у грамадскім жыцці.

Гэтае пісьмо было абмеркавана ва ўсіх атрадах і звеннях. З 1 кастрычніка 1928 года ў рэспубліцы быў аб'яўлены піянерскі культурна-бытавы паход пад дэвізам: «За вучобу і ліквідацыю непісьменнасці!», «За культуру ў грамадскім і асабістым жыцці!»

І ў летапіс піянерыі Віцебшчыны былі запісаны цікавыя і карысныя справы.

Другому Усебеларускаму злёту піянераў дэлегаты з Лёзна рапартавалі аб тым, што яны закончылі навучальны год без двоек, што ў летнія канікулы ў саўгасе зарабілі тры тысячы працадзён.

Ушацкія піянеры актыўна папрацавалі на ачыстцы насення, сабралі 18 тон попелу, навучылі грамаце 287 чалавек, выпусцілі 53 насценныя газеты.

З металалому, які сабралі піянеры вобласці, рабочыя зрабілі дзесяць уборачных машын.

Па ініцыятыве камсамольцаў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, шэфаў над піянерамі Аршанскай акругі, у вёсках пачалі ствараць піянерскія сельскагаспадарчыя клубы. Спачатку гэта былі звычайныя гурткі для вясковых дзяцей, імі кіравалі студэнты. Яны з дзецьмі рабілі доследы, вучылі іх даглядаць агарод, сад. Вясною 1926 года ў акрузе ўжо было 12 такіх клубаў. У іх займалася звыш 500 энтузіястаў садоўніцтва і гароднінцтва.

З абласнога архіва мы атрымалі вельмі цікавы для гісторыі піянерскага руху дакумент—«Пастанову № 266 Народнага Камісарыята земляробства БССР» ад 20 ліпеня 1934 года. У ёй гаворыцца, што ў калгасах «Турава» і «Галынка» на Сенненшчыне створаны і працуюць піянерскія дазоры па ахове калгаснага ўраджаю. Піянеры-дазорцы збіраюць каласы на полі, ахоўваюць копы. Найбольш актыўныя з іх былі ўзнагароджаны значком «Ударнік», граматамі, музычнымі інструментамі.

Пошук працягваецца. Да юбілею савецкай піянерыі музей гісторыі піянерскай арганізацыі Віцебшчыны папоўніцца новымі матэрыяламі.

*Жана* ГРАЧАНАВА,
метадыст Віцебскага абласнога Палаца піянераў і школьнікаў.

У САЛЕХАРДСКІМ аэрапорце нялёгка сесці на самалёт, што лятае па маршруце «Салехард—Мужы». Але мне пашанцавала. Наша «Анначка» была абсталявана мяккімі крэсламі, а не звычайнымі жалезнымі лаўкамі. Так што можна было добра ўладкавацца.

Ілюмінатар адкрываў даволі сумны пейзаж: бясконцую бель тундры, на якой дзе-нідзе кусціліся карлікавыя бярозкі. Я пачаў гартаць старонкі купленага яшчэ ў Сейдзе часопіса «Урал».

«Анначка» садзілася на аэрадром—ледзяную, расчышчаную пляцоўку Малой Абі. Злева гарбаціліся лясістыя адгор'і Прыпалярнага Урала.

— Дзень добры, Мужы!

...Што ўразіла яшчэ на першай запалярнай станцыі Сейда Паўночнай чыгункі, дык гэта—драўляныя будынкі. Тут усё навокал з дрэва: мошчаныя вуліцы, дашчаныя тратуары, жыллёвыя і адміністрацыйныя будынкі. Яны могуць быць двух- і трохпавярховыя. У сталіцы Ямала-Нянецкай акругі—горадзе Салехардзе—нават ёсць новы мікраараён па вуліцы Міру. Ён узведзены па самых сучасных «брусавых» праектах. На Поўначы галоўны вораг будаўніцтва—адвечная мерзлата. Летам, калі зямля адтае, мерзлата апускаецца. Зімою—наадварот. Асаблівa мерзлата непакоіць на поўначы Заходне-Сібірскай нізіны, дзе плывун на сваім шляху амаль не сустракае перашкод і, нібы масла, разразае дрыгву.

Усюды па Цюменскай поўначы будуюць на сваях, якія называюцца «алоўкамі». «Алоўкі» засцерагаюць сцены ад аварыйнай асадкі.

Мужы—не выключэнне. Уздоўж берага Малой Абі цягнецца цэнтральная вуліца сяла—Савецкая. На гэтай мошчанай вуліцы—вялізныя драўляныя будынкі: гасцініца, сталовая, універмаг, некалькі прадуктовых магазінаў, кінатэатр «Поўнач», вузел сувязі, камбінат бытавога абслугоўвання. На плошчы імя Леніна—двухпавярховы будынак раённага Дома культуры, райком партыі і рэдакцыя Шурышкарскай газеты «Ленін юш», што ў перакладзе з хантыйскай мовы азначае—«Ленінскі шлях».

# ЯМАЛЬСКАЕ ЗЗЯННЕ

**З паўночнага блакнота**

●

Шмат хто ведае з кніг, што аэрасані—у асноўным «паўночны» від транспарту. Цяпер адбылася сустрэча. Аэрасані маюць вонкавае падабенства з самалётам. Такі ж па сваіх памерах прапелер, як і ў «Анначкі», кабіна—таксама; па баках дзве лавы для пасажыраў, у хвасце—пляцоўка для пошты. Рабочае месца экіпажа аддзяляе ад салона тоненькая сценачка з прасаванага шкла. Унутранасць «цвыркуна» герметычна зачынена ад знешняга свету, які можна бачыць толькі ў ілюмінатар. Чаму я ў жарт называю гэтую машыну «цвыркуном»? Зноў жа, па знешніх прыкметах. У аэрасанях «ногі», да якіх прыстасаваны шырачэзныя лыжы, напаўсагнуты ў «каленях». У салоне вельмі цяжка размаўляць са спадарожнікам, бо і тут тарахценне такое ж, як і ў «Анначцы».

Па Малой Абі мы праехалі 25 кіламетраў на поўдзень, а потым павярнулі на захад. Пяць гадзін мы ехалі да Аўгорта. «Аўгорт» па-хантыйску—«вёска на рацэ». Ад Мужоў гэта ажно за сто дваццаць кіламетраў. На шляху мінулі тры пасёлкі: Кіеват, Святы Мыс і Ямгорт. Усе гэтыя пасёлкі стаяць на крутых берагах Малой Абі і Сыні.



Менавіта—на крутых. Калі ласка, паглядзіце на геаграфічную карту Ямала-Нянецкай акругі. Пачынаючы з поўдня, Вялікая Об у сваім панізоўі ўтварае вытоку, якая мае назву—Малая Об, і яшчэ мноства розных вытокаў, пратокаў і пратокаў. І ўся тэрыторыя на поўначы ад Урала да Енісея—непралазная дрыгва. «Сухія» месцы—гэта крутыя берагі рэк. На крутых берагах умовы больш-менш прыгодныя для жыцця. Таму ўсе пасяленні абавязкова гняздзяцца ўздоўж рэк. Рэкі на Поўначы ўсё: і ежа, і пітво, і транспарт.

Але Святы Мыс сустрэў нас нейкім незвычайным маўчаннем. Не дымілі коміны печаў, не чуўся брэх сабак, якія заўсёды першымі сустракаюць званых і нязваных гасцей, не было відаць, каб нехта ішоў па вуліцы або спускаўся да палонкі з вёдрамі па ваду. Стваралася ўражанне, што вёска вымерла. Міхаіл, так звалі вадзіцеля, прыглушыў матор, адкрыў у прарыстай сценачцы фортку і крыкнуў:

— Не дзівіцеся, вёску перасялілі Сынскі сельскі Савет у Аўгорт. Бачыце, засталіся толькі самыя трухлявыя хаціны. Іх ужо і перавозіць няма аніякай выгады. Людзі атрымліваюць кватэры ў Аўгорце.

— Што дае перасяленне?

— Лепшую арганізацыю працы, культуру бытавога абслугоўвання. Людзі не адчуваюць так востра сваю адарванасць ад свету. З Аўгорта ў Салехард зімою ходзяць аэрасані. У Аўгорце добры клуб з цудоўнай самадзейнасцю, у якой і я калісьці прымаў удзел. Сам я аўгорцкі...

У Аўгорт мы трапілі а васемнаццатай гадзіне. На двары ўжо стаяла змрочная палярная ноч. Пасёрбаўшы рыбнай юшкі ў сталовай мясцовай школы-інтэрната, я застаўся на начлег у кабінеце старшыні сельскага Савета Кіма Раманавіча Конева. У Аўгорце пакуль няма гасцініцы, таму Кім Раманавіч ахвотна аддае свой кабінет пад начлег камандзіровачнаму люду, якога не так ужо і многа тут.

## СЫНСКІ АЛЕНЯВОД



Пятая частка ўсяго пагалоўя аленяў краіны прыпадае на Ямала-Нянецкую акругу. Ад продажу прадукцыі аленяводства саўгасы Ямала штогод атрымліваюць па 600—700 тысяч рублёў прыбытку. Гэтая галіна сельскай гаспадаркі з'яўляецца тут найбольш рэнтабельнай. Так сведчыць статыстыка. Больш чатырох тысяч цэнтнераў аленіны дае кожны год дзяржаве і Шурышкарскі раён, што на паўднёвым захадзе акругі...

— Тут, за дзесяць кіламетраў ад Аўгорта, у тайзе—пляцоўка. Сёння там пачынаецца забой аленяў,—раніцой паведаміў Кім Раманавіч.—Можаце запісаць: статак № 7, брыгадзір Даніла Сямёнавіч Лангортаў.

— А як дабрацца туды?

— Зараз у пасёлку знаходзіцца сын Данілы Сямёнавіча—Валодзя Лангортаў. Ён прыехаў на аленях па прадукты. Я ўжо папярэдзіў яго, каб ён перад ад'ездам завітаў у Савет. Прадбачыў, што спачатку ў статак накіруецеся...

Слова за слова—завязалася гутарка. Так, у Сынскі сельскі Савет уваходзяць усе населеныя пункты, што размешчаны па берагах ракі Сыні, ад назвы ракі—і назва Савета. На яго тэрыторыі аддзяленне саўгаса «Мужаўскі», гандлёвая кропка Мужаўскай рыбалавецкай спажывецкай кааперацыі і васьмігадовая школа-інтэрнат. Ёсць сельскі клуб у Аўгорце і ад саўгаса—у Ямгорце. У кожным статку—Чырвоны чум з культпрасветработнікам і кінамеханікам... Праблемы? Будаўніцтва. Неабходна будаваць новую школу, будаваць жыллё для маладых спецыялістаў, трэба пашыраць яслі-сад, трэба...

Кім Раманавіч махнуў рукой:

— Пажывяце на Поўначы—убачыце. Тут нашы праблемы і дасягненні, нібы на далоні... А вунь і Валодзя едзе.

З нартаў саскочыў чалавек у маліцы—шырокай, тыпу кашулі, хантыйскай вопратцы, пашытай з аленевай скуры ворсам усярэдзіну. Здалёк і не разбярэшся адразу ва ўзросце. Толькі тады, калі Валодзя пад'ехаў пад самыя вокны і адкінуў з галавы башлык, я ўпэўніўся, што майму возчыку не больш семнаццаці...

●

— А што, прыгожая наша Сыня?..

Дарога ў статак № 7 нейкі час цягнецца проста па рацэ, потым пераходзіць на таежны бераг, затым зноў мы з Валодзем імчым на нартах па сынскім зімніку. На берагах не вельмі высокі, але стромкі меднастволы кедрач, густыя зараснікі тальніку, на рацэ дзе-нідзе чарнеюць лункі, ля якіх шаманяць над стаўнымі сеткамі рыбакі. Здаецца, што мы едзем праз жывы зялёны калідор, які ўтварыла сама матухна-прырода. Снег так і забірае ў палон сваёй чысцінёй... Сапраўды, прыгожая рака Сыня... Хораша!..

— Вуся! Вуля! [1] — па-хантыйску вітаецца з рыбакамі Валодзя. — Сырок ідзе?

— Добра ідзе. Вазьмі на нярхул. Даніла Сямёнавіча пачастуеш.

Мы бярэм штук пяць серабрыстых, ужо замерзлых рыбін і кладзем іх у мой сакваяж. На месцы ўжо даведаемся, што гэта за нярхул... [2]

— Дык што, падабаецца Сыня? — зноў пытаецца ў мяне Валодзя.

Сустрэчны вецер даносіць да слыху абрыўкі слоў: «...аецца... ыня», і я здагадваюся, што Валодзю, напэўна, вельмі важна пачуць меркаванне чалавека, які на Поўначы без году тыдзень.

— Так! — набіраю поўныя грудзі марознага паветра і што ёсць моцы крычу хлопцу ў вуха. — На нашу Прыпяць падобная!

Валодзя ківае галавой: маўляў, зразумеў...

Вялікая паляна. Два загоны. З боку пляцоўка і прыёмны пункт. У першым загоне аленяводы выбіраюць адпаведных нормам забою целехараў [3] і пераганяюць жывёлу ў другі загон.

— Вунь бацька, — Валодзя паказаў на аднаго з двух чалавек, якія гутарылі каля доўгіх перакладзін, збітых з тоўстых жэрдак.

Прывіталіся.

— Даніла Сямёнавіч Лангортаў...

— Вячаслаў Мікалаевіч Папоў, — падаў руку сярэдняга росту, поўны чалавек, — прыёмшчык Мужаўскага райспажыўсаюза.

— Ого! Дык вы прымаеце ўжо апрацаваныя тушы?

— Канечне. Бачыце, як упраўляюцца хлопцы: уся работа на месцы. У Данілы Сямёнавіча амаль уся прадукцыя вышэйшым гатункам пайшла.

Бачна, што Вячаслаў Мікалаевіч задаволены. Ён смяецца, паляпвае аленявода па плячы:

— Малайчына, Даніла Сямёнавіч! У Мужах і Салехардзе людзі ума-сіба [4] казаць будуць. Хоць на пельмені, хоць на струганіну, хоць у суп — пальчыкі абліжаш. Звярніце, калі ласка, увагу вось на гэтую тушу — колькі тлушчу на лапатках! А зараз вось на гэту паглядзіце! — як дзіця, радуецца прыёмшчык.

Жыццёвая дарога Данілы Сямёнавіча супала з маршрутамі качэўя аленяў, а брат яго Павел Сямёнавіч стаў першым медыкам-фельчарам на ўсёй Сыні.

Дзесяць гадоў назад у цяжкі веснавы перыяд — час расцёлу і сцюдзёных сырых вятроў з Палярнага Урала — памёр мужаўскі пастух, брыгадзір статку № 7. Пастух, звычайна добра ведаючы сваіх аленяў, калі размова заходзіць пра перадачу яму чужога статку, праяўляе вялікую перасцярогу: хто ведае, якіх там аленяў пакінуў стары ў спадчыну? А раптам у перыяд расцёлу вялікія страты будуць? А раптам на маршруце статку, які заблытаўся дзесьці на самых усходніх схілах Урала, няма ніводнага больш-менш закрытага ад ветру месца, прыдатнага для ацёлаў? Што ні кажы — рызыка немалая. Каму дырэкцыя саўгаса ні прапаноўвала статак, ніхто не даваў згоды — кожны ў такі напружаны час баяўся адказнасці.

Даніла Сямёнавіч адразу даў згоду. Ён некалькі дзён з верталётчыкамі шукаў статак. А калі знайшоў, пайшоў на нябачную і нячутную на Сыні дзёрзкасць. Парушаючы заведзены маршрут, Даніла Сямёнавіч некалькі дзён і начэй пераганяў па сынскім зімніку схуднелых аленяў на паўднёвы ўсход. У тайзе знайшоў не толькі ежу для жывёлы, але і правёў расцёлы.

— За парушэнне маршруту аб'яўляю вымову, — строга гледзячы прама ў вочы Лангортаву, сярдзіта высек словы ўпраўляючы аддзялення саўгаса Ілля Аляксеевіч Палкін праз два тыдні пасля гэтага выпадку. — А за тое, што ўсё пагалоўе збярог у час расцёлаў, вялікае дзякуй, Даніла Сямёнавіч!.. Трымай прэмію! — у вачах Палкіна скакалі хітрынкі. Ён працягнуў аленяводу блакітны канверт. — Бач ты яго, — засмяяўся Ілля Аляксеевіч, — аж на тэрыторыю Ханты-Мансійскай акругі забраўся...

●

І зноў — нарты і вецер за вушамі.

— Да арміі папрацую, а потым пайду ў Салехардскі ветэрынарны тэхнікум. Буду доктарам, буду лячыць аленяў, — падзяліўся па дарозе сваімі планамі Валодзя.

---

[1] Вуся! Вуля! (хант.) — дзень добры!

[2] Нярхул — струганіна са свежай або свежамарожанай рыбы.

[3] Целехор (хант.) — алень-самец.

[4] Ума-сіба (хант.) — дзякуй.



## МАТЧЫН ХЛЕБ





Чатырохгадовая дзяўчынка стаіць на табурэтцы. Завуць яе Надзейка. Яна прыціскае да грудзей ляльку. А на табурэтцы стаіць Надзейка таму, што вунь той дзядзька з Аўгорта жадае даведацца пра тое, што яна ўжо ўмее.

«...Я Ленина не видела,
Но я его люблю!» —

звонка канчае дзяўчынка верш, які, зразумела, вывучыла з мамай. Мама... Яна сядзіць за сталом, падперла па звычцы правай рукою шчаку. Вочы яе добрыя-добрыя: мама, напэўна, рада, што Надзейка так удала вывучыла верш.

— Ну як, Зоя Фёдараўна, не цяжка спраўляцца з гэтай свавольніцай? — пытаецца Ілля Аляксеевіч Палкін.

Ілля Аляксеевіч — дэпутат Сынскага сельсавета. Прыехаў у Аўгорт на сустрэчу са сваімі выбаршчыкамі.

З Аўгорта мы рушылі пасля абеду і трыццацікіламетровы шлях на буланым адолелі за гадзіну з нечым. У пякарню ж зайшлі, каб прагнаць смагу хлебным квасам, гатаваць які Зоя Фёдараўна Бальчугова — майстрыха.

— Дзякуй, Аляксеіч, што не забываеш пра нас. Усё ўжо добра. Старэйшы — у арміі. Дзяўчынкі вучацца ў школе. Наташа з Тамарай у Аўгорце, а Люба — у Горках. Вось засталіся з Надзюшай. Во пакуль даводзіцца браць з сабой у пякарню. Яна ў мяне, Аляксеіч, якраз не свавольніца — спакойная дзяўчынка. Дай ёй у рукі аловак ды паперы ліст — забярэцца ў куток і малюе што-небудзь. І да вершыкаў прывучыла яе — панятлівая, нічога, што малая.

— Пачакай, Фёдараўна, у наступным годзе пабудуем у Ямгорце такія ж яслі, як і ў цэнтры. Яе першую прымем.

— Ды я што там — разумею. Як, Надзёк, пераб'емся? — раптам пекарыха весела пытаецца ў сваёй дачкі.

— Пераб'ёмся, мама! — у тон ёй адказвае малая. Пры гэтым гарэзліва падміргвае.

І стаяць яны, радасныя, прыгожыя: паглядзець на іх — самому шчасця пазычыць.

— Мо чайку заварыць, з дарогі ўсё ж? — прапаноўвае Зоя Фёдараўна.

— Не, Зоя Фёдараўна, дай нам па чарпаку квасу, бо сасмягла ў горле. Дый паклыпаем паціху, не будзем табе перашкаджаць справай займацца... Дзякуй, Надзейка, за вершыкі. Вельмі прыгожа ты іх прачытала. У наступны раз з Аўгорта кніжачку табе прывязу — вучыся чытаць...

●

— Ілля Аляксеевіч, паглядзіш на гэту жанчыну — і здаецца, шчаслівейшага чалавека на зямлі не знайсці?

Палкін зірнуў на гадзіннік.

— Да пачатку сустрэчы з выбаршчыкамі — дзве гадзіны. Хадзем у бібліятэку, раскажу пра яе.

...Людзі паміраюць, нараджаюцца, зноў паміраюць. Адно пакаленне змяняецца другім, і застаецца вечнай прымаўка: жыццё пражыць — не поле перайсці. Адны глядзяць бядзе прама ў вочы, змагаюцца з горам і не здаюцца, калі раптам гэта самае жыццё блытае карты ў іхнім лёсе, а іншыя — раскісаюць.

Як жа ты, Зоя Фёдараўна, не паслізнулася? Як сама засталася шчаслівай і зберагла шчасце для сваіх дзяцей? Не, як ні разважай, а прыгажосць чалавека неаддзельна ад мужнасці...

Сустрэліся людзі, як быццам і кахалі адзін аднаго. Пажаніліся. І тут пачалося: ты — не тая, ты — не той. Пакінуў Міхась Зою з маленькім Сашам на руках. У другі раз выйшла замуж. Колькі пажылі — здарылася трагедыя. Забрала чалавека глыбокая халодная Сыня. Засталіся яшчэ маленькія. Няшчасце за няшчасцем — здаецца, ад бяды і схавацца няма дзе...

— Я таксама меў неасцярожнасць спытаць у Зоі Фёдараўны, як яна сваё гора глушыць, як не паддалася маладая жанчына скрусе. На поўдні, магчыма, гора і не так цяжка пераносіцца, — разважаў Палкін, — там усё ж людзей больш, тэатры, тэлевізар, кватэры камфартабельныя — усё тое, што трэба маладой маці, наогул чалавеку. А яна ведаеш што адказала? «Калі мне, Аляксеіч цяжка, я ўспамінаю камісара з «Аптымістычнай трагедыі». Дапамагае...»

Ёсць у яе розныя граматы за добрую работу, ленінскі юбілейны медаль уручылі. Значыць, паважаюць жанчыну людзі.

— Вынік маёй працы—хлеб. А цану яго я добра ведаю,—гаварыла ў той вечар Зоя Фёдараўна.—Не дваццаць, не пятнаццаць капеек. Хлебу цана—усё жыццё. Маё таксама.

Ёй радасна, што яе праца, яе турботы за хлеб, за тое, каб ён быў заўсёды ў хаце, патрэбныя людзям. Той жа Ілля Аляксеевіч Палкін не пакінуў яе, калі было цяжка. Дапамог дачок і сына яе ўладкаваць на працу, ім далі месца ў інтэрнаце. Зоя Фёдараўна стараецца, каб і дзеці вучыліся, за дабрату плацілі дабратой. Маці захоўвае выразку з раённай газеты «Ленін юш», дзе расказваецца пра ўдарніка камуністычнай працы кінамеханіка далёкага чума Аляксандра Бальчугова.

— Піша, што служба ідзе нармальна, каб не хваляваліся. Лісты дасылае, вядома, часта,—замілавана кажа маці.

## ШЧАСЦЕ РЫБАКА



Вясна на Поўначы надыходзіць з белымі начамі, з яркім, сляпучым сонцам. А неба такое блакітнае, нібы ў каляровым фільме, які ўваскрашае прыгажосць Неапаля ці Каўказа. Апранаюцца ў свае лепшыя сукенкі зыранкі і пад гармонік крочаць на высокі бераг Малой Абі—любавацца ледаходам і паводкай. Прыходзіць з поўдня першы цеплаход—таксама свята.

Вясна тут самая доўгачаканая пара года. І больш за ўсіх вясну чакае рыбак. Не, не той, што любіць пасядзець з вудамі на беразе. Гэта—рыбак-прамысловік, дзякуючы якому ў нас і за мяжой, дарэчы, песцяць сябе самыя капрызныя гурманы асятровай чорнай ікрою і балыком.

Адкрытая вада, навігацыя, лоўля рыбы з адкрытай вады—для рыбака змяшчаецца ў адным ёмкім слове—пуціна. І нельга тут абысці маўчаннем аса пуціны—рыбака з тутэйшага пасёлка Лапхары Аляксея Сцяпанавіча Маркава.

Мы былі знаёмы завочна. Аляксея Сцяпанавіча бачыў я на здымку ў акруговай салехардскай газеце. Яго прозвішча паўтаралі кожны раз, калі гаворка заходзіла пра перадавікоў Шурышкарскага раёна. Захацелася напісаць пра Маркава пасля сустрэчы з ім на прафсаюзнай канферэнцыі Кушавацкага рыбзавода.

Што гэта за чалавек? Што ён наогул хоча ад жыцця? У чым бачыць сэнс свайго існавання? Такія пытанні ўзнікалі неаднойчы, калі гаворка ішла пра Маркава. Але пад рукамі былі лічбы яго абавязацельстваў і лічбы выканання планаў. Лічбы—амаль фантастычныя.

...Я прысутнічаў на кушавацкай прафсаюзнай канферэнцыі.

Не сакрэт, што здараюцца яшчэ такія канферэнцыі, на якіх дамініруе адзінае жаданне прысутных: хутчэй «адпакутаваць» і пайсці дахаты або ў гасцініцу. Гэтак бывае тады, калі пытанні на парадку дня—нязначныя, калі гучыць мала слоў шчырай крытыкі, калі сама крытыка—дробязная.

У Горках усё было інакш. Пра гэта асабліва сведчыла прамова чалавека сярэдняга росту, лысаватага, з хрыплаватым, але прыемным басам. Прамова Маркава Аляксея Сцяпанавіча. Увесь гэты чалавек, выраз яго твару, вострыя скулы, гарачы тон прамовы нечым прываблівалі.

— Добра тут выступалі рыбакі. Патрабавалі лепшых умоў працы, хатняга камфорту. Усё гэта верна. І на маю думку, тут сапраўды наш заўком маху даў. Ён не дапамог набыць рыбакам у час навігацыі газавыя пліты і сучасную мэблю. Толькі я асабіста, таварышы рыбакі, не пачаў бы размову вось з гэтага: давай умовы, давай камфорт. А можа інакш: давай нармальную працоўную дысцыпліну, рыбакі! Га? Чаму ў апошні час назіраюцца выпадкі прагулаў? І гэта тады, калі мы аб'явілі паход за эканомію і беражлівасць рабочага часу? Чаму некаторыя, як, напрыклад, у нашых шурышкарцаў, дазваляюць сабе прыйсці на работу пад «градусам?» Я думаю так: спачатку гаварыць пра свае абавязкі трэба, а потым ужо патрабаваць для сябе...

Цяпер было ясна, што дае Маркаў і што бярэ ад жыцця. Мо гэта вельмі шырока: «дае жыццю, бярэ ад жыцця»? Напэўна, не.

У Маркава на гэты конт някіх мар не было. Проста яго дзед, бацька, уся радня займаліся з пакалення ў пакаленне рыбацкім промыслам. І Лёшка цвёрда верыў без усялякіх там мрояў, што таксама стане рыбаком.

Больш пятнаццаці гадоў працуе на Кушавацкім заводзе Аляксей Сцяпанавіч, але час не пахіснуў ягонага гонару. Родам ён з Волгі, як кажа сам: «З вялікай рыбацкай мацеры».

...Ёсць пад Астраханню ў нізоўі Волгі сяло. Калі вяртаўся з персідскіх набегаў на Дон вольны казак і заступнік народны Сцяпан Разін, прычальвалі ягоныя стругі да маляўнічага волжскага берага.

Сяло назвалі Разіным. Тут нарадзіўся ў сям'і Сцяпана Маркава сын Аляксей.

Гады бяруць сваё. Але Аляксей Сцяпанавіч па-маладому рухавы, парывісты. У ягонай рашучасці ёсць нешта своеасаблівае, можа нават разінскае.

— Рос я задзірыстым хлапчуком,—гаворыць Аляксей Сцяпанавіч.—Баця свянціў мяне часта. Але браў з сабой на баркас, не баяўся са мною, малалетнім, у Каспій пускацца. Я ж на баркасе быў самы дысцыплінаваны, выконваў кожную бацькаву каманду. Даспадобы мне рыбацкае рамяство, пругкасць сецяў, калі іх з добрым уловам выцягваеш на баркас або на бераг...

Я глядзеў і радаваўся, як увачавідкі твар Маркава святлее. Такі, відаць, назаўжды выбірае сабе прафесію.

●

Расце, шырыцца слава Маркава, расце адпаведна ягонае майстэрства. Не адну тону рыбы вышэйшым гатункам здало дзяржаве звяно Аляксея Сцяпанавіча. Поплеч з ім працуе «баявы экіпаж», як жартуе сам Маркаў. Гэта—Веніямін Рыгоравіч Шахаў, Міхаіл Мікітавіч Русміленка, жонка Міхаіла Мікітавіча—Марыя Ігнатаўна.

Зноў мы сустрэліся з Маркавым у Горках на першамайскае свята. Аляксей Сцяпанавіч быў у святочным касцюме, на лацкане якога свяціўся новенькі, толькі што атрыманы юбілейны ленінскі медаль.

Аляксей Сцяпанавіч быў усхваляваны турботамі надыходзячай вясны.

— З Лапхароў на Азоўскую пратоку вязем во сеці і прадукты. Трэба не празяваць вясноўку,—тлумачыў ён мне,—Азоўская пратока мяжуе з басейнам Сыні. Як хлыне свежая вада з вярхоўяў Сыні, рыба пойдзе сюды. З дваццаць пятага мая па дзесятага чэрвеня мы будзем там рыбачыць на вясноўцы.

Я гавару, што яго сапернік Сатруеў нішто сабе, моцны хлопец.

Аляксей Сцяпанавіч хітра ўсміхаецца.

— А з моцным і змагацца цікавей. Яшчэ паглядзім, у каго больш рыбы будзе!..

## ПРАМЯНІСТАЕ КОЛА ШТУРВАЛА



Людзі Абі—не толькі рыбакі. Калі б летам на верталёце вы змаглі падняцца на пяцікіламетровую вышыню дзесьці сярод кальца Малая—Вялікая—Малая Об, вы ўбачылі б сотні матабударак, самаходак, катэраў, цеплаходаў на блакітных стужках панізоўя самай значнай воднай сібірскай магістралі.

Кушавацкі рыбзавод. Флот яго налічвае каля сотні буйных плывучых адзінак, якія сплаўляюць па Абі лес, дровы, будаўнічыя матэрыялы, цягнуць баржы з прадуктамі ў рыбацкія пасёлкі і, вядома, развозяць плашкоўты—рыбапрыёмныя пункты на вадзе ў час пуціны.

...Сонца высокае, вецер слабы, хваля нізкая. Начальнік аддзела флоту Кушавацкага рыбзавода Барыс Качэсаў, малады мужчына, паглядзеў на неба, потым апусціў палец у ваду, па-свойму вызначаючы характарыстыку ветру.

— Лады, угаварыў! Можаш ехаць... Вунь там, за «Аляксандрам Матросавым», ля пірса наша «Сібір». Наш гонар.

Канечне, словы пра гонар у першую чаргу адносяцца да экіпажа «Сібіры», а ўжо потым—да вартасцяў самога катэра.

Напрамак—Казымскі Мыс. Тры гадзіны апоўдні. Мы сядзім у кубрыку і п'ем густы чай на хантыйскі манер: спачатку наліваем у кубак вар, а потым сыплем у яго грузінскае крошыва. Мы—гэта капітан «Сібіры» Якаў Якаўлевіч Руф,

старшы механік Дзмітры Таяраў, кармпрыёмшчык жывога асятра Рыгор Аляксандравіч Пенечка і я. Нясе вахту рулявы матарыст Аляксандр Падрэзаў. На буксіры «Сібір» цягне жывырыбніцу для асятра і баржу з мукою...

Забягаючы наперад, скажу, што за час той навігацыі мне неаднойчы даводзілася карыстацца падарожным водным транспартам, аднак такога парадку, дысцыпліны, культуры каманды нідзе не сустракаў. Тут адсутнічае салёнае слова матроскага жаргону. Тут парадак. Чысціня ў кубрыках і рабочых памяшканнях. Падцягнутасць кожнага члена экіпажа «Сібіры»—адметная рыса гэтага калектыву. Я, напрыклад, бачыў, як «сібіракі» падводзілі да берага ў вёсцы Азова баржу з мукою, праводзілі манеўровыя работы. Ніякай мітусні, ніякіх спрэчак—толькі каманды капітана. Усе дзейнічаюць, быццам адзіны механізм. Толькі ж слова «механізм» занадта нейкае жалезнае, нежывое. Экіпаж «Сібіры»—дружны і адладжаны аркестр, дзе ў кожнага выканаўцы свой голас, почырк у працы.

Якаў Якаўлевіч Руф—хударлявы і сівы, бы лунь, мужчына гадоў за сорак. Нешматслоўны, з глыбокімі вачыма і строгім позіркам, ён пакідае ўражанне чалавека вельмі суровага. У яго, напрыклад, рэзкія, адпрацаваныя жэсты. І па тым, як ён акуратна лустачкамі кроіць хлеб, як дробненькімі глыточкамі адсёрбвае з кубка чай, як без гэткай бравbooднай «марской» хады ўразвалачку крочыць па палубе або стаіць за штурвалам—ва ўсім адчуваецца выпраўка.

Але вось ён узняўся з-за стала, прайшоў у рубку. Крануў за плячо Аляксандра.

— Чай.

Лёгка ўзяў і пачаў ледзьве прыкметна перабіраць кола штурвала. Вахта. А потым Руфа заменіць ля гэтага кола Таяраў. Таярава—зноў Падрэзаў. Так і будзе увесь дзень, вечар, ноч вакол сваёй асі рухацца гэтае кола...

Стаю непадалёк ад Якава Якаўлевіча і разглядаю лоцыі. Зразумела, Руф грунтоўна вывучыў свае маршруты па Вялікай і Малой Абі, таксама, як раней другую ямальскую раку—Таз, на якой пачаў плаваць з чатырнаццаці гадоў матросам. Пра гэта неяк абмовіўся Качэсаў: маўляў, з Руфам сваё дылетанцтва не дэманструй, гэта сапраўдны марскі воўк. Але ўсё ж...

— Якаў Якаўлевіч, калі не сакрэт, пра што вы зараз думаеце?

Руф усміхнуўся.

— Трэба крыху ўдасканаліць дыстанцыйнае кіраванне. Цяжка на паваротах манеўраваць...

Некалькі гадоў таму назад плаваў на «Сібіры» разам з Руфам у якасці старшага механіка Пётр Сямёнавіч Церпялюк, зараз інжынер па тэхніцы бяспекі Кушавацкага рыбзавода (якія людзі—гэтыя хлопцы Руфа!). Пётр Сямёнавіч расказаў, што яшчэ ў пачатку шасцідзесятых гадоў Якаў Якаўлевіч, выкарыстоўваючы прынцып работы вала вялікага механізаванага катэра (БМК), удасканаліў дыстанцыйную аддачу «Сібіры». Пасля творчых пакутаў і бяссонных начэй Руф зрабіў так, што «Сібір» стала больш манеўранай, павялічыліся нагрузкі на вінт...

Якаў Якаўлевіч і зараз абдумвае і ўзважвае ўсе «за» і «супраць», ад якіх зноў выйграе машына.

Я зноў прайшоў у кубрык. Рулявы матарыст і кармпрыёмшчык спалі, а Дзіма Таяраў чытаў газеты, што раніцой на катэр падкінуў экіпажу старшыня фабзаўкома Барыс Мікітавіч Крыванкоў.

— Ну, як табе наша машына, спадабалася? — запытаўся напаўголасу Дзіма, не адрываючыся ад газеты.

— Машына добрая. Толькі вось капітан маўклівы.

— То нічога. Мы з Падрэзавым па гэтым паказчыку норму перавыконваем,—усміхнуўся Таяраў, і ад усмешкі вузкія разрэзы яго вачэй крыху акругліліся.—А ён... Не бяда, што вельмі сур'ёзны. Маўчыць-маўчыць, а робіць сваё. Вунь сын старэйшы, Андрэй, у Омскім політэхнічным інстытуце вучыцца. Ды што там—сын! Я сам думаў, што тэхнічнае вучылішча рачнікоў скончыў—і хопіць. Дык не, прымусіў займацца ў вячэрняй школе. А на судне нам з Аляксандрам ва ўсім дапаможа адносна тэхнікі. Сам сябе ніколі не шкадуе. Дзе толькі магчыма, імкнецца рацыяналізацыю правесці. За ўсё яго галава баліць. Правільны ён мужык, камуніст...

Старшы механік «Сібіры» Дзміры Таяраў—знешне поўная супроцьлегласць Руфу. Магчыма, дае знаць аб сабе розніца ва ўзросце. Дзіму—дваццаць восем. Ён непаседлівы, любіць пагаварыць. На яго твары пастаянна блукае бесклапотная, няхітрая ўсмешка. Нават калі ён хмурыцца, што здараецца вельмі рэдка, усё роўна вочы смяюцца. Здаецца, толькі зачапі, і Дзіма адкажа жартам на жарт, звонка засмяецца...

Напэўна, толькі шчырыя людзі могуць так ясна і адкрыта глядзець у вочы субяседніку.

— Тут мы гутарылі пра тое, што такое шчасце.

— І да чаго прыйшлі?





— Руф кажа, што шчасце ў прызванні, у прафесіі. Саша за сямейнае шчасце. Гаворыць, будзе парадак у сям'і і—будзе ўсё добра і на рабоце.

— А ты?

— Я згодзен з Руфам і Падрэзавым. Трэцяга няма.

Чым выклікан павышаны тонус жыцця Таярава?

Ён нарадзіўся ў цяжкі час Вялікай Айчыннай вайны ў шматдзетнай хантыйскай сям'і. Хлапчуком пакінуў родныя Лапхары і пайшоў у Салехардскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча рачнікоў. Ніякія ўгаворы бацькі наконт таго, каб Дзіма стаў рыбаком, набыў традыцыйную хантыйскую прафесію, не дапамаглі. Сына цягнула да сябе тэхніка. Калі атрымаў правы механіка, яго да сябе забраў Руф. Вельмі ўжо спадабаўся вопытнаму капітану хлопец, якога хлебам не кармі—дай пакорпацца ў маторы.

Паступова фармаваўся характар чалавека. Рэкамендавалі Таярава ў партыю. Праз нейкі час юнак прадстаўляў партыйную арганізацыю Кушавацкага рыбзавода ў складзе Ямала-Нянецкага акружнога камітэта КПСС.

Здзівіла, што Таяраў мае ў свае гады чацвёра дзяцей.

— Люблю дзяцей!—шчыра прызнаўся Дзіма.—Усе яны ў нас амаль дарослыя: ходзяць у садзік і ў школу. Так што жонка мае магчымасць спакойна працаваць. А заробак наш немалы. Паесці, апрануцца і абуцца ўсім хапае. Ды і мая Яўлампія Георгіеўна без справы не сядзіць. У доме заўжды парадак, дзеці дагледжаны. А ўжо на паляванне разам пойдзем, іншы раз больш майго дзічыны настраляе. Вока ў яе трапнае.

Усё гэта разам узятае і складае шчасце Дзімы Таярава. І, як мне здаецца, правільна ўяўляе сабе філасофскую катэгорыю шчасця стармех «Сібіры». Дзіма заканчвае вячэрнюю сярэднюю школу, думае пра інстытут—думае пра будучае.

Ну, а Саша Падрэзаў? Ён плавае з Руфам і Таяравым першы год. Да гэтага хадзіў на суднах па Обскай Губе. Працаваў у Навапортаўскім рыбзаводзе, далёка ў Запаляр'і. Разам з сям'ёй нядаўна пераехаў у Горкі. Зараз, як кажуць, праходзіць у Руфа выпрабавальны тэрмін.

...Мы падыходзілі да Казымскага Мыса. Дзіма засумняваўся, што ў вёсцы днём будзе хто-небудзь з дарослых мужчын. Пуціна—усе на промысле. А па рацыі наўрад ці папярэдзілі людзей, што сёння да іх—груз з мукою.

Так яно і здарылася.

— Што ж, давайце самі выгрузім,—прапанаваў Саша.—Чым хутчэй гэта зробім, тым прастой меншы... Я гатовы, капітан.

— І я гатовы,—сказаў Дзіма Таяраў.

— Аддаць швартовы!—загадаў капітан Руф, абветраны, як скала.

### ЧАГО НЕ ПРАДБАЧЫЎ ФЕТ



Адкрыцці ў восьмай пяцігодцы ўнікальных запасаў «блакітнага» паліва (адно толькі Урэнгойскае месцанараджэнне пераўзыходзіць утрая запасы газу ў ЗША), будаўніцтва першага ў свеце запалярнага газаправода, будаўніцтва сеткі чыгуначных і шасейных дарог—гэта Ямал сённяшні.

Цяпер, калі знойдзены газ, адкрываецца перспектыва арганізацыі шырокай цяплічнай гаспадаркі на Ямале. У Салехардзе дзейнічае доследная сельскагаспадарчая станцыя з вялікім атрадам навуковых супрацоўнікаў. Ёсць нават малочна-гароднінны саўгас «Горкаўскі», што займаецца вырошчваннем бульбы і капусты.

Рускія, украінцы, беларусы і, самае галоўнае—карэнныя нацыянальнасці ў брацкай супольнасці мяняюць аблічча некалі бясплоднай зямлі. Якраз гэтага і не прадбачыў Фет. Так, той самы паэт, які пра цемрадзь народаў Крайняй Поўначы напісаў радкі: «...У чукчей нет Анакреона, к зырянам Тютчев не придет».

Памыліўся Апанас Фет. Прыйшоў да зыран Цютчаў. І не ён адзін. Заявілі сёння пра сябе свае нацыянальныя пісьменнікі і паэты, і ў першую чаргу зямляк мужаўцаў Іван Істомін. Гэтага не прадбачыў Фет.

**Алесь НІКАЛАЙЧАНКА.**

Салехард—Мінск.

# ЭКЗАМЕН ПА ХІМІІ

Гандлёва-эканамічны факультэт Беларускага інстытута народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава рыхтуе тавараведаў па прамысловых і харчовых таварах, арганізатараў гандлю прамысловымі і харчовымі таварамі. 150 выпускнікоў сярэдніх школ штогод залічваюцца на першы курс гандлёва-эканамічнага факультэта на стацыянар. Студэнты атрымліваюць тут шырокую і рознабаковую падрыхтоўку па агульнаадукацыйных прадметах, якія з'яўляюцца асновай для авалодання спецыяльнасцю тавараведа прамысловых і харчовых тавараў, спецыяліста высокай кваліфікацыі.

Студэнты вывучаюць гісторыю КПСС, палітэканомію, філасофію, навуковы камунізм, вышэйшую матэматыку, фізіку, замежныя мовы.

Вялікае месца ў вучэбным плане гандлёва-эканамічнага факультэта займае хімія. На працягу трох семестраў студэнты вывучаюць неарганічную, арганічную, аналітычную (якасны і колькасны аналіз), фізічную і калоідную хімію. Студэнты слухаюць лекцыі і выконваюць практычныя работы ў лабараторыях.

На занятках па аналітычнай хіміі студэнты вучацца вызначаць утрыманне вады, попелу, кіслот і шчолачаў у розных таварах, з дапамогай новых фізіка-хімічных метадаў аналізу вызначаюць наяўнасць розных хімічных элементаў.

На занятках па арганічнай хіміі будучыя тавараведы харчовых тавараў вывучаюць уласцівасці спіртоў, арганічных кіслот, тлушчу, вугляводаў, амінакіслот, бялковых рэчываў. Будучыя тавараведы прамысловых тавараў вывучаюць уласцівасці высокамалекулярных злучэнняў, пластычных мас, штучных і сінтэтычных валокнаў. На занятках па фізкалоіднай хіміі студэнты вывучаюць цеплавыя эфекты хімічных рэакцый, уласцівасці дысперсных сістэм (эмульсій, суспензій), з'яву набухання палімераў.

Такая шырокая і рознабаковая падрыхтоўка студэнтаў па агульнаадукацыйных прадметах і асабліва па хіміі забяспечвае добрае засваенне спецыяльных прадметаў і высокі ўзровень падрыхтоўкі студэнтаў.

Як паказвае практыка, выпускнікі сярэдніх школ сур'ёзна ставяцца да выбару сваёй будучай прафесіі, і многія з іх хочуць вучыцца на гандлёва-эканамічным факультэце нашага інстытута. У 1971 годзе на кожнае вакантнае месца стацыянара было пададзена больш пяці заяў. У 1972 годзе на стацыянар гэтага факультэта будзе прынята таксама 150 чалавек. Паступаючыя здаюць экзамены вусна па матэматыцы, хіміі, геаграфіі і пішуць сачыненне.

Вынікі конкурсных экзаменаў 1971 года паказваюць, што ў цэлым падрыхтоўка абітурыентаў па хіміі палепшылася. Нездавальняючых адзнак стала менш. Праўда, многія абітурыенты адчувалі цяжкасці пры напісанні іённых ураўненняў, акісляльна-аднаўляльных рэакцый, дрэнна ведалі ўласцівасці хімічных элементаў і асобных класаў злучэнняў. Але асабліва вялікія цяжкасці ўзнікаюць пры рашэнні задач, хаця ўсе прапанаваныя задачы браліся з задачнікаў для сярэдняй школы. На гэта і хочацца звярнуць увагу. Разгледзім некаторыя задачы, якія прапаноўваліся на экзаменах.

**Задача 1.** Вызначыць малекулярную формулу газу, калі пры спальванні 2,8 г газу (1,12 літра) атрымана 4,48 літра вуглекіслага газу $CO_2$ і 3,6 г вады. Умовы нармальныя.

**Рашэнне:** Пры гарэнні газу ўтвараецца вуглекіслы газ і вада. Такім чынам, газ складаецца з вугляроду і вадароду.

а) Вызначым колькасць вугляроду, якая ўтрымліваецца ў 2,8 г газу. Запісваем ураўненне рэакцыі гарэння, складаем прапорцыю:

$$C+O_2=CO_2;$$

12 г . . . . . 44 г . . . . . . 22,4 літра.

х . . . . . . . . . . . . . . 4,48 літра  х = 2,4 г.

Гэтыя суадносіны паказваюць, што пры гарэнні 12 грамаў вугляроду ўтвараецца 44 г вуглекіслага газу, які займае аб'ём 22,4 літра. 4,48 літра $CO_2$ утвараецца пры гарэнні 2,4 г вугляроду.





б) Вызначым колькасць вадароду, якая ўтрымліваецца ў 2,8 г газу.



$$2H_2+O_2=2H_2O;$$

4 г вадароду ўтвараюць 36 г вады.

х г вадароду ўтвараюць 3,6 г вады. х=0,4 г.

в) Вызначым прасцейшую формулу газу.

$$\frac{2,4}{12}:\frac{0,4}{1}=0,2:0,4=1:2;$$

Прасцейшая формула газу — $CH_2$.

г) Вызначым малекулярную масу газу.

2,8 г газу займаюць аб'ём 1,12 літра, а грам-малекула газу М займае аб'ём 22,4 літра. Знаходзім М. М=56.

д) Вызначаем малекулярную формулу газу.

Прасцейшая формула газу — $CH_2$, яе малекулярная маса роўна 14. 12+2=14; малекулярная маса газу роўна 56.

Тады малекулярная формула газу будзе $(CH_2)4$, г. зн. $C_4H_8$.

Формула паказвае, што гэты газ з'яўляецца бязмежным этыленавым вуглевадародам.

**Задача 2.** Колькі літраў вадароду пры нармальных умовах можа далучыцца да 24,5 г сумесі, якая ўтрымлівае 57,2 працэнта бутылену і 42,8 працэнта прапілену па вазе.

**Рашэнне:** а) Вызначым колькасць у грамах прапілену $C_3H_6$ і бутылену $C_4H_8$ у сумесі.

Колькасць прапілену ў грамах роўна 24,5 · 0,428 = 10,5 г.

Колькасць бутылену роўна 24,5 · 0,572 = 14,0 г.

б) Вызначым колькасць вадароду, якая ўступіць у рэакцыю з прапіленам. Запішам ураўненне рэакцыі:



$$CH_3—CH=CH_2+H_2=CH_3—CH_2—CH_3;$$

42 г прапілену далучаюць 22,4 літра вадароду, а

10,5 г прапілену далучаюць х літраў $H_2$.

х роўна 5,6 літра.

в) Вызначым колькасць вадароду ў літрах, якая ўступіць у рэакцыю з бутыленам. Напішыце ўраўненне рэакцыі.



$$CH_3—CH=CH—CH_3+H_2=CH_3—CH_2—CH_2—CH_3.$$

56 г бутылену (грам-малекула) далучае 22,4 л вадароду, а

14 г бутылену далучаюць х г вадароду.

х роўны 5,6 літра.

г) Колькі літраў вадароду можа далучыцца да сумесі прапілену і бутылену?

5,6 л + 5,6 л = 11,2 літра.

**Задача 3.** Пры акісленні 2,9 г некаторага альдэгіду аміячным растворам вокісу срэбра выдзялілася 10,8 г срэбра.

Вызначыць малекулярную вагу альдэгіду. Напісаць формулу альдэгіду.

**Рашэнне.** Рэакцыя ўзаемадзеяння альдэгідаў з аміячным растворам вокісу срэбра называецца рэакцыяй срэбнага люстра. Пры гэтай рэакцыі альдэгід акісляецца ў карбонавую кіслату, і выдзяляецца металічнае срэбра. Рэакцыя запісваецца наступным чынам:



$$R-\underset{\underset{O}{\|}}{C}-H+2[Ag(NH_3)_2]OH=R-\underset{\underset{O}{\|}}{C}-OH+2Ag+4NH_3+H_2O.$$

Гэта якасная рэакцыя на альдэгіды.

Згодна ўмове задачы акісляецца 2,9 г альдэгіду і выдзяляецца 10,8 г металічнага срэбра. Відавочна, пры акісленні грам-малекулы альдэгіду выдзяліцца 2 · 108, г. зн. 216 г срэбра.

2,9 г . . . . . 10,8 г срэбра.

М . . . . . 2 · 108 г срэбра.

Знаходзім грам-малекулярную вагу М.

$$M=\frac{2,9\cdot 2\cdot 108}{10,8}=58\ г.$$

Далей падбіраем формулу альдэгіду. Мураўіны альдэгід H-CHO мае малекулярную вагу 30, воцатны альдэгід $CH_3CHO$ — 44, а прапіёнавы альдэгід $CH_3CH_2CHO$ — 58 адзінак. Такім чынам, у рэакцыю ўзялі прапіёнавы альдэгід.

Хочацца параіць, што пры рашэнні задач трэба ўспомніць адпаведныя тэарэтычныя палажэнні, напісаць ураўненне хімічнай рэакцыі, расставіць каэфіцыенты і прыступаць да вылічэння. На жаль, многія абітурыенты забываюцца, што ўраўненне хімічнай рэакцыі паказвае, якая колькасць рэагентаў уступае ў рэакцыю.

**Тамара ТАЛКАЧОВА,**
**дацэнт кафедры хіміі Беларускага інстытута народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава.**




# 1972

## ЧЭРВЕНЬ

**1**

40 гадоў назад (1932) адбылося першае пасяджэнне Аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі.

**9**

25 гадоў назад (1947) Мінскі мотавелазавод даў першую прадукцыю.

**10—19**

35 гадоў назад (1937) праходзіў XVI з'езд КП(б) Беларусі.

**11**

85 гадоў з дня нараджэння (1887) А. М. Жырмундскага, вучонага-геолага, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**16**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) А. Л. Амбросава, вучонага-вірусолага, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**17**

55 гадоў назад (1917) адбыўся сход бальшавікоў, які абраў Мінскі гарадскі камітэт РСДРП(б) на чале з А. Ф. Мясніковым.

**22**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) І. Д. Юркевіча, вучонага-геабатаніка, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**25**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) В. І. Лермана, прафесара другой кафедры шпітальнай хірургіі Мінскага медыцынскага інстытута.

**26**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) С. А. Астрэйкі, беларускага паэта. Памёр у 1937 г.

**27**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) А. І. Махнача, беларускага пісьменніка.

**28**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) І. Ф. Кудраўцава, беларускага літаратурнага крытыка.

**30 чэрвеня — 2 ліпеня**

15 гадоў назад (1957) праходзіў І Усебеларускі фестываль моладзі.



А. Л. Амбросаў.



С. А. Астрэйка.

А. І. Махнач.





● Яўген РАМАНОВІЧ

# ТАК ПАЧЫНАЛАСЯ...

●

У 1921 годзе ў Мінску адбылася выдатная падзея — адкрыўся Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Купала параіў Андрэю і мне пайсці туды вучыцца, абяцаў пагаварыць у Галоўпалітасвеце, каб нам далі накіраванне.

І вось мы сядзім у вялікай зале былой прыватнай яўрэйскай гімназіі Хайкіна на Магазіннай (цяпер імя Кірава) вуліцы і слухаем лекцыі Пічэты, Вальфсона, Перцава, Піятуховіча і многіх іншых вучоных-выкладчыкаў. Наш факультэт грамадскіх навук (ФГН) перапоўнены простымі хлопцамі і дзяўчатамі, пралетарскай моладдзю, якой адкрыліся шырокія кругавіды, поўная свабода выбару свайго жыццёвага шляху. Праўда, Андрэй неўзабаве цяжка захварэў, а, паправіўшыся, пайшоў вучыцца ў Беларускі педагагічны тэхнікум, дзе быў пэўны профіль будучай прафесіі. Але пазней усё ж вярнуўся ва ўніверсітэт на філалагічны факультэт. Захапленне літаратурнай працай перамагло. Андрэй не стаў настаўнікам, як гэтага дабівалася сястра Алеся, сама прыроджаны педагог. Я ж працягваў наведваць заняткі ва ўніверсітэце, хоць не кідаў сваёй акцёрскай справы ні ў «Хатцы», ні на сцэне Першага Беларускага дзяржаўнага тэатра, куды мяне часта прыцягваў Фларыян Ждановіч для ўдзелу ў яго спектаклях.

Зараз дзіву даешся: як гэта нас на ўсё хапала? І на вучобу бегалі, і клуба не міналі, бралі ўдзел ва ўсіх грамадскіх падзеях: дэманстрацыях, суботніках па ачыстцы горада, нарыхтоўках паліва... Арганізоўвалі палітычныя карнавалы, масавыя паказы ў парках і на плошчах і многае іншае такое. Усё гэта на аснове гарачай зацікаўленасці, юначага запалу, творчага неспакою.

Калышуцца чырвоныя сцягі, перакрыжавалі неба даўгія лозунгавыя транспаранты, гучаць духавыя аркестры, ідуць карнавальныя маскі — вядуць таўстапузага буржуя, у зад якога ўпёрся штых чырвонаармейца, вязуць зарослага, як гарыла, папа-чорнарызніка, спекулянта, акупацыйнага генерала... Гучыць гарэзлівае: «Мальбрук в поход собрался, наелся кислых щей, дорогой ........!» Пяюць гармонікі, грымяць літаўры, звіняць маладыя галасы: «Мы кузнецы, и дух наш молод...», «Смело, товарищи, в ногу, духом окрепнем в борьбе!», «Вышли мы все из народа, дети семьи трудовой...» — льецца людскі паток, плыве, плыве, плыве, і няма яму ні канца, ні краю...

●

Пасля дэмабілізацыі з Чырвонай Арміі і канца прадразвёрсткі, якую з прадатрадам збіраў мой бацька, яго прызначылі загадчыкам гаспадарчай часткі Беларускага педагагічнага тэхнікума. Мы з Камароўкі пераехалі ў цэнтр горада. Я паступова адышоў ад «Хаткі», аддаючы ўвесь свой час Першаму тэатру і вучобе ва ўніверсітэце. Ды і «Хатка» як клуб праіснавала нядоўга, пасля там зрабілі манеж для вальтыжыроўкі, і мы, моладзь тэатра, хадзілі ў падшэфны каўэскадрон вучыцца верхавой яздзе.

Мы жылі на двары педтэхнікума ў драўляным двухпавярховым прыгожым доме з жоўта-зялёных гладкіх бярвенняў. Андрэй амаль штодня бываў у нас дома, заходзіў па-сяброўску да мяне, па справах — да бацькі. Ён удзельнічаў у тэхнікумаўскай самадзейнасці і, па няўрымслівай сваёй натуры, быў заўсёды нечым заклапочаны, нечага дамагаўся. У клубе педтэхнікума, які месціўся ў аднапавярховым каменным будынку на двары тэхнікума, ставіліся спектаклі, спяваў студэнцкі хор, наладжваліся літаратурныя вечары з чыткаю новых твораў маладых паэтаў-студэнтаў. Апрача Андрэя Александровіча, там заўсёды мелі поспех Паўлюк Трус, Пятро Глебка, Максім Лужанін, Станіслаў Шушкевіч, часта прыходзіў Міхась Чарот. У тэхнікуме выкладаў беларускую мову Якуб Колас, тут з'ядноўваліся маладыя літаратары, якія мелі добрую дапамогу з боку старэйшых пісьменнікаў.

Я любіў бываць у клубе, асабліва на літаратурных вечарах, дзе чыталіся і абмяркоўваліся не толькі новыя творы студэнтаў, але і шырока вядомыя аповесці і паэмы Купалы, Коласа, Чарота і іншых беларускіх пісьменнікаў, заўсёды ішлі гарачыя і цікавыя спрэчкі.

---

Заканчэнне. Пачатак у № 4.

●

Андрэй настолькі быў захоплены сваімі літаратурнымі справамі і вучобай, што зацягнуць яго ў тэатр было немагчыма. Але ўсё ж на прэм'еру музычнай драмы «На Купалле» паводле п'есы Міхася Чарота ён прыйшоў. Відаць, прыцягнулі не толькі п'еса Чарота, але і тое, што ў галоўнай ролі Алеські выступала сястра Алеся. Усім было вядома, што п'есу «На Купалле» Чарот прысвяціў сваёй улюбёнай артыстцы хору. Алеся Александровіч дагэтуль выступала толькі ў канцэртах як салістка хору. Яе чароўны лірычны галасок, шчырасць і чысціня выканання, яе прывабны выгляд маладой, зграбнай дзяўчыны, у яркай народнай вопратцы, з вялікай русалчынай касой і яснымі вачыма захаплялі гледачоў, і яны прымушалі артыстку па некалькі разоў паўтараць вядомыя беларускія народныя песні «Каля хацінкі», «Зорку Венеру», «Калыханку». А тут ёй даручылі іграць драматычную ролю, якая займае асноўнае месца ў спектаклі «На Купалле».

Алеська цудоўна справілася са сваёй сцэнічнай задачай, праўда, ёй давялося іграць самую сябе, бо літаратурны вобраз быў спісаны з яе, хаця ўсе сітуацыі п'есы прыдуманы.

Пасля прэм'еры мы доўга хадзілі па мінскіх вуліцах, радасна ўзбуджаныя. Было па-лістападаўскаму маразнавата, але холаду мы не адчувалі. Алеся звонка смяялася, ступаючы па звонкім і хрусткім, як шкло, лёдзе на дробных лужынках, Міхась быў у захапленні ад спектакля. Ён гаварыў:

— Хоць гэта і мая п'еса і, вядома, я асоба зацікаўленая, але не магу не сказаць, што тэатр вырас на пастаноўцы «На Купалле». Такога яшчэ не было. Паслухайце, што аб гэтым гавораць гледачы: — «Цудоўна!» Мяне віншавалі... Але справа не ўва мне. Музыка Тэраўскага — хіба гэта не цуд? Слухаеш, душа тае — «Купалінка, Купалінка, цёмная ночка»,—я плакаў...

— Ды ну!? — гарэзліва ўсміхнулася Алеся.

— Гэта дзякуючы табе! — Ён схапіў Алесю, моцна сціснуў і пацалаваў. Яна ўзлавалася. Міхась азірнуўся на мяне з Андрэем. Мы цягнуліся, як заўсёды, ззаду іх, ціха гамонячы між сабою.

— Яны зразумеюць гэта парыванне! — махнуў на нас рукою шчаслівы аўтар.

— Трэба дзякуй сказаць Міровічу, ён усё гэта стварыў, увесь спектакль сваімі рукамі! — усклікнула Алеся.

— Ну, вядома, я і яго і ўсіх удзельнікаў цалаваў куды больш горача, бо яны не супраціўляліся, як ты!..

— На сцэне і я б не супярэчыла, там, на людзях...

●

Хутка ў літаратурным гуртку тэхнікума стала цесна, малады творчы імпэт шукаў разгарнення, гэта вельмі адчуваў Андрэй. Не раз, седзячы на шырокай лаўцы пад купчастым клёнам на двары тэхнікума, ён гаварыў мне, што пара ўжо яднаць літарацкія сілы, згуртоўваца ў аб'яднанне, накшталт «Кузніцы», «Перавалу» ў Маскве, украінскіх згуртаванняў. Запаліўшыся чым-небудзь, Андрэй ужо не кідаў сваёй ідэі, яна расла, шырылася, непакоіла яго і ўдзень і ўначы. Ён усё абдумваў, раіўся з сябрамі і — дзейнічаў. Хадзіў у адпаведныя ўстановы і нарэшце ўсё ж такі сабраў ініцыятыўную групу на чале з Міхасём Чаротам. Ён жа і прыдумаў назву літаратурнага аб'яднання.

— У «Хатцы» ў нас быў гурток «Маладзік», а мы называемся «Маладняк», бо ў нас членамі літаратурная моладзь, — гаварыў ён мне з гарачымі вачыма і нястрыманым захапленнем.— Абвесцім кліч па ўсёй рэспубліцы, створым філіі ў гарадах... Ты ведаеш, як гэта заахвоціць моладзь, асабліва камсамольскую. Між іншым, можаш мяне павіншаваць, Жэнька, мяне прынялі ў камсамол!

●

У «Маладняку» Андрэй пісаў дэкларацыі, маніфесты, ездзіў па раёнах, арганізоўваў філіі, збіраў з'езды, пленумы, канферэнцыі. Вядома, не адзін. У тыя часы ў «Маладняку» было многа таленавітай моладзі, але былі і людзі выпадковыя, якія прыйшлі ў арганізацыю, як ішлі на суботнік, на мітынг, на першамайскі карнавал. Напісаўшы два-тры хранікёрскія артыкулы, а тым больш невялічнае апавяданне альбо верш, якія надрукавалі ў газеце, малады, яшчэ зялёны літаратар падаваў заяву ў «Маладняк» і прымаўся без асобай рэкамендацыі і азнаямлення з яго творчасцю. Можа таму на маладнякоўскіх літаратурных вечарах і асабліва на з'ездах было заўсёды шумна і буйна, горача і задзірыста. Час быў такі і тэмп жыцця. Хто выкрыкваў пралеткультаўскія лозунгі, хто Кірылаўскія вершы:





**Мы во власти мятежного страстного хмеля,**
**Пусть кричат нам: Вы палачи красоты,**
**Во имя нашего завтра сожжем Рафаэля,**
**Разрушим музеи, растопчем искусства цветы..,**

хто скандзіраваў Чаротаўскі гімн «Маладняку»:

**А сягодня чутны водгукі:**
**— Нам расці, дык мала дня!**
**Толькі тут узняцца мог такі**
**Волат лес — наш Маладняк.**

Літаратурныя спрэчкі закіпелі яшчэ больш, калі ўзніклі другія літаратурныя арганізацыі: «Полымя», «Узвышша», «Літаратурная камуна», «Пробліск».

Андрэй хадзіў у лідэрах «Маладняка», ён часта выступаў, кагосьці граміў, некага заклікаў да пралетарскай еднасці. Пісаў вершы, паэмы, шмат друкаваўся ў газетах і часопісах. Адным словам, стаяў на чале многіх літаратурных падзей.

Захоплены працай у тэатры, я не часта бачыўся з Андрэем, не было калі. Тэатр усё шырэй разгортваў сваю дзейнасць, іграў ужо не два дні на тыдзень, а штодня, шмат часу ішло на грамадскую працу, вучобу. Мы не чакалі, калі да нас прыйдуць, а самі «ішлі ў народ», расказвалі пра наш новы Беларускі дзяржаўны тэатр, папулярызавалі яго спектаклі, запрашалі на іх. Праўда, пасля рэвалюцыі людзі і самі цягнуліся да культуры, ведаў, мастацтва, адным словам, да шырокага духоўнага жыцця.

Але калі з Андрэем мы сустракаліся рэдка, дык з ягонай сястрой Алесяй — кожны дзень і па многа разоў, так што я ведаў, як жыве мой сябра, чым заклапочаны. Аднойчы яна мне сказала, што Андрэй, якога камсамол накіраваў па сваёй пуцёўцы ў Клімавічы, дабіваецца, каб летам наш тэатр прыехаў туды на гастролі. Андрэй працаваў там рэдактарам газеты. Вось ён і надумаў, казала мне Алеся, запрасіць у гэтую глыбінку сталічны тэатр.

Недзе ў ліпені мы ўзялі свае чамаданы і клункі і рушылі ў «паход на Клімавічы». Ехаць у тыя часы было нялёгка, спалі на голых лаўках, не распранаючыся, падклаўшы кулак пад галаву. Па аднакалейцы поезд цягнуўся паволі, як бы намацваючы шлях. Усё яшчэ адчувалася ваенная разруха. На адным з перагонаў усе пазлазілі з паліц і пачалі трывожна ўглядацца ў вокны. Нехта сказаў, што драўляны мост, па якім трэба было ехаць, «пранясі мяне, божа», спарахнеў, можа абваліцца. І сапраўды, поезд раптам сцішыў ходу і спыніўся.

Было душна, пасажыры павыскоквалі з вагонаў на высокі чыгуначны насып. Перад намі ў сваёй першароднасці адкрываўся нязвыклы далягляд. Над шырокім зялёным полем, як дах над эстрадай, вісела бялявае неба, а пад ім хмара. Але якая! Чорная, як раяль, з палымянай аранжавай палоскай па краі. Часам хмара расколвалася. Тады з яе змрочных глыбінь выляталі вогненныя каснікі маланак. Паволі нарастаў густы бас-прафунда цяжкага, як метал, грому, нібыта нехта заўзята лупіў па клавішах басовай актавы.

Скачучы са шпалы на шпалу, мы падышлі да паравоза і глянулі на высокі, складзены з бярвенняў стары, шэры мост, праз які нам трэба было праехаць. Пераступіўшы рэчку, ён стаяў, выгнуўшы гарбатую спіну над кручай.

З вакенца паравоза выглядаў чорны ад сажы машыніст, пыхкаючы тытунёвым дымком, і глядзеў на мост. Вось ён пацягнуў ручку свістка. Праз невялічкую трубку з чэрава машыны разам з парай вырваўся на прастору аглушальны рык, які прыцісніў нас да зямлі. Усе кінуліся ў вагоны. Неўзабаве цягнік рушыў з месца і ціхенька пайшоў праз мост. Мне здавалася, што стары асілак стагнаў пад намі, скардзячыся на свой цяжкі лёс.

Я залез на паліцу і хутка заснуў моцна, як малое дзіця, для якога мінула небяспека. Прачнуўся ад музыкі. Іграў духавы аркестр, з якога вылучаўся густы бас трубы. Але адкуль тут музыка? У тыя часы, вядома, радыё ў вагонах яшчэ не было. Ля адчыненага акна купэ стаіць Алеся і ўглядаецца ў станцыйныя пабудовы, якія паволі насоўваюцца на нас.

— Вы ўжо не спіце, Жэня? — яна павярнулася да мяне.

— Не. Дзе мы?

— Уязджаем у Клімавічы.

— А што за аркестр?

— Ды вунь, бачыце, нас сустракае.

Сапраўды, на зялёным мокрым лужку каля вакзала стаяла басаногі чалавек восем—дзесяць музыкантаў, у наспех накінутых на плечы паліто ці шынялях. Яны заўзята дзьмулі ў трубы, білі ў барабаны, грымелі талеркамі.

— Вунь ён, вунь Андрэй! — усклікнула Алеся, паказваючы рукою на платформу. Там сярод сустракаючых у скураной куртцы і высокіх бліскучых ботах хадзіў, ссунуўшы, як заўсёды, на патыліцу кепку, Андрэй Александровіч. Але павітацца з ім і пагаварыць мы змаглі толькі, калі селі ў машыну.

Стары, яшчэ дарэвалюцыйны аўтамабіль, гукнуўшы сваім клаксонам, панёсся па дарозе, абганяючы аднаконныя і параконныя фаэтоны і каламажкі, што везлі ў горад маляўнічы табар акцёраў Беларускага тэатра. З шыкам абагнаўшы ўвесь гэты даўгі картэж, на які, відаць, быў мабілізаваны ўвесь гарадскі транспарт, мы з боку цэнтральнай вуліцы раптам павярнулі ў нейкі ціхі завулак і ўрэзаліся амаль у гогалеўскую лужыну, расфантаніўшы яе шэрую каламуць. Спыніліся ля шырокага ганка драўлянай гасцініцы «Парыж». Дальбог, такая шыльда вісела над яе ўваходам. У тыя нэпаўскія часы прыватныя гандляры любілі пышныя, замежныя назвы над сваімі дробнымі прадпрыемствамі.

●

У рэдакцыі «Наш працаўнік», дзе кіраваў Андрэй Александровіч, было гамузна. Пасеўшы на сталах, на зэдліках, на драўлянай канапе, маладыя пісьменнікі курылі, гаманілі, спрачаліся. На падваконніку, як дзве птушкі заранкі, у чырвоных хусцінках сядзелі і шчабяталі аб нечым сваім патаемным дзяўчаты.

Андрэй увайшоў, як камісар у баявы эскадрон, і адразу ўсё сціхла. Хлопцы пазлазілі са сталоў і стаялі моўчкі, прыціснуўшыся да сценак. Александровіч выцягнуў з партфеля спісак маладнякоўцаў і пачаў пераклічку тых, хто з'явіўся. Голас яго быў гаспадарскі, уладны, рухі цвёрдыя, упэўненыя. Ён уважліва прыглядаўся да кожнага, хто адзываўся на яго выклік. Хлопцы былі зухаватыя, з агеньчыкамі цікаўнасці ў вачах, апранутыя па-летняму, улегцы, некаторыя ў паркалёвыя кашулі і картовыя штаны, у сандалях на босую нагу альбо ў парусінавых ботах, адзін — у лапцях.

Александровіч глянуў на засаромлены твар хлапчука і мякка спытаў:

— Селькор?

— З вёскі. У газеты пішу. Друкуюць! — не без гонару сказаў юнак.

— Мы з табою аднаго росту, значыць ногі ў нас павінны быць аднолькавыя. Пасля сходу зойдзем да мяне, возьмеш чаравікі. А то ў тэатр ісці... Дык вось, хлопцы, — звярнуўся ён да астатніх,— мы сабралі нашу маладнякоўскую філію, бо да нас у госці прыехаў Дзяржаўны тэатр рэспублікі. Першы БДТ. Вечарам пойдзем на адкрыццё гастроляў. Сакратар райкома камсамола, — паказаў ён на маладога чарнявага хлопца, — раздасць вам білеты.

Хоць на двары было спякотна, у памяшканні душна, але сакратар, сціраючы пот хусцінкай, сядзеў у скуранай куртцы за сталом і корпаўся ў паперах. Скураная куртка яшчэ з часоў грамадзянскай вайны лічылася знешнім атрыбутам улады, чырвонага кіраўніцтва.

— Будзеце глядзець музычную п'есу старшыні «Маладняка» Міхася Чарота «На Купалле», — гаварыў Андрэй. — Музыка, як вы ведаеце, мастацтва высокае, надзвычайнай сілы мастацтва. Помніце, што сказаў, слухаючы санату Бетховена, Ленін? Нечалавечая музыка! Чым багаты наш край? Песнямі. А песні тая ж музыка, паэзія. А паэзія гэта мёд, нектар. Песні складаць трэба і дарыць людзям. Паэзія заўсёды глядзіць уперад. Трэба і нам глядзець у заўтрашні дзень. Якімі, скажам, стануць Клімавічы яшчэ пры нас з вамі? Прыйдуць машыны, тэхніка, прагрэс. Не толькі ў горад, але і на вёску, — глянуў ён у бок селькора. — Вырастуць камяніцы, дамы культуры, стадыёны, пойдзе трамвай...

Ужо сёння:

**Па гарадах і па сёлах**
**Песні пра шчасце звіняць.**
**Выйдзем, працоўная моладзь,**
**Вольны свой край будаваць.**

Андрэй непрыкметна перайшоў на верш, але тут жа спахапіўся і падштурхнуў мяне да стала:

— Вось тут у нас артыст, драматург, ён вам раскажа пра беларускі тэатр, пра «На Купалле», дзе чалавек шукае сваю кветку, кветку шчасця.

●

Вечарам у тэатры сабраўся ўвесь цвет Клімавіч. Мясцовыя кіраўнікі ў фрэнчах, інтэлігенты ў часучовых талстоўках, рабочыя з камбіната хто ў чым. Жанчыны прыбраліся ў модныя на той час гарнітуры, а хто і ў старыя бабчыны строі.

Гарэлі электрычныя агні. У невялікім фае праходжваліся парачкі. У цесным буфеце хлопалі коркі з бутэлек, вісеў тытунёвы туман. Усюды было радаснае ўзбуджэнне, святочны настрой.

Калі гледачы запоўнілі залу, мы з Андрэем выйшлі на драўляны ганак за тэатрам і селі на яго цёплыя прыступкі. Быў ціхі, духмяны вечар. На лужку перад намі пасвіліся козы, важна клыпалі гусі, з посвістам насіліся няўрымслівыя хлапчукі, стараючыся знайсці дзе шчыліну, каб праціснуцца ў тэатр.





Праз адкрытыя з-за кулісаў дзверы мякка плылі меладычныя гукі музыкі Тэраўскага. Звонкі, як крынічны струменьчык, галасок Алесі Алесандровіч і вабіў, і клікаў:

**Дзе ты, кветка маёй долі,**
**Я цябе шукаю...**

Поўны надзеі і мальбы галасок дзяўчыны гучаў, нібы жалейка ў народным аркестры. Спектакль «На Купалле» Андрэй многа разоў бачыў у Мінску. У зале было цесна, поўна прагных клімавічан, а нам было прыемна сядзець тут, на мядовым паветры.

**Крані струну ў грудзях сваіх,**
**Пачуеш звонкі водгук мая.**
**Вясну кахання прыгадаеш,**
**Крані струну ў грудзях сваіх.**

— Га, што скажаш, дружа? Хораша напісаў, пранікнёна. Вось сяджу, слухаю Алеську, а гэтыя радкі твае ў галаву лезуць.

Андрэй маўчаў, але мне здалося, што ў яго галаве недзе ўжо мрояцца новыя задумы, новыя мары...

Мы ігралі свае спектаклі: «На Купалле», «Мешчанін у шляхецтве», «Машэку» і цешыліся цудоўнымі Клімавічамі. Там было, як на курорце, і ўсяго хапала: і чароўнай прыроды, і салодкага мёду, і добрых людзей. У канцы гастроляў нам наладзілі прыём, пасля якога мы доўга хадзілі па вуліцах Клімавіч.

На вакзале, ізноў, як і пры сустрэчы, грымеў духавы аркестр, стараючыся перакрыць гудкі паравозаў. Было многа праважатых з кветкамі і яблыкамі. Андрэй, нібы начальнік станцыі, паходжваў па пероне, усіх запэўняючы, што хутка вернецца ў Мінск.

●

Як толькі Андрэй вярнуўся з паездак па Беларусі, ён прыйшоў да мяне з бутэлькай і першым надрукаваным зборнікам сваіх вершаў «Па беларускім бруку», на якім зрабіў вельмі кранальны і цёплы надпіс як сябру свайго юнацтва. (Заняты працай з Міровічам над пастаноўкай маёй музычнай драмы «Вір», я і не ведаў, што Александровіч вярнуўся ў Мінск. Я ляжаў на канапе, брынькаючы на мандаліне, каб супакоіць сваё хваляванне. Вечарам ішла прэм'ера «Віра»). Мы выпілі віно за нашыя літаратурныя справы, і я запрасіў сябра на прэм'еру ў тэатр.

Часу да пачатку спектакля яшчэ хапала, мы выйшлі на вуліцу і, падхапіўшы рамізніка на дутых шынах, паехалі па мінскім бруку. Мы аб'ездзілі наш горад уздоўж і ўпоперак, наведалі ўсе блізкія нам мясціны на Камароўцы і Старажоўцы, агледзелі нешматлікія новыя збудаванні. Тэатр, калі мы ў яго ўвайшлі, быў перапоўнены — мінчане любяць прэм'еры, тут свой заўсёдны кантынгент гледачоў, якія купляюць білеты задоўга да першага паказу.

Гледзячы з ложы ў залу, заўважылі старшыню Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Чарвякова, наркома асветы Баліцкага. З цёцяй Уладзяй у партэры сядзеў Купала, ля яго з маладой прыгожай жонкай Аняй Савіч — Міхась Чарот. Алеся не пайшла за Міхася, спалохаўшыся яго багемнага акружэння.

Спектакль ішоў добра, захаплялі акцёры: Крыловіч — Зніч, Галіна — Альдона, Зораў — Войшалк, Платонаў — малады Мінскі князь Юры, Ждановіч — літоўскі князь Міндоўг. Уразілі яркія, рамантычныя дэкарацыі і вопраткі Марыкса, мілагучная, поўная эмацыянальнага характва музыка Аладава і Фідлона. Хоры Тэраўскага, балет Алексютовіча — усё гэта арганізаванае выдатнай рэжысёрскай рукою Міровіча, аздобленае яго няўрымслівай творчай фантазіяй захапіла гледачоў і дало падставу тэатральным крытыкам ухваліць спектакль у друку.

Аднак калі мяне прымалі ў БелАПП — Беларускую Асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў, — то адзін з кіраўнікоў БелАППа, крытык Бэндэ тыцнуў пальцам у маю заяву і, сабраўшы свае суровыя бровы ў адну жорсткую лінію, запытаў у мяне, чаму гэта я, малады савецкі драматург, залез аж ў чатырнаццатае стагоддзе, нібыта ў сучаснасці няма вартых сюжэтаў. «Відаць, вас не цікавіць наша жыццё і савецкі лад?» — лютаваў Бэндэ, востра гледзячы на мяне.

Я адказаў, што зараз Першы тэатр стаў на шлях сінтэтычнага напрамку («Каваль-Ваявода»), і я ўзяў гісторыю паўстання беларускага народа супраць захопнікаў славянскіх земляў крыжакоў і літоўскіх князёў для таго, каб можна было зрабіць спектакль музычным. Не магу ж я прымусіць спяваць і танцаваць на сцэне, скажам, старшыню райвыканкома! Усе прысутныя засмяяліся, а Андрэй, сказаўшы пару слоў у маю абарону, правёў галасаванне. Мяне прынялі ў БелАПП.

Мне ўдалося ўгаварыць Андрэя напісаць п'есу для нашага тэатра. Ён стварыў драматычную паэму «Напор», але даць Першаму тэатру яе не адважыўся, а перадаў рэжысёру Міцкевічу ў Другі тэатр, у Віцебск. Мауляў, «хай там пастаўяць, паглядзім, што выйдзе, калі пройдзе з поспехам, вазьмуся і для Першага тэатра напісаць».

Прэм'ера «Напору» адбылася ў Гомелі, дзе Другі тэатр знаходзіўся на гастролях. У Мінску ў гэты час гасцявалі ўкраінскія пісьменнікі Астап Вішня, Яўген Яноўскі, Аляксандр Карняйчук. Андрэй запрасіў іх паехаць у Гомель, паглядзець прэм'еру «Напору». Госці згадзіліся, тым больш, што іх зваротны шлях на Украіну быў праз Гомель.

Над Астапам Вішняй шэфстваваў Янка Купала, які з ім здаўна сябраваў, Яноўскага даручылі Кузьме Чорнаму, а Карняйчука — мне. Карняйчук у тыя часы быў яшчэ зусім малады, малавядомы драматург. Яго ўзялі ў падарожжа, таму што п'еса «Штурм» была пастаўлена і ішла ў нашым дзяржаўным Яўрэйскім тэатры ў Мінску. Ну, вядома, я павёў аўтара ў тэатр, дзе яго вельмі цёпла сустрэлі акцёры. Нам далі тлумача, які рабіў пераклад і расказваў пра сэнс і прызначэнне розных сцэнічных прыёмаў, разабрацца ў якіх, нават у такой яснай і простай п'есе аб пралетарскім інтэрнацыяналізме, як «Штурм», у тыя часы шалёнага тэатральнага фармалізму было нялёгка. Я б не сказаў, што Карняйчук застаўся задаволены спектаклем. Яму, перакананаму рэалісту, былі варожыя ўсе гэтыя тэатральныя мудрагельствы, але імпанавала тое, што і яго першыя п'есы ставяцца не толькі на Украіне, але і ў тэатрах іншых рэспублік.

За час падарожжа ў Гомель мы з Аляксандрам Еўдакімавічам вельмі зблізіліся і пасябравалі. З таго часу ён прысылаў мне свае новыя п'есы. Я іх чытаў і прапаноўваў да пастаноўкі, так што амаль усе яго лепшыя п'есы прайшлі на сцэне Першага, сёння Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Карняйчук не вельмі ахвотна згадзіўся спыніцца ў Гомелі. Ён толькі што ажаніўся, як давялося паехаць. Але Астап Вішня і Янка Купала яго ўгаварылі, спакусіўшы прыгажосцю горада, яго блізкасцю да Украіны і вельмі цікавым палацам і паркам былога князя Паскевіча.

Мы глядзелі спектакль «Напор» разам з Карняйчуком. Ён быў захоплены не столькі прэм'ерай, колькі маладзёжнай аўдыторыяй, якая запоўніла тэатр. Хоць Андрэй ужо стаў членам камуністычнай партыі, але камсамольцы лічылі яго сваім і па духу і па запале, а галоўнае — па творчым імпэце. Яны напоўнілі залу гоманам і вясёлымі галасамі, гулі, як пчолы, апладзіравалі моцна, спявалі разам з акцёрамі ўсе песні па ходзе спектакля. Крычалі «ўра!», калі маладыя рабочыя, перамагаючы цяжкасці, дабіваюцца выканання камсамольскіх абавязацельстваў у будаўніцтве дамоў для шахцёраў Данбаса. Тут нават маўклівы Карняйчук заапладзіраваў і крыкнуў на ўсю залу: «Малайцы!»

Спектакль у маладога гледача меў поспех. Што да тэатральнай крытыкі, то яна, па сваім прафесійным абавязку, папракнула «Напор» за схематызм, залішнюю лозунгавую патэтыку і сінеблузны стыль пастаноўкі. Але госці, у тым ліку і Карняйчук, павіншавалі Андрэя з прэм'ерай. На яго заўвагу, што спектакль шмат у чым не ўдаўся, Карняйчук сказаў, што яму самому прыйшлося, ды і не раз, перажываць няўдачы пастаноўкі сваіх п'ес на сцэне, але гэта не толькі яго не бянтэжыла, а выклікала яшчэ большае жаданне працаваць у самым складаным, але цікавым літаратурным жанры, які жывым, гарачым словам і дзеяннем вельмі збліжае пісьменніка з гледачом.

■■■



● Леанід ПРАКОПЧЫК

# ЯНКАЎ ЯСЕНЬ

...Ці помніш ты пагляд нясмелы
Свайго радзімага сяла,
Адкуль паплёўся ў свет той белы,
Твая дзе моладасць сплыла?
Нямое поле, сенажаці,
Лазой аквечаны дзірван;
Магілкі, спяць дзе твае брацце,
На ўзмежку прадзедаў курган?..

(Янка Купала. «Брату на чужыне».)

Дзед Рыгор Грычын быў кавалём і доўгі час працаваў на спіртзаводзе каля Радашковічаў. Мама вучылася ў Рагаўской школе, а з вясны, на ўсе канікулы, яе звычайна адвозілі на Лысую гару да дзядзькоў — Бычкоўскіх.

Дзядзька Антось быў адным з нямногіх у акрузе, хто выпісваў і чытаў газеты, часопісы. Ажаніўся дзядзька з дзяўчынай, якая таксама ведала грамату. Апрача таго, Антось вёў знаёмства з «дарэктарамі», сябраваў з настаўнікамі суседніх Бяларучаў і Лекараўкі.

Кнігі таксама часта трапляюць ў дом Бычкоўскіх, прытым былі яны рознага зместу...

І тое, што мамін дзядзькі выпісвалі газеты, чыталі кнігі, мелі сувязь з мясцовай інтэлігенцыяй, да таго ж рэдка калі хадзілі ў царкву, а іншы раз нядобрым словам успаміналі ўлады — усё гэта не магло не застацца незаўважным.

А тут яшчэ дружба з Кастусём Казлоўскім, звольненым са службы за ненадзейнасць, і Аляксандрам Шпакоўскім, які некалькі гадоў прарабіў на металургічным заводзе ў Данбасе і не раз прымаў удзел у забастоўках.

Прыкладна з гэтага ж часу маміных дзядзькоў разам са Шпакоўскім і Казлоўскім сталі называць (праўда, за вочы) сацыялістамі. Былі ў дзядзькоў і іншыя дружбакі.

І вось сярод тых, хто часта наведваўся і ў Новы двор, і да Бычкоўскіх на Лысую гару, мама добра помніць суседа Бычкоўскіх — Яна Луцэвіча...

У кузні Рыгора Сафронавіча Грычына госці.

— Ян Луцэвіч прыехаў! Ян Луцэвіч прыехаў! — крычаў хтосьці з дзяцей, выбягаючы насустрач, бо ведаў, што без падарункаў Ян Луцэвіч не прыязджае.

Стары, пахілены дом, у якім жыў «коваль Гжэгуш», як і бровар, як і ўсё ў Новым Двары, належала памешчыку Валатковічу. Хата Грычына стаяла на ўскраі заводскага двара, над сажалкай. Кузня і яшчэ адна невялічкая будыніна, якую засялялі хлопцы — вучні каваля, размяшчаліся побач.

У хаце, у другой, чыстай палавіне, стаяў абцягнуты скурай вялікі тапчан — для гасцей. Яна Луцэвіча, дзядзьку Антося, яго ных братоў Яна і Яся, якія нярэдка бывалі ў гэтай кампаніі, садзілі менавіта на гэты тапчан, а з другога боку, ужо для сваіх, расстаўлялі лавы і табурэткі.

Дзед лічыўся неблагім у акрузе музыкантам. У доме заўсёды быў напагатове гармонік, і калі госці не вельмі спяшаліся, то Луцэвіч абавязкова прасіў дзеда што-небудзь сыграць.

«Коваль Гжэгуш» працаваў на бровары з васемнаццаці гадоў. Тут ён і ажаніўся з Аленай Бычкоўскай, ся-

строй Антося, тут і нарадзілася ў іх пяцёра дзяцей.

Пастаяннага тэхніка або інжынера на бровары пан не трымаў, таму рамантаваць і ўстанаўліваць новае абсталяванне і машыны часта даводзілася Грычыну, які ведаў завод за дваццаць гадоў работы як свае пяць пальцаў. Грычын вадзіў іншы раз да сябе і Яна Луцэвіча. Адзін час Іван Дамінікавіч меў жаданне ўладкавацца сюды на работу, і тады да Валатковіча яго павёў Гжэгуш. Але не згаварыліся, пан адмовіў Луцэвічу.

Тут жа, у Новым Двары, мама і яе старэйшая сястра Соня ўпершыню ўбачылі і прачыталі «Жалейку» Івана Луцэвіча—Янкі Купалы. Уражанні ад гэтых першых чытанняў Купалы засталіся ў іх на ўсё жыццё. У дом «Жалейку» спачатку прынесла служка панскіх дзяцей (яна зрэдку забягала да Алены Мікалаеўны). Потым гэтую ж кніжку з гонарам вазіў дзядзька Антось, бо была яна з асабістым надпісам Купалы...

— Ян Луцэвіч прыехаў! Ян Луцэвіч прыехаў!—па-ранейшаму з радасцю абвяшчалі дзеці, а мама і цётка Соня віталіся, крыху саромеліся, а іншы раз нават хаваліся. Яны ўжо ведалі: Іван Дамінікавіч—паэт. Гэта ён—Янка Купала.

Саромеліся і хаваліся яшчэ і ад таго, што абедзвюх ахопліваў дзіцячы страх «трапіць» у які-небудзь верш, і ўсе потым будуць паказваць пальцам, бо пісаў Іван Дамінікавіч—і ўсе гэта адчувалі—пра ўсё тутэйшае, знаёмае.

Па старым стылі дваццаць дзевятага чэрвеня, на Пятра, на Лысую гару да Бычкоўскіх з'язджаліся госці. Заўжды запрашалі на свята і Луцэвіча. Не мінаў гэтага традыцыйнага лысагорскага кірмашу і Янка Купала са сваімі сёстрамі.

Летам у святочныя дні хлопцы і дзяўчаты гулялі ў «каршука». Гульня была вясёлая, задзірыстая, і Янка Купала ахвотна ў ёй удзельнічаў. Пачыналі гульню з таго, што дзе-небудзь на свабодным месцы, часцей за ўсё на выгане, усе ўдзельнікі станавіліся ў кружок і смешным пералікам «энтэль, пэнтэль, сігі, (сея), лапэт, капэт, кнот» вызначалі «каршука». Потым па двое браліся за рукі, ствараючы жывы калідор, па якім павінен быў прабегчы, выбіраючы ахвяру, «каршук». Але «кураня», кранутае «драпежнікам», так лёгка не здавалася, бегла ў луг, і злавіць яго можна было толькі там, не даючы зноў вярнуцца да сваіх.

Помніць мама ў ролі «каршука» і Янку Луцэвіча—высокага, танклявага хлопца. На ім былі штаны ў клетачку і белая святочная сарочка. Касцюм Луцэвіча запомніўся маме яшчэ і таму, што аднойчы сарочка на «каршуку» моцна пацярпела: разгарачаныя «кураняты» так учарэпіліся за каўнер, што толькі шматкі паляцелі...

І, зразумела, не адставаў Луцэвіч ад жартаў і забаў сваіх сяброў Яна і Яся Бычкоўскіх. Ян не ленаваўся збегаць у суседні фальварак Лопатава, выкрасці там сабаку і прывесці на Лысую гару. К гэтаму часу тут ужо паспявалі напісаць, часта ў вершаванай форме, што-небудзь смешнае, прысвечанае прыехаўшым з горада дачнікам. Яркай стужкай пісьмо прывязвалі да ашыйніка і адпускалі «паштальёна» на волю.

Купала не толькі сябраваў з дзядзькам Антосем. Паважаў ён шчыра і Соф'ю Паўлаўну. І калі ў тых у 1903 годзе нарадзілася дачка Марылька, хросным бацькам яе стаў Купала.

Марыя Антонаўна доўга захоўвала першы падарунак свайго хроснага—залаты крыжык з ланцужком. У вайну крыжык прыйшлося прадаць.

А праз тры гады ўжо сына Антонія хрысціла сястра Івана Дамінікавіча—Леакадзія Дамінікаўна...

Але з усіх гэтых сустрэч і падзей, што адбыліся ў той час на Лысай гары, самым запамінальным быў арышт «сацыялістаў» Бычкоўскіх.

Гэты выпадак і зараз памятаюць лысагорцы. Адны з іх былі сведкамі далёкіх падзей, другія запомнілі з расказаў бацькоў. Пётр Антонавіч Бычкоўскі—сын Антонія, Соф'я Рыгораўна Осіпчык—старэйшая маміна сястра (тады ім было па 8—12 гадоў) дзень арышту памятаюць аднолькава, нават сыходзяцца асобныя дэталі.

Канец мая. 1906 год.

Перад полуднем, недзе ў гадзін адзінаццаць, на сваім буланым кані на Лысую гару прыехаў Янка Купала. Каня паставіў пад вокнамі і, завязаўшы лейцы за плот, зайшоў да Антонія. Хутка Антоні паслаў кагосьці з дзяцей за Янам, Ясем і Шпакоўскім. Казлоўскі быў якраз у доме Антонія. Сабраліся ўшасцёх, зачыніліся...

На Лысую гару Купала наведваўся ўсё часцей, працаваў ён цяпер непадалёку на вінакураным заводзе ў Сёмкаве і дахаты ў Селішча ездзіў іншы раз спецыяльна праз Лысую гару. Спыняўся ён ці ў Антонія, ці ў старым доме Бычкоўскіх, дзе цяпер жылі Ян і Ясь, Шпакоўскі, усё яшчэ нежанатыя, і іх сястра Анэта.

З пустымі рукамі Купала ніколі не паказваўся, ён абавязкова прыносіў ці прывозіў кнігі, часопісы, свае вершы, напісаныя на лістках. Прыезд яго быў заўжды падзеяй. І хоць лысагорскія хлопцы і былі пісьменныя, а цяпер і яўна па-рэвалюцыйнаму настроеныя, яны ўсё ж такі былі прыкаваныя да гаспадаркі, што дасталася ім ад бацькоў і дзядоў іх. А тут кнігі, газеты і цэлы рой надзвычай цікавых і вострых навін і, канечне, вершаў. Не раз на гэтых сходках слухалі яны, прыціхшыя, свайго Купалу. Бадай, невыпадкова праз два гады з трох-чатырох першых экземпляраў «Жалейкі», якія атрымаў сам Купала, пасля вядомых забарон і нават арышту выдання, адзін экземпляр паэт падараваў Антону Бычкоўскаму...



**Янка Купала. 1908 г.**

Рэвалюцыйныя выступленні яшчэ не патухлі, яшчэ распаўсюджваюцца, перадаюцца лістоўкі і пракламацыі з заклікам працягваць барацьбу, пакончыць з тыраніяй, хоць ужо і вядома пра разгон дэманстрацый, пра жорсткія расправы з мітынгуючымі, пра расстрэлы рабочых у Маскве, Кіеве, Мінску, Пецярбурзе.

Праз дваццаць з лішнім гадоў у аўтабіяграфічных пісьмах Купала скажа:

«...У 1904 годзе трапляюць мне ў рукі беларускія пракламацыі і рэвалюцыйныя брашуры на беларускай мове. Гэта канчаткова вызначыла, што я беларус і што адзінае маё прызванне—служыць свайму народу ўсімі сіламі сваёй душы і сэрца...»

Даходзілі рэвалюцыйныя пракламацыі і да лысагорскага гуртка. Чытанні тут нярэдка праходзілі з выкананнем рэвалюцыйных песень.

Хто ж прывозіў у гэты «мядзведжы кут» забароненую літаратуру, лістоўкі? Магчыма, настаўнікі з Лекараўкі, у гурток якіх уваходзіў і Быстрык, былы рабочы, які затым быў арыштаваны і за рэвалюцыйную дзейнасць на доўгі час сасланы ў Сібір.

А магчыма, і сам Купала, які ўжо нямала да гэтага часу паездзіў па Беларусі то ў пошуках работы, то ўжо працуючы на панскіх браварах. Тут ён пастаянна сутыкаўся з рашуча настроенымі рабочымі, з панскімі парабкамі, якія таксама не супраць былі пусціць «чырвонага пеўня» пад панскія стрэхі. Акрамя гэтага, Купала якраз у гэты час атрымаў у Мінску ад Уладзіміра Самойлы пракламацыі, у тым ліку вершы Цёткі і так усхваляваўшую яго «Скрыпку беларускую». Неўзабаве Янка Купала сам адгукнуўся добра вядомымі радкамі верша «Аўтарцы «Скрыпкі беларускай».

І калі ўжо Купала давозіў да любых мясцін гэтую літаратуру і паказваў свае вершы, то ўжо не абмінуў ён сваіх даўніх сяброў, лысагорцаў.

...А тая майская сустрэча ў доме Антонія была спынена крыкам цёткі Анэты:

— Седзіцё тут —гляньце ў вакно!

Па дарозе ад Пунішча накіроўвалася калона коннікаў. Былі яны апрануты ва ўсё чорнае. Значыць, стражнікі. Ззаду, у лёгкай брычцы, за імі ехалі прыстаў і ўраднік.

— Гэта за намі,—паспеў сказаць дзядзька Антоні.

Купала выбег на вуліцу. Пугі на месцы не аказалася. Вырваўшы з плоту парканіну, ён ускочыў на воз і памчаўся ўніз на Лапатава.

Уцячы ўдалося. Купалу не заўважылі.

Паліцыя акружыла дом Бычкоўскіх. На двор нікога не пускалі. Вобыск працягваўся з палудня да заходу сонца. Шукалі лістоўкі. Шукалі зброю. У доме ўсё перавярнулі дагары нагамі і ў куфрах, і ў шафах... Потым далезлі да гарышча. Там Антоні хаваў ад дзяцей часопісы і свае газеты. Усё было перагартана, перагледжана. А затым прыстаў загадаў яшчэ раз пашукаць у сенцах, у хляве і ў пуні. Малако, што стаяла ў варыўні ў бітонах, і тое «перапаролі» шаблямі.

А між іншым у дзядзькі Антонія быў наган. Захоўваўся ён пад страхой у сенцах. Вынесці яго змагла Соф'я Паўлаўна. У яе на руках было малое, яно пачало плакаць, і прыстаў

дазволіў ёй выйсці. Праходзячы праз сенцы, яна хуценька дастала наган і на двары, недзе за хлявом, перадала яго знаёмай кабеце. Тая, вядома, змоўчала.

Нягледзячы на намаганні паліцэйскіх, а бачна было, што дзейнічалі яны па нечым даносе, нічога няпрошаным гасцям знайсці так і не ўдалося. Але ўсіх пяцярых мужчын: Антонія, Яна, Яся, а таксама Аляксандра Шпакоўскага і Канстанціна Казлоўскага арыштавалі. Пакуль на месцы іх абвінавацілі ў арганізацыі маёўкі і падбухторванні сялян да бунту.

На вуліцы кожнаму надзелі на рукі замкі, і дваццаць ахоўнікаў пагналі лысагорскіх мужыкоў пехатою ў Мінск.

Амаль два месяцы прасядзелі яны ў Мінскім замку—так тады называлася гарадская турма. Праз свайго далёкага сваяка архітэктара Дабралюбава Соф'я Паўлаўна дабілася, каб арыштаваных узялі на парукі...

Дзядзькі Ян, Ясь і Шпакоўскі вярнуліся з турмы з доўгімі барадамі. Потым хто-небудзь з іх часта ўспамінаў, што там, у Мінскім замку, гутарачы з палітычнымі вязнямі, яны многае па-сапраўднаму зразумелі ўпершыню, і тыя два месяцы няволі не прайшлі для іх дарэмна.

У Антонія нічога падазронага не знайшлі. Але ж дзядзькі і Купала не для забавы зачыніліся, чыталі яны не казкі, і наўрад ці можна было пасля вокрыку цёткі Анэты надзейна захаваць крамолу. Напэўна, захапіў яе з сабою Купала, уцякаючы на фурманцы ад паліцыі...

Янка Купала застаўся верным старой дружбе. Цяпер ён падоўгу жыве ў Вільні, Пецярбурзе, але, вяртаючыся дадому, абавязкова наведвае землякоў-лысагорцаў. Якраз перад калядамі 1908 года, прыехаўшы з Вільні, паэт прывёз у падарунак Антону Мікалаевічу Бычкоўскаму фотаздымак з уласным надпісам, які захоўваецца цяпер у фондах Музея Янкі Купалы: «На добрую память уважаемому другу...»

Сям'я Луцэвічаў, змяніўшы месца арэнды, зноў пасялілася недалёка ад Лысай гары, у фальварку Акопы. Янка Купала вельмі любіў гэтыя куток—ціхі, у старых прысадах.

Амаль кожнае лета паэт прыязджаў сюды і падоўгу жыў у маці ў Акопах. І заўсёды ён—паважаны госць на Лысай гары.

...1913 год. Лета.

На Пятра — гэта ўжо традыцыя— Янка Купала ў гасцях у Бычкоўскіх. Старэйшаму сыну Антонія Пятру споўнілася пятнаццаць. Ён ужо закончыў Беларуцкую школу і цяпер дапамагае бацьку па гаспадарцы.

Пяць гадоў назад «Жалейку» Купала падарыў Антону Бычкоўскаму, а ў гэты дзень другую кнігу—«Шляхам жыцця», выдадзеную ў Пецярбургу, ён дарэ Петрусю Бычкоўскаму з надпісам на вокладцы...

У гады вайны, ратуючыся ад немцаў і ад голаду, мама не раз вяла мяне з горада ў свае мясціны пад Лысай гарой.

Успомніць прозвішчы, адшукаць тых, у каго мяне калісьці пакідалі, у чыіх хатах я начаваў, жыў, аказалася амаль немагчымым.

Але цяпер я ведаю іншае, дзеля чаго, уласна, і паўтараў даўнія маміны маршруты, ведаю, што гэта мясціны Купалы, што ў тых жа Прудзішчах Луцэвічы жылі з 1891 па 1903 год, у Селішчы—з 1904 па 1906, а з 1909 і да пераезду ў Мінск жылі па суседстве з Лысай гарой, у Акопах.

Пачаўшы абход з Гаян, у Прудзішча я трапіў лясной дарогай праз Тукалаўку.

У Прудзішчах Іосіф Іосіфавіч Рынковіч, сын Іосіфа Антонавіча, таго самага, што перавозіў калісьці сям'ю Луцэвічаў у Селішча, паказаў мне каля ракі месца, дзе некалі жылі Луцэвічы. Тут яшчэ бялее каменне падмурка і зусім побач, спадаючы з невялікай пляцыны, бяжыць рачулка—Вяча. Вада ў ёй чыстая, празрыстая і пясчанае дно зусім блізка, так што і невялікія каменні ў рацэ ад палавіны ўжо сухія.

На мосце і цяпер няма парэнчаў. Калісьці са сваімі прудзішчанскімі сябрукамі мы ляжалі на разагрэтых дошках гэтага моста і вудзілі, без паплаўка, на адзін кручок і грузіла, даверлівых печкуроў.

Хоць частка вёскі была спалена ў блакаду, але прысады ўздоўж вуліцы ўцалелі. Цэлы і драўляны панскі дом, які яшчэ з дзяцінства памятаў Купала. У ім цяпер школа.

Перад мостам сажалка, раней іх было некалькі, магчыма адсюль і назва вёскі—Прудзішча. На беразе


Янка Купала.

Шляхам

жыцьця.



за яловай сцяной сад, але ўжо не той, панскі, у якім, паводле успамінаў сястры Купалы, ён забараніў ёй калісьці падняць з зямлі яблык—ён жа не наш, панскі,—а сядзяць радкамі маладыя, у самай сіле, яблыні...

Крыху вышэй ад старога падмурка, на чыстым узгорку, адзін стаіць дуб. Яму ўжо гадоў дзвесце. Дуб гэты не разгалісты, хутчэй наадварот— стромкі, сабраны, і ўсім сваім магутным ствалом імкліва глядзіць увысь, у неба...

Селішча. Да яго з Прудзішча нават напрасткі па лесе далёка—кіламетраў шэсць-сем. У Селішча, на тое месца, дзе стаяў узяты Луцэвічамі ў арэнду хутар, мы з мамай не траплялі. Дамоў там ужо не было, хоць мама часта ўспамінала, што Купала яшчэ зусім маладым, яшчэ Янкам Луцэвічам прыязджаў на Лысую гару з Селішча. Але ўсе суседнія з Селішчам вёскі: Вялікія Бясяды, Харужанцы, Дзяніскі таксама ўключаліся ў наш абход.

У Селішча я ішоў з Прудзішча прыблізна той жа дарогай, па якой шэсцьдзесят з лішнім гадоў назад перавозіў Луцэвічаў Іосіф Рынковіч.

Дарогі тут—лясныя пуцявіны, без узбочын і канаў. Цяпер яны падобныя да прасек у высокіх гонкіх альшэўніках, якія з кожным годам усё разрастаюцца. Пад нагамі рэдкія, чэзлыя кусцікі травы і ледзь прыкметныя, уціснутыя ў чорную зямлю каляіны, па якіх нельга вызначыць, месяц або год назад праехалі тут у апошні раз калёсы. Вядуць гэтыя дарогі то па крутых схілах уніз, то зноў паднімаюцца, пераваньваючы цераз узгоркі, і таму, напэўна, няма на іх застаялых, непраезджых лужын—сцякае, не ўтрымліваецца вада.

З Прудзішча я трапіў спачатку ў Сухую гару—гэта паўдарогі да Селішча, і ўжо ў самой вёсцы павярнуў направа на Вялікія Бясяды.

Месца былога хутара—Селішча— невялікі, узгорысты дзірванок, аказаўся ў метрах ста ад брукаванай Дзяніскаўскай дарогі. За ім узаранае поле. Але да зялёнага астраўка яшчэ вядзе дарожка—былы праезд, і за кустамі лазняку на краі ні то склепу, ні то былога калодзежа стаяць тры, паўзасохлыя, яблыні. На дзірване крушня з валуноў: расшыралі поле і былыя, з-пад пуні, з-пад хлявоў падмуркі ссунулі ў адно месца.

І толькі невялікая, прадаўгаватая сажалка за кусцікамі аеру, які невядома адкуль тут узяўся, усё яшчэ глядзіць, свеціцца сваім чыстым акном...

...«Калі мы жылі ў Селішчы,— успамінае Купала ў аўтабіяграфічных пісьмах,—я пазнаёміўся з адным


Янкаў ясень.

польскім панам, Сігізмундам Чаховічам, у маёнтку Бясяды. ...У яго была вялікая бібліятэка, у асноўным з польскіх кніг. Вось тут мне і адкрылася, што называецца, скарбніца!..»

З Селішча на Малыя Бясяды (гэта ў бок Мінска) можна ісці па Даўгінаўскім тракце. У гэтых мясцінах ён па-ранейшаму закінуты, амаль непраезджы. Мастоў няма, адны развалілііся ад старасці, другія як былі разабраныя ў блакаду, так з таго часу ніхто іх не наводзіў.

Заглух, зарастае стары тракт. І не толькі травой. Сасонкі і тыя месцамі перабраліся праз адхоны і растуць сабе, зелянеюць у былых каляінах...

У Бясядах маёнтак стаяў у акружэнні маляніўчых, парослых лясамі ўзгоркаў—недалёка ад ракі. Навокал быў парк. І цяпер яшчэ на школьным двары, ва ўцалелай частцы парку маякамі ўзвышаецца некалькі рэдкіх, прывезеных дрэў: лістоўніцы з абвіслымі, плакучымі галінкамі, блакітныя елкі і сосны з пучкамі доўгіх цёмных ігліц.

Але самае тут адметнае—гэта алея лістоўніц. Яна амаль не парадзела, і два рады магутных стогадовых дрэў, перасякаючы Даўгінаўскі тракт, вядуць ад сядзібы ў лес і губляюцца дзесьці ў зарасніках. Алея ў лесе, зарослая бярозамі, вольхамі! А калісьці гэта быў асобны, з боку касцёла і Радашковічаў пад'езд да багатага панскага дома.

Ад самога «папасу магнацкіх пераціўшых пакаленняў» цяпер засталося толькі месца, толькі засыпаныя пяском, шчэбнем рэшткі падмурка.

Апошнія гады Сігізмунд Чаховіч жыў у адзіноце ў невялікім драўляным флігелі сярод сваіх кніг. Але гэтаму нібыта дзівацтву была прычына: Чаховіч прымаў удзел у паўстанні *1863 года*, быў сасланы Мураўёвым у Сібір і потым яшчэ доўгі час у сваім маёнтку жыў на паўлегальным становішчы.

Флігель, дзе Купала, зачытваючыся, праседжваў гадзінамі, стаяў на краі парку, прыблізна на тым жа месцы, дзе цяпер стаіць Бясядская школа...

**...А ну, мой косю!**
**Што там?**
**Пустка...**
**Вярні з гасцінца ўбок гужом!**
**Бо далей — «пропуск» і «пшэпустка».**
**Стань, Разымблюм!**
**Акопы ўжо!**

Да гэтага часу Акопы застаюцца адным з самых маляўнічых Купалаўскіх мясцін. Перш за ўсё гэты куточак узгорыстай, усеянай валунамі зямлі выдзяляецца сваёй непаўторнай «грамадой дубоў». Адны з іх гордымі віцязямі стаяць на гранітных замшэлых п'едэсталах дзе-небудзь пасярэдзіне поля, а іх каменныя падмуркі—старадаўнія крушні, у якія дзесяткі, сотні гадоў сцягвалі з палёў валуны і зносілі камяне.

Другія дубы выбралі зялёныя пакатыя лужкі або бераг раскапанай калісьці на дне яру сажалкі. Ваду ў гэтым азярцы, цёмную, настоеную на дубовым лісці, і цяпер стрымліваюць дзве тоўстыя, заплыўшыя ілам калоды і старая, прыпаўшая ля плаціны набок, лаза.

Дуб-патрыярх, сярод усёй грамады тут самы магутны і стары, з дуплом у рост чалавека, таксама стаіць над вадой. Пад яго разгалістай кронай пасялілася некалькі ліп, і вось яны ўжо дараслі да першых галін дуба, падперлі, падтрымліваюць іх.

Тут жа, але на другім беразе, бліжэй да месца, дзе стаяў дом, сярод маладога бярэзніку можна знайсці здзічэлыя яблыні і стары каштан. А язмін і бэз, разрастаючыся, даўно перайшлі тут межы кветніку і занялі двор.

І яшчэ адна выдатная мясціна: за азяркам на краі поля ляжыць нават і для гэтых камяніц рэдкі па сваёй велічыні і прыгажосці шаравата-ружовы, пасярэдзіне з глыбокай, разлапістай, нібы след маланкі, трэшчынай, валун. У даўжыню ён метры чатыры і над зямлёй таксама ўзнімаецца на метры паўтара-два.

Купала ведаў гэтага старадаўняга прышэльца, часта бываў каля яго, адпачываў, думаў...

З Акопаў добра відаць Лысая гара—круглая шапка яе ясеняў, ліп, клёнаў. Сярод іх няцяжка знайсці і самы магутны, які вянчае ўвесь гэ*ты зялёны купал—Янкаў ясень.*

Носіць ясень гэтае імя даўно, можа сто, можа дзвесце гадоў, і ніхто ўжо не можа сказаць, у гонар якіх падзей, якога Янкі было дадзена яму імя.

А ўдакладненне адбылося параўнальна нядаўна, і, бываючы на Лысай гары, я цяпер часта ад сваіх, ад карэнных лысагорцаў чую: «Ясень Купалы, Купалаўскі ясень...»

— Які гэта?

— Як жа, ёсць у нас, да яго школьнікі, турысты ходзяць... І мяне таксама вядуць на мяжу былой сядзібы Бычкоўскіх і паказваюць Янкаў ясень...

●

Да сённяшніх дзён нямногае захавалася ў мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

Вёскі і хутары, у адным з самых лясных, партызанскіх куткоў Лагойшчыны, дзе яшчэ ў пачатку веку вандраваў бацька паэта Дамінік Луцэвіч, былі амаль усе знішчаны і спалены карнікамі. На жаль, не засталося ніводнай старой сялянскай хаты ні ў Прудзішчы, ні ў Селішчы. Амаль немагчыма знайсці што-небудзь са старых гаспадарчых прыладаў і рэчаў дамашняга побыту сям'і Луцэвічаў. Прапалі кнігі з бібліятэк Сігізмунда Чаховіча і Уладзіміра Самойлы, якімі калісьці зачытваўся малады Купала.

І ўсё-такі мясціны, дзе жылі Луцэвічы, мясціны, якія любіў і пастаянна наведваў Купала, адмечаны: у Акопах, на Лысай гары, у Прудзішчы засталі*ся сведкі яго натхнення.* Стаяць тут старажытныя дубы-волаты і таўшчэзныя ясені, клёны, каштаны і ліпавыя прысады. Дрэвы-помнікі! Хоць і парадзелі, але яшчэ прыкметныя алеі ў парку Чаховіча ў Малых Бясядах, лістоўніцы і блакітныя сосны, кедры на былой дачы Уладзіміра Самойлы ў Казіміраўцы пад Мачанамі.

Гэтыя нямногія дрэвы-помнікі на купалаўскіх сцежках, таксама, як і фундамент дома Луцэвічаў і сажалку ў Селішчы, фундамент і славуты валун у Акопах, «Янкаў ясень» на Лысай гары—усё гэта безумоўна патрэбна захаваць, зберагчы.



# ЛІНІЯ ВЫСОКАГА НАПРУЖАННЯ

Шырокая гаворка аб змястоўнасці паэзіі развінулася апошнім часам у нашай літаратурнай прэсе. Захады і клопаты гэтыя маюць пад сабою зусім рэальныя падставы. Пэўная дэвальвацыя паэтычнага слова стала відавочнай. Гэта адчуваецца і па асобных публікацыях, а найбольш за ўсё па рэдакцыйнай пошце. Неяк прысмеркла грамадзянская страснасць у вершах маладых і пачынаючых аўтараў. Шэрыя, бяскроўныя, беспрадметныя, уяўна-філасофскія медытацыі старэчай спіною засланяюць баявы, жыццядзейны дух маладосці.

Хто дапаможа ў пошуках сваёй, адметнай, непаўторнай паэтычнай сцяжыны? Ёсць два выпрабаваныя настаўнікі: само жыццё і вопыт, набыты таварышамі па пяры—і старэйшымі, і равеснікамі.

Зойдзем жа ў гэтую школу, паглядзім, як слова паэта становіцца яго публіцыстычнай зброяй, як узнімае і вырашае яно самыя хвалюючыя пытанні грамадскага жыцця.

Ёсць у разведчыкаў зямных нетраў не зусім звычайнае для будзённасці паняцце—вертыкальныя гарызонты. Недзе там, у глыбінях, тояцца скарбы. І каб дабрацца да іх, трэба адолець не адзін такі гарызонт.

Праўда, здараюцца залежы і ў верхніх слаях. Ідзе, так сказаць, адкрытая распрацоўка. Аднак жа—часцей даводзіцца штурмаваць глыбінныя пласты, каб узняць да сонца скарбы зямлі.

Ці не так бывае і ў паэзіі?

Разумеючы ўмоўнасць паралелі, нельга не заўважыць усё ж, што дзесці прыкладна першае пасляваеннае дзесяцігоддзе паэты нашы працавалі больш на «адкрытых кар'ерах».

Іншы раз паэт ішоў па вертыкалі, толькі не ў глыбіні, а ўверх. Агляд расшыраўся, але гублялася канкрэтнасць. Адтуль, з рытарычных вышынь, бачыліся толькі агульныя абрысы з'яў, падзей, людскіх лёсаў.

Ап'янёнасць такой «вышыннасцю» нязменна выцясняла з паэтычнай жылплошчы лірычнае перажыванне як інструмент адлюстравання рэчаіснасці. З вершаваных старонак паэт іншы раз паўставаў нейкім старонніх наглядальнікам, рэгістратарам. Праўда, шуму ў такіх вершах хапала, але не было сапраўднай палымянай страсці, падзеі не зліваліся ў адно непадзельнае з біяграфіяй лірычнага героя, не рабіліся больш-менш значнымі момантамі яго асабістага жыцця. І, у выніку, выходзілі з-пад пяра агульнадэкларацыйныя радкі, часам далёкія ад праўды.

Гады пасля XX з'езда партыі не толькі сцвердзілі здаровы крытычны пачатак у вырашэнні жыццёвых задач і праблем, але—што вельмі важна—гэта быў час, калі атрымала ў літаратуры ўсе правы грамадзянскасці сама грамадзянскасць: герой, які часта нёс службу прыдатку вытворчага ці грамадскага працэсу, выступіў паўнакроўным, паўнацэнным чалавекам. Гэты працэс крытык А. Макідонаў ахарактарызаваў як «пад'ём сацыялістычнага пачуцця асобы».

Сапраўднае наватарства ў нашай літаратуры сёння ў першую чаргу звязана са сцвярджэннем камуністычнага ідэалу.

Народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка з юнацкім запалам сведчыць:

Ці ў бітве, ці ў працы на славу
зямлі—
Героі ў кагортах шматлікіх,
Героі не марць аб Зорках, калі
Выходзяць на подзвіг вялікі.

Так, герой паэта—сціплы і мужны—не грукаецца ў дзверы да славы, яна сама знаходзіць яго на пуцявінах цяжкіх—і радасных. Гэткі ж і стыль паэтычнага пісьма Петруся Броўкі—шчыры, прачулы. За некрыклівымі, простымі словамі стаіць мудрасць ча-



**На радзіме Купалы.** Фота **В. Ждановіча.**



**«Беларускі карагод». Выконвае танцавальная група Беларускага народнага хору.**

Фота **Г. Фралова.**

лавека, за плячыма якога — і першыя камсамольскія ячэйкі, і грымотныя дні вайны, і безліч дарог і сустрэч у дні сённяшнім.

Публіцыстычная плынь зліваецца ў творах паэта са светлымі струменямі народна-песеннай вобразнасці:

Чалом пчэльнікам,
Налітым
Мёдам-бурштыном,
Чалом людзям працавітым,
Іх рукам чалом!..

На крылах урачыстага гучання даўніх велічальных песень тут імкнуць у сэрца чытача думкі і пафас паэта-сучасніка.

З пазіцый народнай этыкі, з пазіцый нашай савецкай маралі выкрывае Пятрусь Броўка розныя хібы і недахопы:

Крыўдна да жалю, крыўдна да болю,
Крыўдна — хтось кінуў скарынку малую,
Крыўдна, што колас застаўся на полі,
Крыўдна — сявярня пад снегам зімуе.

Усё турбуе паэта — ад праяў маральна-сімвалічнага плана («хтось кінуў скарынку малую») і фактаў безгаспадарчасці («сявярня пад снегам зімуе») да праблем касмічных:

Крыўдна — з надвор'ем не ў поўнае згодзе,
Крыўдна — не цалкам камандуем небам, —

з пераходам ад іх да філасофскага роздуму над лёсам асобы:

Крыўдна — што дні, як хвіліны, праходзяць,
Крыўдна — што сам не зрабіў чаго трэба!

І зноў жа — па традыцыях народнай паэтыкі ад радка да радка, ад вобраза да вобраза сігналам трывогі ўспыхвае адзінае слова — «крыўдна». Паўтор не нясе фактычнай інфармацыі — ён узвіхурвае эмацыянальны лад верша, надае яму публіцыстычную вастрыню.

Гэтак жа і Васіль Вітка ўзоры высокага духоўнага багацця бачыць у нормах і запаветах жыцця простых людзей працы.

Ёсць у паэта верш, напісаны яшчэ да вайны — «Жураўель». Жартоўны, ён тым не менш поўны глыбокага сэнсу. Шмат гадоў высіцца над вёскай журавель. Бяссонна сочыць, «хто ідзе да поўнае яго крыніцы». Ды кожную восень, ледзь пачуе ён кліч крылатых сяброў, раптам устрапянецца:

І мне пара, і мне пара
Ляцець! Ляцець!

Ды нечакана заўважае:

...Хто там
З пустымі вёдрамі ў варотах?

І застаецца журавель. І зноў «яшчэ здалёк заве людзей халоднае вады напіцца».

Сэнс верша крыштальна ясны: калі ідуць да тваёй крыніцы, калі патрэбен ты людзям — аддай ім усё, да апошняе крывінкі, да апошняга дыхання.

Сыноўняя вернасць свайму народу, сваёй зямлі, роднай маці — і ў аспекце гістарычна-сацыяльным і ў аспекце маральна-этычным — абудзіла ў сэрцы паэта вобразы выдатнай «Беларускай калыханкі». Гэты твор шматпланавы, маштабны. У яго паліфанічным размаху акамуляваны і галасы гісторыі (Скарына, Каліноўскі), і голас сучаснасці (Паэт, Касманаўт), і словы, што ляцяць у будучыню, а хутчэй за ўсё — з будучыні да нас — як запавет адвечнай матчынай калыханкі:

Мой сынок, не забывай,
Для сваіх дзяцей спявай,
Праз вякі нясі, як я,
Гордае сваё імя
І любі сваю зямлю
Так, як я яе люблю.

Матыў бессмяротнай, як само жыццё, калыханкі становіцца матывам надзённым, публіцыстычным.

Паэт-змагар, паэт неспакойнай душы Пімен Панчанка з усведамленнем вялікай адказнасці за лёс чалавечых сэрцаў сцвярджае, што менавіта праз іх «ідзе лінія высокага напружання». Паэт верыць у маральную чысціню свайго сучасніка і горача, усхвалявана даводзіць, што адзінаю меркаю людскіх вартасцяў была, ёсць і застаецца праца:

Сябры мае, жыццё будуйце,
Гадуйце весела малых,
Усмешак людзям не шкадуйце,
І не шкадуйце тым хвалы,
Хто любіць справу больш за славу...
Хвалі чысцей, хвалі прасцей
Героям ворыва і плаваў,
Тых, хто працуе і расце.

Галоўная рухаючая сіла панчанкаўскай паэзіі — яе драматычны лірызм. Драматычны, бо паэт бачыць жыццё ва ўсёй яго складанасці і супярэчлівасці. Яго лірычная споведзь — гэта не толькі радасць і захапленне светлымі хвілінамі, але адначасна і непрымірымы бой з усім, што стаіць замінкай на шляху да вялікіх камуністычных ідэалаў ва ўсіх праявах чалавечага быцця. Звычайны, здавалася б, працоўны малюнак мае ў Панчанкі, як правіла, суаднесенасць, сутыкненне з вострай праблемай грамадскага значэння. Вось паэт любуецца залатым агнём электразваркі. Гэта там, ля аблокаў, манціруюць тэлемачту «верхалазы — зайздрасць хлапчукоў». Штодзённы гарадскі пейзаж. І фарбы падбірае паэт сціплыя — як і вымагае таго сціплы і просты характар рабочага чалавека:

Там сады, а там дымяць заводы,
Там пралегла новых рэек ніць.
Мірны подзвіг нашага народа
З вышыні лягчэй ім ацаніць.

Нішто не азмрочвае далягляду. Магчыма, на гэтым і тэма ўжо вычарпана? Лагічна кропка, як быццам, пастаўлена. Але — не! Не гэткі ў Панчанкі характар, каб лагодненька прыжмурваць вочы. І як добрая супрацьбюракратычная бомба, узрываюцца заключныя радкі:

Не магу цярпець я верхагляддаў,
Верхалазам — тысяча пашан.

Так жыццёвы матэрыял, што лёг у аснову твора, знаходзіць публіцыстычнае завяршэнне. І неабавязкова гэта павінен быць лозунг, заклік. Публіцыстычны зарад можа з поспехам данесці да чытача такая вось адточаная формула пэўнай грамадскай з'явы. Лірычная ўзрушанасць, непрымірымасць і катэгарычнасць гучыць палымяным зваротам да людзей. Гэта глыбіннае, сапраўды наватарскае разуменне публіцыстычнасці выводзіць паэта на выдатны плацдарм для наступу. Не гучная фразіроўка, не крыклівасць слабага, а спакойная ўпэўненасць моцнага духам, перакананага ў сваёй гістарычнай праваце савецкага чалавека адчуваецца ў паэтычным голасе Пімена Панчанкі. Гэта — канкрэтная агітацыя. І толькі яна можа ўзрушыць пачуцці і думкі сучасніка. Сёння яму, узброенаму перадавой ідэалогіяй, найноўшымі дасягненнямі навукі і тэхнікі, не па натуры займацца пустазвонствам ці манілаўшчынай. Час вымагае ад паэта не толькі лозунга, але найбольш — прамовы фактамі. Пімен Панчанка знайшоў такі сплаў. І ў гэтым яго наватарства.

Паэтычны вобраз у Панчанкі будуецца на кантрасных супрацьпастаўленнях падзей ці характараў. З гэтага сутыкнення і высякаецца публіцыстычны агонь:

Неверагодна, неверагодна!
Мы ўжо для будучыні не прыгодны...
. . . . . . .
Мы кансерватары ўсе
Тупаватыя.
Вы — завадатары бур
І наватары, —

так двума контрматывамі пачынаецца панчанкаўская «Размова з наследнікамі». Тэма яе, тэма бацькоў і дзяцей, пераемнасці пакаленняў — злабадзённая і для нас, і для нашых замежных недругаў. Напачатку паэт як бы дапускае магчымасць нейкіх непаразуменняў паміж пакаленнямі. Ад страфы да страфы нарастае снежны ком узаемных «абвінавачванняў»:

Вам цаліна,
І нейтроны,
І космас.
Нам — пасяджэнняў
Шаблонная поснасць.
. . . . . . .
Вам з-пад дзявочых павейкаў
Іскрынкі.
Нам — дагрызаць
Успамінаў скарынкі.
Мы — гераічныя,
Вы — гіранічныя...

Коціцца ком... Што супыніць яго? І вось тут — новым кантрастам — урываецца трэцяя тэма. Яна перакрывае дзве папярэднія:

Гэта не двух пакаленняў
Сварка,
Гэта эпохі
Гарачая зварка.

Мы — шукальнікі, першапраходцы. Мы адкрываем планеце шляхі ў будучыню, у камунізм. І ў гэтым паходзе сыны павінны ісці далей бацькоў, інакш спыніцца рух. А каб зоркімі былі дзеці ў дарозе, старэйшыя перадаюць ім у спадчыну вопыт:

Двум пакаленням
За працай не цесна:
Мы з аднаго
Ваяўнічага цеста.

Што ж, могуць быць у нас і гарачыя спрэчкі, і пад гарачую руку можа вырвацца крыўднае слова — жыццё ёсць жыццё. Але супярэчнасці такія нічога агульнага з антаганізмам не маюць. «Мы з аднаго ваяўнічага цеста», і ніякаму ворагу не расхістаць еднасці пакаленняў. Падмурак яе — у беззапаветнай адданасці бацькоў і дзяцей камуністычным ідэалам. Імунітэт у моладзі супраць буржуазнай прапаганды моцны і ўстойлівы. Аднак гэтага нам недастаткова. Трэба выхоўваць не проста ідэйна перакананых людзей, але і непрымірымых барацьбітоў супроць варожай ідэалогіі. Не абараняцца, а наступаць — так стаіць задача. Менавіта з гэтым клопатам, а не дзеля «прымірэння» «старэйшых і малодшых» напісан верш. Паэт упэўнены, што

Ёсць каму
Верна стаяць ля ракет,
Ёсць каму
Лётаць у зорны Сусвет.

Не лішнім будзе заўважыць, што ў палемічным запале Пімен Панчанка часам як бы «перабірае» меру, пачынае надзяляць пакаленне сваіх наступнікаў рысамі, зусім не характэр-

ными, а калі і ўласцівымі, дык усяго толькі адзінкавым асобам, атручаным «гіранічным» нігілізмам. Голас паэта гучыць амаль што з надрывам, словы поўняцца незразумелым дакорам:

Гэта не толькі для нас прывілегія—
Гінуць
Ці век валачыцца калекамі.
Будзем, на ўсякі выпадак, калегамі.

З жыццёвага боку такая «неаб'ектыўнасць» быццам і не правамерная: адкуль, скажыце, вядома аўтару, што не так бы паступілі, калі б спатрэбілася, юныя воіны шасцідзесятых гадоў? Аднак паэтычна тут усё вывeрана, дакладна даведзена. Не можа быць раўнадушным бацька, пакуль бачыць між сваіх наступнікаў хоць бы аднаго-двух «гіронікаў», каму не дарагі наша вера, нашы святыні. Праўда пачуцця, праўда мастацкага пераканання ўзнімаецца вышэй фармальнай логікі.

З болем думае паэт пра лёс тых, што «віхліва твісты скачуць і джынсамі фарсяць», у вершы «Роздум». Пачынаецца ён чыста газетнымі аншлагамі. Сутыкненнем далёкіх дэталяў планетарнага маштабу паэт узносіць уяўленне чытача на касмічную вышыню:

Карыбскія піраты
Ўцяклі ў Панамскі порт.
Японскі імператар
Вітаў сусветны спорт.

Першая частка паэтычнай задачы выканана: скачок ад гарачых карыбскіх падзей да японскага імператара, зроблены чытачом з такой неверагоднай хуткасцю, што ў яго, як гаворыцца, ажно дух заняло. Іншымі словамі—ёсць чаму дзівіцца. Аднак жа:

...Нюхаюць усязнайкі
У горадзе маім:
Ад Явы да Ямайкі
Усё вядома ім,—

новы кантраст: ужо не знешні, а звязаны з глыбінным развіццём паэтычнага вобраза. Не ўразілі маштабы піжоністага ўсязнайку-дылетанта. І тады—напал рэзка зніжаецца: газетныя аншлагі разгортваюцца, пераводзяцца ў бытавы план—ён жа, здаецца, намнога бліжэй імкненням гэтай катэгорыі людзей...

Ды дзе там!—

Лімоны і бананы—
Занадта ўжо банальна,
І кофтачкі з нейлону—
Для іх ужо шаблонна...

Прыелася і гэта... Тады, можа, ускалыхне самае інтымнае? Паэт набліжаецца да таямніц душы:

А ў нас цвітуць каштаны,
І вішні, і агрэст.
І ракатанне бору,
І сонца над ліствой,
І Нарачы прыбоі—
Якое хараство!

Не кранае... Дык ці не ўзрушыць іх сенсацыя? Гэта ж толькі падумаць:

Б'е на Палессі нафта,—
Ад радасці танцуй!

Ды зноў:

...гэтыя не бачаць:
На цуд ім напляваць...

Так выкрываецца нутро моднага «нігіліста»: з-за аб'ектыўных малюнкаў жыцця выглядвае суб'ект—сучасны мешчанін. І чым больш паэт «зніжае» тэму ад планетарных матываў да інтымных, тым больш пераконваецца чытач у душэўнай пустаце гэтых псеўдагерояў. Узняць уяўленне, каб потым кінуць яго ў цясніну мяшчанскай нікчэмнасці,—так ствараецца публіцыстычная драматургія верша. Звужэнне тэматычнага размаху, амплітуды ўзвышае ўнутраны напал і даводзіць яго да прамога аратарскага звароту:

Таварышы парторгі,
Бацькі і песняры,
Ці не зашмат без толку
Сядзім мы да зары?
Ці тыя кажам словы,
Ці ўсё знайшлі яны
У нас, каго сурова
Вучылі дні вайны?

Папрок і слушны і разам з тым спрэчны. А што—хіба гэтыя дваццацігадовыя экземпляры не ў адказе за сябе? Нельга ж да сівых валасоў хадзіць у недарослях. Трэба браць нялёгкую ношу жыцця на свае плечы. Ды Пімен Панчанка і сам сцвярджае гэта вершам «Пакаленні»:

Таму і глядзім так сурова
На хліпкіх стыляг і пралаз,
Што любяць пажыць на гатовым,
Радзіму падводзяць і нас.

У словах паэта—і споведзь бацькоў перад сынамі, і суровы наказ, і крыўда, і гнеў. З чытачом гутарыць не сярэдненарыфметычны, нудны маралізатар, а жывы чалавек з яго радасцямі і болем і, мабыць, з рэзкай гарачнасцю. У гэтым—сакрэт глыбокага ўздзеяння панчанкаўскай паэзіі.

Найярчэйшая асаблівасць таленту Пімена Панчанкі, яго грамадзянская і чалавечая сутнасць (менавіта—сутнасць, а не крэда)—арганічнае непрыманне любых праяў зла, натуральны пратэст супраць іх. Аднак выкрываючы адмоўнае, паэт, відавочна, павінен мець пад сваімі пазіцыямі трывалы грунт станоўчага. І такі грунт—ёсць! «Я ні ў жыцці, ні людзях не зняверыўся»,—сведчыць паэт у вершы «Абступяць часам успаміны храмі»... Наша ява, наша камуністычная мэта, за якую штодзённай працай, думкамі сваімі і сэрцам галасуе савецкі Чалавек,—вось той плацдарм, дзе трымае пазіцыі муза паэта, адкуль вядзе ён знішчальны агонь па нечысці, што блытаецца ў нас пад нагамі.

У непаўторнай чалавечай індывідуалізацыі—карэнні рэльефнасці і шматзначнасці публіцыстычнага верша Пімена Панчанкі. Яна праяўляецца ў тым, што трапяткое пачуццё паэта як бы наноў перажываецца чытачамі, верш «творыцца» кожным з іх па сваім узоры, кожны знаходзіць у ім сваё, але ў кожны дадзены момант—адно значэнне. Тут мы маем справу са з'явай сінтэтычнай: аднaзначнасць публіцыстычнай споведзі перарастае ў шматзначнасць грамадскага ўспрымання. Паэтычнае слова набывае ўнутраную напоўненасць, той падтэкст, без якога мастацтва памірае, ці, дакладней сказаць, наогул не нараджаецца.

Сімвалам ачышчальнай сілы паўстае ў вершы Пімена Панчанкі «Трэснула, грукнула...» першая вясновая навальніца. Выкарыстоўваючы паралелізм—адзін з магутных прыёмаў народнай паэтыкі,—аўтар на фоне малюнкаў прыроды праектуе востра-сатырычныя кадры. І ў гэтай пераклічцы першага грому (які, па народных павер'ях, спрыяе здзяйсненню задуманага) з тымі ці іншымі адмоўнымі з'явамі ў грамадскім жыцці чуецца своеасаблівая замова—каб знікла, згарэла ў агні маланак, змылася вясновым дажджом усё цёмнае, усё, што замінае нашаму камуністычнаму паходу.

Трэснула, грукнула, грымнула
з покатам,
Хлынула цёплае неба на дол.
(Вось і сімфонію слухаем, покуль
там
Творцы сядзяць над музычнай
нудой).

Напачатку, у першых двух радках, бачым звычайную пейзажную замалёўку. Нават і грамадская паралель падаецца і ўспрымаецца яшчэ зусім прадметна, быццам працяг «слыхавой» метафары: грымнула з покатам—сімфонію слухаем. Але ад страфы да страфы малюнак навальніцы ўсё больш перарастае ў сімвалічны, а разам з тым узмацняецца выкрывальная сіла, грамадска-публіцыстычная важкасць двух радкоў, паралельных пейзажным:

Травы ачысцяцца, дрэвы памыюцца.
Лівень не зломіць іх—стануць
дужэй.
(Кажуць, што крытыкі больш не
памыляцца,
Бог беражонага не зберажэ).

Я навальніцы люблю ачышчальныя,
Што працінаюць да донца душы.
(Кажуць, не прымуць больш касы
ашчадныя
Ў сейфы свае махляроў барышы).

Гэта пейзажна-публіцыстычная завостранасць асабліва па-майстэрску даведзена Піменам Панчанкам у «Паэме майго лесу». Прыгадваючы прыём дыялогу з сонцам у вядомым вершы Маякоўскага, заўважым, што і паэтычны панчанкаўскі зварот да лесу—гэта толькі подступ да галоўнага, завязка размовы аб вялікіх грамадскіх праблемах. Як у Маякоўскага сонца—саюзнік паэта, сімвал усяго светлага ў жыцці, так у Панчанкі лес—сімвал еднасці з роднай зямлёй, сімвал неўміручасці народа:

Лес мой,
Цуд мой,
Акіян мой зялёны і сіні,
Захавальнік магіл і прысяг
І роздумаў добрых людскіх...

З вышыні гэтага ідэалу гнеўным рэхам разносіцца публіцыстычны голас паэта:

...Мой зялёны дружа:
Не зваліся людзі,
Што паскудзяць нам;
Тлушчам заплылі
І раўнадушшам,
Здрадзілі загінуўшым сябрам.
. . . . . . . .
За гультайства дай ім
Рэкі разліўныя,
Падавай
Машыны ім і дачы;
Ходзяць важна, грузна
І паціху нюхаюць,
Шэпчуць пра памылкі
І нястачы...

Лес у паэта—не механічны прывод, што дапамагае толькі рухаць асноўную публіцыстычную думку. Побач з галоўнай тэмай выступае падгалосак: сам пейзаж малюецца такімі дэталямі, якія высвечваюць тую ці іншую грамадскую з'яву:

Ювеліршчына
Тут мігам абясцэніцца:
Гэтае зіхценне рос—
Без цэн.
Нават звонкая
Птушыная бяссонніца
Набывае ў лесе
Першародны сэнс...

Усё паказное, штучна-напарфумленае, уся танная ювеліршчына блякне перад адвечнай чысцінёй—гэта адзін з лейтматываў, што крынічаць у падтэксце і ўліваюцца ў бурлівае рэчышча «Паэмы майго лесу», ствараючы яе публіцыстычнае шматгалоссе.

«У кожнага вялікага паэта,—гаварыў Гарсіа Лорка,—свой асобы свет.

Свет, у якім дзейнічаюць асноўныя ўласцівасці рэчаў і іх характэрныя адрозненні».

Талент Анатоля Вялюгіна таксама стварае свой адметны паэтычны свет. І сродкі выяўлення ў яго адметныя — рамантычна-публіцыстычныя. Скажам, Пімен Панчанка, прыгадваючы ў вершы ваеннага часу родную Беларусь, пісаў:

А хвою... у Белавежы
Ніяк не ўгледжу...

І нічога дзіўнага ў гэтым няма: далекавата было... А вось Анатоль Вялюгін сцвярджае штосьці зусім адваротнае:

А з вяршалін магутных дубоў
Белавежы
Бачу снегам пакрыты Каўказ
І балтыйскае хвалі бязмежжа...

Што ж застаецца — усумніцца ў рэальнасці дэталяў? Не і яшчэ раз — не. Анатоль Вялюгін глядзіць на свет вачыма рамантыка. І якраз у гэтым супастаўленні рэальнага і рамантычнага (у Панчанкі — кантрасты станоўчага і адмоўнага) выкрасаецца агонь публіцыстычнага хвалявання. Выклікае здзіўленне, захапленне, уражвае гэты віхурны ўзлёт ад будзённага, зямнога да сімвалічна-легендарнага, і на гэтай хвалі ўзносіцца радок высокага грамадзянскага напалу:

Вось якая Радзіма
у нас!

І цікавая рэч: неяк лёгка верыцца, што з вяршалін белавежскіх дубоў бачны Каўказ. Не тое, што верыцца, а наогул сумнення такога не ўзнікае. А вось сказаў жа паэт у першай страфе таго ж верша: «Каля Оршы сады зацвітаюць, а на яблынях Брэста — плады», — і сам неўзабаве ўсумніўся ў паэтычнай пераканальнасці сваіх слоў. Таму і з'явіліся ў наступных рэдакцыях радкі:

Каля Оршы снягі не растаюць —
Зацвітаюць у Брэсце сады.

Гіпербалічнасць зніжана да звычайнага.

Відаць, не ва ўсякім стане рэальнасці матэрыял паддаецца сімвалізацыі. Для такой «апрацоўкі» яго трэба падрыхтаваць, добра «разагрэць». Ужо занадта матэрыяльна-практычна начынена гэтая страфа: цвіценне — плады. Няма таго «крытычнага стану рэчыва», калі ўспыхвае ланцуговая рэакцыя і адбываецца выбух. Паэту прыйшлося «адступіць», прывёўшы тым самым у натуральную раўнавагу дэталі і іх эмацыянальны зарад.

А далей у вершы Белавежа і Каўказ перарастаюць рамкі рэальных канкрэтнасцяў, узвышаюцца да сферы духоўнай. Кантакт для ўспышкі падрыхтаваны. А потым — адбываецца ўсё тое, пра што ўжо ішла гаворка напачатку.

Гэта верш ранейшых гадоў, дзе бачым мы, як ішло ўзмужненне таленту Анатоля Вялюгіна, як гартаваўся грамадзянскі характар паэта. І сёння на яго творчым шляху паўстаюць, як маякі, выдатныя ўзоры публіцыстычнай лірыкі. Адзін з іх — «Прызнанне ў любві». Верш напісаны да 40-годдзя БССР. Як гавораць у такіх выпадках — юбілейны.

О, гэта «юбілейшчына»! Колькі напякла яна рыфмаваных блінцоў — і ацеслівых, і недасоленых, і ў спешцы падпаленых... І з якой іранічнай насцярожнасцю іншы «праніклівы» чытач глядзіць на паэтычныя строфы, што з'яўляюцца ў газетнай рубрыцы побач з перадавым артыкулам або адкрываюць чарговую кнігу часопіса.

Пераможную радасць усведамляеш у завочнай спрэчцы з чытачом-скептыкам і важкім, неаспрэчным аргументам кладзеш на шалі сваіх доказаў верш Анатоля Вялюгіна.

Паэт і сам, разумеючы сітуацыю, першым радком як бы папярэджвае, абяцае:

Я заўсёды баюся напышлівых
выцвілых слоў... —

як бы запрашае чытача на шчырасць, давер і ўзаемаразуменне.

Вобраз Радзімы, шляхі яе перамог, поспехаў і няўдач зліліся ў непарыўнай еднасці з лёсам паэта. Тут ужо не проста сплаў, тут — зелянее, галініцца дрэва жыцця. Агульнае праяўляецца праз асабістае, асабістае праз агульнае:

Беларусь — мая маці і мова,
паветра і хлеб!
Гэта ўзважана сэрцам, на нервах
расстайных дарог...

У артыкуле «Колькі шчасцю год» Анатоль Вялюгін, расказваючы аб сустрэчы ў Доме-музеі I з'езда РСДРП падпалкоўніка Румянцава і польскага акадэміка Петрусевіча, чые бацькі-рэвалюцыянеры тут, у гэтым будынку, рашалі справу будучыні, пісаў: «Я глядзеў на іх сыноў — удзельнікаў барацьбы з фашызмам — і неяк адразу адчуў збліжэнне адлегласцяў часу». Вось гэтае «збліжэнне адлегласцяў часу» з кінематаграфічным майстэрствам выканана ў вершы «Прызнанне ў любві». Змена планаў дае магчымасць паказаць суаднесенасць эпох, убачыць іх як бы пастаўленымі побач, на агляд:

Азірніся: ў далёкай трывожнай
смузе бальшака
На крывавы пясок не адзін
пахіліўся твой сын...
Сёння з доміка Першага з'езда да
гмаха ЦК
Дойдзеш пешкі па новаму Мінску
за восем хвілін,
А не хопіць жыцця змераць просты
і праведны шлях
Ад падпольных сцяжын, забастовак,
пушчанскіх блакад.

Восем звычайных, хранаметрычна адмераных хвілін — і жыццё, які-небудзь пешаходны кіламетр — і бясконцыя шляхі барацьбы... Якая панарама, грамадскі сэнс, публіцыстычная завостранасць і падкрэсленасць (у звароце да пачуццяў і думак сучасніка) адкрываюцца за гэтым суседствам будзённага штрышка і самой гісторыі!

Тут мы маем справу яшчэ з адным прыкладам актывізацыі жыццёвага матэрыялу ў паэтычнай публіцыстыцы, якое ідзе шляхам супастаўлення рэалій сённяшніх, блізкіх, канкрэтна-адчувальных з маштабнымі, гістарычнымі.

«Прызнанне ў любві» — твор, дзе час паўстае перад намі ва ўсіх сваіх трох вымярэннях. Дзень цяперашні, у якім мы жывём, асвятляецца мінулым і сам пасылае прамень у будучыню. Публіцыстычны вобраз набывае аб'ёмнасць, бо прасочваецца ён у развіцці — ад вытокаў да перспектыў.

Часта патрыятызм успрымаецца ў нас як паняцце абагульненае, ледзь не абстрактнае. Мы добра ведаем яго філасофска-маральную фармуліроўку, а забываем, што зараджаецца ён, расце і шырыцца ад вельмі прыватнага — ад роднай хаты, ад роднага бору, поплава, рэчкі:

Я не помню, якою парою навек
палюбіў:
Калі верасам сінім гарэлі
трывожна лясы,
Калі першы кляновік з іголкамі
вострымі піў,
Калі скублі заснежаны снег у
зарэччы ласі,
Ці тады, як бахматы, пад чорнаю
хмараю воз
Асцярожна і дрогка ішоў
па старому мастку,
І чаплялася сена
на голле самлелых бяроз,
І маланак святло апаліла душу
хлапчуку?..

Гэта вытокі. А перспектывы? Яны ў тых асацыяцыях, якія абуджае вобраз у пачуццях і думках чытача: нельга быць патрыётам, калі глухі ты ў любві да краю, дзе нарадзіўся, дзе ўчуў матчына слова. Больш таго, — падкрэслівае паэт, — інтэрнацыянальныя пачуцці праяўляюцца праз нацыянальныя:

Шчасце — маці такую любіць,
гонар — гэткую мець.
Падарожнік ці госць, па нязнанай
хаджу старане,
А скажу: «Беларусь»... — пачынае
ўся зала грымець,
Акрылёнага славай тваёй
сустракаюць мяне.

Верным застаецца сваёй манеры Анатоль Вялюгін: верш напісаны густа, багатым, напорыстым радком. Адны толькі гэтыя падвоеныя паралелізмы чаго вартыя:

Маладая ў грымотах вясны,
ў сівізне завірух —
Не стаміла работа цябе,
не зламала вайна.

Асноўны кальцавы мосцік, што змыкае ў цэласны вобраз малюнкі прыроды і грамадскіх з'яў, узмацняецца глыбінным прыцягненнем двух унутраных сэнсавых радоў: грымоты вясны — работа, сівізна завірух — вайна.

Публіцыстычнасць і лірызм праяўляюцца ў вершы не як знешняя заданасць, а як арганічнае, жывое пачуццё. У працоўнай велічы і славе бачыцца паэту будучыня Радзімы. Праніклёнай адкрытасцю і вялікай грамадзянскай сілай вее ад гэтых мужных сыноўніх слоў:

Вечна будзеш такой. І тады,
як самкнецца мой круг:
З салаўінае пушчы калыска,
З дрымотнага бору труна...

Жыццёвы круг чалавека замыкаецца, Радзіма застаецца вечна.

Выступаючы ў газеце «Праўда» з артыкулам «На стрыжні часу», паэт Сяргей Нараўчатаў гаварыў аб адным з галоўных аспектаў, дзе «раскрываецца ідэя грамадзянскасці»: «У першую чаргу — гэта выхаванне савецкага патрыятызму і інтэрнацыяналізму. Тэма Радзімы стала зараз галоўнай у творчасці многіх паэтаў...»

Верш «Прызнанне ў любві» — яскравае сведчанне гэтых слоў.

У адрозненне ад Пімена Панчанкі Анатоль Вялюгін не пачынае свае пейзажныя вершы такой выбуховай сілай грамадскіх праблем. Аднак гэта не значыць, што паэт заўсёды спыняецца на мяжы замалёвак, эцюдаў, не акрыляючы іх радасцямі і болем чалавечай душы. Крутым настроем часу дыхаюць многія пейзажы Анатоля Вялюгіна. Чалавек з яго гістарычным, сацыяльным вопытам выступае як часцінка вялікага комплексу — сусвету. Дыялектыка паэтычнага адлюстравання жыцця грунтуецца ў Анатоля Вялюгіна на адзінстве і ўзаемапранікненні катэгорый: прырода — грамадства — Радзіма — асоба.

Верш «Спелы бор», здавалася б, чыста пейзажны. Аднак жа ўвесь ён — ад першых да апошніх радкоў — пра-

сякнуты жывым чалавечым хваляваннем. Пейзаж праразаецца дэталямі суровага грамадскага гучання. І прачынаюцца ў душы самыя запаветныя, а мабыць і самыя балючыя струны. Прырода дапамагае чалавеку раскрыцца, пазнаць самога сябе.

Спачатку гучыць гімн радасці: «у спелым лесе, спелы бор, звіняць твае званіцы». Але зацята і няўмольна насоўваюцца *лясныя трывогі*:

> ...Глыбокі мох, на лісцях кроў
> Мядзведжае маліны...
> ...Падсочак стрэлы на ствалах,
> Нібы крыжы пакуты...
> ...Не аблачынак белы пух—
> дзярэ анёла ястраб...—

і ўжо нешта большае, чым пейзаж, малюецца ў нашым уяўленні. Паэт выводзіць яго да вялікіх скрыжаванняў людскіх трагедый і лёсаў. Гэтая кроў на лісцях, гэтыя крыжы пакуты, гэты хіжы ястраб—як яно ўсё драматызуе малюнак спелага бору. Здаецца, вось-вось прарвецца гнеўны голас пратэсту. Але гэтага ў вершы не здарылася. А здарылася б (зразумела, толькі—і толькі—у дадзенай сітуацыі)—заглыблены напал стаўся б фальшывым і баравыя фарбы аказаліся б усяго толькі сфабрыкаванымі дэкарацыямі. Чаму? Ды таму, што не было ў паэта ніякай патрэбы прыбягаць да адкрытага публіцыстычнага звароту. Ды, уласна кажучы,—да каго ж звяртацца, калі ты на адзіноце са сваімі думкамі. Любая аратарская «рулада» выглядала б тут, па меншай меры, дзіўнай, калі не смешнай.

Публіцыстычнасць, як бачым, не прышпільваецца, а вырастае з самых *глыбінных пластоў, на якіх грунтуецца верш.*

> Непакой за цябе, зямля мая,
> За твой ураджай і мірны сон,
> За дрэва кожнае ў гаях,
> За весніх песень пераззвон.
> Непакой за цябе, зямля мая,—
> Мой хлеб надзённы.

«Мой хлеб надзённы»—так і называецца гэты верш Максіма Танка, верш праграмны не толькі ў сэнсе знешняй дэкларацыі, але найбольш па сваім унутраным гучанні, па тым, што ён адзначаны ўсімі найбольш характэрнымі для творчасці паэта ідэйнамастацкімі якасцямі. Гэта ўсхваляваная, шчырая, па-сапраўднаму высокапубліцыстычная паэзія. І разам з тым—простая, зямная. Здаецца, тут і рангаў такіх няма—паэт і чытач. Ёсць два субяседнікі, два шчырыя сябры. Між імі ідзе задушэўная гаворка.

Аб чым жа яна? Аб жыцці. У паэзіі Максіма Танка няма тэматычнай скаванасці, вузкай «спецыялізацыі». Усё хвалюе паэта, і ўсё падуладна яго сэрцу. Публіцыстычнасць лепшых узораў лірыкі Максіма Танка народжана жывым пачуццём, чалавечым дыханнем. Гэта не вонкавая адзнака, а якасць арганічная. Вось паэт

> ...паставіў Пегаса ў аглоблі,
> Вазіць памагае калгаснікам гной.

А вось вяртаецца ён з сенажаці, пільна ўслухоўваецца ў *вячэрнія гукі*—і думкі, трывожныя, як невядомасць, прыходзяць да яго:

> Чую, як міжзорныя ракеты
> Пралятаюць недзе нада мной...
> Можа, мы —*апошнія* паэты,
> Што вось так цікавяцца зямлёй?

Дзве тэмы, здавалася, зусім далёкія, нават супрацьлеглыя па настроі. І ўсё ж наколькі яны блізкія ў сваім дыялектычным адзінстве. Жыццё—непарыўнае, шматграннае—абуджае ў душы паэта цэлую гаму пачуццяў—ад добрай усмешкі да пакутнага роздуму. Будзённае, зямное, бытавое і побач—планетарнае, агульна-чалавечае... У знітаванасці і вечным супрацьборстве гэтых двух пачаткаў акрэсліваецца філасофска-публіцыстычнае значэнне паэзіі Максіма Танка. У пацвярджэнне сказанага прыгадаем яшчэ верш «Проза». Разгортваецца ён сапраўды па-будзённаму празаічна:

> Вы хочаце ведаць,
> Аб чым гаварылі ў суботу
> Дваццатага верасня
> У Пількаўшчыне, у нашай хаце,
> Калі ўсе падвечар
> Вярнуліся з поля, з работы,
> І свежымі дранікамі
> Частавала нас маці?

Дакладная дата, дакладны адрас. Так пачыналі свой расказ даўнія хранікёры-летапісцы, так пачынаюць і летапісцы нашых дзён—газетчыкі.

Паэт даверліва вядзе чытача на гэту сямейную асамблею, дзе

> Хвалілі пагоду...
> Падлічвалі, колькі хто
> На працадні атрымае
> І колькі спатрэбіцца дрэва
> На новыя сцены...

Потым ад клопатаў хатніх пераходзілі да спраў вясковых:

> Прыкідвалі, колькі
> Згуляем вяселляў, хрысцінаў.
> (На вёсцы—усё на вачах,
> Не схаваеш нічога:
> Вядома, хто з кім
> І калі начаваў у адрыне,
> Хто брагу схаваў
> У глушы хмызняку баравога).

Далей—маштабы шырэюць. Быццам сама планета наша прыходзіць са сваім неспакоем і садзіцца за сялянскі стол:

> Змяркканнем святло запаліўшы,
> Газеты чыталі.
> Цікавіліся ўсе справамі
> Міру найболей.
> — Скажы нам,—пыталіся
> ў мяне,—
> Чалавек ты бывалы,
> Мо варта крыху прызапасіць
> Запалак ды солі?

І ад гэтага напамінку пра жудасць галодных і халодных ваенных дзён—нечаканы, але зусім натуральны па логіцы руху і развіцця паэтычнага вобраза пераход—да самага запаветнага, што складае сэнс жыцця і барацьбы. Ідзе як бы адмаўленне папярэдняга тэзіса:

> А потым і пра камунізм
> Пачалася гаворка...

Разгортваецца панарама, і кожная бытавая прыватная дэталь у ёй паступова высвечваецца промнямі вялікага жыцця планеты. Твор электрызуецца, публіцыстычны рэзананс яго ўзрастае:

> — Надзённая проза,—
> Дасціпныя крытыкі скажуць.
> Але, як гавораць прамоўцы,
> Ускінь нашы думы на вагі
> І ўбачыш, на шалях гісторыі
> Колькі заважаць.

Публіцыстычны вобраз у паэзіі Максіма Танка нараджаецца з нягучных, ціхіх рэалій побыту, пастаўленых на пераклічку з падзеямі глабальнымі, маштабу ўсёчалавечага.

Перыяд разгорнутага камуністычнага будаўніцтва зрабіў Беларусь краем вялікіх навабудоўляў. Хлебадайная зямля Старобіншчыны адкрыла невычэрпныя скарбы солі, ля старажытнага Полацка ўзняліся карпусы нафтагіганта, ля Бярозы, у нядаўнім мінулым «праслаўленай» турэмнымі казематамі, пачалося будаўніцтва электрастанцыі. Змены велічныя. І яны не маглі не кранудь сэрца беларускіх паэтаў. Адны з першых па клічы натхнення ўзняліся ў дарогу маладыя. І не дзіўна: будоўлі ўсе гэтыя былі аб'яўлены камсамольскімі. Тут кавалася матэрыяльна-тэхнічная база камунізму, тут каваўся характар чалавека новага грамадства.

Сведкамі вялікіх падзей сталі паэты. Уладзіслаў Нядзведскі, напрыклад, пабываў у Салігорску, Рыгор Барадулін—на будаўніцтве Бярозаўскай ДРЭС, ён жа і Генадзь Бураўкін, а таксама Сяргей Грахоўскі—на Полацкім нафтабудзе.

Гарачы водгук на ўбачанае, жывое хваляванне парадзіла новую жанравую форму—паэтычны рэпартаж.

Адна з найскладаных і асноўных задач публіцыста-газетчыка—вылучыць з будзённага патоку жыцця з'явы і факты, тыповыя для вывучаемай праблемы. Тут важна знайсці аб'ект, які ў сваім адзінкавым стане выяўляў бы рысы агульныя, заканамерныя.

Гэтыя пошукі выразнага, яскравага матэрыялу добра вядомы і паэту, што з рэдакцыйнай камандзіроўкай і з мэтай, вызначанай уласным сэрцам, адпраўляецца на будоўлю, на завод ці ў калгас. У такой разведцы ёсць, мабыць, і доля ўдачы, але не яна вызначае поспех. Ён нараджаецца, перш за ўсё, дзякуючы пранікненню ў прадмет даследавання, шчырай зацікаўленасці, можна сказаць, улюбёнасці творцы ў сваю тэму. Не пратакольна-рамесніцкія захады, а толькі сапраўднае натхненне прыносіць творчую перамогу.

Вось адна з паэтычных частак нафтабудаўскага рэпартажу Рыгора Барадуліна—«Інтэгралы на цэгле». Гэта абразок, выхаплены з жыцця. Тут нічога няма «прыдуманага», «дабаўленага» дзеля «паэтычнай пераканаўчасці». Звычайныя штодзённыя рэаліі: будаўнічая пляцоўка, пяць хвілін перапынку, і муляры нафтабуда—студэнты вячэрняга тэхнікума—у гэты вольны ад працы момант схіліліся над формулай. Тут усё засведчана па-рэпартажнаму (у самым добрым сэнсе гэтага слова): дакладна, з гранічнай выразнасцю, без лішніх слоў, але грунтоўна і па-мастацку ярка:

> Пяць хвілін перапынку яшчэ—
> І брыгада працуе алоўкамі.
> Па цаглінах шурпатых ушчэнт
> Тут зразаюцца грыфелі ломкія.
> Матылёк мітуслівы прысеў,
> На касынцы ў дзяўчыны
> трапечацца.
> Бы ў арнаменце сцены ўсе—
> У трохкутніках, у трапецыях...

Быццам бы чыста знешнія малюнкі дае паэт, больш таго—на пачатку нават інфармацыйна-аголеныя («пяць хвілін перапынку яшчэ...»). Аднак якая глыбіня—і псіхалагічнага парадку і грамадска-палітычнага—выступае з-за гэтых простых радкоў! На фоне рабочых атрыбутаў («па цаглінах шурпатых») сімвалам, эмблемай нашага жыцця вымалёўваюцца арнаменты трохкутнікаў і трапецый. Ад канкрэтнага факта паэт узнімаецца да вялікага сацыяльнага абагульнення, сцвярджаючы выдатныя рысы савецкага рабочага класа: яго няўтольную прагу да ведаў, да пашырэння інтэлектуальнага кругагляду. Публіцыстычны тэзіс паэта разгортваецца не ў аголеных дэкларацыях, а ў жывых паэтычных фарбах. Тут і тонкі душэўны рух

(пяць хвілін—можна сказаць: «усяго пяць хвілін» і—«яшчэ пяць хвілін!»—як гэта здорава, па-студэнцку гучыць!); тут і глыбокая перспектыва жыццёвай дэталі, яе двухпланавасць («Матылёк мітуслівы прысеў, на касынцы ў дзяўчыны трапечацца»—хіба няма тут, апроч знешняга малюнка, яшчэ і другога прачытання: як яны засяроджаны, як сцішыліся над формулай дзяўчаты-завочніцы, што нават матылёк смела прысеў на касынку).

Застаецца толькі шкадаваць, што свой лірычны рэпартаж—твор цэласны і па-мастацку завершаны—паэт раскідаў па асобных часопісных публікацыях. У больш-менш «сабраным» выглядзе з'яўляецца ён у кніжцы «Рунець, красавацъ, налівацца!». Аднак і тут Рыгор Барадулін не быў паслядоўны да канца: твор нават не пазначаны агульным загалоўкам.

Нешта падобнае атрымалася ў Рыгора Барадуліна і з вершаваным рэпартажам з Бярозаўскай ДРЭС. У кніжнай публікацыі былая часопісная агульнасць частак парушана, нічым не падкрэслена: раздзелы адзінага твора выступаюць тут як асобныя вершы. А між тым агульная мастацка-філасофская канцэпцыя, публіцыстычная насычанасць твора можа выявіцца ў канчатковым выглядзе з яго цэласнага ўспрыняцця, а не з прачытання асобных частак.

Прыгадаем хаця б «Зорны ўступ» да рэпартажа з Бярозаўскай ДРЭС. Калі разглядаць гэту паэтычную экспазіцыю як частку непарыўнай мастацкай цэласнасці, то нельга не заўважыць, што выдзяляецца яна добрымі мастацкімі якасцямі.

Пад хмарай разамлелаю, далёкаю
Старэча-гром бурчыць чагосьці
ўслых,
Балацявінай цёплаю цялёпкаюць
Цыбатыя буслы.

Усё яшчэ на пачатку: і само будаўніцтва, і паэтычны рэпартаж з яго. Шырокая панарама—ад паднябесся з буркатлівым громам да буслоў—пераносіць нас у глухі куток, дзе яшчэ так рэдка ступала нага чалавека. Але вось глядзіце, як праз гэты пейзаж праразаюцца рыскі новага, незвычайнага: хоць «вечары яшчэ мычаць каровамі і пахнуць сырадоем за вярсту», тут ужо «канальнымі радкамі роўнымі дапісан экскаватарамі ўступ».

У кніжцы паэт дадае яшчэ адну страфу, як нам здаецца, прынцыпова важную менавіта для ўступу. Заўважце, як раптам—адным штрыхом—усё паварочваецца на сто восемдзесят градусаў, усё мяняецца ролямі:

Уранні
свежай калялнай «зубравай»
Вядзе да катлавана буслаў след...

Не, ужо не ён, не бусел правіць рэй: гаспадару балота прыйшлося ўступіць першынство і тупаць «калянай «зубравай». Вось вам і пейзаж! А якія зрухі бачацца за ім—проста такі рэвалюцыйныя!

Так, гэта і ёсць сапраўдны ўступ. А што датычыцца двух заключных яго радкоў: «Тут пішуць камсамольцы кнігу зорную, і назва ёй «Бярозаўская ДРЭС», што датычыцца шырыні і глыбіні раскрыцця гэтага зорнага будаўніцтва, яго сацыяльна-грамадскага рэзанансу, то гэта ўжо задача ўсяго лірычнага рэпартажу.

З людзьмі самых розных прафесій знаёміць нас Рыгор Барадулін. Прываблівае сваёй летуценнасцю няўрымслівы землеўпарадчык Міхась Бацэкін. Гэта яму дадзена вялікае шчасце першапраходца. Паэт умее адразу ў некалькіх ракурсах раскрыць душэўны настрой героя, цэлую гаму яго пачуццяў, а праз іх—шырокую перспектыву будаўніцтва:

Глядзеў—
і бачыў новыя дамы.
Глядзеў і чуб ускідваў
ускалмачаны.
...І ранак кожным комінам дыміў,
І пахнуў дым блінамі,
скваркай смачнаю...
А там расправяць плечы карпусы
Ды так—ажно блакіты стануць
нізкімі...

Гэтыя тры пары двухрадкоўяў нагадваюць нечым вінтавую лесвіцу, кругі якой узводзяць усё вышэй і вышэй: будаўнічая пляцоўка з будзённай працаю кожнага, потым клопат, быццам бы і не такі ўзвышаны, пададзены ў гумарыстычна-бытавым плане, і, нарэшце,—на новай вышыні, з новым душэўным уздымам—стваральны матыў. Тут зліліся ў суладны акорд і захапленне працай сваёй, і ўцеха добрымі зямнымі радасцямі людзей, дзеля якіх працуеш, і гонар за волатаўскі размах нашых планаў.

А далей—яшчэ круг, пераход ад канкрэтнага факта да абагульнення:

Землеўпарадчык!
Слаўлю позірк твой,
Бо ён у заўтрашні наш дзень
скіраваны.

І—як заклік, як лозунг, але без крыклівасці, а строга, па-дзелавому гучаць заключныя радкі з глыбокім прасторам падтэксту:

Патрэбна шмат чаго перарабіць,
Шмат працы на зямлі
землеўпарадчыку.

Роўна праз год пасля нафтабудаўскага выступлення Рыгора Барадуліна з'явіўся (толькі ўжо ў другім часопісе—у «Маладосці») рэпартаж Генадзя Бураўкіна «Полацк. Нафтабуд». Няма асаблівых падстаў гаварыць аб нейкім завочным ці публічным спаборніцтве двух паэтаў, але цікава параўнаць творчы почырк аўтараў: як ён праявіўся на адным і тым жа матэрыяле. Калі ў рэпартажы Рыгора Барадуліна ўсё яшчэ было на пачатку, у руху, у зменах, то Генадзь Бураўкін стаў сведкам заснавання цвёрдага грунту пад нагамі нафтавікоў. Яны ўжо не проста будуюць, яны—жывуць. Да полацкае зямлі яны прыраслі трывалымі карэннямі:

..І грэюць ручкі
будучыя хімікі
Ў далонях маляроў і цесляроў.
Яны яшчэ не ведаюць,
віхрастыя,
Прывыклыя да лялек і свісткоў,
Што імі
пачынаецца дынастыя
Патомных палачан-нафтавікоў

Вялікія сацыяльныя змены трапна падкрэслены дэталямі побыту. Вось дзяўчаты бягуць суботнім днём—проста з работы—у магазін. На іх «кірзавыя боты і просценькія спяцоўкі» «гэтак лоўка сядзяць», ды ўсё ж «яны падлятаюць да іншых тавараў—дзе яркіх шаўкоў пералівы». Жыццё ёсць жыццё, і дзяўчаты ёсць дзяўчаты. А калі гаварыць сур'ёзна, дык тут ужо адзначана паэтам—непрэтэнцыёзна, па-мастацку тонка—новая вышыня ў нафтабудаўскай гісторыі. Гэта немалаважна ў сэнсе грамадска-сацыяльным, калі адчуваюць людзі патрэбу ў прыгажосці або калі заседжваюцца яны да позняй ночы, слухаючы шахматны выпуск «Апошніх паведамленняў».

Параўноўваючы два паэтычныя рэпартажы—Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна, нельга не заўважыць, як праз адлюстраванне адных і тых жа (ці ў нечым падобных) з'яў, фактаў, падзей праразаюцца сілуэты дзвюх паэтычных індывідуальнасцяў, своеасаблівага стаўлення да жыцця двух паэтычных тэмпераментаў.

Чалавек і прырода—яны зліваюцца ў творчасці Рыгора Барадуліна ў адзінае лірыка-філасофскае рэчышча. Вернасць гэтаму мастацкаму прынцыпу характарызуе і нафтабудаўскі рэпартаж. Чалавек, сутнасць яго—і творчая, і грамадская—выяўляецца ва ўзаемадзеянні з прыродай. Барадулінскі пейзаж—не проста каляровая застаўка, а паўнапраўны герой твора. Тут безліч цудаў. Тут «ходзяць маразы хадою ціхаю белымі пуцейцамі зімы», тут будзе весні гром—«хлапчына ў майцы»—«самазвал з каменнем разгружаць»... І тут жа маляр—падсобнік вясны—дакляруе:

Няхай прараб падпіша мне нарад,
І восень у вясну перафарбую.

Нічога не скажаш: поўная ўзаемазамяняемасць, сяброўская ўзаемавыручка, ледзь не комплексная брыгада, у спісах якой—і людзі, і сілы прыроды. І ўсе яны ў добрай згодзе твораць адзіную чалавечую справу—перарабляюць, лепшаць жыццё на зямлі.

Атмасфера рэпартажу Генадзя Бураўкіна больш насычана надзённымі прыкметамі эпохі. Дыханне часу адчуваецца, кажучы тэатральнай мовай, і ў мізансцэнах, і ў дэкарацыях:

А неба тут гэткае блізкае,
Хоць хмаркі рукой падгані.
Здаецца—
вось-вось
жвавай пліскаю
Мільгне спадарожнік зямны.

Як нечакана і як дарэчы ўрываецца гэты касмічны госць у расказ пра зваршчыка-верхалаза Ваграна Аляк'яна. Своеасаблівая пераклічка вышынь залунала добрым паэтычным рэхам, абудзіўшы ў нашым уяўленні жывыя малюнкі пераможных узлётаў народа-будаўніка.

Дарогі апошнім часам шмат адкрылі новых жыццёвых пластоў Рыгору Барадуліну. «Лінія перамены дат»—гэтая катэгорыя з'явілася ў яго творчасці невыпадкова. Лінія перамены дат не проста адзначана сонечным цыферблатам недзе там, на Урале, дзе праязджаў Рыгор Барадулін. Яна праходзіць праз годы і адлегласці, праходзіць праз сэрца паэта. Яна кліча ў дарогу. І вось—

Учыняю малітву шчырую
Папутнаму ветру—
вандроўніцкаму богу...

І няхай не засмучаюцца тыя, хто прывык лічыць Барадуліна аднолюбам, тыя, у чыім чытацкім сэрцы даўно прыжылася нязменная любоў паэта—сінявокая Ушаччына. Гэта—не здрада. Барадулінская прага да пакарэння прастораў караніцца ў імкненні паглядзець на бацькоўскі край з новых вышынь і адлегласцяў. Гэта—праверка любові сваёй. Такая ўжо прырода паэтычнага пачуцця: заўсёды паэту здаецца, што не знайшоў ён яшчэ самых лепшых, адзіных, самых запаветных слоў. І ён шукае.

Пошук ідзе і ўглыб і ўшыркі. Зліццём гэтых двух шляхоў якраз і адзначаны падарожныя цыклы Рыгора Барадуліна. Паўднёвая граніца ля Каспія і Уладзівасток, Сібір і Прыбалтыка—добра абжытыя мясціны на яго паэтычнай карце.

Шырокія далягляды сустрэч, думак, перажываняў... Яны—у тундры між будаўнікоў Талнаха, на вясёлым тад-

жыцкім свяце бузкашы, у суровым дыханні Ціхага акіяна:

У ракаўках маіх вушэй
Табе не ціхнуць,
Ціхі.
Клубі, дзевяты вал, вышэй—
Кадык з зялёнай ціны.
Бі чарапах
па чарапах,
Звіні струной прамою.
Тваім дыханнем
край прапах—
Салёнае Прымор'е.
Цябе,
калі спакой багоў
Ты дзёрзкасцю парушыш
І выйдзеш з вечных берагоў,—
Бяру я
на парукі!

У шчырай гутарцы паэта з акіянам мы чуем штосьці значна большае, чуем публіцыстычны зварот да сучасніка. Нельга быць раўнадушным, трэба грукацца ў дзверы гісторыі, быць у змаганні за праўду заўжды на вышыні, на грэбні дзевятага валу.

Дарогі прыносяць радасць сустрэч, прыносяць сум расставанняў і прыносяць чаканне той, галоўнай, сустрэчы—з роднымі мясцінамі. Любоў да іх—мера любві да ўсяго, што спаткаў паэт на далёкіх ростанях.

Любоў да зямлі бацькоў
я расставаннем выверыў,
Яна ў грудзі планеты
стукае магмай вякоў.
Прайшоў я шляхамі
трывожных выраяў
Сваіх землякоў...

Радкі гэтыя—з паэмы «Лінія перамены дат», якая з'явілася для Рыгора Барадуліна пэўным падсумаваннем яго падарожніцкіх роздумаў і сустрэч.

«Лінія перамены дат»—гэта маналог паэта аб дні сённяшнім, аб часе, што ўжо стаў гісторыяй, аб нашым будучым.

Праўда, Рыгор Барадулін не імкнецца да выкладання ісцін-формул, каб у гатовым выглядзе, так сказаць, на талерачцы паднесці іх чытачу. Паэт дае фарбы, жывыя дэталі. Чытач як бы запрашаецца да роздуму, да аналізу, да вывадаў. Тут мы сустракаемся з такой з'явай, як публіцыстычны падтэкст. Дастаткова, напрыклад, было паэту паставіць побач два словы—«какетка-Еўропа», як паняцце напоўнілася пакутным сэнсам сучаснасці.

Паэма захапляе шырынёй дыяпазону. Паэт проста і натуральна адчувае сябе ў роднай стыхіі слова. Яго настрой свабодна пераходзіць ад сур'ёзнага роздуму да жарту, па-народнаму дасціпнага.

...А тэлетайп, як акрабат,
Па нервах часу скача,
А тэлетайп,
як тэлепат,
Усё наперад скажа.
Час неспакойна
пахне жалезам...

Ці яшчэ—зноў жа ў танальнасці жартоўнай—праступае адна з вастрэйшых нашых трывог:

А твая парадзела чупрына,
Бор беларускі зеленакрылы.
Хоць да тайгі цябе сватай
у прымы,
Каб лысіну трохі прыкрыла...

Так—дэталь за дэталлю—ствараецца публіцыстычная атмасфера твора, насычаная навальнічнымі зарадамі эпохі.

Чуйна слухае пульс жыцця лірычны герой Анатоля Вярцінскага. Ён у адказе за ўсё—за лёс таварыша, за лёс Радзімы, за лёс зямлі. Балючым роздумам над часам, над людскімі праблемамі пранізаны строфы вершаў Анатоля Вярцінскага:

Фізік квантуе
прастору і час.
Новыя меры,
сферы
і эры.
Падаюць за бар'ерам бар'ер—
Гукавы,
светлавы,
зямных гравітацый...
...Толькі ёсць у мяне непакой:
Ці хутка дойдзе
чарга да бар'еру
Глухой адчужанасці людской,
Неразумення і недаверу?

Паэт марыць аб вялікай еднасці людзей у барацьбе за прагрэс, за ўсё светлае ў жыцці. Чалавек чалавеку—брат,—такі закон нашай камуністычнай маралі. Гнеўна выкрывае Анатоль Вярцінскі другі прынцып, сутнасць якога цалкам зводзіцца да звярынага інстынкту: «З ваўкамі жыць—па-воўчаму выць». Паэт заклікае адольваць «чалавечнасці навуку, гэту цяжэйшую са школ!». Горкаўскі ідэал Чалавека з вялікай літары з'яўляецца прынцыпова важным для Анатоля Вярцінскага пры даследаванні любых праяў жыцця:

Ідзі і помні:
чалавечнасць,
Яна—ад слова: «Чалавек».

Знешне паэтычная дэталь у Анатоля Вярцінскага скупая, нават сухавата-рацыяналістычная. Аднак высокае напружанне думкі, напоўненасць яе глыбокім чалавечым зместам трымае слова паэта на вяршыні сапраўднай усхваляванасці. Публіцыстычны вобраз у яго нараджаецца на грані сутыкнення тэзіса і антытэзіса:

Не тое лепшае,
што навейшае,
а тое лепшае,
што раднейшае.
Не тое лепшае,
што вышэйшае,
а тое лепшае,
што бліжэйшае.
Не тое лепшае,
што прыгажэйшае,
а тое лепшае,
што даражэйшае...

Гэтыя адмаўленні і сцвярджэнні ствараюць лагічныя паралелі, якія, аднак, насуперак закону геаметрыі, перасякаюцца. Перасякаюцца, выкрасаючы ўжо агульную публіцыстычную думку твора: ва ўсім—і ў дробязях быту, і ў вырашэнні складаных праблем часу—трэба перш за ўсё кіравацца чалавечнасцю. І крытэрый ацэнкі вартасці таго ці іншага гістарычнага акта павінен быць адзін: здзяйсняецца ён, гэты акт, у імя чалавека ці супраць яго?

Публіцыстычны вобраз у Анатоля Вярцінскага, як бачым, набывае двухпланавасць: на першай ступені працуе кожная лагічная паралель аўтаномна («не тое лепшае, што навейшае, а тое лепшае, што раднейшае...» і г. д.), а на ступені вышэйшай яны зліваюцца ў агульны акорд. Як асобныя звенні ўтвараюць ланцуг, так гэтыя афарыстычныя ячэйкі ўтвараюць у вершы паэта скразны стрыжнёвы вобраз, напоўнены глыбокім сімвалічным зместам.

Гнеўна выкрывае ўсялякую гніль і пошласць Ніл Гілевіч. Публіцыстычны зварот да сучасніка грунтуецца ў вершах паэта на вострасатырычнай аснове. Сацыяльная з'ява ці тып набываюць і глыбокае раскрыццё і дакладную грамадскую ацэнку. Вось, быццам бы, штодзённы малюнак: усяляюцца людзі ў новыя дамы. Клопатаў шмат. Аднак жа—адны нясуць у кватэры песні, радасць, а іншы... Але паслухаем паэта:

Выбірае
замок для дзвярэй
чалавек,
Выбірае замок,
ды такі, каб—навек!
Самы моцны з усіх,
самы хітры замок,
Каб ключы падабраць
аніхто ўжо не змог!

Гіпербала і тонкая іронія—гэтыя выпрабаваныя сродкі сатырычнага арсеналу («самы моцны з усіх, самы хітры»... і г. д.)—скрыжаваліся, зліліся ў вершы «Замок» з прамой публіцыстычнасцю:

Чалавек на зямлі
будзе жыць без замкоў,
Бо замкі—сваякі
збітых рабскіх акоў!

Алег Лойка—паэт «ціхага», не бунтарскага голасу—ідзе ў пошуках маральнага ідэалу праз самааналіз, самаачышчэнне, лірычны катарсіс. З гэтых пазіцый ён вядзе «бой з чэрства-сцю, як час, скупой, бой з крывадушнасцю любой», з гэтых пазіцый судзіць свае і чужыя ўчынкі:

І не спыняйся ў барацьбе,
І з перамогі над сабой
Бой пачынай—штодзённы бой...

...Калі кідае сейбіт у глебу зярняты—разам з імі кладуцца яго надзеі. Яны ўзыходзяць аксамітнай рунню, яны каласяцца, наліваюцца буйным зернем—надзеі сейбіта. Яны прыходзяць багатым плёнам, кладуцца на стол духмяным сонечным караваем.

Гэтак і паэт—сее словы, сее надзеі, што ўзыдуць яны ў сэрцах людскіх, зарунеюць, што не паб'е іх мароз, не засушыць спякота.

І калі спраўджваюцца спадзяванні паэта—няма большага шчасця для яго. У гэтым—хлеб яго надзённы, у гэтым—плён яго працы і яго найвялікшы грамадзянскі клопат.

**Васіль ЗУЁНАК.**





**Сцяпан ГАЎРУСЁЎ. КЛЯНОВЫЯ ЛІСТЫ.**
**Выдавецтва «Беларусь»,**
**Мінск, 1971.**

# ВЕРНАСЦЬ САБЕ

Выданне томіка выбраных вершаў — справа не простая. Паэт заклапочаны не толькі тым, каб адабраць усё, са свайго пункту гледжання, лепшае, але і неабходнасцю прадставіць тое, што можна было б аднесці да доследаў, прыкідак і спроб, можа, і не зусім удалых, але якія паказваюць нейкі бок асобы аўтара, магчымую тэндэнцыю яго творчасці і наогул шлях яго да таго, хто ён сёння ёсць. Выбранае як калекцыя больш ці менш удалых твораў — гэта для павярхоўнага чытача, які проста чытае *вершы*; для ўдумлівага чытача, які вывучае *паэта* як асобу выбранае ёсць жывое, складанае і часам супярэчлівае адзінства вынікаў нялёгкай працы, якое ўвасабляе ў сабе чалавечую сутнасць паэта.

Гэта, між іншым, больш уласціва тым паэтам, якія не раптам і не без цяжкасці набылі ўстойлівасць почырку і перыяд станаўлення якіх адзначаны добра прыкметнымі стылявымі зменамі,— здаецца, такіх большасць. Што ж датычыць С. Гаўрусёва, які выдаў у мінулым годзе зборнік выбраных твораў «Кляновыя лісты», то яму, мусіць, не давялося адбіраць надта доўга і вельмі старанна, прынамсі з пункту гледжання знешнестылявога. С. Гаўрусёў мае надзвычай устойлівы почырк, нязменны для ўсіх перыядаў яго творчасці: як пачынаў, так і прыйшоў да свайго «Выбранага». У рамках традыцыйнай метрыкі, рытмікі і вобразнасці аднак ішло ўнутранае — і вельмі інтэнсіўнае — развіццё. У якім напрамку — зараз і паспрабуем высветліць.

Але спачатку некалькі слоў аб характары таленту С. Гаўрусёва наогул. Прыроднасць, ці, як цяпер гавораць, арганічнасць яго таленту бясспрэчная, як існаванне травы і дрэва. Нічога сінтэтычнага, у значэнні — штучнага, у яго няма. Ведаю, што такі вывад цяжэй за ўсё даказаць, калі ўвогуле гэта можна даказаць. Ёсць толькі адзін — надта асабісты, а гэта значыць зноў жа не вельмі грунтоўны,— доказ: душэўнае біццё, калі сустракаецца ў вершы тое, *натуральнае*, што сапраўды існуе ў жыцці і што робіць на цябе тое ж уражанне, якое адчуваў паэт,— ці то гэта зрух душы, думкі, пейзаж ці партрэт чалавека. Скажам, вось такое:

Калі імчуся на экспрэсе,
Чамусь карціць заўсёды мне
Сысці на полі або ў лесе,
Што за вагонам прамільгне.

Прызнайцеся, што вы і самі адчуваеце ў вагоне такое жаданне, а ўжо я — абавязкова. Чалавек, здаецца, да гэтага часу не прывык да бяздзейснага перамяшчэння ў прасторы, пра што пісаў яшчэ Ф. М. Дастаеўскі: «Яй-права, іншы раз узяў бы і выскачыў з вагона ды збоку каля машыны на сваіх нагах пабег. Няхай будзе горш, няхай з непрывычкі стамлюся, заблуджу, такой бяды!» Вось, значыць, нас ужо трое, ужо можна гаварыць пра рэальнасць адносін чалавека да адной з праяў знешняга свету. А вось пра такое і казаць не трэба:

Я з бацькам дуб пілую на штандары
(Патрэбна ў хаце пераставіць печ).
А тут цямнее і находзяць хмары,
І не паспець мне — ведамая рэч.
Куды? Аб гэтым я адзіны знаю
І анікому ў свеце не скажу.
І, сцяўшы зубы, горка праклінаю
І дождж, і змрок, і золкую імжу.

Прыведзеныя строфы, магчыма, не самыя значныя па змесце, дарагія дакладнасцю схопленага ў іх пачуцця, яго асязальнасцю: яны адлюстроўваюць рэальнасць чалавечага перажывання, а гэта — верная прыкмета сапраўднага таленту, якія б ні былі яго маштабы. Талент бачыць і адчуваць рэальнасць — гэта рэальнасць таленту. У С. Гаўрусёва ён бясспрэчны.

Самая прыцягальная асаблівасць таленту паэта — жыццялюбства. Праяўляецца яна не толькі ў любові да ўсіх праяў навакольнага свету, але і ў агульным радасным адчуванні быцця. У паэта добрае душэўнае здароўе, даволі рэдкае ў наш час, гармонія яго адносін са знешнім светам даецца яму, як гэта можна заключыць з вершаў, без вялікай цяжкасці; адмоўныя эмоцыі — сум, смутак, адчуванне няўтульнасці і г. д.— турбуюць яго вельмі рэдка. Але ўсё гэта не мае нічога агульнага з уяўнай бадзёрасцю, з запраграмаваным аптымізмам — горшым ворагам таленту. Проста ён такі, паэт, ад прыроды. Можна сказаць, што яго талент — шчаслівы, ранішні. Нават у вершах, навеяных успамінамі вайны, ён застаецца самім сабой: гаворыць больш за ўсё пра жыццё — якое было і будзе. Ён моцна ўрос у гэтае жыццё, на зямлі стаіць цвёрда і ў будучыню глядзіць без страху:

Ад свайго не магу адступіцца
І злаўчуся — была ні была! —
За высокую зорку схапіцца,
Калі выбіты буду з сядла.

Нарэшце, С. Гаўрусёў добра валодае рытмам, рыфмай, мова яго свежая і натуральная, будова радка і страфы такая, што не заўважаеш «стыкаў»: яны, радкі і страфы, «цэльназварныя», як навейшыя рэйкі для звышскарасных цеплавозаў,— а ўсё сказанае вышэй адмятае ўсякае падазрэнне наконт залізанасці і гладкапісу, якія С. Гаўрусёву не ўласцівыя, таму што піша ён не фразамі, а — словамі, у большасці сваёй важкімі, напоўненымі, адабранымі. У рэдкіх выпадках паэт ненатуральна размяшчае націск або пакідае непрадуманы радок (напрыклад, у «Лівадзійскіх чайках»: «чаго там крыкам нелюдскім бяду прарочыш, чаіца?» — гэта ўсё роўна што фраза пачынаючага рэпарцёра А. І. Купрына: «раздушаны сабака крычаў нечалавечым голасам»). Але такога, на шчасце, мала — два-тры выпадкі на ўвесь ёмісты зборнік.

Разам з тым нельга, дзеля справядлівасці, не адзначыць пэўную недастатковасць мысліцельнага ў паэзіі С. Гаўрусёва. Зразумела, паэзія — мысленне вобразамі,— гэта наколькі старое, настолькі і правільнае. Вобраз — ужо заказаная думка, паэзія, якая мае права так называцца і ў такой якасці існаваць. Гутарка ідзе аб нечым значна шырэйшым — аб агульным асэнсаванні свету ў яго сучасным стане, а гэтага, мне здаецца, паэзіі С. Гаўрусёва не хапае. Не хочацца нават называць гэта недахопам — трэба паважаць натуральныя межы таленту; проста хацелася б, каб тое, чаго пакуль што няма,— было.

Асаблівасці таленту С. Гаўрусёва ў поўнай меры выяўляе паэма «Штодзённы лістапад». Цяпер даволі рэдка бывае такое, каб паэма была цэнтрам зборніка, а ў С. Гаўрусёва гэта так. Уключэнне яе ў зборнік апраўдана: у паэме сабрана разам усё самае характэрнае, што сустракаецца ў вершах.

Не пабаюся сказаць: паэма напісана па-майстэрску. Старанна і разумна распрацаваны сюжэт — станаўленне чалавека, яго характару, яго душы; чытач свабодна і лёгка пераносіцца з аднаго месца дзеяння ў другое; такія ж свабодныя і пераходы ў часе — з юнацтва ў дзяцінства, з дзяцінства ў войска, адтуль зноў у дзяцінства, потым у горад і г. д. Нітка, якая ўсё аб'ядноўвае — гісторыя заражэння, развіцця, праверкі і трыумфу кахання; усе яе перыпетыі паказаны моцна, трапятліва і нявінна.

І ўсё ж самае лепшае ў паэме — гэта сапраўдны жывапіс у паказе прыроды; гэта апісанні сяўбы, жніва, малацьбы; гэта світанні, заходы сонца, фарбы, пахі, шумы і шорахі лугоў, лясоў і палёў. Не магу ўтрымацца ад выпісак:

А грады — рай. Крамяны агурочак,
З жаўтлявай паласой уздоўж спіны,
Глядзіць пісклёнкам. З сарака сарочак,
Засопшыся, вылазяць качаны.
Сланечнік — франт, здаецца, п'яны
троху,—
Хістаецца ў бакі ад вецярка.
Гарбуз, самлеўшы, выпаўз на дарогу
З закручаным хвастом, што ў
парсюка...

І чым далей — тым лепш. Лірычны герой, што асабліва важна, актыўны ўдзельнік нялёгкай вясковай працы, ён ведае яе рукамі, нагамі, спіной — і тут у апісанні ўсё тая ж пераканальнасць і тая ж дакладнасць дэталяў, якія даводзяць наша ўспрыняцце да сапраўды фізічнага адчування зямлі і работы на ёй.

Абстрактна-паэтычнае мысленне — не самае моцнае ў таленце С. Гаўрусёва. Каб нешта напісаць, ён абавязкова павінен паглядзець, абысці кругом, памацаць і нават панюхаць прадмет, які яго цікавіць,— і толькі тады атрымаецца аб'ёмнае адлюстраванне яго, даступнае ўспрыманню чытача.

Усё сказанае пашыраецца і на вершы. Чытаючы іх, адчуваеш наступнае: у сакавіку на шчыльны, утрамбаваны вятрамі і марозамі стары снег мяцеліца месцамі наносіць свежы — белы, макраваты, палосы таго і другога чаргуюцца, і калі ідзеш на лыжах — то лёгка імчыш па старым, то цяжка і з прыкрасцю прабіваешся праз новы. Тое ж і вершы, сабраныя ў «Кляновых лістах»: па іх лёгка можна здагадацца, які верш адстаяўся, «утрамбаваўся» ў душы паэта, а які так і застаўся рыхлым.

Чытаючы вершы адзін за другім, можна вывесці нейкі агульны для творчасці С. Гаўрусёва закон, які пацвярджае тое, аб чым гаварылася вышэй: «едзеш» лёгка, г. зн. адчуваеш незамутненую эстэтычную асалоду, там, дзе пераважае «чыстая» рэальнасць, калі паэт дэманструе фізічнае — зрокавае, слыхавое, асязальнае — уменне ўлазіць, урастаць у свет і ва ўласную душу; «едзеш» з цяжкасцю — калі сустракаюцца спробы вывесці «чыстую» думку або калі прадмет ці з'ява цікавяць паэта не самі па сабе, а толькі як зачэпка, каб выказаць уголас нейкую сентэнцыю, мараль. Праілюструем гэта вытрымкамі з вершаў

на падобную, хоць і аддалена, тэму — «драўляную».

Вось першы — «Клён», ён адкрывае кнігу. Чытаем яго і бачым, што не цудоўнае дрэва зацікавіла паэта; яго ўвагу прыцягнула тэма стойкасці, нібыта ўвасобленая ў клёне, які, не ў прыклад іншым дрэвам, выстаяў у гады вайны. Думка такая ж старая, як і няправільная, паколькі клён уцалеў чыста выпадкова, нічога ад чалавечай стойкасці тут няма і не прадбачыцца. Нетрывалая думка параджае і адпаведнае вобразнае афармленне:

І сонца льецца з вышыні
У бронзавае лісце.
Яны шасцяць усё мацней,
Усё мацней, чым далей.
Гляджу на іх — здаецца мне,
Што гэта ўсё медалі...

Як гэта нялоўка! І справа зусім не ў тым, што ўзяты, відаць, адзін з ранніх вершаў; справа ў падыходзе, у прыёмах пісьма. Не так ужо і шмат старонак аддзяляюць «Клён» ад «Вішнёвага саду», а ўражанне ад апошняга зусім іншае. А вось ужо зусім цудоўнае:

Штабелявалі хлопцы шпалы,
Сасны смалістыя брусы.
Тайзе паветра не хапала,
Сцягналі краскі без расы.

Лірычны герой, паназіраўшы некаторы час збоку, моўчкі бярэцца за работу, цяжкую і знясільваючую, калі дзень заўсёды здаецца даўжэйшы і сонца ідзе па небе марудна — «І далеч доўга не спяшыла укрыцца шызаю імглой»,— і хутка забываецца на саму работу, проста не лічыць яе нечым выключным, але —

І толькі плечы прыгінаю,
Калі грукочуць цягнікі.

Вось вам думка, вось вам ідэя і ўсё такое іншае. Важнасць, патрэбнасць, асалода працы, яе цяжкасць, задавальненне ёю, усведамленне яе вечнасці і сваёй саўдзельнасці ў яе выніках — усё гэта сказана п л я ч ы м а, а не языком, не ротам, не с л о в а м, і, як ні парадаксальна, гэта гучыць. Сапраўды, можна сказаць, што характар таленту С. Гаўрусёва, які адносіць яго да выяўленчай галіны паэзіі, асуджае паэта на нематy. Зразумела, ёсць паэты думкі, але да іх — іншыя патрабаванні.

А цяпер вернемся да пытання — у якім напрамку развіваўся талент С. Гаўрусёва? Было сказана, што яго, гаворачы шырока, эстэтычныя прынцыпы не змяніліся больш-менш прыкметна: да гэтага трэба дадаць, што не змяніліся і маральныя перадумовы яго творчасці, тут ён таксама з чаго пачаў, да таго і прыйшоў — да сцвярджэння радасці жыцця, да праслаўлення кахання, працы, прыроды, да адмаўлення вайны. Усе агульнасць гэтых прынцыпаў не перашкаджае адзначыць іх — яны сапраўды існуюць, паколькі выказаны сродкамі паэзіі, а не проста дэкларaваныя, як гэта вельмі часта бывае.

Талент С. Гаўрусёва развіваўся шляхам памнажэння чыста паэтычных элементаў, узмацнення вобразнага, прадметнага, рэчавага ў вершы, развіваўся, як дрэва, якое запаўняе прастору вакол сябе ўсё большай і большай колькасцю клетак, галінак і лісцяў. Гэта развіццё аднак не было простае, механічнае. Лёгка выяўляецца наступнае: паэт настойліва вяртаецца да ўлюбёных тэм і ўсякі раз вяртаецца на вышэйшай аснове здаровай вобразнасці. Дастаткова параўнаць, напрыклад, вершы «Маленства», у аснове якога ляжыць не вельмі новая думка аб тым, што ў мілае дзяцінства можна вярнуцца, варта толькі «к латаку нагнуцца ды напіцца соку з гладыша», і «Хлапчуком белагаловым...», дзе гэтае вяртанне ажыццяўляецца на самай справе, гэта значыць не фізічна, што, зразумела, немагчыма, а — памяццю, якая выбірае дакладную дэталь з мінулых дзіцячых пачуццяў і перажыванняў:

І калі змаўкалі птушкі,
Ператомлена-шчаслівы,
Я гарнуўся да падушкі,
Як да выветранай грывы.

Тое ж адбываецца, скажам, і з вершамі аб прыродзе. Ад традыцыйных, лёгкаважкіх і назіральных вершаў «Вясёлка ў гарах», «У складках гор...» — да памянёнага «Вішнёвага саду», да цудоўнага верша «Я палаткай развесіў паходны шынель», дзе пасля дажджу «так навокал расло ўсё, што калі паглядзеў — карабіна не ўбачыў з-пад лісця травы!»

А побач з гэтым — настойлівыя спробы авалодаць і прыёмамі «чыстага» паэтычнага мыслення і ўдачы ў гэтай галіне («Баюся воблакі спыняць...», часткова — «Спінінг Жаліо-Кюры» і інш.). Значыць, прыходзіць пара сталасці, якая мае звычай прыносіць добры плён.

Я не стаўлю перад сабой мэты адзначыць як мага больш удач С. Гаўрусёва — рэцэнзія ёсць рэцэнзія, а ўдач хапіла б на артыкул. У спадзяванні, што гэта будзе небескарысным для паэта, я спрабаваў намацаць стрыжнёвыя моманты яго творчасці. Што ж датычыць такіх, напрыклад, вершаў, як «Я вырас пад гарматнымі стваламі», «Спёка», «Пасляваеннае», «Садок вячэрні, садок ружовы», «Калі прынёс я ў хату дроў» і многія іншыя, то чытач ведае іх. У гэтым я чамусьці не сумняваюся.

**Фёдар ЯФІМАЎ.**





## «Выдатны хлопец»



Каляровая шырокаэкранная мастацкая кінастужка створана на кінастудыі «Беларусьфільм» па сцэнарыі Ціхана Няпомняшчага. Яна расказвае пра нашага маладога сучасніка, інжынера Мінскага аўтамабільнага завода Віктара Логінава, які воляю выпадку аказаўся ўдзельнікам і героем цяжкага аўтамабільнага ралі ў адной з краін Усходу.

Фільм паставіў малады рэжысёр Юры Дубровін. Да гэтага ён стварыў мастацкую кінакарціну «Дзесятая доля шляху» і тэлевізійную кінастужку «Побач з вамі», адзначаную дзвюма прэміямі на Усесаюзным фестывалі тэлефільмаў у 1967 годзе.

Ролю Віктара Логінава выконвае акцёр Краснаярскага тэатра юнага гледача Мікалай Аляліn, добра знаёмы нам па кінаэпапеі «Вызваленне» (капітан Цвятаеў), а таксама па кінафільмах «Дні лётныя», «Секундамер», «Дзёрзкасць».

Арамя Мікалая Аляліна, у галоўных ролях заняты Любоў Румянцава, Мухтар Манієў, Харый Ліепіньш, Мікалай Яроменка, Улдыс Ліелдыжд і іншыя.

Фільм здымаўся ў Беларусі, Узбекістане і Таджыкістане.

## «Афіцэр запасу»

Першая самастойная работа ў мастацкім кіно маладых рэжысёраў Віталя Дзёміна і Юрыя Барэцкага («Малдова-фільм»).

Карціна расказвае пра людзей сённяшняга дня — нашых сучаснікаў. Характэрна, што для натурных здымак не было пабудавана ніводнай дэкарацыі, усё здымалася ў натуральных умовах, што дазволіла дакладна і праўдзіва перадаць дух часу.

Ролю галоўнага героя фільма — сакратара райкома партыі Кірыла Бажура — выконвае папулярны кінаакцёр Барыс Зайдэнберг. Зусім нядаўна мы бачылі яго ў кінаэпапеі «Вызваленне», дзе ён стварыў вобраз камбата Арлова.

У галоўных ролях заняты таксама С. Каркошка, В. Козел, А. Максімава, П. Любешкін, Е. Еўсцігнееў, Л. Залатухін.

Здымаў фільм адзін са старэйшых аператараў малдаўскага кіно Леанід Праскурын.

## «Сіняе неба»

Гэты каляровы фільм створаны на Адэскай кінастудыі. Ён прысвечаны тым, хто вяртае страціўшым зрок сіняе неба і ўсе фарбы зямлі.

Сцэнарый карціны напісаў адэскі паэт Ігар Нявераў. Пастаноўку фільма ажыццявіў рэжысёр Марк Талмачоў, знаёмы гледачам па кінастужцы «Залатыя гадзіннік».

Вялікую дапамогу кінематаграфістам аказалі супрацоўнікі Інстытута вочных хвароб і тканкавай тэрапіі імя акадэміка В. П. Філатава. Яны кансультавалі фільм.





# «Трымайся за воблакі»

Двухсерыйная шырокаэкранная мастацкая стужка кінематаграфістаў венгерскай «Мафільм» і Маскоўскай кінастудыі імя М. Горкага.

Гэта гераічная камедыя, дзеянне якой адносіцца да 1919 года, часу, калі ў Венгрыі была ўстаноўлена Савецкая рэспубліка.

Пералёт венгерскага публіцыста Перцэля і вядомага рускага лётчыка, асабістага пілота Мікалая II капітана Севасцьянава па маршруце Масква — Будапешт багата шматлікімі камічнымі і сур'ёзнымі сітуацыямі.

Паставіў фільм венгерскі рэжысёр Петэр Сас, знаёмы савецкім гледачам па карціне «Хлопцы з плошчы».

Сааўтарам сцэнарыя фільма разам з Петэрам Сасам з'яўляецца Юліян Сямёнаў.

# «Сляпы дождж»

Шырокаэкранны мастацкі фільм створаны ўзбекскімі кінематаграфістамі на матэрыяле сучаснай рэчаіснасці.

У цэнтры лірычнай кінааповесці — гісторыя кахання хлопца і дзяўчыны, дзе складана і праўдзіва пераплятаецца клубок жыццёвых супярэчнасцяў. Аўтары фільма імкнуцца шчыра і пераканаўча прааналізаваць узаемаадносіны двух закаханых.

# «Даісі»



У верасні мінулага года споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння аднаго з заснавальнікаў грузінскай класічнай музыкі кампазітара Захарыя Паліяшвілі, стваральніка «Абісалома і Этэры», «Даісі» і іншых опер.

Да юбілейнай даты рэжысёр Мікалай Санішвілі паставіў на кінастудыі «Грузія-фільм» каляровую мастацкую кінакарціну па матывах оперы «Даісі», якая ўзнавіла адну са слаўных старонак гераічнага мінулага грузінскага народа.

У сусветным кіно набыты вялікі вопыт экранізацый выдатных твораў опернага мастацтва. З некалькіх магчымых на Тбіліскай студыі быў выбраны, відаць, самы правільны варыянт. Вырашана было рабіць не фільм-спектакль, а музычны фільм, у якім дамінуючае месца павінна было належаць музыцы Паліяшвілі.

Фільм рабілі людзі, улюбёныя ў гэту музыку. Дастаткова сказаць, што да работы былі запрошаны пляменнік вялікага кампазітара, вядомы музычны дзеяч Грузіі дырыжор Вахтанг Паліяшвілі і адзін з любімых вучняў Захарыя Паліяшвілі — вядомы грузінскі кампазітар Арчыл Кераселідзе. Першы актыўна дапамагаў паэту Джансугу Чарквіяні пісаць сцэнарый, Арчыл Кераселідзе з'яўляецца музычным рэдактарам карціны.

# «Хлопчыкі»

Чытачы часопіса «Юность», прагледзеўшы гэту шырокаэкранную мастацкую кінастужку вытворчасці кінастудыі «Масфільм», напэўна, успомняць аднайменную аповесць Аляксандра Рэкемчука, апублікаваную ў мінулым годзе ў гэтым часопісе.

Тэма аповесці і фільма — станаўленне чалавечай асобы, пошукі свайго прызначэння ў жыцці, свайго прызвання.

У цітрах карціны гледачы прачытаюць знаёмае прозвішча — Табакоў. Але імя артыста не Алег, а Антон. Сын пайшоў па слядах бацькі — вядомага артыста і рэжысёра. Ён сыграў ролю 8-гадовага Жэні Прохарава.

Дарэчы, у фільме заняты і іншыя дзеці вядомых работнікаў мастацтва. Гошку Вяземскага іграе Алёша Менглет — прадстаўнік трэцяга пакалення артыстычнай дынастыі Менглетаў. У ролі Марата Аліеза выступае сын кампазітара А. Бабаджаняна — Арык Бабаджанян.

Карціна пастаўлена рэжысёрам Кацярынай Сташэўскай па сцэнарыі Аляксандра Рэкемчука.

На экранах кінатэатраў і клубаў рэспублікі будуць таксама дэманстравацца новыя мастацкія кінастужкі: «У Маскве праездам...» (кінастудыя імя М. Горкага) — пра людзей, розных па ўзросце і прафесіях, якія аказаліся праездам у сталіцы; «Калі распаўзаецца туман» (кінастудыя «Масфільм») — аб барацьбе з браканьерамі; «Учора, сёння і заўсёды» (кінастудыя імя М. Горкага) — пра лёс дзяцей, якія па розных прычынах трапілі ў дзіцячы дом для цяжкавыхоўваемых; «Месяц жнівень» (кінастудыя «Ленфільм») — пра жыццё калгаснай вёскі; «Чортаў тузін» (Адэская кінастудыя) — аб барацьбе запарожскага казацтва за сваю свабоду; «Атака» (кінастудыя «Казахфільм») — пра нашых сучаснікаў, работнікаў адной з комплексных касмічных станцый.

З зарубежных кінафільмаў будуць паказаны: «Ты і я, і маленькі Парыж» (ГДР), «Пасля цемры светла» (Арабская Рэспубліка Егіпет), «Прыгоды ў Антарыо» (Румынія і Францыя), «Леў зімой» (Англія), «Кветка персіка» (Мексіка), «Чорвен і Скролан» (Швецыя), «Загнаных жа коней забіваюць, ці не праўда?» (ЗША).

# НОВЫЯ ЛЕВЫЯ. ХТО ЯНЫ?

Наступленню буржуазнай рэакцыі ў Злучаных Штатах Амерыкі супрацьстаіць шырокі дэмакратычны рух. Адным з асноўных яго патокаў з'яўляецца рух «новых левых» — антымілітарысцкі, антыманапалістычны рух амерыканскай моладзі.

Упершыню выступленні «новых левых» звярнулі на сябе ўвагу ў 1960—1961 гадах, калі яны былі звязаны з барацьбой супраць «прысягання лаяльнасці», за правa слухаць прафесараў з поглядамі, адметнымі ад афіцыйных, супраць дыскрымінацыі па палітычных і расавых матывах. Гэтая барацьба вялася ненасільнымі метадамі. Пісаліся пратэсты, наладжваліся сядзячыя дэманстрацыі.

Для каардынацыі разрозненых «сітінаў» у 1960 годзе была створана першая радыкальная маладзёжная арганізацыя Студэнцкі каардынацыйны камітэт негвалтоўных дзеянняў (СККНД) Найбольш значным практычным вынікам дзейнасці гэтай арганізацыі была рэгістрацыя перад выбарамі 1964 года больш як 500 тысяч выбаршчыкаў-неграў, якім актывісты СККНД дапамаглі пераадолець адукацыйны цэнз.

К сярэдзіне 60-х гадоў аб'ектам непасрэднай крытыкі «новых левых» становіцца сістэма адукацыі, якая санкцыяніруе ганенні прафесараў і студэнтаў за перадавыя палітычныя погляды, якая не забяспечвае гуманнага прымянення атрыманых ведаў. Пасля поспеху «Руху за свабоду слова» ў Каліфарнійскім універсітэце хваля студэнцкіх хваляванняў абрушылася на Амерыку.

Яшчэ дзесяцігоддзе назад студэнцкую моладзь атамнага веку на Захадзе называлі «страчаным пакаленнем», «скептычным пакаленнем», «пакаленнем раўнадушных». Буржуазная прэса старалася ігнараваць пратэстуючых студэнтаў-актывістаў, якія разглядаліся як «нязначная меншасць». У апошнія гады становішча змянілася. Юнацтва планеты ўсвядоміла, што сёння ствараецца будучыня і для яго. Як прызнае часопіс «Тайм», «сёння баявы заклік студэнцтва становіцца сусветным». Падзеі ў Берклі паказалі, што акрамя рэзалюцыі з просьбамі і заклікамі ёсць больш эфектыўныя метады барацьбы: адмаўленне ад заняткаў, пікетаванне і захоп вучэбных карпусоў і г. д.

Спецыфічнай формай адмаўлення афіцыйнай сістэмы адукацыі сталі так званыя «незалежныя», або «контруніверсітэты», якія выраслі са «школ свабоды» ранняга этапу негрыцянскага руху. Ужо ў 1965 годзе яны з'явіліся ў буйнейшых навуковых цэнтрах ЗША — Нью-Йорку, Чыкага, Сан-Францыска. «Контруніверсітэты» вывучаюць апорныя сацыяльныя праблемы, якія ўлады свядома выключылі з вучэбных праграмаў. Абмеркаванне актуальных пытанняў сусветнай палітыкі, рэвалюцыйнага руху, ідэалогіі марксізма, даследаванне сучаснага становішча негрыцянскага насельніцтва і яго ролі ў гісторыі Амерыкі дапамагаюць моладзі пазбавіцца ад аднабаковага бачання свету, на якое арыентуе сістэма буржуазнай адукацыі.


У цэнтры ўніверсітэцкага двара. Пакуль што толькі дыскусія...





У апошні час нездаволенасць студэнтаў характарам навучання, якое ператварае чалавека ў бяздушную частку капіталістычнай сістэмы, вылілася ў рух «Улада студэнтаў». Гэта не бунт безаадказных анархістаў, як імкнецца засведчыць буржуазная прапаганда. Лозунг «Улада студэнтаў» вынікае з асноўнай дактрыны «новага левага» руху — «дэмакратыі ўдзелу», якая прадугледжвае кантроль грамадзян над эканамічнымі і палітычнымі інстытутамі грамадства. Студэнты змагаюцца за тое, каб ператварыць універсітэт ва ўстанову, якая б адказвала перад студэнтамі і выкладчыкамі, а не перад ваенна-прамысловым комплексам і рэакцыйным саветам апекуноў.

Афіцыйная прапаганда ўсяляк падтрымлівае ілюзію, што ва ўсіх «беспарадках» вінаваты асобныя актывісты — камуністы і анархісты, а асноўная маса студэнтаў тут ні пры чым. «Як і некаторыя ўрады, — пісаў Ф. Энгельс, — гэтыя прамудрыя буржуа прыпісваюць увесь рух, які ім незразумелы, уплыву шкодных агітатараў, зламыснікаў, дэмагогаў, крыкуноў і моладзі».

Прафесар Талкот Парсонс лічыць, што хаця амерыканская моладзь і знаходзіцца «ў стане браджэння», яна, па сутнасці, дае «ўскосную санкцыю» ўстойліваму і цэласнаму грамадству. Шчыра рэакцыйны сацыёлаг Льюіс Фоейр крытыкуе студэнцкі рух за тое, што ён не імкнецца да легальнага спосабу дзеянняў, ігнаруе «традыцыйна амерыканскі дэмакратычна-ліберальны падыход». Дэніэл Бел, Сідней Хук, Сеймур Ліпсет і іншыя недаацэньваюць сілу «новых левых» з-за анархісцкага, неарганізаванага характару, папракаюць іх за незаконныя, амаральныя або неўратычныя паводзіны.

Сапраўды, сярод «новых левых» можна вылучыць анархісцкі і прагрэсісцкі напрамкі. Для першага характэрна тэндэнцыя да разбурэння, для другога — да радыкальнага пераўтварэння грамадства. Анархісты часта праяўляюць варожасць і адчай, выкліканыя беднасцю і недахопам адукацыі. Аднак дадзеныя канкрэтна-сацыялагічных даследаванняў прымушаюць нават амерыканскіх сацыёлагаў зрабіць вывад, што актывісты «новых левых» належаць да «лепшай часткі студэнцкай моладзі».

Барацьба за ліквідацыю антыдэмакратычных рысаў амерыканскай рэчаіснасці садзейнічала радыкалізацыі і арганізацыі «новага левага» руху. У 1962 годзе ствараецца арганізацыя «Студэнты за дэмакратычнае таварыства» (СДТ). Аднак з маніфеста, прынятага на першым кангрэсе СДТ, зусім не зразумела, што прыйдзе на змену «прагніўшай дэмакратыі» сучаснага амерыканскага грамадства.


Час перагавораў скончыўся. Мы пераможам.

Інтэрвенцыя ў Дамініканскай Рэспубліцы ў маі 1965 года паказала, што знешняя палітыка ў В'етнаме не «памылка», не выключэнне, а частка усеагульнай палітыкі контррэвалюцыі і агрэсіі. Антываенная барацьба і барацьба за нацыянальнае вызваленне прывялі да сітуацыі, у якой многія «новыя левыя» разглядаюць сябе як «марксістаў-ленінцаў» і «камуністаў» (з маленькай «к», у адрозненне ад членаў КП ЗША).

Той факт, што Фідэль Кастра пачынаў як студэнт Гаванскага ўніверсітэта і ўзначаліў першую пераможную сацыялістычную рэвалюцыю ў заходнім паўшар'і, аказвае незвычайна моцны ўплыў на студэнцкіх радыкалаў. Кубінская рэвалюцыя — больш чым сімвал для цяперашняга пакалення. Яна з'яўляецца галоўным цэнтрам для ідэалагічнага росту студэнцкага руху ў Амерыцы.

Для каардынацыі антываенных выступленняў у 1966 годзе створан агульнанацыянальны Студэнцкі мабілізацыйны камітэт (СМК). 15 красавіка 1967 года ў Нью-Йорку камітэт арганізаваў адну з самых масавых антываенных дэманстрацый. У выніку СМК кіраваў забастоўкай студэнтаў Калумбійскага ўніверсітэта, якія патрабавалі спыніць выкананне ваенных заказаў, трохдзённай сядзячай забастоўкай (6—9 мая 1968 года) супраць вярбовачнай дзейнасці ЦРУ ў Стэнфордскім універсітэце і інш.

Найбольш радыкальнай формай пратэсту стала адмаўленне моладзі ад удзелу ў В'етнамскай авантуры. З 1965 года, калі Дэйв Мілер першы спаліў сваю прызыўную картку, знішчэнне прызыўных картак дасягнула такога размаху, што амерыканскія сацыёлагі загаварылі пра «пакаленне, якое імкнецца пазбегнуць прызыву ў ар-

мію» (Дру Пірсан). Супраціўленне прызыву, якое прапагандуюць «новыя левыя», аб'ектыўна садзейнічае росту антыманапалістычных настрояў сярод моладзі, пераходу яе ад індывідуальных, пасіўных форм пратэсту да арганізаванага і актыўнага выступлення супраць агрэсіі амерыканскага імперыялізму. «Я выйшаў з турмы, — заявіў Дэйв Мілер, — не пацыфістам і не католікам».

4 мая 1970 года рух «новых левых» уступіў у новую фазу. У гэты дзень былі забіты чацвёра з Кентэскага ўніверсітэта. Яны выступілі супраць уварвання ў Камбоджу. Іх смерць нагляднa пацвердзіла, што эскалацыя знешняй агрэсіі непазбежна цягне за сабой узмацненне рэакцыі ўнутранай. Беспакараныя забойствы ў Індакітаі становяцца прэцэдэнтам для апраўдання забойстваў амерыканскіх прыхільнікаў міру і дэмакратыі. Забойства ў Кентэ — папярэджанне з боку манапалістычнага бізнесу, што тыя, хто ўступае на шлях барацьбы з ім, рызыкуюць не толькі кар'ерай, але ўласным жыццём.

Да гонару амерыканскага антываеннага руху трэба заўважыць, што рэпрэсіі не толькі не ўнеслі панікі ў яго шэрагі, але наадварот, садзейнічалі прыцягненню новых змагароў. Ужо 8 мая забастоўку салідарнасці з Кентэ падтрымалі 410 каледжаў і універсітэтаў, 227 з іх у выніку гэтага былі зачынены. 18 мая паводле дадзеных часопіса «Тайм» хваляванні ахапілі ўжо 441 ВНУ. Стотысячны жалобны мітынг 19 мая ля Белага дома яшчэ раз пацвердзіў, што моладзь ЗША рашуча выступае супраць палітыкі вайны, кім бы яна ні праводзілася — дэмакратамі або рэспубліканцамі.

Важнай ступенню радыкалізацыі «новых левых» варта лічыць узмацненне ўвагі да рабочага класа, да яго барацьбы. Непасрэднай прычынай гэтага павароту паслужылі падзеі 1968 года ў Францыі.

Сувязь «новых левых» з барацьбой рабочага класа — адна з асноўных праблем, якія стаяць перад прагрэсіўнай Амерыкай. Тое, што «новыя левыя» пачалі ўсведамляць неабходнасць адзінства дзеянняў з рабочым класам, адбілася ў рэзалюцыі нацыянальнай канферэнцыі СДТ у снежні 1968 года. На гэтай канферэнцыі было вырашана пертварыць СДТ у рэвалюцыйны маладзёжны рух, а не толькі ў студэнцкі, і пачаць сур'ёзную работу ўнутры і па-за арганізаваным рабочым рухам. У прынятай рэзалюцыі «Да рэвалюцыйнага маладзёжнага руху» сцвярджаецца ленінская канцэпцыя неабходнасці спецыяльных арганізацыйных форм сярод моладзі і адвяргаецца разуменне моладзі як асобнага кла-



«Мы бастуем» — азначае крывавы кулак на плакатах, прыколатых на спінах студэнтаў.

са. Рэзалюцыя адзначае неабходнасць развіваць класавую свядомасць сярод рабочых і студэнтаў, прызнае, што «як студэнты мы парвалі са шматлікімі расісцкімі і антыпралетарскімі поглядамі і не дапусцім расізм і расавы шавінізм у СДТ». Першым практычным крокам на шляху ўстанаўлення саюзу студэнцкага, негрыцянскага і прафсаюзнага руху з'явілася пяцімесячная забастоўка ў Сан-Францысцкім каледжы. За пашырэнне кантынгенту каляровых студэнтаў сумесна з неграмі выступілі белыя выкладчыкі і студэнты, выставіўшы свае патрабаванні. У ходзе барацьбы быў заключан саюз з нафтавікамі Рычмонда. Урэшце ўсе патрабаванні бастуючых былі задаволены. А ўсяго некальні гадоў назад многім студэнтам магла б здацца дзікай ідэя пікетаваць разам з прадстаўнікамі «сістэмы».

У выніку ўзрослай цікавасці маладых амерыканцаў да палітычнага жыцця нарадзілася арганізацыя «Дайце права голасу» (снежань, 1968 год). У канцы 1970 года Р. Ніксан падпісаў законапраект, па якім выбарчы цэнз з 1 студзеня 1971 года зніжаецца да 18 гадоў. «Новыя левыя» ператвараюцца ў буйную палітычную сілу. Аднак тут не павінна быць месца тры-



віяльнаму аптымізму: цяжкасцяў яшчэ вельмі і вельмі многа. Гэта і актывізацыя правых сіл, і насцярожаныя недружалюбныя адносіны кансерватыўнага сярэдняга класа, і сур'ёзныя супярэчлівасці ўнутры самога руху.

Неадпаведнасць традыцыйных, афіцыйна замацаваных буржуазных свабод і рэальных грамадскіх адносін у Злучаных Штатах асабліва цяжка перажываюцца моладдзю. Адны імкнуцца знайсці выйсце ў ілюзорным свеце індывідуальнай свабоды, ігнаруючы рэальныя грамадскія адносіны (ідэалогія хіпі); другія спрабуюць трансфармаваць старыя ідэі ў адпаведнасці з новай рэчаіснасцю, г. зн. аформіць ідэі буржуазнага індывідуалізму ў выглядзе фашысцкіх і паўфашысцкіх ідэй. «Новыя левыя» хочуць перарабіць сучаснае грамадства ў адпаведнасці з ідэаламі дэмакратыі і свабоды асобы.

Паставіўшы ў цэнтр увагі чалавека, яго свабоду, ідэалогія «новых левых» актыўна супрацьстаіць тэхнакратычнай традыцыі, якая панавала ў Злучаных Штатах у пачатку 60-х гадоў. «Новыя левыя» крытыкуюць сродкі і мэты «масавага грамадства». Найбольшым нападкам падвяргаецца мілітарызм, узмацненне ваенна-прамысловага комплексу. Мілітарызацыя, з іх пункту гледжання, побач з манапалізацыяй грамадскага жыцця, вядзе да адраджэння саслоўнага, пазаэканамічнага прымусу, да таго, што чалавек усё больш адчувае сябе «зробленым», «маніпуліруемым», залежачым ад некантралюемых ім сацыяльных сіл.

«Новыя левыя» лічаць, што духоўнае прыгнечанне чалавека — вынік сучаснага індустрыяльнага грамадства. Пад апошнім яны разумеюць панаванне тэхнікі, а не капіталістычнага спосабу вытворчасці. Тым не менш «новым левым» уласцівы баявы дух, які прысутнічае нават у акцыях негвалтоўнага характару. Моладзь Амерыкі ў першую чаргу «новым левым» абавязана ліквідацыяй жаху перад макартызмам, ператварэннем з «маўклівага пакалення» ў пакаленне, якое патрабуе, не згаджаецца.

Але будучы радыкальнымі і бязлітаснымі ў сваёй крытыцы афіцыйнай ідэалогіі, «новыя левыя» аказаліся бездапаможнымі ў вызначэнні новых мэтаў і сродкаў іх дасягнення. «Мы аказаліся няздольнымі сфармуляваць будучае», — прызнаваўся старшыня СДТ Тод Джытмен.

Усе «новыя левыя» стаяць за дэмакратыю. Але большасць адстойвае дэмакратыю ў традыцыйным буржуазным сэнсе. Сапраўднае значэнне дэмакратыі — напрыклад, патрабаванне прамысловай дэмакратыі і сацыялізму — не зразумелае многім удзельнікам ру-

ху. Камунізм для іх — гэта перш за ўсё добра арганізаваная ідэалогія, а яны настроены скептычна ў адносінах да ўсялякай ідэалогіі.

У сілу тыпова амерыканскай нефілсафічнасці «новыя левыя» лічаць, што інтэлект з'яўляецца інструментам толькі для выканання канкрэтных дзеянняў. Яны асцерагаюцца, што ідэалогія і філасофія могуць звязаць людзей таталітарнымі догмамі.

Не быць дактрынёрамі для «новых левых» — пытанне гонару. Аднак часта яны проста змешваюць філасофію з догмай, уладу з аўтарытарнасцю, кіраўніцтва з маніпуліраваннем, асабістае дзеянне са свабодай. Рэвалюцыйная нецярпімасць «новых левых» нярэдка перарастае ў нецярпімасць да ўсіх, хто інакш думае. Гэта дапаўняецца ўяўленнямі, што ўсякі філасоф і ідэолаг заўсёды знаходзіцца ў яўнай або тайнай змове з кіруючай элітай. У гэтых умовах рамантычны дух руху, баявы запал і самаадданасць яго ўдзельнікаў нярэдка азначаюць больш, чым прынцыпы, якія ён абараняе. Многія ўдзельнікі «новага левага» руху толькі ў ходзе самой барацьбы становяцца іх свядомымі прыхільнікамі.

Да нядаўняга часу «новыя левыя» выконвалі ачышчальную функцыю. Апошнія нацыянальныя канферэнцыі яго арганізацый паказалі, што яны здольныя ажывіць масавы прагрэсіўны рух і стаць цэнтрам яго кансалідацыі. У сувязі з гэтым асаблівае значэнне набывае выпрацоўка правільнай навуковай ідэалогіі. Першым крокам на гэтым шляху павінна стаць перадоленне істотных антыідэалагічных прадузятасцяў і свядомы пошук правільнага светапогляду.

У пошуку канструктыўнай філасофіі некаторыя ідэолагі «новых левых» звяртаюцца да марксізма. М. Харынгтон, напрыклад, ідэал будучага грамадства шукае ў Маркса. У той жа час пад выглядам сацыялістычных сярод «новых левых» распаўсюджаны трацкісцкія, мааісцкія, экзістэнцыялісцкія і іншыя дробнабуржуазныя ідэі. Асабліва шырока яны прадстаўлены сярод «самых левых» новых левых». Іх звышгучным і нястомным прарокам з'яўляецца, напрыклад, лідэр амерыканскіх «хіпі» Джэры Рубін.

Адной з прычын захавання буржуазнай і дробнабуржуазнай ідэалогіі «новых левых» з'яўляецца адносна слабы ўплыў марксісцкай ідэалогіі на гэты рух, у выніку чаго апазіцыя не мае моцнага цэнтра для ідэалагічнай крышталізацыі. Дэмакратычны рух эмпірычным шляхам ідзе да засваення палажэнняў марксізма. «Падобна жорстка эксплуатуемым, — піша Говард Парсонс, — «новыя левыя»... адчуваюць, што ў іх няма будучага ў




Лістоўка, выпушчаная да антываеннага маршу. «10 тысяч амерыканскіх салдатаў забіта...» і г. д.

гэтым грамадстве, і, супрацiўляючыся яму, яны думаюць, што ім няма чаго губляць, акрамя свайго адчужэння». Задача Камуністычнай партыі ЗША — дапамагчы «новым левым» выпрацаваць не толькі антыманапалістычную, але свядома антыкапіталістычную ідэалогію.

Ідэалогія «новых левых» асуджае расізм, шавінізм, паступова вызваляецца ад антыкамуністычных ідэй. «Сляпы, фанатычны антыкамунізм,— гаворыцца ў апошнім дакладзе арганізацыі квакераў Амерыкі,— быў і застаецца шкодным для нашай краіны і нашага народа. Ён не спыніў пашырэнне камунізму і не садзейнічаў пашырэнню свабоды за мяжой і ў нашай краіне». Крытыка абстрактнага сацыяльнага зла: «адчужэння», «канфармізму», «татальнага падаўлення асобы» і г. д., апраўленая ў маральна-рэлігійную абалонку, садзейнічае распаўсюджанню гэтай аб'ектыўна антыімперыялістычнай ідэалогіі сярод самых шырокіх слаёў насельніцтва.

«Новыя левыя» падтрымліваюць практычна ўвесь рух, апазіцыйны ўраду злева. Гэта і падтрымка негрыцянскага руху за грамадзянскія правы, і барацьба за ачышчэнне акаляючага асяроддзя, і абарона патрабаванняў індзейцаў і г. д. Аднак галоўнымі напрамкамі іх дзейнасці з'яўляюцца барацьба за дэмакратызацыю сістэмы адукацыі і барацьба за мір.

Будучы найбольш адчувальнай часткай барацьбы за дэмакратыю, рух «новых левых» застаецца найменш арганізаваным і лёгка ўпадае ў крайнасці. Падзел «новых левых» на анархістаў і прагрэсістаў вельмі ўмоўны. Унутры саміх гэтых напрамкаў няма адзінства не толькі па прыватных тактычных пытаннях, але і па праблеме выбару мэты і сродкаў барацьбы. Унутраныя спрэчкі нярэдка прыводзяць да развалу створаных ужо і завяваўшых папулярнасць арганізацый.

Нялёгка даводзіцца «новаму леваму» руху і на шляху стварэння саюзу паміж белымі і чорнымі студэнтамі, якія, як сцвярджае Бетына Атэкер, «былі і застаюцца асноўнай сілай студэнцкай рэвалюцыі». Сегрэгацыя з'яўляецца невычэрпнай крыніцай, адкуль ультраправыя элементы кормяць шавінізмам амерыканскую моладзь. Расавая дыскрымінацыя выкарыстоўваецца буржуазіяй як клінок для расколу левага руху ЗША.

Перашкодай для хутчэйшага пераадолення рознагалоссяў служыць і памылковая трактоўка лозунга «Улада чорных». Лідэр СККНД Стоклі Кармайкл заяўляў, што вырашэнне негрыцянскай праблемы можа быць дасягнута толькі ўзброеным шляхам. Сацыялістычную тэорыю ён лічыў непрыдатнай ва ўмовах Злучаных Штатаў. Яго пераемнік Рэп Браун высунуў тэзіс аб тым, што толькі чыста негрыцянская партыя можа абараняць інтарэсы неграў. Вынікам гэтага з'явіўся адліў белых членаў з СККНД.

Асноўнай слабасцю «новых левых» застаецца тое, што яны не бачаць унутраных супярэчнасцяў у сістэме манапалістычнага капіталізму. А калі няма разумення класавых супярэчнасцяў — няма разумення слабасці сістэмы. Яна разглядаецца як статычны, нерухомы аб'ект. Яе ўлада ўяўляецца пастаяннай, нязменнай, а яе статычнасць безумоўнай. Адсюль рытарычна ідэнтыфікуецца рэвалюцыя і разбурэнне, рэвалюцыя і гвалт. Гэта скажае рэвалюцыйны працэс.

Галоўная цяжкасць заключаецца не ў разбурэнні, а ў пераўтварэнні грамадства. Нельга гуляць у рэвалюцыю. Гэта вельмі сур'ёзная справа, і кіруючы клас выкарыстоўвае кожную памылку, кожны ўльтралевы вывіх, каб дыскрэдытаваць увесь рух. «Новыя левыя» паказалі сябе здольнымі да рэвалюцыйнай барацьбы — тым больш неабходны кантроль і ўплыў на іх з боку камуністаў.

**Аляксандр БАЙЧАРОЎ,**
**аспірант кафедры навуковага камунізму БДУ імя У. І. Леніна.**





# ШКОЛА ХАРАСТВА

Яна ўзнікла не адразу, і не адразу пра яе загаварылі на поўны голас. І толькі калі беларускія спартсменкі сталі чэмпіёнкамі Спартакіяды народаў СССР, а семнаццацігадовая віцяблянка Тамара Лазаковіч — абсалютнай чэмпіёнкай краіны і пераможцай еўрапейскага турніра, беларуская школа гімнастыкі атрымала сапраўднае прызнанне.

### НА ПАЧАТКУ

Пятнаццаць гадоў назад на першай Спартакіядзе народаў СССР беларускія гімнасты занялі толькі сёмае месца. Вось тады і адбылася вялікая размова пра лёс і будучае гімнастыкі. Сышліся на адным: так далей нельга. Патрэбна перабудова, і ў першую чаргу кіруючага органа — федэрацыі, тых, хто адказны за развіццё гэтага віду спорту ў рэспубліцы.

Тут сваё слова сказалі маладыя трэнеры-энтузіясты, улюбёныя ў сваю справу. Яны не толькі прыдумвалі новыя элементы і практыкаванні для сваіх выхаванцаў, але і вучылі быць адданымі гімнастыцы.

Памятаю, як упершыню прывёз на рэспубліканскія спаборніцтвы сваіх вучаніц малады трэнер, выпускнік Беларускага інстытута фізкультуры, Ранальд Кныш. Дзяўчынкі не мелі вопыту выступленняў, але здзівілі многіх складанасцю сваіх практыкаванняў. Гэта быў смелы эксперымент. Яшчэ ніхто тады не спрабаваў даводзіць гімнастак дванаццаці—пятнаццаці гадоў да майстарскага рубяжа. А Ранальд Іванавіч вырашыў паспрабаваць. Знайшліся такія, хто выступаў супраць ранняй спецыялізацыі. Але прайшоў час, і цяпер мы ведаем, што малады трэнер меў рацыю.

Выхаванкі Ранальда Кныша хутка заявілі аб сабе. У чатырнаццаць гадоў Алена Валчэцкая стала майстрам спорту, высокі нарматыў выканалі і яе сяброўкі Тамара Аляксеева, Людміла Рабкова, Галіна Грыбок. Гродзенскія гімнасткі доўга трымалі лідэрства ў рэспубліцы. Дастаткова сказаць, што Алена Валчэцкая пяць гадоў запар была чэмпіёнкай Беларусі. На яе звярнулі ўвагу і трэнеры зборнай каманды краіны, асабліва пасля таго, як на чэмпіянаце СССР, які папярэднічаў Алімпійскім гульням у Токіо, яна заваявала залаты медаль у апорным скачку, а неўзабаве стала пераможцай Кубка СССР у мнагаборʼі. Пазней праслаўленая савецкая гімнастка Ларыса Латыніна ў сваёй кнізе «Раўнавага», характарызуючы гімнастку, напіша аб Алене такія радкі: «Гімнастка смелая і ўпэўненая. У яе складаны каскад трукаў на брусах, цвёрды крок у раўнавазе, бліскучыя скачкі...»

Паспяхова канкурыравала з Валчэцкай і ўсімі мацнейшымі гімнасткамі і другая выхаванка Р. Кныша — Тамара Аляксеева. Спецыялісты нават сцвярджалі, што Тамара больш таленавітая, чым яе сяброўкі. Але ў спорце здараецца так, што ў паядынку роўных па сіле сапернікаў перамагае той, у каго мацнейшая воля, нервы. Гэтых якасцяў у той час Тамары яшчэ не хапала, і яна заставалася толькі другой.

Невядома, колькі гэтак працягвалася б, каб на чарговыя ўсесаюзныя студэнцкія спаборніцтвы Тамара не паехала ў якасці лідэра. Алена захварэла і не змагла выступіць. Уся беларуская каманда свае надзеі звязвала з выступленнем Тамары. Дзяўчына адчула вялікую адказнасць перад калектывам. Гэта надало сілы. Выступала яна вельмі натхнёна, апярэдзіўшы многіх зорак савецкай гімнастыкі. Дзяўчына пацвердзіла высокую рэпутацыю гродзенскай школы гімнастыкі, заваяваўшы тытул чэмпіёнкі сярод студэнтак краіны.

Гэтая перамога мела выключнае значэнне ў спартыўнай біяграфіі Тамары Аляксеевай. Яна павярыла ў свае сілы і на чарговым чэмпіянаце СССР заваявала залаты медаль у апорным скачку, як некалі і Алена Валчэцкая. Да маладога трэнера Ранальда Кныша сталі ездзіць па вопыт. У яго было чаму павучыцца. Што толькі не прыдумваў трэнер, каб падрыхтаваць сапраўдных майстроў гімнастыкі! Гэта ў яго можна было ўбачыць арыгінальнай канструкцыі брусы, «казла» з падпілаванымі ножкамі, каб дзяўчынкам зручней было авалодваць тэхнікай скачка. Не толькі своеасаблівы інвентар, але і свая методыка падрыхтоўкі была выпрацавана Кнышам.

### ЭСТАФЕТУ ПРЫМАЕ ВІЦЕБСК

Сярод тых, хто вучыўся ў Кныша, быў і віцяблянін Вікенці Дзмітрыеў. Ён таксама не хацеў чакаць, пакуль будуць створаны ўмовы для працы, а закасаўшы рукавы ўзяўся за справу. Нельга сказаць, што ўсё ўбачанае ў Кныша Дзмітрыеў

узяў на ўзбраенне. Ён многае ацаніў, перадумаў і пайшоў сваім шляхам. Зразумеў галоўнае — не трэба баяцца пошуку, а ствараць сваё, новае, трэба рашуча ісці наперад. І Дзмітрыеў знайшоў сваё месца ў гімнастыцы.

Усе мы добра памятаем, як восем гадоў назад на гімнастычным памосце краіны адбылася сапраўдная сенсацыя. Нікому не вядомая пятнаццацігадовая віцебская школьніца Ларыса Петрык нечакана для ўсіх заваявала званне абсалютнай чэмпіёнкі СССР, апярэдзіўшы такіх вядомых гімнастак, як Ларыса Латыніна і Паліна Астахава. Поспех — небывалы. Яшчэ ніколі да гэтага ў гісторыі гімнастыкі наогул не было, каб хто-небудзь станавіўся чэмпіёнам у пятнаццаць гадоў.

Менавіта Ларыса Петрык зрабіла «рэвалюцыю» ў спартыўнай гімнастыцы. Дзяўчынкі з «коскамі» кінулі выклік старэйшаму пакаленню гімнастак.

І калі на чарговым чэмпіянаце вызначылася аднагодка Ларысы—ленінградка Наташа Кучынская, нічога не заставалася рабіць скептыкам, як паверыць у маладых таленавітых дзяўчынак і ўключыць абедзвюх у зборную каманду краіны.

«Дзёрзкія дзяўчынкі» ўпэўнена выступалі на буйных міжнародных спаборніцтвах, рыхтаваліся да сусветнага чэмпіяната. Наперадзе ў Ларысы Петрык было яшчэ многа выдатных перамог, а ў Вікенція Дзмітрыева пачала вывучаць гімнастычную азбуку маленькая Тамара Лазаковіч.

Так, Віцебск прыняў эстафету. На некаторы час цэнтр беларускай гімнастыкі перамясціўся менавіта сюды. У Дзмітрыева вырасла цэлая плеяда здольных гімнастак. Сярод іх — неаднаразовая чэмпіёнка Беларусі, уладальніца залатога медаля ўсесаюзнай Універсіяды Ала Ітсан, практыкаванне якой на брусах за складанасць і арыгінальнасць было адзначана спецыяльным прызам. Хто ведае, якіх вышынь магла б дасягнуць Люда Аргучынская, каб не траўма і аперацыя. А ў гэты час на школьнай спартакіядзе зазяла новая «зорачка» — трынаццацігадовая Святлана Маскалёва, якая потым не раз абараняла гонар беларускай каманды на многіх усесаюзных спаборніцтвах і зараз паспяхова працягвае выступаць на памосце.

Мы звыкліся з тым, што заслужаны трэнер СССР Вікенці Дзмітрыеў раз-пораз падносіць беларускім аматарам гімнастыкі сюрпрызы. Чарговы ён падрыхтаваў у ліпені 1966 года, калі прывёз упершыню на юнацкае першынство Беларусі маленькую, танклявую, з белымі, як лён, валасамі дзяўчынку. На дванаццацігадовую дэбютантку адразу звярнулі ўвагу, бо ведалі: Дзмітрыеў абы-каго не прывязе.

## НОВАЯ «ЗОРАЧКА»

Томе Лазаковіч першае выступленне не ўдалося. На снарадах яна атрымлівала не больш васьмі балаў, але сваім стылем, манерамі вельмі нагадвала грацыёзную Ларысу Петрык. У яе была тая ж, дзмітрыеўская, школа, тая ж смеласць, амплітуда руху...

Праз год Тамару ўключылі ў склад зборнай каманды школьнікаў Беларусі і прывезлі ў Ленінград на ўсесаюзную спартакіяду. Але для таго, каб выступаць па праграме майстроў спорту, дзяўчынцы патрэбен быў спецыяльны дазвол, бо такіх малых да гэтага часу на спаборніцтвы не прывозілі. Лазаковіч не адмовілі, але і афіцыйнага дазволу ніхто не даў. І Тамара выступала. Яна не толькі пацвердзіла сваё права называцца майстрам спорту, але здолела заваяваць бронзавы медаль — першы ў сваім жыцці трафей на ўсесаюзным памосце. Іменна тады, у 1967 годзе, і з'явіліся ў «Советском спорте» гэтыя радкі: «Тамара Лазаковіч, каманда Беларусі, год нараджэння 1954. Запомніце, калі ласка, гэта імя».

З Ленінграда юная гімнастка паехала ў Маскву на фінал IV Спартакіяды народаў СССР. Калі кіраўнікі дэлегацыі спыталіся ў дзяўчынкі, за якое месца яна будзе змагацца, тая адказала задзірыста: «Вядома, за першае!»

Першага месца Тамара не заняла, але трапіла ў шасцёрку мацнейшых. Другая б радавалася, а яна — у слёзы, злосная была — не падступіся. Не задаволілася шостым месцам на чэмпіянаце краіны. Ёй, бачыш, хацелася выйграць, ды не абы ў каго, а ў Кучынскай, Петрык, Варонінай, Астахавай і Турышчавай. Вось які характар мела дзяўчынка.

Яна была вельмі смешная, гэтая «Лазя», як ласкава называлі яе сяброўкі па зборнай. Маленькая, а хацела здавацца дарослай, сур'ёзнай. І толькі тады забывалася пра важны выгляд, калі разам з аднагодкамі бегала па марожанае ў бліжэйшы кіёск.

1968 год Тамара Лазаковіч і зараз лічыць адным з самых шчаслівых у сваёй спартыўнай біяграфіі. Яна выступала на першынстве краіны сярод дзяўчат і выйграла ўсё, што толькі можна было — усе пяць залатых медаляў. Характарызуючы новую юную чэмпіёнку, вядомая савецкая гімнастка Тамара Маніна сказала: «У яе ёсць усё, што мне хацелася б бачыць у гімнасткі тамарынага ўзросту,— прапорцыі, чысціня ліній, лёгкасць, спартыўны выгляд і талент».

Трэнеры зборнай СССР уключылі яе ў склад каманды для ўдзелу ў міжнародных спаборніцтвах «Алімпійскія надзеі». І Тамара новы экзамен вытрымала



паспяхова. Яна заняла другое месца, уступіўшы толькі Людміле Турышчавай—члену савецкай алімпійскай каманды, хаця ў спаборніцтвах удзельнічалі спартсменкі дзесяці краін ва ўзросце васемнаццаці гадоў. Тамара Лазаковіч была самай малодшай. Залаты медаль гімнастка заваявала за практыкаванне на бервяне.

## ЛІДЭР САВЕЦКАЙ КАМАНДЫ

Сёння імя абсалютнай чэмпіёнкі СССР і Еўропы ведае ўвесь спартыўны свет.

У 1970 годзе заваявала дзяўчына першы дарослы медаль чэмпіёнкі краіны ў практыкаваннях на самым «здрадлівым» гімнастычным снарадзе — бервяне. У складзе зборнай СССР яна паехала на чэмпіянат свету. На яе долю дасталася самая адказная роля — першай адкрыць спаборніцтвы. А такім не прыходзіцца спадзявацца на шчодрасць суддзяў. Але Тамара змагла задаць добры тон сяброўкам, і дадому ўся каманда вярнулася з залатымі медалямі пераможцаў.

І ўсё ж самым шчаслівым быў для гімнасткі мінулы год. Летам на V Спартакіядзе народаў СССР віцяблянка Тамара Лазаковіч заваявала тытул абсалютнай чэмпіёнкі краіны, а восенню ў Мінску разам з сяброўкай па зборнай СССР Людмілай Турышчавай паднялася на п'едэстал гонару восьмага чэмпіяната Еўропы. Усе мы памятаем гэтыя хвалюючыя мінуты. Шчаслівая, радасная Тамара ветліва махала рукой землякам, якія прыехалі, каб «пахварэць» за яе. Тут жа на трыбунах яны выставілі плакаты: «Лазя», Віцебск табой ганарыцца». «Так трымаць!»

Каб выканаць гэты наказ, трэба трэніравацца яшчэ больш настойліва, зноў разам з трэнерам шукаць, адпрацоўваць новыя, яшчэ больш складаныя элементы і звязкі. Кажуць, што чэмпіёнскі тытул лягчэй заваяваць, чым адстаяць. Тамара Лазаковіч марыць пра большае. Хутка Алімпійскія гульні ў Мюнхене, і яна — лідэр савецкай каманды — не супраць узняцца і тут на п'едэстал. Нічога не зробіш — такі ўжо «агрэсіўны» характар у нашай Лазі: падабаецца ёй быць першай. Таму кожную раніцу і ўвечары яна — на трэніроўках. Неяк на адных з заняткаў мы падлічылі, што Тамара, адпрацоўваючы сваю праграму, выканала 810 розных элементаў, цалкам прайшла камбінацыю 22 разы, а гэта яшчэ 350 гімнастычных элементаў. Дадайце сюды абавязковую паўгадзінную харэаграфічную размінку, і вы пераканаецеся, як нялёгка быць чэмпіёнкай.

На еўрапейскім чэмпіянаце некаторыя замежныя журналісты назвалі Лазаковіч «цудам з цудаў». А цуду тут няма. Ёсць талент, памножаны на вялікую творчую працу.

●

Так, беларуская школа гімнастыкі атрымала ўсеагульнае прызнанне. У нас цяпер ёсць каму рыхтаваць добрых майстроў не толькі ў Віцебску, Гродне, але і ў Брэсце, Пінску, Гомелі, Мінску. На чэмпіянатах рэспублікі кожны раз ідзе цікавая і вострая барацьба за права называцца мацнейшым. І ніхто не возьме на сябе смеласць назваць імя будучай чэмпіёнкі. У Тамары Лазаковіч ёсць дастойныя саперніцы. Гэта Антаніна Кошаль з Мінска, Вольга Корбут з Гродна і многія маладыя гімнасткі, гатовыя ў любы момант «даць бой». Гэта сведчыць, што беларускія трэнеры паверылі ў свае сілы і ставяць перад сабой вялікія мэты — рыхтаваць спартсменак для зборнай каманды краіны.

Але каб памнажаліся добрыя традыцыі, трэба гімнастыцы даць больш шырокую дарогу ў агульнаадукацыйныя школы. Да гэтага часу гімнастычныя аддзяленні раённых ДЗЮСШ — малалікія, большасць з іх не мае належных умоў для падрыхтоўкі змены нашым вядучым майстрам. На жаль, Міністэрства асветы БССР, якому падначалены большасць ДЗЮСШ, мала ўвагі ўдзяляе ім.

Не сакрэт, што спартсменам заўсёды хочацца бачыць перад сабой ясную перспектыву. У гімнастаў — выхаванцаў раённых дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ такой перспектывы амаль няма. Іх спартыўная «кар'ера» спыняецца, як толькі яны заканчваюць вучобу ў школе, бо не ў кожным калектыве фізкультуры, нават далёка не ў кожнай вышэйшай установе ёсць секцыі гімнастыкі, дзе можна было б прадоўжыць заняткі любімым відам спорту. У выніку мы губляем дзесяткі перспектыўных гімнастаў, якія пры пэўных умовах маглі б стаць сапраўднымі майстрамі. Даўно наспела неабходнасць ствараць пры ДЗЮСШ маладзёжныя групы, дзе маглі б шліфаваць сваё майстэрства ўчарашнія школьнікі.

У рэспубліцы ёсць таленавітыя спартсмены і энтузіясты-трэнеры, якія ўмеюць працаваць творча, удумліва. І калі ім стварыць умовы, то плён іх працы не прымусіць сябе доўга чакаць.

**Ніна ПРАКАПОВІЧ.**

# ДЛЯ ПРАБЛЕМІСТАЎ

Аўтарам шашачных камбінацый, а таксама чытачам, якія імі цікавяцца, карысна даведацца пра тое новае ў любімым жанры, што прынята на другім Усесаюзным сімпозіуме шашачных праблемістаў. Рэкамендацыі гэтыя афіцыйна будуць правераны ў 1973 годзе ў конкурсах складання.

Прапанавана зусім іншая спартыўная класіфікацыя. Разрадныя патрабаванні для майстра спорту — набраць 16 балаў (а не 24, як зараз). Упершыню майстар спорту павінен будзе пацвярджаць сваё званне.

Уводзіцца разрад кандыдата ў майстры спорту па шашачнай кампазіцыі. Норма выканання разраду — 12 балаў. Балы будуць сапраўднымі не пяць гадоў, а чатыры з моманту іх прысуджэння.

Майстарскія балы мяркуецца налічваць незалежна ад месца, якое занята ў конкурсе: за добрую канцоўку — адзін бал, за выдатную — два. Зацверджана спецыяльная кваліфікацыйная камісія. У яе склад увайшлі заслужаны трэнер СССР, міжнародны арбітр А. Віндэрман, міжнародны майстар спорту Б. Шкіткін, майстры спорту А. Федарук, А. Сальнікаў, А. Ром, Ю. Чарняеў (Масква), гросмайстар З. Цырык (Харкаў), майстар спорту А. Каўрыжкін (Харкаў), Г. Кетлер (Крывы Рог) і М. Грушэўскі (Мінск).

Выпрацаваны крытэрыі ацэнкі канцовак. Кіруючыся імі, кваліфікацыйная камісія будзе аддаваць перавагу больш натуральным пазіцыям, у якіх аднолькавыя суадносіны сіл і ўдалы апошні ход чорных. Упрыгожыць канцоўку замаскаванасць рашэння, рэдкія прыёмы, прыгажосць хадоў і колькасць няўдарных хадоў белых. Чысты і цяжкі з навінкай фінал павысіць якасць канцоўкі. Але самае галоўнае — ажыццявіць ідэю, якая раней не сустракалася.

Сімпозіум даў камбінацыям новае вызначэнне: «Камбінацыйная канцоўка — гэта мастацкі твор з заданнем для белых пры іх першым ходзе выйграць або зрабіць нічыю з дапамогай камбінацыйнага ўдару».

Камбінацыі ў рускіх шашках вырашана падраздзяляць на мініяцюры і праблемы. Акрамя таго, намечана правесці эксперыментальны тэматычны конкурс складання дамачных канцовак.

Да камбінацыйных канцовак будуць прад'яўляцца строгія патрабаванні:

да пачатковай расстаноўкі — недапушчальнасць наяўнасці дамак, перавагі ў сілах чорных больш як у адну шашку і шашак-статыстаў, якія без сур'ёзных стратаў можна зняць з дошкі; выходная пазіцыя павінна быць магчымай з пункту гледжання правілаў гульні;

да рашэнняў — адсутнасць перастаноўкі першага ходу белых і пабочнага рашэння ў галоўным варыянце;

да фіналу — эканомнасць фінальнай пазіцыі галоўнага варыянту, г. зн. адсутнасць у белых пасля камбінацыі лішніх шашак для канчатковага выканання задання;

да зместу — арыгінальнасць кампазіцыі, наяўнасць элементаў навізны. Дазваляюцца варыяцыі вядомых твораў. Ліквідацыя дэфектаў твора іншых складальнікаў без істотнага яго паляпшэння не дае права на аўтарства.

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ,**
**майстар спорту СССР.**



# СЯБРОЎСКІЯ ШАРЖЫ




**Івану ЧЫГРЫНАВУ,**
**аўтару рамана «Плач перапёлкі».**

Іване, лішніх слоў не трачу,
Ды, пэўна, сэнс тут ёсць глыбокі,
Калі ад гэтакага «Плачу»
І строгі крытык рвецца ў скокі!

**Алесю ЯСКЕВІЧУ**

Яшчэ не ведаю я, дружа,
Чым аўтараў ты хвошчаш зноў:
Ці з вострымі шыпамі ружай,
А ці дубцамі — без шыпоў.



Напісаў **Язэп Таўшчэзны.**

Намаляваў **Анатоль Волкаў.**

*Святлана Берасцень — чалавек несумненна здольны. Сёлета яна заканчвае тэарэтычнае аддзяленне сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры Беларускай кансерваторыі. Адначасова Святлана лепіць і малюе, піша вершы і спрабуе свае сілы ў прозе, а таксама фатаграфуе. У часе фатаграфавання яна імкнецца не проста выхапіць з жыцця пэўны момант, а вышуквае сюжэты, як бы апісвае аб'ектывам убачанае ёю. Пазнаёмцеся з адной такой падгледжанай Святланай гісторыйкай, якую яна назвала «Сунуўся — і папаўся».*

# СУНУЎСЯ — І ПАПАЎСЯ



**«Гм, а нядрэннае жыццё,— разважаў гультай, лежачы ў халадку і адчуваючы ў жываце прыемны цяжар пасля абеду.— А і сапраўды: хочаш — гуляй сабе ад ранку да вечара, выдумляй штодзень новыя забавы, хочаш — ляжы на баку ды раздумвай пра сэнс жыцця. А есці захочаш — маці што-небудзь падкіне...**

**Ох, гэта маці! Заўсёды ў яе справы нейкія, клопаты. Далося ж ёй усё гэта! Але мала яшчэ — мяне ўвесь час пілуе, каб яе паслухаўся ды на свае ногі станавіўся. А хіба я не самастойны, не магу сам вырашаць свае асабістыя справы!»**



**У гэты час маці сядзела задумаўшыся: «Што з сынам рабіць! Вырас бялікі, але ні да чаго не здатны: адны забавы ў галаве. Нікога не слухае, усё робіць, як захоча. Замест радасці — адны непрыемнасці. Паспрабую пагаварыць з ім яшчэ раз».**

**Здзівіўся гультай, убачыўшы маці: яна была засмучаная. Ды, да таго ж, нічога не прынесла. «Знясілілася, мусіць, на працы. Можа зразумее, нарэшце, хто з нас аб жыцці правільна разважае!»**

**Размова з маці здалася сыну нуднай і бясконцай, аднак ён з усім згаджаўся, супакойваў маці і абяцаў сур'ёзна ўзяцца за справу.**





**Ненадоўга хапіла яму матчыных слоў. Толькі пайшла яна — узяўся гультай за старое. Наведаў сябра — такога ж, як і сам, сімпацягу-бландзіна, балбатуна і абібока — пеўня. Цудоўна марнуючы час, яны раптам заўважылі нешта цікавае...**



**Захацеў гультай падурэць: нічога, што многім яго гарэзлівасць не падабалася. Разышоўся ён занадта. Нават, наперакор матчыным навучэнням, сунуўся ў чужую справу.**

**Сунуўся — і папаўся.**

**Вось і паспрабуй цяпер выкарабкацца сам!**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ.**

# нашы аўтары

**КАРЖАНЕЎСКАЯ** Галіна нарадзілася ў 1950 годзе ў вёсцы Лясішча на Случчыне. Студэнтка БДУ імя У. І. Леніна.

**КУНЬКО Леў** нарадзіўся ў 1930 годзе на Полаччыне. Вучыўся ў БДУ імя У. І. Леніна. Друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. Зараз працуе загадчыкам аддзела ў часопісе «Промышленность Белоруссии».

**СТРЫГАЛЁЎ Міхась** нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Нядайка Буда-Кашалёўскага раёна. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут і завочна Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве. Працаваў інжынерам-энергетыкам на Урале.
Аўтар зборніка вершаў «Белая Русь».

**КАМАРОЎСКІ Алесь** нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна. Працуе ў бібліятэцы.

**КУЗЬМЯНКОЎ Уладзімір** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Устанная на Слаўгарадчыне. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у газеце «Чырвоная змена», цяпер—у часопісе «Агитатор и политинформатор».

**ПАНІЗНІК Сяргей** нарадзіўся ў 1942 годзе. Скончыў Магілёўскае медыцынскае вучылішча, потым факультэт журналістыкі Львоўскага ваенна-палітычнага вучылішча. Цяпер служыць у радах Савецкай Арміі.
Выдаў кніжку вершаў «Кастры Купалля».

**ЧАВУСКІ Міхась** нарадзіўся ў 1904 годзе. Доўгі час быў на партыйнай і газетнай рабоце. У гады Вялікай Айчыннай вайны рэдагаваў сатырычную газету-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну», пасля вайны працаваў рэдактарам часопіса «Вожык».
Выдаў зборнікі фельетонаў і гумарэсак: «Крытычны момант», «Рука руку мые», «Чаму ж не смяяцца».

**АРАБЕЙКА Іван** нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Хмелева Брэсцкага раёна. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе інжынерам у Брэсце.

**КУСЯНКОЎ МІКОЛА** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Перарост Добрушскага раёна. Скончыў Буда-Кашалёўскі лясны тэхнікум і працуе інспектарам-таксатарам на Гомельшчыне. Выдаў зборнікі вершаў «Жывіца» і «Без прывалу».

**ВЯРЫГА Ларыса** нарадзілася ў 1953 годзе ў г. Дзяржынску Мінскай вобласці. Скончыла сярэднюю школу, працуе піянерважатай у Коскаўскай васьмігадовай школе.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**МЯТОДЗІЕЎ Дзімітр** нарадзіўся ў 1922 годзе. Аўтар зборнікаў «На штурм», «Краіна мар», «Шумяць таполі», «Пра час і пра сябе», «Песня пра Расію», «Замыканне круга», рамана ў вершах «Дзімітроўскае племя» і інш. Двойчы лаўрэат прэміі Дзімітрова. Член ЦК Балгарскай камуністычнай партыі. Галоўны рэдактар часопіса «Наша Радзіма».

**ЛЕЎЧАЎ Любамір** нарадзіўся ў 1935 годзе. Выдаў кнігі паэзіі «Зоры мае», «Назаўсёды», «Пазіцыя», «Але перш, чым састарэю», «Схільнасці», «Абсерваторыя», «Рэцытал» і інш. Галоўны рэдактар газеты «Литературен фронт».

**ГАНЧАЎ Марка** нарадзіўся ў 1932 годзе. Аўтар зборнікаў лірыкі «Насенне спее», «Усе дарогі і адна з іх», «Права быць разбуджаным», сатыры і гумару «Марсіянскія захапленні», «Другое прышэсце», «Свой чалавек», «Паляпшэнне свету» і інш.

**КАНСТАНЦІНАЎ Георгі** нарадзіўся ў 1938 годзе. Аўтар зборнікаў «Усмешка мне сталіца» і «Любі мяне ў нядзелю».

**ГЕРМАНАЎ Андрэй** нарадзіўся ў 1932 годзе. Аўтар кніг «Парасткі», «Рабочы цягнік», «Родавы герб», «Раўнадзенства», «Запомні мяне», «Пераўтварэнні», «Неміласэрнае сонца», «Як уздых», «Мост», «Астравы» і інш. Актыўны перакладчык беларускай паэзіі (твораў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Танка, П. Панчанкі, Н. Гілевіча, А. Вярцінскага і інш.).

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 5**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 15506. Здадзена ў набор 28/III-1972 г. Падпісана да друку 27/IV-1972 г.
Папера $70 \times 108^{1}/_{16}$. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 15965 экз. Зак. 858. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі прасп., 79.**



**М. ЛАЗАВЫ. Валейбол.**